ДЖ. К. РОЎЛІНГ

# Гары Потэр

## і патаемная зала



belpotter.by

*Для Шона П. Ф. Харыса,*
*за найхуткасную язду і сяброўскае плячо ў цяжкую хвіліну*

## — РАЗДЗЕЛ I —

### *Найжахлівейшы дзень нараджэння*

У чарговы раз, падчас сняданку, за сталом у доме нумар чатыры на вуліцы Прайвет Драйв успыхнула сварка. І ўсё з-за таго, што містэр Вернан Дурслі быў пабуджаны на золку гучным вухканнем, што даносілася з пакою яго пляменніка Гары.

- Трэці раз за тыдзень!- гучна праароў ён пляменніку праз стол.- Калі ты не ў стане кантраляваць сваю саву, няхай яна прыбіраецца з маёй хаты!

Гары ў чарговы раз паспрабаваў растлумачыць дзядзьку ў чым справа.

- Ёй СУМНА,- адказаў ён.- Яна прызвычалася да таго, што можа лятаць знадворку. Калі я хаця б мог выпускаць яе па начах на шпацыр...

- Я што, падобны на ідыёта?- гыркнуў дзядзька Вернан, на доўгіх вусах якога болталіся рэшткі яечні.- Я ведаю, што будзе, калі ты выпусціш яе вонкі.

Ён ваўкавата перазірнуўся са сваёй жонкай Пятуньяй.

Гары паспрабаваў растлумачыць яшчэ раз, але яго словы патанулі за доўгай гучнай адрыжкай Дадлі, сына містэра і місіс Дурслі.

- Я хачу яшчэ бекона.

- На патэльні ёсць яшчэ, саладзенькі мой.- зірнуўшы на свайго буйнога сына цмянымі вачыма, адказала цётка Пятунья.- Нам трэба падкарміць цябе, пакуль у нас ёсць такая магчымасць... Нешта мне не надта падабаецца ваша школьнае харчаванне...

- Глупства кажаш, Пятунья,- палка прамовіць дзядзька.- Калі я вучыўся ў Смелцінгсе, я ніколі не галадаў. Цябе ж там добра кормяць, сын?

Дадлі, бакі якога звісалі з крэсла, усміхнуўся і павярнуўся да Гары.

- Перадай мне патэльню.

- А чароўнае слова?- раздражнённа прамовіў той.

Звычайныя Гарыны словы прывялі да найнезвычайнейшых наступстваў: Дадлі вохнуўшы паваліўся з крэсла, ад чаго па ўсёй кухне ажно загрукатала; місіс Дурслі ўскрыкнуўшы, заціснула далонямі рот; а містэр Дурслі ўскочыў на ногі, вены на яго скронях пульсавалі ад злосці.

- Я меў на ўвазе «калі ласка»!- хутка вымавіў Гары.- Я нічога не...

- Я КОЛЬКІ РАЗ ПАПЯРЭДЖВАЎ ЦЯБЕ,- брызгаючы слінон над сталом, прагрукатаў дзядзька,- НЕ ЎЗГАДВАЦЬ У МАЁЙ ХАЦЕ СЛОВА НА ЛІТАРУ «Ч»?

- Але я...

- ЯК ТЫ АСМЕЛІЎСЯ ПАГРАЖАЦЬ ДАДЛІ?- бухаючы кулаком па стале, працягваў равець містэр Дурслі.

- Я ж толькі...

- Я КОЛЬКІ РАЗОЎ КАЗАЎ ЦЯБЕ! Я НЕ БУДУ ЦЯРПЕЦЬ ПАД СВАІМ ДАХАМ УЗГАДАК АБ ТВАЁЙ НЕНАРМАЛЁВАСЦІ!

Хлопчык зірнуў на пурпуровы ад злосці дзядзькаў твар, потым на збляднелую цётку, якая намагалася дапамагчы Дадлі падняцца на ногі.

- Ну, добра,- адказаў Гары,- добра...

Дядзька Вернан, дыхаючы, як той запыхаўшыйся насарог, сеў на сваё месца, скоса працягваючы паглядаць на Гары сваімі калючымі вочкамі.

З таго самага моманту, калі Гары вярнуўся дадому на летнія вакацыі, дзядзька ставіўся да яго, бы да бомбы, якая ў любы момант можа выбухнуць, таму што лічыў Гары НЕ НАРМАЛЁВЫМ хлопцам.

Звычайным хлопцам ён на самой справе і не з’яўляўся. Гары Потэр быў чараўнікам – маладым чараўнікам, які толькі што скончыў свой першы год навучэння ў Хогвартсе – Школе чарадзейства і вядзьмарства. І, калі Дурслі не надта былі задаволены яго вяртаннем на вакацыі, гэта было ніштo ў параўнанні з тым, што адчуваў сам Гары.

Ён да болі ў грудзях сумаваў аб сваёй школе. Сумаваў па замку, поўным сакрэтных праходаў і прывідаў; сумаваў па занятках (хаця магчыма не надта сумаваў па Снэйпу, які выкладаў зеллеварства); сумаваў па паштоўках, якія ў школу прыносілі совы, па ежы на банкетах у галоўнай зале, сумаваў па ложку з балдахінам, які знаходзіўся ў вежы, якую займаў яго Дом; па візітах да ўскрайку Забароненага леса, дзе ў сваёй халупе жыў брамнік Хагрыд. Але больш за ўсё ён сумаваў па квідытчу – найпапулярнейшай у чарадзейскім свеце спартовай гульне з яе шасцю коламі варот, чатырма лятаючымі мячамі і чатырнаццацю гульцамі на мётлах.

Усе Гарыны падручнікі з замовамі, чароўную палачку, мантыю, кацёл і першакласную мятлу Німбус 2000, дзядзька Вернан, як толькі яны прыехалі да хаты, запёр у каморы пад лесвіцай. Што Дурслі было да таго, што калі ён ня будзе практыкавацца, яго выкінуць з дамовай квідытчнай каманды. Ці іх цікавіла, што адбудзецца з Гары, калі ён прыедзе да школы не выканаўшы заданне на лета? Дурслі былі тымі, каго чараўнікі называюць маглами – людзьмі без наймаленечкай кропелькі магіі ў крыві і дзеля іх было найвялікшым сорамам мець у сваёй сям’і чараўніка. Дзядзька нават навесіў на клетку з Гарынай савой Хэдвіг, вялізны замок, каб хлопчык ня меў стасункаў з астатнім чарадзейскім светам.

Гары анічым не нагадваў астатніх чальцоў сваёй сям’і. Дзядзька Вернан быў буйным, бязшыім і меў найвялізныя чорныя вусішчы; цётка Пятунья была кашчавай і мела канячы твар, а іх сын Дадлі быў светлавалосым, ружоватварым і вельмі тоўстым хлопчыкам. Гары ж быў маленькім і хударлявым, з бліскучымі зялёнымі вачыма і смалява-чорным, заўжды неахайным, валоссем. Ён насіў круглыя акўляры, а на ілбе меў танюткі, маланкападобны шнар.

Гэты шнар і рабіў Гары найнезвычайнейшым, нават у чарадзейскім свеце. Ён быў адзіным сведкам той таямнічай гісторыі, пасля якой хлопчык і апынуўся адзінаццаць год таму на ганку Дурслеўскага дому.

Калі Гары быў толькі год, ён застаўся жыць, пасля таго, як Лорд Вальдэморт, найжахлівейшы з цёмных ведзьмакоў усіх часоў, імя якога дагэтуль баяцца вымаўляць большасць з чараўнікоў і вядзьмарак, атакаваў яго сваім праклёнам. Падчас гэтага нападу Гарыны бацькі загінулі, аднак, калі Вальдэморт паспрабаваў забіць хлопчыка, аніхто ня

ведае чаму, ён страціў усю сваю моц і знік, пакінуўшы маланкападобны шнар ад праклёна на Гарыным ілбе.

Вось таму Гары і быў выхаваны сястрой яго маці – цёткай Пятуньей і яе мужам. Дзесяць год ён пражыў у Дурслеўскім доме, не разумеючы, чаму сам таго не жадаючы робіць разнастайныя дзівосныя рэчы і ўпэўнены, што свой шнар ён атрымаў падчас аўтакатастрофы ў якой загінулі яго бацькі.

Аднак, год таму, Гары атрымаў ліст з Хогвартса і даведаўся аб тым, што адбылося на самой справе. Пасля чаго, хлопчык апынуўся ў чарадзейскай школе, дзе ён і яго шнар былі вельмі знакамітымі... але цяпер заняткі ў школе скончыліся і Гары быў вымушаны вярнуцца да Дурслі, якія ставіліся да хлопчыка, як да сабакі, які выкачаўся ў нечым смярдзючым.

Дурслі нават не ўспомнілі пра тое, што яму сёння спаўнілася дванаццаць год. Ня тое, каб Гары чакаў ад ніх чагось незвычайнага - ён за ўсё жыццё не атрымаў ад Дурслі аніводнага прыстойнага падарунку, не кажучы аб торце... - але, каб вось так... цалкам праігнараваць яго...

Тут дзядзька адкхекаўшыся, ганарліва прамовіў:

- Як вы ведаеце, сёння, найважлівейшы для ўсіх нас дзень.

Ня ведаючы, ці верыць яму ўласным вушам, Гары паглядзеў на дзядзьку.

- Гэта дзень, калі можа адбыцца найбуйнейшая здзелка ў маёй кар’еры,- дадаў Вернан.

Гары вярнуўся да спажывання тосту. Вядома ж, з тугой падумаў ён, дзядзька зноў кажа, аб сваёй дурацкай вячэры. Ані аб чым іншым, ён апошнія два тыдні і не казаў. Містэр Дурслі запрасіў у госці нейкага багатага будаўніка і яго жонку, мяркуючы атрымаць ад яго буйны заказ (кампанія дзядзькі Вернана займалася вытворчасцю дрыляў).

- Давайце, ўсё яшчэ раз паўтарым,- прамовіў дзядзька.- Яны павінны завітаць да нас а восьмай вечара. Дзе ты будзеш, Пятунья..?

- Я буду чакаць іх ў гасцёўне,- выпаліла цётка,- каб ласкава запрасіць іх у наш дом.

- Вельмі выдатна. А ты Дадлі?

- Я буду чакаць іх ля дзвярэй.- Дадлі нацягнуў на твар дурную ўсмешку.- «Дазвольце прыняць вашыя палітоны, містэр і місіс Мэйсан?

- Яны папросту закахаюцца ў нашага хлопчыка!- у захапленні ўсклікнула Пятунья.

- Выдатна, Дадлі,- дадаў дзядзька Вернан. Потым ён развярнуўся да Гары.- А ты?

- Я буду ціхенька сядзець у сваім пакоі, быццам мяне і не існуе,- ціха прамовіў хлопец.

- Вось вось,- са злосцю заўважыў містэр Дурслі.- Потым, я пазнаёмлю іх з табой, Пятунья і прапаную ім напоі. А чвэрці на дзявятую...

- Я запрашу іх за стол.- адказала цётка.

- Дадлі, што ты павінен сказаць..?

- «Ці магу я праводзіць вас да сталовай, місіс Мэйсан?»- прапанаваўшы сваю тлустую руку нябачнай жанчыне, прамовіў Дадлі.

- А мой ты, маленькі джэнтльмен!- уздыхнула місіс Дурслі.

- А што наконт цябе?- пагрозліва спытаўся дзядзька ў Гары.

- Я буду ціхенька сядзець у сваім пакоі, быццам мяне і не існуе,- абыякава адказаў той.

- Менавіта. А цяпер мы павінны прыдумаць, як падчас абеду, стварыць аб сябе добрае ўражанне. У каго ёсць ідэі? Пятунья?

- «Вернан распавядаў мне аб тым, як вы добра граеце ў гольф, місэр Мэйсан...», «А дзе вы набывалі сваю сукенку, місіс Мэйсан...»

- Пышна... Дадлі?

- Як наконт: «У школе мы пісалі сачыненні на тэму «Мой герой» і я напісаў аб вас, містэр Мэйсан».

Як для цёткі Пятуны, так і для Гары падобнае было ўжо нечым занадтым. Цётка заплакала і кінулася абдымаць сына, а Гары нырнуў пад стол, каб аніхто не убачыў як ён рагоча.

- А ў цябе якія ідэі, хлопча?

З усіх сілаў намагаючыся выглядаць сур'ёзным Гары прамовіў:

- Я буду ціхенька сядзець у сваім пакоі, быццам мяне і не існуе.

- Цалкам маеш рацыю,- шалёна крыкнуў дзядзька.- Мэйсаны анічога пра цябе ня ведаюць і няхай так і застаецца. Так, пасля вячэры, ты, Пятунья, запросіш місіс Мэйсан у гасцёўню на каву, а я тым часам перавяду тэму размовы на дрылі. І, калі пашанцуе, я буду мець на руках паперу з подпісам і пячаткай яшчэ да пачатку дзесяцігадзінных навінаў. А заўтра ў гэты ж час мы будзем хадзіць па крамах, каб набыць сёе-тое дзеля адпачынку на Маёрцы.

Гары, дарэчы гэта аніяк не ўзбуджала. Ён быў упэўнены, што на Маёрцы разам з Дурслі яму будзе не лепш чым на Прайвет Драйв.

- Добра... цяпер я паеду ў горад, па смокінгі для нас з Дадлі, а ты,- грыкнуў містэр Дурсі Гары,- ты, не таўчыся пад нагамі ў цёткі, пакуль яна прыбіраецца.

Гары, праз заднія дзверы выйшаў надворак. На вуліцы быў ясны, сонечны дзень. Гары перасёк траўнік, бухнуўся на садовую лаўку і праспяваў сабе пад нос: «З днём нараджэння мяне... з днём нараджэння мяне...»

Ані картак, ані падарункаў, а вечар ён правядзе так, быццам яго не існуе. Ён маркотна вытарапіўся на плот. Аніколі ў жыцці ён не адчуваў сябе гэдак самотна. Больш за ўсё, нават больш за квідытч, ён сумаваў па сваім лепшым хогвартскім сябрам Рону Візлі і Герміёне Грэйнджэр. Хоць, здавалася, яны па ім не сумавалі ўвогуле. За ўсё лета яны не даслалі яму аніводнага ліста, хаця Рон збіраўся напісаць яму і запрасіць Гары ў госці.

Безліч разоў, Гары быў гатовы адчыніць клетку з Хэдвік з дапамогаю магіі, каб даслаць ліст Рону і Герміёне, але вырашыў, што не варта рызыкаваць. Непаўналетнім чараўнікам забаранялася карыстацца магіяй па-за межамі школы. Хаця Дурслі хлопчык аб гэтам не распавёў, бо ведаў: яны баяцца, што Гары ператварыць іх на гнаявікоў, ці яны зачынілі б яго ў каморы пад лесвіцай разам з мятлой і чароўнай палачкай. Першыя пару тыдняў Гары атрымліваў асалоду, калі марматаў сабе пад нос розныя бессэнсоўныя словы і глядзеў, як Дадлі ляціць з пакою з усіх сваіх тлустых ног. Але доўгае маўчанне сяброў, прымусіла хлопчыка адчуць сябе цалкам адрэзаным ад чарадзейскага свету, таму нават здзекі з Дадлі згубілі сваю прывабнасць. І вось цяпер Рон і Герміёна забыліся, пра Гарын дзень нараджэння.

Хлопчык аддаў бы, што заўгодна за паведамленне з Хогвартса. Ці ад кагось з чараўнікоў. Ён быў бы рады нават сустрэцца са сваім лютым ворагам Драко Малфоем, толькі, каб ведаць, што ўсё гэта ані не было сном...

Канечне, за той час, што Гары правёў у Хогвартсе ня ўсё было такім добрым. Напрыканцы навучальнага года, хлопчык зноўку воч на воч сутыкнуўся ня з кім іншым, як з самім Лордам Вальдэмортам. Канечне, той уяўляў сабой толькі ўспамін аб сабе мінулым, але ён зрабіўся яшчэ жахлівейшым, яшчэ больш хітрым і з усіх сіл жадаючым вярнуць сабе мінулую моц. Гары ўжо другі раз выслізнуў з яго кіпцюроў, але ў яго гэта атрымалася найневерагоднейшым цудам і колькі тыдняў пасля, ён, абліваючыся халодным потам, прачынаўся па начах, прыпамінаючы поўны лютасці твар Вальдэморта, з шырокімі шаленымі вачыма; разважаючы, куды ён цяпер схаваўся...

Гары выпрастаўся на лаўцы. Ён рассеяна паглядзеў на жывую загароджу, а ЗАГАРОДЖА ГЛЯДЗЕЛА НА ЯГО. Аднекуль з лістоты на яго спазіралі два вялізных зялёных вока.

Нечый здзеклівы голас, ад нечаканасці прымусіў Гары ўскочыць на ногі.

- А я ведаю, які сёння дзень,- праспяваў Дадлі і перавальваючыся наблізіўся да Гары.

Вялізныя вочы міргнулі і зніклі.

- Што?- не адрываючы вачэй ад плота, спытаўся Гары.

- Я ведаю, які сёння дзень,- паўтарыў Дадлі.

- Супэр,- адказаў Гары,- нарэшце ты вывучыў усе дні тыдня.

- Сёння твой дзень народзінаў,- з усмешкай паведаміў Дадлі.- А дзе твае віншавальныя карткі? Хіба і сярод сваіх вычвараў ты не знайшоў сяброў?

- Тваёй маці лепей не чуць аб маёй школе,- халодна прамовіў Гары.

Дадлі падцягнуў штаны, што спаўзлі з яго тлустага азадка.

- Ты чаго на загароджу вытарапіўся?- з падазронам спытаўся ён.

- Спрабую вырашыць, якой замовай яе лепш падпаліць,- адказаў Гары.

Дадлі імгненна адхіснуўся назад, на яго тлустым твары залунала паніка.

- Ты н-не зробіш гэта... тата загадаў табе не карыстацца м-магіяй... ён сказаў, што выкіне цябе з дома... і цябе няма куды будзе пайсці... ты ж не маеш сяброў...

- ДЖЫГЕРЫ ПОКЭРЫ!- шалёным голасам прамовіў Гары.- Фокус-покус... сквіглі-віглі...

- МААAМААA!- загаласіў Дадлі і спатыкаючыся аб ўласныя ногі, кінуўся да хаты.- МААМААA! Ён робіць, сама ведаеш што!

Гэтая забава задорага каштавала Гары. Ані загароджа, ані Дадлі ніяк не пацярпелі, таму цётка Пятунья здагадалася, што Гары не чараваў па сапраўднаму, але ён ледзь паспеў адхіліцца, калі амаль на яго галаву апусцілася мыльная патэльня. Потым цётка панадавала яму працы і пагразіла, што пакуль ён усё не зробіць, ён не атрымае ежы.

Пакуль Дадлі басцяўся паблізу з марозівам, Гары мыў вокны, машыну, касіў траўнік, упрыгожваў клумбы, падразаў і паліваў ружы ды перафарбоўваў садовую лаўку. Сонца неміласэрна паліла яго патыліцу. Ён ведаў, што не патрапіў бы на Дадліну прынаду, калі б той не агучыў яго ўласныя думкі... можа ў яго і не было сяброў у Хогвартсе...

- Хацеў бы я, каб яны цяпер паглядзелі на знакамітага Гары Потэра,- раззлавана падумаў ён, угнойваючы клумбы. Яго спіна страшэнны балела, а па твары цяклі струменчыкі поту.

Было а палове на восьмую, калі яго ўшчэнт змучанага нарэшце паклікала цётка.

- Хадзі сюды! Толькі па газэтах!

Гары з палёгкаю апынуўся ў цяністай, бліскучай кухні. На халадзільніку ён убачыў пудзінг – вялізную гору ўзбітай сметанкі ўпрыгожанай цукровымі фіялкамі. А ў духоўцы шкварчэў вялізны кавалак свініны.

- Хуценька еш! Ці то хутка ўжо прыйдуць Мэйсаны!- гыркнула цётка, паказваючы Гары на кавалак сыра і два кавалкі хлеба на кухонным стале. Цётка была апранута ў жаўтлява ружовую кактэльную сукенку.

Гары вымыў рукі і прыняўся за сваю вартую жалю вячэру. Ледзь ён паспеў скончыць, як цётка шпульнула, яго талерку ў ракавіну і загадала:

- А цяпер наверх! Хуценька!

Прамінаючы гасцёўню, ён крайком вока пабачыў дзядзьку Вернана і Дадлі ў навюткіх смокінгах і гальштуках-бабачках. Толькі ён падняў нагу на першую прыступку сходаў, як ў дзверы пазванілі, а ля яго ўзнік раз’ючшаны дзядзька Вернан:

- Памятай, хлопча... адзін толькі гук...

Гары крадком дасягнуў свайго пакою, праслізнуў усярэдзіну, зачыніў дзверы і павярнуўся, каб паваліцца на ложак.

Але да яго жаху на ім ўжо нехта сядзеў.

## — РАЗДЗЕЛ II —

## *Перасцярога Добі*

У Гары атрымалася не закрычаць, але ён быў блізкі да гэтага. На яго ложку сядзела істота з вялізнымі, падобнымі на крылы кажана, вушамі і пукатымі зялёнымі вачыма памерам з тэнісныя мячыкі. Гары зразумеў, што менавіта яна глядзела на яго сёння з загароджы.

Яны спазіралі адно на аднаго, а з першага паверху даносіўся голас Дадлі.

- Ці магу я прыняць вашыя палітоны, містэр і місіс Мэйсан?

Істота саслізнула з ложка і пакланілася так нізка, што кончыкам свайго доўгага носу дакранулася да дывана. Апранута яна была, як заўважыў Гары, у нешта нагадваючае старую навалачку з дзіркамі для рук і ног.

- Ммм... прывітанне,- знервавана прамовіў Гары.

- Гары Потэр!- прамовіла істота высокім голасам, які, як быў упэўнены Гары, быў чутны ажно ўнізе.- Вельмі доўга Добі жадаў сустрэцца з вамі, сэр... Гэта такі вялікі гонар...

- Д-дзякуй,- адказаў Гары, ён ціхінка прайшоў уздоўж сцяны і сеў на сваё крэсла, паблізу ад высокай клетцы, дзе спала Хэдвіг. Ён хацеў спытацца ў істоты, чым яна з’яўляецца, але вырашыў, што гэта прагучыць загруба, таму прамовіў.- А ты хто?

- Добі, сэр. Усяго толькі Добі. Добі – хатні эльф,- адказала істота.

- О... сапраўды?- сказаў хлопчык.- Не хачу быць грубым, ці штось падобнае... але зараз ня вельмі зручны час, каб у маім пакоі быў хатні эльф.

З гасцёўні пачуўся высокі фальшывы смех цёткі Пятуны. Эльф апусціў галаву.

- Ня тое, каб я быў не задаволены тым, што ты сядзіш тут,- хутка прамовіў хлопчык,- але, ну, ці ёсць асаблівая прычына, каб ты сюды завітаў?

- О, так, сэр,- настойліва прамовіў Добі.- Добі прыйшоў паведаміць вам, сэр... гэта вельмі цяжка, сэр... Добі ня ведае з чаго пачаць...

- Прысядзь,- кажучы на ложак, ветліва сказаў Гары.

Да яго жаху, эльф імгненна... і вельмі шумна загаласіў.

- ПРЫСЕСЦІ!- пралямантаваў ён.- НІКОЛІ... НІКОЛІ ЯШЧЭ...

Гары быў упэўнены, што пачуў, як галасы унізе сціхлі.

- Прабач,- прашапатаў хлопчык.- Я зусім не жадаў цябе пакрыўдзіць.

- Пакрыўдзіць Добі?- быццам задыхаючыся, сказаў эльф.- Аніводзін чараўнік, яшчэ не прапаноўваў Добі сесці... як роўне...

- Шшш!- як мага больш суцяшальна прасыкаў Гары, аначасова спрабуючы пасадзіць Добі назад на ложак. Эльф сядзеў там, нагадваючы вялізную выродлівую ляльку, пакутуючую на ікаўку. Нарэшце, у яго атрымалася запанаваць над сабой. І ён сядзеў, пазіраючы на Гары сваімі вялізнымі вачыма, вадкімі ад замілавання.

- Ты пэўна не сустракаў годных чараўнікоў,- спрабуючы яго падбадзёрыць, сказаў Гары.

Добі кіўнуў галавой. Потым, нечакана ён ўскочыў на ногі пачаў біцца галавой аб раму акна з крыкамі:

- ДРЭННЫ! ДРЭННЫ Добі!

- Не... што ты робіш?- ускочыўшы на ногі і спрабуючы пасадзіць эльфа на ложак прасыкаў Гары. Ад паднятага гармідара Хэдвіг прачнулася і пачала з асабліва моцным віскам біцца крыллем аб краты сваёй клеткі.

- Добі павінен быў сябе пакараць, сэр,- адказаў эльф, з крыху касымі вачыма.- Добі амаль не сказаў благое аб сваёй сям'і...

- Сям'і?

- Сям'і чараўнікоў, якім Добі прыслугоўвае, сэр... Добі – хатні эльф... Добі абавязаны да самой смерці служыць у адным доме, адной сям'і...

- А ці яны ведаюць, што ты тут?- зацікаўлена спытаўся Гары.

Добі ўздрыгануўся.

- Вой, не, сэр, не... Добі прыйдзецца пасля пакараць сябе асабліва цяжка, за тое што прыйшоў да вас, сэр. Добі прыйдзецца прышчаміць сабе вушы засланкай. Калі б яны даведаліся, сэр...

- А яны не заўважаць, што ты прышчаміў сабе вушы?

- Добі сумняваецца ў гэтым, сэр. Добі ўвесь час прыходзіцца караць сябе за што-небудзь, сэр. Гаспадары дазваляюць яму гэта рабіць. А часам, нават загадваюць пакараць сябе дадаткова...

- Але чаму ты не сыйшоў ад іх? Чаму не ўцёк?

- Хатняму эльфу павінны даць свабоду, сэр. Але сям'я ніколі не адпусціць Добі...Добі будзе служыць сям'і пакуль жывы, сэр...

Гары здзіўлена вытарапіўся на эльфа.

- Я думаў, што найгоршае становішча ў жыцці, тое ў якім я буду яшчэ чатыры тыдні, - прамовіў ён.- Дурсі ў параўнанні з тваімі гаспадарамі паводзяць сябе па-чалавецку. А ці можна цябе неяк дапамагчы? Можа я паспрабую гэта зрабіць?

Гары імгненна пашкадаваў аб сваёй прапанове. Добі ізноў удзячна залямантаваў.

- Калі ласка,- у адчаі прашапатаў хлопчык,- калі ласка цішэй. Калі Дурсі цябе пачуюць, калі даведаюцца, што ты тут...

- Гары Потэр пытаецца, чым ён можа дапамагчы Добі... Добі чуў аб вашай велічы, сэр, але Добі ані ня ведаў аб вашай велікадушнасці...

- Усё што ты чуў аб маёй велічы, лухцень,- адказаў Гары, адчуваючы як палае яго твар.- Я нават не першы сярод сваіх аднагодак, вось Герміёна...

Але ён адразу ж супыніўся, бо ўспамін аб Герміёне прынёс яму толькі боль.

- Гары Потэр яшчэ і сціплы ды ціхмяны,- з пачцівасцю прамовіў Добі, яго агромістыя лупатыя вочы ажно зазіхацелі.- Гары Потэр нават анічога не кажа аб сваёй перамозе над тым, Чыё Імя Нельга Называць.

- Ты аб Вальдэморце?- спытаўся хлопчык.

- Ай, не вымаўляйце яго імя, сэр!- прыстукваючы свае кажанападобныя вушы, застагнаў Добі.- Ня трэба вымаўляць яго імя!

- Прабач,- хутка прамовіў Гары.- Я ведаю шмат людзей, якія ня любяць, калі я гэта раблю... мой сябра Рон...

Хлопчык зноў супыніўся. Успамін аб Роне таксама прынёс яму боль.

Добі нахіліўся да Гары, яго вочы зрабіліся падобнымі на фары.

- Добі чуў аб гэтым.- сіпата заявіў эльф.- Чуў, што колькі тыдняў таму, Гары Потэр зноў сустрэўся з Цёмным Лордам... І што ў Гары Потэра ЗНОЎ атрымалася пазбегнуць небяспекі.

Гары кіўнуў у адказ, вочы эльфа заблішчэлі ад слёз.

- Вох, сэр,- цяжка дыхаючы і выціраючы вочы кутком навалчкі, якая служыла яму вопрадкай, прамовіў Добі.- Гары Потэр адважны і мужны чалавек. Ён выкруціўся ўжо са столькіх небяспек! Але Добі прыйшоў, каб абараніць яго, папярэдзіць яго аб небяспецы, нават калі потым яму прыйдзецца зашчаміць свае вушы засланкай... ГАРЫ ПОТЭРУ НЯ ТРЭБА ВЯРТАЦЦА Ў ХОГВАРТС.

Запанавала цішыня, перапыняемая толькі стукам нажоў і відэльцаў на першым паверсе і гудам голаса дзядзькі Вернана.

- Ч-чаго?- заікаючыся прамармытаў Гары.- Але я павінен туды вярнуцца... першага верасня пачынаюцца заняткі. Толькі гэта падтрымлівае мяне ў глуздзе. Ты ня ведаеш, як мне тут цяжка. Мне няма ТУТ месца. Я прыналежу да таго свету... дзе Хогвартс.

- Не, не, не.- Добі завіскатаў і захістаў галавою так, што вушы пачалі пляскаць яго па шчоках.- Гары Потэр павінен застацца там, дзе ён будзе ў бяспецы. Ён завялікі і задобры, каб мы залішыліся без яго. Калі Гары Потэр вернецца ў Хогвартс, ён будзе ў смяротнай небяспецы.

- Чаму?- у здзіўленні спытаўся Гары.

- Існуе змова.- прашапатаў Добі, раптам яго пачало калаціць.- У гэтым годзе ў хогвартскай школе чарадзейства і вядзьмарства адбудуцца жахлівыя рэчы. Добі ведае аб гэтым ужо колькі месяцаў, сэр. Гары Потэр не павінен ставіць сябе ў небяспеку. Ён вельмі важны для нас усіх, сэр.

- Што за жахлівыя рэчы там адбудуцца?- імгненна спытаўся Гары.- Хто стварае змову?

Добі выдаў дзіўны выдушлівы гук, а потым пачаў шалёна стукацца галавой аб сцяну.

- Ну добра, добра!- схапіўшы эльфа за рукі і адцягнуўшы яго ад сцяны пракрычаў Гары.- Я зразумеў, што ты не можаш сказаць. Але чаму ты папярэджваеш мяне?- раптам у яго галаву прыйшла непрыемная думка.- Чакай... а гэта аніяк не павязана з Валь... ой, прабач з Сам Ведаеш Кім? Толькі кіўні галавой?- паспешліва дадаў ён, заўважыўшы, як галава Добі зноўку наблізілася да сцяны.

Эльф павольна захістаў галавой.

- Не... змову ладзіць не той Чые Імя Нельга Называць, сэр.

Аднак вочы хатняга эльфа расшырыліся, быццам ён жадаў намякнуць на нешта, але Гары не зразумеў на што.

- А ён часам не мае брата?

Добі зноў адмоўна пахістаў галавой, а яго вочы пашырыліся да небяспечнай мяжы.

- Ну, я больш не магу прыпомніць анікога, хто можа стварыць у Хогвартсе, хоць нешта жудаснае,- заявіў Гары.- Тым больш, калі там ёсць Дамблдор... ты ж ведаеш Дамблдора?

Добі кіўнуў у адказ.

- Альбус Дамблдор – найвялікшы з хогвартскіх дырэктароў. Добі ведае пра яго, сэр. Добі яшчэ чуў, што Дамблдор быў здольны пазмагацца з Тым Чые Імя Нельга Называць, калі той быў на вяршыні сваёй магутнасці. Але, сэр,- яго голасператварыўся на ледзь

чутны шэпт,- ёсць СІЛЫ, якімі Дамблдор... якімі ня будзе карыстацца аніводзін прыстойны чарадзей...

І перш чым Гары паспеў яго супыніць, Добі саскочыў з ложка, схапіў настольную лямпу і прыняўся з аглушальным віскам біць ёй па сваёй галаве.

Раптам на першым паверсе запанавала цішыня. А две секунды пазней Гарына сэрца пачало шалёна калаціцца, ён пачуў як дзядзька Вернан пакідаў гасцёўню, кажучы:

- Напэўна Дадлі зноў пакінуў тэлевізар уключаным, шкода мая малая!

- Хутчэй! Залязай сюды- прасыкаў Гары, запхнуў Добі ў шафу, зачыніў дзверы і толькі паспеў легчы на ложак, як дзверы ў яго пакой адчыніліся.

- Якога... ЛІХА... ты... тут... тварыш.- наблізіўшы свой твар да Гарынага, праз зубы спытаўся дзядзька.- Ты толькі што сапсаваў кульмінацыйны момант майго жарту аб японскім гальфісце... яшчэ адзін гук, хлопча, і ты пашкадуеш, што нарадзіўся на свет!

Дзядзька валюхаста пакінуў пакой.

Дрыготкімі рукамі. Гары выпусціў эльфа з шафы.

- Ты бачыш, як я тут існую?- сказаў ён.- Цяпер разумееш, чаму я павінен павярнуцца да Хогвартса? Гэта адзінае месца дзе я маю... думаў, што маю сяброў.

- Сяброў, якія нават ня пішуць Гары Потэру?- з хітрыкамі ў голасе, спытаўся Добі.

- Спадзяюся, яны маюць... чакай,- змрочна спытаў хлопчык.- Адкуль ты ведаеш, што мае сябры не пішуць мяне?

Добі задыгаў нагой.

- Гары Потэр не павінен злавацца на Добі... Добі рабіў так, як палічыў лепшым для...

- ТЫ ШТО, ПЕРАХОПЛІВАЎ МАЮ ПОШТУ?

- Яны ўсе ў Добі,- адказаў эльф. Ён хуценька адступіў на колькі крокаў і выцягнуў са сваёй навалачкі тоўсты пачак лістоў. Сярод лістоў былі падпісаныя прыгожымі літаркамі Герміёны, неахайнай мазнёй Рона і крамзолямі якія маглі належыць толькі хогвартскаму палясоўшчыку Хагрыду.

Міргаючы, Добі занепакоена пазіраў на Гары.

- Гары Потэр не павінен злавацца... Добі спадзяваўся... што, калі Гары Потэр вырашыць, што сябры забыліся пра яго... Гары Потэр не пажадае вяртацца ў школу, сэр...

Але Гары ўжо не слухаў яго. Хлопчык паспрабаваў схапіць лісты, але Добі быў спрытнейшым.

- Гары Потэр атрымае свае лісты, толькі калі дасць Добі абяцанне не вяртацца ў Хогвартс. Вох, сэр, вы не павінны ставіць сябе пад гэткую небяспеку. Абяцайце, што не вернецеся, сэр!

- Не!- раззлавана сказаў хлопчык.- Аддай мне лісты маіх сяброў!

- Тады ў Добі няма іншага выйсця,- з маркотай прамовіў эльф.

І перш чым Гары паспеў штосьці зрабіць, Добі кінуўся да дзвярэй, штуршком адчыніў іх... і кінуўся на першы паверх.

Гары, у якога імгненна перасохла ў роце і закруціла ў страўніку, намагаючыся не шумець, кінуўся следам за ім. Апошнія шэсць прыступак хлопчык адолеў у адзін скок, па кацінаму ціха апусціўся на дыванок, шукаючы вачамі Добі. Ён пачуў, як у сталовай дзядзька Вернан кажа: «...містэр Мэйсан, мая жонка Пятунья, памірае, як хоча пачуць тую вашу смешную гісторыю аб амерыканскіх сантэхніках...»

Праз хол, Гары забег на кухню і адчуў, як пахаладзела ў яго грудзях.

Кулінарны шэдэўр цёткі Пятуньі са смятанкі і цукровых фіялак павольна плаваў пад столлю, а непадалёк, на буфеце сядзеў Добі.

- Не рабі гэтага,- прахрыпеў хлопчык.- Калі ласка... ня трэба... яны ж заб’юць мяне...

- Гары Потэр павінен паабяцаць, што ня вернецца ў школу...

- Калі ласка... Добі...

- Паабяцайце, сэр...

- Не магу!

Добі з жалем на твары паглядзеў на хлопца.

- Дзеля дабра Гары Потэра, Добі вымушаны гэта зрабіць.

З грукатам, ад якога ў хлопчыка ледзь не супынілася сэрца, пудзінг абрынулся на падлогу. Сцены і вокны імгненна запырскаліся крэмам. Адчуўся гук, нагадваючы свіст пугі і Добі знік.

Са сталовай пачуліся крыкі, дзядзька Вернан уварваўся на кухню дзе знайшоў Гары, ушчэнт сшакаванага і з галавы да ног заляпанага цёткіным пудзінгам.

Першы час здавалася, што ў дзядзькі атрымаецца ўсё наладзіць. «Гэта наш пляменнік... у яго зусім дрэнна з галавой... ён баіцца чужых людзей, таму мы трымалі яго на другім паверсе...»- прамовіў ён перапуганым Мэйсанам, вяртаючы іх назад у сталовую. Потым, паабяцаўшы, што здзярэ па дробных кавалачках усю Гарыну скуру, калі адыйдуць госці, дзядзька ўпёр хлопчыку ў рукі швабру. Цётка знайшла ў лядоўні крыху марозева і пакінула Гары, які ўсё яшчэ дрыготкімі рукамі спрабаваў адчысціць кухню.

У дзядзькі Вернана амаль атрымалася ўсё наладзіць... але тут аб’явілася сава.

Цётка Пятунья ўжо частавала гасцей пасля вячэры мятнымі цукеркамі, калі праз адчыненае вакно сталовай заляцела агромістая сіпуха, кінула на галаву місіс Мэйсан канверт і адляцела прэчкі. Лямантуючы, як сірэна паветранай трывогі, місіс Мэйсан кінулася надворак. А містэр Мэйсан, затрымаўся, каб паведаміць Дурсі, што яго жонка смяротна баіцца ўсіх птушак, якога заўгодна памера і спытацца, як ім толькі ў галаву прыйшоў падобны жарт.

Гары стаяў пасярод кухні, трымаючыся за швабру, калі туды з дэманічным бляскам у вачах ўварваўся дзядзька, трымаючы ў руках кавалак пергаменту.

- Чытай!- размахваючы лістом, злосна прасыкаў дзядзька.- Ну... давай... прачытай!

Гары прыняў з яго рук пергамент. Ён быў упэўнены што гэта ані не віншаванне з днём нараджэння.

*«Паважаны містэр Потэр,*

*Мы даведаліся, што сёння ў 21 гадзіну 12 хвілінаў па месцы вашага жыхарства была выканана замова лунання.*

*Як вы ведаеце, непаўнагадовым чараўнікам забароненна карыстацца магіяй па-за межамі навучальнай установы і калі па месцы вашага жыхарства адбудзецца новая спроба чараваць, гэта можа прывесці да вашага выключэння са школы (адпаведна пункту С, пастановы аб разумным абмежаванні непаўнагадовага чарадзейства ад 1875 года).*

*Таксама мы просім памятаць, што любая магічная дзейнасць сярод чальцоў немагічнай супольнасці (маглаў) з’яўляецца сур’ёзным правапарушэннем. (адпаведна артыкулу 13, статуту аб сакрэтнасці Сусветнай канфедэрацыі ведзьмакоў.)*

*Прыемных вакацый!*

*З шчырай павагаю,*
*Мафальда Гопкірк*
*Аддзел па адсочванню неправамернага выкарыстання магіі пры Міністэрстве Магіі»*

Гары адарваў вочы ад ліста і зглынуў.

- Ты нічога не сказаў нам аб тым, што цябе забаронена чараваць па-за межамі школы,- сказаў дзядзька Вернан, у яго вачах танчылі шалёныя агенчыкі.- Што, няўжо забыўся... ці можа з памяці спусціла..?

Ён насоўваўся на Гары, выскаліўшы зубы быццам вялізарны бульдог.

- У мяне ёсць для цябе адна навіна... ты будзеш замкнёны... і ты аніколі не вернешся да сваёй школы... ніколі... а калі ты паспрабуеш скарыстацца магіяй... яны тым больш цябе выкінуць!

З вар’яцкім смехам, дзядзька пацягнуў Гары наверх.

Усё сталася па яго слову. Наступнай раніцай, дзядзька выклікаў майстра, які ўсталяваў на вокны Гарынага пакою цяжкія краты. А сам містэр Дурслі прарэзаў у дзвяры Гарынага пакою адтуліну, як быццам для коткі, праз якую тройчы на дзень, хлопцу падавалася крыху ежы. Ранніцай і ў вечары, Гары выводзілі, каб той мог скарыстацца ваннай і прыбіральняй. Астатні час, хлопчык быў замкнёны ў пакоі.

*

Мінула тры дні, з боку Дурслі не выявілася аніякіх прыкметаў паляпшчэння яго становішча, а Гары не мог прыдумаць аніякага выйсця. Яму засталося толькі ляжаць на сваім ложку, назіраць, як сонечны дыск заходзіць за краты яго вакна і са шкадаваннем разважаць над тым, што з ім цяпер будзе.

Што будзе добрага, калі ён скарыстаецца магіяй, калі яго ўсё адно са школы выкінуць? Але цяпер, калі Дурслі даведаліся, што не прачнуцца зранку крыланамі і хлопчык згубіў сваю апошнюю зброю, яго становішча пагоршылася ніжэй чым калісь за ўсё яго жыццё. Добі выратаваў Гары ад жудасных падзей, што павінны адбыцца ў Хогвартсе, але што яму з таго, калі цяпер ён, напэўна ўсё адно памрэць з голаду.

Кацiная адтукліна з грукатам адчынілася і адтуль паказалася цёткіна рука з талеркаю кансэрваванага супу. Гары, чые вантробы невыносна пакутавалі ад голаду, імгненна саскочыў з ложку і падняў талерку. Суп быў страшэнна халодным, тым ня менш хлопчык выпіў адным глытком большую частку. Потым, перасекшы пакой, ён падыйшоў да савінай клеткі і вытрас на яе талерачку волкую гародніну. Хэдвіг натапырыла пер’е і зірнула на гаспадара з глыбокай агідаю.

- Ня трэба круціць дзюбаю, гэта ўсё што мы маем,- змрочна сказаў ёй Гары.

Хлопчык пакінуў пустую талерку ля адтуліны і зноўку лёг на ложак. Ён адчуваў сябе яшчэ больш галодным.

Гары спадзяваўся, што ўсё ткі пражыве яшчэ чатыры тыдні. Цікава, што будзе, калі ён не аб'явіцца ў Хогвартсе? Ці дашлюць каго-небудзь, каб высвятліць, чаму ён адсутнічае? Ці яны здолеюць прымусіць Дурслі, каб яны яго выпусцілі?

Тым часам яго пакой ахутала цемрай. Адначасова змучаны буркатаннем ў жываце і крутанінай ад невырашальных пытанняў у галаве, Гары праваліўся ў неспакойны сон.

Ён прысніў, што апынуўся ў заапарку, дзе сядзеў на ложку з саломы у клетцы, да якой была прыбіта шыльда «Непаўнагадовы чараўнік». Людзі пазіралі на яго, змучанага і згаладалага. Потым у натоўпе ён заўважыў твар эльфа Добі, Гары паклікаў яго, просячы аб дапамозе, але той крыкнуў хлопчыку ў адказ: «Цяпер Гары Потэр у бяспецы, сэр!» і знік. Пасля да яго завіталі Дурслі, і Дадлі, голасна рагочучы, пачаў грукаць па кратах яго клеткі.

- Супыніся,- прамармытаў Гары, калі стук пачаў аддавацца болем у яго галаве.- Пакінь мяне ў супакое... Годзе... Я спаць хачу...

Гары расплюшчыў вочы. Праз краты на вакне яму ў твар свяцілася месячнае святло. Адтуль жа на яго глядзеў нехта – рабаціністы, рудавалосы і доўганосы.

З надворку на Гары пазіраў Рон Візлі.

# — РАЗДЗЕЛ III —

## *Логавішча*

- РОН?!- выдыхнуў Гары, ён падлез да вакна і адчыніў яго, каб мець магчымасць пагаманіць з сябрам праз краты.- Рон, як ты... Што..?

Гледзішча, якое адкрылася хлопчыку ў наступнае імгненне прымусіла Гары раскрыць рота. Рон высоўваўся з задняй сядушцы старога бірузовага аўтамабіля, які папросту вісеў у ПАВЕТРЫ. Зперады на Гары, усміхаючыся, спазіралі старэйшыя Ронавы браты, блізняты Фрэд і Джордж.

- Як маешся, Гары?

- Што ў цябе тут тварыцца?- спытаўся Рон.- Чаму ты не адказваў на мае лісты? Я даслаў цябе ажно дванаццаць запрашэнняў у госці, а потым тата прыйшоў з працы і расказаў, што ты атрымаў афіцыйнае папярэджанне за карыстанне магіяй перад магламі...

- Гэта быў не я... а адкуль ваш бацька пра гэта даведаўся?

- Ён у міністэрстве працуе,- адказаў яму Рон.- Гары, ты ж ведаеш, што нам забаронена чараваць па-за школай...

- І гэта ТЫ мне кажаш?- пазіраючы на лятаючы аўтамабіль, прамовіў Гары.

- Гэта не лічыцца,- адказаў Рон,- мы яе толькі пазычылі, яе тата зачараваў, не мы. А вось чараваць перад магламі, сярод якіх ты жывеш...

- Я ж сказаў вам, што гэта быў не я... доўга тлумачыць. Слухайце, ці вы не можаце сказаць у Хогвартсе, што Дурслі мяне замкнулі і не дазваляюць вярнуцца ў школу, а магіяй я скарыстацца не змагу, таму што міністэрства вырашыць, што я выкарыстаў другую замову за якіясь тры дні і...

- Кідай сваю балбатню,- адказаў яму сябра.- Мы прыехалі, каб забраць цябе з сабой.

- Але ж вам таксама забаронена чараваць, як і...

- А мы і не збіраліся, - прамовіў Рон тузануўшы галавой на пярэднюю сядушку,- але, пэўна ты забываешся, хто тут са мной.

- Абкруці гэта вакол кратаў,- кінуўшы Гары вяроўку, заявіў Фрэд.

- Калі Дурслі штось пачуюць, яны мяне заб’юць,- надзейна прывязваючы да кратаў вяроўку заўважыў Гары, тым часам Фрэд націснуў на газ.

- Не турбуйся,- сказаў ён Гары.- А цяпер адсунься.

Гары адсунуўся ў цень, дзе стаяла клетка з Хэдвіг, якая, здавалася, разумела ўсю важкасць моманту, таму сядзела не выдаваючы ані гука. Машына ўсё больш набірала хуткасць, яе равенне рабілася гучней і, нарэшце, калі Фрэд пусціў машыну ўперад, краты былі адарваны ад сцяны... Гары ізноў падбег да вакна і ўбачыў як яны паволі боўталіся на вяроўцы ў колькіх футах ад зямлі. Рон, запыхаўшыся. зацягнуў краты ў машыну. Гары з трывогай прыслухаўся, але з Дурслеўскай спальні не адчувалася ані гуку.

Калі краты занялі сваё месца на задняй сядушцы разам з Ронам, Фрэд, як мага бліжэй падляцеў да Гарынага вакна.

- Забірайся сюды,- клікнуў яму Рон.

- Але ўсе мае хогвартскія рэчы... палачка... мятла...

- Дзе яны?

- Замкнуты ў каморы пад лесвіцай, а я не магу выйсці з пакоя...

- Няма праблемаў,- з пярэдняй пасажырскай сядушцы адказаў Джордж.- Адсунься.

Праз вакно Фрэд і Джордж асцярожна праслізнулі ў Гарын пакой. Гары вырашыў, што блізнятам трэба аддаць належнае, калі Джордж выцягнуў з кішэні звычайную шпільку і прыняўся калупаць ёй ў замке.

- Сярод чараўнікоў шмат хто лічыць падобныя маглаўскія штукі дарэмнай стратай часу,- заявіў Фрэд,- але мы мяркуем, што ім варта навучыцца, хаця яны і запавольныя.

Нешта ціхінька пстрыкнула і дзверы адчыніліся.

- Так... мы спускаемся ўніз па тваю валізу... а ты хапай ўсё, што цябе спатрэбіцца ў гэтым пакоі і перадавай Рону,- прашапатаў хлопчыку Джордж.

- Уважлівей на ніжняй прыступцы,- калі блізняты зніклі ў цёмным калідоры, гукнуў Гары, - яна рыпіць.

Хлопчык гойсаў уздоўж пакоя, збіраючы свае рэчы і перадаваючы іх праз вакно Рону. Потым кінуўся, каб дапамагчы блізнятам падняць валізу па сходах. Тут Гары пачуў, як закашляў у сваім пакоі дзядзька Вернан.

Нарэшце, цяжка дыхаючы, яны падняліся на другі паверх, дацягнулі валізу да пакоя і сунулі ў раскрытае вакно. Фрэд забраўся назад у машыну, каб дапамагчы Рону, а Гары з Джорджам штурхалі яе з пакоя. Пакрысе, цаля за цаляй валіза пачала пралазіць у вакно.

Дзядзька Вернан зноў закашляўся.

- Яшчэ крыху,- прамовіў запыхаўшыйся Фрэд,- Яшчэ адзін добры штуршок...

Гары і Джордж добра націснулі на валізу плячыма і тая ў рэшце рэшт апынулася ў машыне.

- ОК, рушылі,- прашапатаў Джордж.

Але, як толькі Гары паставіў нагу на падваконнік, ён пачуў за спіной гучнае вухканне, а следам за ім грымотападобны голас містэра Дурслі.

- ДЗЯБЛАВА ПТУШКА!

- Я забыўся на Хэдвіг!

Праз увесь пакой Гары кінуўся да клеткі з савой... у калідоры запалілася святло. Хлопчык праз вакно перадаў клетку Рону. Ён ўжо зноў стаяў на камодзе, калі дзядзька бухнуў па дзярах... і яны з грукатам адчыніліся.

Дзелю секунды, Вернан разважаючы стаяў у дзярах, а потым, заравеўшы, як той рассвірапелы бык, кінуўся да Гары і схапіў яго за шчыкалатку.

Рон, Фрэд і Джордж схапілі Гарыны рукі і з усяе моцы пацягнулі на сябе.

- Пятунья!- зараве́ў дзядзька.- Ён вырашыў збегчы! ЁН ЗБЯГАЕ!

Браты Візлі з апошніх сіл пацягнулі Гары на сябе і яго нага выслізнула з дзядзькавых рук. Як толькі хлопчык апынуўся ўсярэдзіне, дзверы зачыніліся.

- Націскай на газ, Фрэд!- прагаласіў Рон і машына знянацку прыпусціла кудысь у бок месяца.

Гары ня верыў у гэта – ён быў вольным. Ён апусціў шкло на дверцы і начное паветра пачало церабіць яго валоссе. Гары зірнуў на змяншаючыеся дахі на Прайвет Драйв. Знямелыя дзядзька Вернан, цётка Пятунья і Дадлі ўсё яшчэ вызіралі з вакна яго пакою.

- Да наступнага лета!- крыкнуў ім Гары.

Браты Візлі голасна зарагаталі. Гары адкінуўся на сядушку. На яго твары ад вуха да вуха залунала ўсмешка.

- Выпусці Хэдвіг з клеткі,- прапанаваў Рон.- Няхай ляціць следам за намі. Яна ўжо сто год як крылы не распраўляла.

Джордж перадаў Рону шпільку і праз хвіліну-другую, Хэдвіг вясёла выляцела ў вакно і нібы здань, заслізгала ў паветры следам за імі.

- Ну... расказвай,- у нецярплівасці прамовіў Рон.- Што там у цябе за гісторыя?

Гары распавёў ім аб Добі, аб папярэджані якое той даў і аб падзенні пудзінга з фіялкамі. Калі ён скончыў у машыне на доўгі час запанавала цішыня.

- Усё гэта гучыць вельмі падазрона, нарэшце прамовіў Фрэд.

- І безумоўна, замудрагеліста,- пагадзіўся Джордж з братам.- І што, ён не сказаў, нават, хто з яго пункту гледжання стаіць за змовай?

- Мяркую, ён не мог сказаць,- сказаў Гары.- Што раз, калі ён мімаходзь кранаўся гэтай тэмы, ён адразу ж пачынаў біцца аб сцяну галавой.

Хлопчык заўважыў, як Фрэд з Джорджам перазірнуліся.

- Ці вы што думаеце, ён мяне падмануў?- спытаўся Гары.

- Ну,- сказаў Фрэд,- магчыма, што так... справа ў тым, што хатнія эльфы валодаюць асаблівай вельмі магутнай магіяй, але звычайна яны не карыстаюцца ёй без дазвола сваіх гаспадароў. Думаю старога Добі даслалі да цябе, каб адхіліць тваё вяртанне ў Хогвартс. Вырашылі, што гэта будзе вельмі смешна. Можаш узгадаць, кагось, хто мае на цябе вока?

- Так,- не дамаўляючыся прамовілі Гары і Рон.

- Драко Малфой,- патлумачыў Гары блізнятам.- Ён ненавідзіць мяне.

- Малфой?- павярнуўшыся да Гары, спытаўся Джордж.- Ці ён не сын Люцыюса Малфоя?

- Магчыма, прозвішча ня вельмі распаўсюджанае, так?- адказаў хлопчык.- А што?

- Я чуў, як тата казаў пра яго.- адказаў Джордж.- Ён быў заўзятым прыхільнікам Сам-Ведаеш-Каго.

- А калі Сам-Ведаеш-Хто знік,- дадаў Фрэд, пазіраючы на Гары праз люстэрка задняга віду,- Люцыюс Малфой вярнуўся да нашай супольнасці і заявіў, што ані да чаго асаблівага ня меў дачынення. Раздзяры яго халера... тата лічыць, што Малфой уваходзіў у блізкі асяродак Сам-Ведаеш-Каго.

Гары ўжо чуў нешта падобнае аб сям'і Малфояў, таму словы блізнятаў яго ані не здзівілі. Драко прымусіў Гары лічыць Дадлі Дурслі дабразычлівым, клапатлівым і чулым хлопчыкам.

- Не вядома, ці ёсць хатні эльф у Малфояў...- заўважыў Гары.

- Ну, эльфамі валодаюць старажытныя і забагатыя чарадзейскія сем'і,- адказаў Фрэд.

- Угу, маці заўжды марыла, каб у нас быў свой хатні эльф,- дадаў Джордж,- каб ён прасаваў бялізну. Але ў нас толькі стары мярзотны гуль на гарышчы і гномы па ўсім садзе. А эльфы жывуць толькі ў старых маёнтках, замках і палацах. У нашым доме ані не спаймаеш нават аднаго...

Гары не казаў анічога. Калі ўлічваць, што ў Драко Малфоя заўжды было ўсё самае найлепшае, золата ў яго сям'і сабакі не лізалі; больш таго Гары з лёгкасцю мог уявіць Малфоя, што носам ўгору расхаджвае па агромістым маёнтку. А ўжо даслаць да Гары

сямейнага лёкая, каб той не даў Гары вярнуцца ў Хогвартс, было нечым цалкам на яго падобным. Няўжо Гары быў настолькі дурным, што ўспрыняў сур'ёзна Добіны словы.

- А я ўсё роўна рады, што мы прыляцелі за табой,- заўважыў Рон.- Як так хваляваўся, калі не атрымаў ад цябе адказ на свае лісты. Спачатку думаў гэта Эрал, нешта наблытаў...

- Эрал?

- Сямейная сава. Ён ужо вельмі стары. І ён не першы раз губляе пошту. Тады я паспрабаваў скарыстацца Гермесам...

- КІМ?

- Ён таксама сава. Бацькі падаравалі яго Персі, калі таго абралі на прэфекта,- адказаў Фрэд.

- Але Персі не даў яго,- працягнуў Рон,- сказаў, што ён яму самому патрэбны...

- Персі гэтым летам паводзіць сябе задзіўна,- ня ўхвальна прамовіў Джордж.- Ён насамрэч дасылае вельмі шмат лістоў і марнуе купу часу, седзячы затыкнуўшыся ў сваім пакоі... Я маю на ўвазе, гэта ж колькі разоў мажліва было б адпаліраваць свой значык прэфекта... Фрэд, ты зашмат даў на захад,- кажучы на компас на панэлі прыладаў, дадаў ён. Фрэд крутануў стырно ў новым напрамку.

- А ваш тата ведае, што вы ўзялі машыну?- добра ведаючы адказ, спытаўся Гары.

- Ммм, не,- адказаў яму Рон,- ён сёння ў ночы працуе. І я спадзяюся, мы вернем яе ў гараж ранней, чым маці заўважыць тое, што мы адсутнічалі.

- А ваш бацька... чым ён займаецца ў міністэрстве?

- Працуе ў адным з самых сумных аддзелаў,- адказаў Рон.- Камітэт па барацьбе са злаўжываннем маглаўскімі артэфактамі.

- ЧЫМ?

- Гэта звязана з зачараваннем тых рэчаў, якія былі зроблены маглямі, на той выпадак, калі яны трапяць у якую-небудзь маглаўскую краму ці хату, разумееш. Напрыклад, у мінулым годзе памерла адна старая вядзьмарка, а яе чайны сервіз трапіў ў антыкварную краму. Адна магелка набыла яго, прынесла да сябе ў хату і прапанавала сваім сябрам гарбаты. Гэта быў сапраўдны жах... бацьке прыйшлося працаваць звышурочна колькі тыдняў.

- А што здарылася?

- Імбрычак ашалеў і пачаў пырскаць на ўсіх кіпнем, а адзін мужчына трапіў у шпіталь з шчыпцамі для цукру, якія моцна схапілі яго за нос. Тата ледзь не звар'яцеў, бо ў яго камітэце працуюць толькі ён і стары вядзмак па прозвішчы Перкінс, каб захаваць усё ў таямніцы прыйшлося накладаць памяцізмяняльную замову на купу народу...

- А ваш тата... я пра гэту машыну...

- Наш тата,- зарагатаў Фрэд,- ледзь не вар'яцее ад усяго, што датычыцца маглаў, наш хлеў ушчэнт перапоўнены разнастайнымі маглаўскімі рэчамі. Ён разбірае іх на часткі, накладае на іх разнастайныя замовы, а потым зноўку збірае. Калі б ён ладзіў рэйд на наш дом, ён быў бы абавязаны арыштаваць самога сябе. Маці ад гэтага папросту шалее.

- Вось і аўтамагістраль,- гледзячы на зямлю праз ветравое шкло, заявіў Джордж.- Праз дзесяць хвілінаў будзем дома... Вось і добра, бо ўжо пачынае днець...

На даляглядзе слабым ружовым святлом заружавеў золак.

Фрэд пакрысе пачаў саджаць машыну. Знізу Гары разглядзеў цёмныя коўдры палёў і зграмаджэння дрэў.

- Мы непадалёк ад вёскі,- сказаў Джордж.- Вось. Отэры Сэнт Кэтчпал...

Машына апускалася ўсё ніжэй і ніжэй. Праз галіны дрэў было бачна ўзыход чырвонага сонца.

- Селі!- прамовіў Фрэд, пасля слабога ўдра машыны аб зямлю. Яны прызямліліся ля нагадваючай стары гараж будавіны, што стаяла ў невялічкім двары. Так Гары ўпершыню бачыў дом Рона.

Складалася ўражанне, што калісьці гэта быў вялізны каменны хлеў, да якога сям-там былі прыстасаваны дадатковыя памяшканні, пакуль ён не пеатварыўся ў перакасавураную шматпавярховую будавіну, што трымалася толькі дзякуючы магіі (Гары вырашыў, што хутчэй за ўсё так і было). На даху высіліся ці то чатыра, ці то пяць комінных труб. Ля ўваходу ў зямлю быў убіты скасабочаны слуп да якога была прыбіта шыльда з надпісам «Логавішча». Ля ўваходу ляжала груда старых гумовых ботаў і вельмі іржавы кацёл, а па двары, дзяўбаючы зямлю хадзіла колькі тлусценькіх бурых кур.

- Не надта шмат,- прамовіў Рон.

- Гэта ШЫКОЎНА,- прыпамінаючы дом на Прайвет Драйв, з радасцю заўважыў Гары.

Яны выйшлі з машыны.

- Цяпер мы ціхінька пойдзем наверх,- сказаў Фрэд,- і спусцімся толькі калі маці пакліча нас на сняданак. А потым спусцішся ты Рон і скажаш: «Маці, ты глядзі хто завітаў да нас ноччу!». Маці будзе так рада бачыць Гары, што аніхто і не здагадаецца, што нам трэба было кудысь лятаць на машыне.

- Добра,- пагадзіўся Рон,- Пойдзем, Гары, я сплю...

Раптам твар Рона, які глядзеў у бок хаты, зрабіўся непрыемнага зялёнага колеру. Астатняя тройца развярнулася, каб паглядзець што ён такога ўбачыў.

Праз двор, раскідваючы па дарозе курэй да іх ішла маленькая, тоўсценькая жанчына з дабразычлівым тварам, якая цяпер хутчэй нагадвала шаблязубага тыгра. Гэта была місіс Візлі.

- Аёй,- прамовіў Фрэд.

- Хавайся ў бульбу,- дадаў Джордж.

Місіс Візлі спынілася ля іх, паставіўшы рукі ў бокі. На ёй быў апрануты пасуднік з кветачкамі з кішэні якога тырчала чароўная палачка.

- НУ,- прамовіла яна.

- Добрай раніцы, мама!- адказаў Джордж, голасам, які сам палічыў далікатным і чароўным.

- А ці вы не думалі, што я буду непакоіцца?- жахлівым шэптам спыталася жанчына.

- Прабач, мама, разумееш, мы былі...

Усе троя, былі значна вышэйшымі за маці, але цяпер пад ціскам яе гневу, нібыта паменшылі ростам.

- ЛОЖКІ ПУСТЫЯ! АНІЯКАЙ ЦЫДУЛКІ! МАШЫНЫ НЯМА... ВЫ МАГЛІ РАЗБІЦЦА... Я ЛЕДЗЬ НЕ ЗВАР'ЯЦЕЛА З НЕПАКОЮ... ВЫ АБ ГЭТЫМ ПАДУМАЛІ? НІКОЛІ, КОЛЬКІ Я ЖЫВУ... ВОСЬ ПАЧАКАЙЦЕ БАЦЬКА ВЕРНЕЦЦА, АНІ З КІМ З СЫНОЎ МНЕ НЕ БЫЛО ТАК ЦЯЖКА, АНІ З БІЛАМ, АНІ З ЧАРЛІ, АНІ З ПЕРСІ...

- Наш бездакорны і дасканалы Персі,- прамармытаў Фрэд.

- А ТАБЕ АНІ НЕ ЗАШКОДЗІЛА З ПЕРСІ ПРЫКЛАД УЗЯЦЬ!- стукаючы Фрэда пальцам у грудзі прагаласіла місіс Візлі. - Вы маглі бы загінуць, вас маглі ўбачыць, праз вас бацька мог страціць ПРАЦУ...

Здавалася, што сваю праборку яна можа доўжыць бясконца. Місіс Візлі ўжо паспела ахрыпнуць перш, чым павярнулася да Гары, той ў жаху ажно адступіў.

- Гары, вельмі рада цябе бачыць,- прамовіла яна.- Хадзем, зараз будзем снедаць.

Развярнуўшыся, яна крочыла назад у дом. Гары кінуў на Рона занепакоенный погляд, але той падбадзёрваючы кіўнуў у адказ і хлопчык завітаў у дом, следам за місіс Візлі.

Кухня, куды яны завіталі была замалой і вельмі цеснай. Цэнтр пакоя займаў вялізны драўляны стол з крэсламі вакол яго. Хлопчык прысеў на краёк аднаго з крэслаў і азірнуўся. Ён яшчэ аніколі ня быў у сапраўдным чарадзейскім доме.

На адной са сцен вісеў дзівосны гадзіннік, які меў толькі адну стрэлку, але ня меў лічбаў. Замест іх па коле месціліся надпісы, кшталту «Час для гарбаты», «Час гадаваць курэй», «Вы спазніліся». На комінным паліцы ў тры рады месціліся кнігі з такімі назвамі, як «Замовы для свойскага сыра», «Разнастайныя спосабы начараваць печыва» і «Гасціна за адну хвіліну. Усяго толькі магія!» І калі Гары не падманулі вушы, стары радыёпрымач, які стаяў ля ракавіны, абвесціў: «А цяпер «Гадзіна вядзьмаркі», для вас спявае чараўніца Цэлестына Ворбэк.»

Місіс Візлі загрукатала посудам, злёгку нядбала гатуючы сняданак. Кінуўшы на сваіх сыноў гнеўны погляд, яна паклала на палаючую патэльню крыху кілбасак. Ад часу жанчына ціхінька мармытала нешта нагадваючае «Аб чым вы толькі сабе думалі» ці «Хто б сказаў – НЕ ПАВЕРЫЛА».

- ТВАЁЙ віны, мой любы, тут няма,- паклаўшы на Гарыну талерку восем ці дзевяць кавалкаў кілбаскі, запэўніла хлопчыка місіс Візлі,- Мы з Артурам таксама непакоіліся пра цябе. Толькі ўчора ўвечары мы разважалі наконт таго, што трэба будзе прыехаць і забраць цябе самім, калі ты не адкажаш Рону да пятніцы. Але вось так (на Гарынай талерке апынулася адразу тры яйкі), ляцець праз усю краіну на нелегальнай машыне... вас мог хто-небудзь ўбачыць...

Яна абыякава махнула палачкай і ў ракавіне, з мягкім дзвяканнем, посуд пачаў мыць сам сябе.

- Усю ноч было даволі ХМАРНА, мам!- прамовіў Фрэд.

- Не расчыняй рота, калі ясі,- гыркнула на яго місіс Візлі.

- Мам, яны яго амаль не кармілі!- дадаў Джордж.

- Гэта і цябе тычыцца!- сказала жанчына, але нашмат лагодней, адначасова намазваючы дзеля Гары хлеб маслам.

Нечакана на кухне аб'явілася невялічкае рудавалосае стварэнне ў доўгай начной кашулі. Узвіскнула і пабегла назад.

- Гэта Джыні,- паўшэптам паведаміў Рон сябру,- мая сястра. Яна ўсё летка пра цябе балбатала.

- Так, ёй жыццёва неабходны твой аўтограф, Гары,- пасміхнуўся Фрэд, але перахапіўшы погляд маці, адразу ж схіліўся над талеркай і надалей еў моўчкі. Увогуле,

пакуль ўсе чатыры талеркі не былі спустошаны (а гэта адбылося неверагодна хутка), ніхто за сталом не вымавіў ані слова.

- Божачкі, як жа я стаміўся,- пазіхнуў Фрэд, калі нарэшче адклаў відэлец і нож.- А ці не пайсці мне да ложка і...

- Ані,- гыркнула місіс Візлі.- Сам вінаваты, што валэндаўся ўсю ноч. Ідзі і абязгномь сад, ці то яны зноў ушчэнт парасперазаліся.

- Ну, мам...

- Вы двоя, таксама, - сказала яна, паглядзеўшы на Рона і Джорджа.- А ты, любы мой,- звярнулася яна да Гары,- лепей ідзі паспі. Ты не прымушаў іх ляцець за табой на гэтай брыдотнай машыне.

- Не, дзякуй,- адказаў Гары, які вырашыў, што ўжо ня хоча спаць.- Я лепей Рону дапамагу. Я ніколі яшчэ не бачыў як сад абязгномваюць...

- Гэта вельмі ветліва з твайго боку, мой любы, але абязгномванне – праца нудотная,- прамовіла місіс Візлі.- Ну ка, давайце пагледзім, што на гэты конт напісана ў Локхарта.

Яна выцягнула са стоса на каміннай паліцы вялізны том.

- Мам,- прастагнаў Джордж,- мы ўжо і так ведаем, як бязгноміць сад.

Гары зірнуў на вокладку. Над вялізнай фатаграфіяй прыгожага чараўніка з хвалістым светлым валоссем, залатымі літарамі было напісана «Гільдэрой Локхарт: Даведнік па барацьбе з хатнімі шкоднікамі». Як і заўжды на чарадзейных фатаграфіях, чараўнік, які напэўна і быў тым самым Гільдэроем Локхартам, рухаўся на вокладцы і нахабна падміргіваў усім прысутным. А місіс Візлі ззяючымі вачыма пазірала на яго.

- Ах, ён такі міленькі,- прамовіла яна.- Ён ведае аб хатніх шкодніках літаральна ўсё; як добра; якая цудоўная кніга...

- Маці – яго фанатка,- вельмі гучным шэптам прамовіў Фрэд.

- Не кажы ерунды, Фред,- прамовіла жанчына, яе шчокі пачырванелі.- Калі вы лічыце, што ведаеце аб усім лепш за Локхарта, ідзіце. Але, барані вас Бог, калі я выйду ў сад і знайду там хаця аднаго гнома.

Пазіхаючы і бурчучы, браты Візлі, а за імі Гары, папляліся надворак. Сад быў папросту агромісы, менавіта такі, як, з пункту гледжання Гары і павінен быць сад. Хаця хлопчык быў упэўнены, што Дурслі бы ён дакладна не спадабаўся – тут было зашмат пустазелля, траўнік, які аніхто даўно не скошваў... затое, ўздоўж плота раслі крывыя дрэвы, кветнікі былі перапоўнены раслінамі, якіх Гары аніколі не бачыў, а вялізная зялёная сажалка, была поўная жабак.

- У маглаў таксама ёсць гномы ў садах,- перасякаючы траўнік паведаміў Гары Рону.

- А, так, я бачыў тое, што маглы назвываюць гномамі,- з галавой нырнуўшы ў куст півоні паведаміў Рон.- Нейкія маленькія тлусценькія калядныя дзяды з вудамі ў руках...

Адчулася валтузня, півоня ўздрыганулася і Рон выпрастаўся, трымаючы нешта ў руках.

- Вось гэта вось – гном,- змрочна паведаміў ён.

- А ну, пусці мяне! А ну, пусці мяне!- завішчаў гном.

Ён, вяжома ж анічым не нагадваў каляднага дзеда. Гном быў маленькім і скурыстым з вялізнай, лысай, гузаватай быццам бульба галавой. Рон трымаў яго на адлегласці выцягнутай рукі, бо гном моцна лягаўся сваімі маленькімі з жорсткімі мазалямі ножкамі; потым Рон схапіў істоту за ладыжкі і развярнуў дагары нагамі.

- А цяпер, трэ рабіць вось так,- сказаўшы гэта Рон падняў гнома па над галавой (А ну, пусці мяне!) і пачаў раскручваць яго быццам ласо. Заўважыўшы сшакаваны выраз на Гарыным твар, Рон дадаў.- Гэта аніяк яму не ЗАШКОДЗІЦЬ... гэта трэба рабіць, каб у гнома закруцілася галава і ён не змог знайсці шлях да сваёй нары.

Хлопчык адпусціў гнома і той узляцеў у паветра на добрых дваццаць футаў і з глухім стукам ляснуўся недзе далёка за загароджай.

- Слабак,- прамовіў Фрэд,- Іду ў заклад, мой гном, пераляціць праз той пень.

Гары даволі хутка навучыўся не шкадаваць гномаў. Першага з пайматых ім гномаў ён вырашыў папросту адпусціць за загароджу, але той адчуўшы Гарыну слабасць, цапнуў хлопчыка за палец сваімі вострымі як брытва зубамі. З цяжкасцю ў Гары атрымалася стрэсці гнома з рукі...

- А ні што сабе, Гары... напэўна добрых футаў пяцьдзесят...

Хутка паветра перапоўнілася гномамі, што ляцелі за загароджу.

- Гномы... у іх ўвогуле розуму замала. Вось глядзі.- нахіліўшыся Джордж схапіў адначасова пяць ці шэсць гномаў.- Як толькі яны чуюць, што недзе праводзяць абязномленне, куляю аб’яўляюцца, каб на гэта паглядзець. Аніяк не могуць уцяміць, што цяпер ім лепей заставацца ў нары.

Неўзабаве, прыгорбіўшы свае маленькія плечы і згрудзіўшыся бязладным строем, натоўп гномаў пачаў сыходзіць прэчкі.

- Яны хутка вярнуцца,- гледзячы на то, як гномы знікаюць недзе на другім баку поля, сказаў Рон.- Ім тут падабаецца... Тата замягкі да іх, ён лічыць, што гномы пацешныя...

Адчуўся грукат зачыняючыхся дзвярэй.

- Вярнуўся!- закрычаў Джордж.- Тата вярнуўся.

Яны пакінулі сад і паспяшалі дадому.

Містэр Візлі сядзеў на адным з кухонных крэслаў, скінуўшы акуляры і заплючшыўшы вочы. Ён быў хударлявым і лысым, але валасы, што ў яго яшчэ засталіся былі гэткімі ж рудымі, як і ўва ўсіх яго дзяцей. На ім была пыльная і зношаная доўгая зялёная мантыя.

- Што была за ноч,- навобмацак шукаючы імбрычак прамармытаў містэр Візлі, калі дзеці згрудзіліся вакол яго,- Дзевяць рэйдаў! ДЗЕВЯЦЬ! А яшчэ, стары Мандангус Флэчэр спрабаваў сурочыць мяне, калі я развярнуўся да яго спіной...

Містэр Візлі, зрабіў вялізны глыток гарбаты і ўздыхнуў.

- Што-небудзь знайшоў?- з нецярплівасцю спытаўся Фрэд.

- Усё што нам атрымалася знайсці - зачараваных замочных свірдлавін і кусучы імбрык,- з позіхам адказаў містэр Візлі.- Знайшлі яшчэ сёе тое, даволі непрыемнае. Мортлейк быў дапытаны з нагоды аб’яўлення ў яго, колькіх занадта дзіўных тхароў. Але гэта, дзякуй Богу, справа камітэта па эксперыментальных замовах...

- А навошта камусь было зачароўваць замочныя свірдлавіны?- спытаўся Джордж.

- Звычайны здзек над маглямі,- уздыхнуў містэр Візлі.- Напрыклад, хтось з нашых прадае ім ключ, які сам па сабе змяншаецца да неверагодна дробных памераў і магл ня можа знайсці яго, калі захоча трапіць ў свой дом... Вядома ж ён ані за што не прызнаецца сам сабе ў тым, што вінаваты ключ, магл папросту вырашыць што згубіў яго і вінаватага потым адшукаць будзе неверагодна цяжка. Дзякуй Богу, маглы прыкладуць усе свае сілы,

каб праігнараваць прысутнасць магіі, нават калі магія будзе перад самымі іх вачамі... і вы анізавошта не паверыце, што толькі нашы не прымудраюцца зачароўваць...

- НАПРЫКЛАД, МАШЫНЫ!

На кухні, трымаючы ў руках быццам меч даўжэзную качаргу, аб’явілася місіс Візлі. Містэр Візлі рыўком расплюшчыў вочы, ён вінавата паглядзеў на жонку.

- Молі, мая любая, ты сказала м-машыны?

- Так, машыны, Артур, машыны,- бліскаючы вачыма, прамовіла Молі Візлі.- Уяві сабе чараўніка, які набыў недзе стары іржавы аўтамабіль, сказаўшы сваёй жонцы, што ўсяго толькі жадае высветліць, як той працуе, а НА САМОЙ СПРАВЕ зачараваў яго, каб той мог ЛЯТАЦЬ.

Містэр Візлі залыпаў вачыма.

- Ну, каханая мая, ты, напэўна разумееш, што дзейнічаў ён цалкам ў межах закону, а то што ён... не сказаў праўду жонцы, дык магчыма гэта... ммм... і да лепшага... Тым больш, у кожным законе ёсць сякія-такія пралазы... ён жа не збіраўся лятаць на ёй, а то што яна можа лятаць не...

- Артур Візлі, ты сам прыклаў намаганні, каб зрабіць гэту пралазу калі пісаў закон!- закрычала ў адказ місіс Візлі,- каб мець магчымасць і надалей важдацца ў хляву з усім гэтым маглаўскім смеццем. І, каб ты ведаў: Сёння раніцай Гары прыбыў сюды на машыне, на якой ты нат не збіраўся лятаць!

- Гары?- зноў залыпаў вачамі містэр Візлі.- Які такі Гары?

Ён азірнуўся, убачыў Гары і падскочыў ад здзіўлення.

- А мой ты, Бог, гэта Гары Потэр? Я так рад цябе бычыць, Рон столькі распавядаў нам...

- СЁННЯ НОЧЧУ ТВАЕ СЫНЫ ЛЯТАЛІ НА МАШЫНЕ ДА ГАРЫНАГА ДОМУ І НАЗАД!- прагаласіла місіс Візлі.- Што ты цяпер скажаш, а?

- Што, на самой справе?- прагна спытаўся містэр Візлі.- Ну і як яна? Т-то бок,- ён запнуўся, убачыўшы, як запалалі жонкіны вочы,- гэта было вельмі няслушна з вашага боку, хлопцы... сапраўды вельмі вельмі дрэнна...

- Пойдзем,- заўважыўшы, што місіс Візлі пачала раздувацца, як тая жабка-бык, прамармытаў Рон сябру.- Я пакажу цябе маю спальню.

Хлопцы выслізнулі з кухні і па вузкім калідорчыку трапілі да шурпатых сходаў, што зігзагам агіналі ўвесь дом. На пляцоўцы чацвёртага паверха дзверы былі прыадчынены і перш чым іх зачынілі, Гары заўважыў у шчыліну два бліскучых карых вока.

- Гэта Джыні,- растлумачыў Рон.- Вельмі дзіўна бачыць яе гэткай ціхінькай, звычайна, яна не супыняе гамонку ані на хвіліну...

Яны прамінулі яшчэ два лесвічных пралёты, аж пакуль не апынуліся ля дзвярэй з аблупленай фарбай, да якіх была прыбіта шыльда «Пакой Рональда».

Гары ўвайшоў усярэдзіну, ледзь не стукаючыся галавой аб нізкую столю і пачаў лыпаць вачыма. Складалася ўражанне, што ён завітаў у комін – здавалася, што амаль усё ў Ронавым пакоі было шалёна памаранчавага колеру – покрыва на ложку, сцены і нават столя. Праз імгненне-другое Гары зразумеў, што яго сябра абляпіў амаль кожную цалю свайго пакою патрапанымі постэрамі з аднымі і тымі жа вядзьмаркамі і чараўнікамі, апратутымі ў яскрава-памаранчавыя спартыўныя мантыі, якія энэргічна віхляючы несліся кудысь на сваіх мётлах.

- Твая ўлюбённая квідытчная каманда?- спытаўся Гары.

- Так, Чадлійскія гарматы,- прамовіў Рон і паказаў на памаранчавае покрыва з вялізарнымі чорнымі літарамі ЧГ пад якімі было намалявана гарматнае ядро ў палёце.- Дзевятае месца ў лізе.

Ронавы падручнікі па замовах нядбайна былі звалены ў кутку, побач са стосам коміксаў, большасць з якіх, была ад прыгодах Марціна Мігса – шалёнага магла. Ронава чароўная палачка ляжала на акварыюме поўным жабінай ікры, які стаяў на падваконніку. Побач ў плямцы сонечнага прамення грэўся тоўсты пацук па імі Скаберс.

Гары пераступіў праз пачак раскіданых па падлозе самакартуючыхся карт і вызірнуў у невялічкае акенца. Ён убачыў, як недзе ў нізе, гномья банда, употай адзін за адным пералазілі праз візліўскую загароджу, вяртаючыся да сваіх нор. Хлопчык адвярнуўся ад вакна і паглядзеў на Рона, які занепакоенна паглядаў на сябра, быццам чакаючы яго прысуду.

- Тут трохі замала месца,- шпарка прамовіў Рон.- Не так, як у тваім пакоі там, у маглаў. Да таго ж, адразу нада мной на гарышчы жыве гуль, ён ўвесь час стогне і стукае па трубах...

- Гэта,- шырока ўсміхаючыся адказаў Гары,- самы лепшы дом, з тых якія я толькі бачыў.

У Рона пачырванелі вушы.

## — РАЗДЗЕЛ IV —

### *У Флорыша і Блотса*

Жыццё ў Логавішчы было цалкам непадобным на ўсё то, што тварылася на Прайвет Драйв. Дурслі падабалася, каб усё было ахайным ды ўпарадкаваным; а ў доме Візлі панавала ўсё дзівоснае ды нечаканае. Гары моцна напужаўся, калі кухоннае люстэрка, як толькі ён зазірнуў у яго, пачало галасіць: «УБІРЫ КАШУЛЮ, НЕАХАЙНІК!» Гуль, пачынаў выць і нечым грукатаць у трубах, калі лічыў, што зрабілася занадта ціха, а ўжо выбухі з пакою блізнятаў былі нечым цалкам натуральным. Аднак, самым незвычайным для Гары у Ронавай хаце былі не гамонячае люстэрка і не вой гуля, а то што здавалася, усім ў гэтым доме ён быў да спадобы.

Місіс Візлі клапацілася аб стане яго шкарпэтак і спрабавала прымусіць яго спажываць ажно па чатыры порцыі ежы. А містэр Візлі за сталом намагаўся сесці разам з хлопчыкам, каб бамбардыяваць Гары пытаннямі пра маглаўскае жыццё, просячы растлумачыць яму як працуе запальная свечка ці паштовая служба.

- ШЫКОЎНА!- усхамянуўся ён, калі Гары распавядаў яму, як працуе тэлефон.- ГЕНІЯЛЬНА! Сапраўды, на што толькі не пайдуць маглы, каб трымацца падалей ад магіі.

Адным сонечным ранкам, прыблізна праз тыдзень пасля таго, як Гары пачаў гасцяваць у Логавішчы, ён зноў пачуў аб Хогвартсе. Тым ранкам яны разам з Ронам спусціліся да сняданку і знайшлі за сталом містэра і місіс Візлі, а таксама Джыні. Як толькі дзяўчынка ўбачыла Гары, яна нечакана перакуліла сваю міску з аўсянкай і тая з гучным грукатам апынулася на падлозе. У Джыні ўвогуле з’явілася асаблівасць выпускаць штось з рук, штораз, як у пакоі аб’яўляўся Гары. Яна нырнула пад стол паза міскай, а калі зноўку вылезла, яе тварык палаў, як заходзячае сонца. Быццам анічога не заўважыўшы, Гары сеў за стол і прыняў тост з рук місіс Візлі.

- Вам лісты са школы,- паведаміў хлопцам містэр Візлі і працягнуў Гары і Рону аднолькавыя канверты з жаўтаватага пергаменту, падпісаныя зялёнымі чарніламі.- Дамблдор ужо ведае, што ты тут... анічога ад яго не схаваеш.- У гэты момант на кухні аб’явіліся апранутыя ў піжамы Фрэд і Джордж.- Вы двое таксама атрымалі лісты з Хогвартсу,- сказаў ім бацька.

На колькі хвілінаў у кухні запанавала цішыня, бо ўсе чыталі. У Гарыным было, як і ў мінулы раз напісана, што ён павінен прыбыць першага верасня на вакзал Кінгс Крос, каб сесці на Хогвартс Экспрэс. Таксама да ліста прыкладаўся спіс неабходных падручнікаў.

*Усім другагодкам неабходна было мець:*

*«Стандартная кніга замоваў» (для другога году навучэння) Міранды Госхак*
*«Банкетаванне з беншы» Гільдэроя Локхарта*
*«Гульні з гулямі» Гільдэроя Локхарта*
*«Вакацыі з вядзьмачкамі» Гільдэроя Локхарта*
*«Трыванне з тролямі» Гільдэроя Локхарта*
*«Угалоп з упірамі» Гільдэроя Локхарта*

*«Вандроўка з ваўкалакамі» Гільдэроя Локхарта*
*«Зімоўка з Зюзям» Гільдэроя Локхарта*

Фрэд, які ўжо скончыў чытаць свой ліст зірнуў у Гарын.

- У цябе таксама ў спісе ўвесь збор кнігаў Локхарта?- спытаўся ён.- Новы настаўнік па Абароне ад Цёмных мастацтваў напэўна яго вялікі прыхільнік... іду ў заклад – гэта вядзьмарка.

У гэты момант Фрэд заўважыў выраз на маціным твары і імгненна заняўся мармеладам.

- Мы з гэткім спісам ў капейчыну ўляцім,- кінуўшы хуткі погляд на бацькоў, заўважыў Джордж.- Кнігі Локхарта каштуюць сапраўды задорага...

- Набудзем,- адказала місіс Візлі з застурбаваным выглядам.- Я спадзяюся, купіць сёе-тое дзеля Джыні ў сэканд-хэндзе.

- Ух ты, у гэтым годзе ты таксама пачынаеш вучыцца ў Хогвартсе?- прамовіў Гары.

Джыні кіўнула, пачырванела ажно да кончыкаў валос і паклала локаць у маслёнку. На шчасце аніхто акрамя Гары гэтага не заўважыў, таму што на кухню завітаў старэйшы Ронаў брат – Персі. Ён быў ужо апрануты, а на яго цішотцы зіхацеў значык хогвартскага прэфекта.

- Добрай усім раніцы,- хутка прамовіў ён.- Цудоўны дзень.

Ён прысеў на адзінае вольнае крэсла, але адразу ж ўскочыў з яго, падымаючы ў руцэ нешта нагадваючае паліналую, сівую мяцёлку з пер’яў... Дакладней так першы час думаў Гары, пакуль не заўважыў, што мяцёлка дыхае.

- Эрал!- прымаючы з персіных рук самлеўшую саву і выцягваючы з-пад яго крыла ліст, ускрыкнуў Рон.- НАРЭШЦЕ... ён прынёс адказ ад Герміёны. Я напісаў ёй, што мы збіраемся паехаць, каб забраць цябе ў Дурслі.

Рон падняўшыся, аднёс Эрала да жэрдачкі ля задніх дзвярэй, але той адразу ж паваліўся на зямлю, тады Рон паклаў саву на сушылку ля ракавіны і прамармытаў: «Варты жалю». Потым вярнуўся да стала, разарваў канверт і прачытаў уголас.

*«Даражэнькі Рон, і, Гары, калі ты тут,*

*Я спадзяюся, што ў вас ўсё прайшло як мае быць, што з Гары ўсё добра, а вы не зрабілі анічога супрацьзаконнага, калі яго забіралі, бо ты ж ведаеш, Рон, Гары з-за гэтага можа трапіць ў бяду. Я так за вас непакоюся. Калі ўсё прайшло добра, адразу ж напішыце мне, але мяркую табе па магчымасці будзе лепей скарыстацца іншай савой, бо для гэтай кожны наступны палёт можа зрабіцца апошнім.*

*Цяпер я, вядома шмат часу трачу на выкананне заняткаў...»* Яна сшалела, ці як? - з жахам пракаментаваў Рон,- зараз жа вакацыі!- *«але ў наступную сераду мы з бацькамі збіраемся ў Лондан па новыя падручнікі. Так што, прапаную сустрэцца на Дыягон Алее.*

*Як толькі будзе магчымасць, дай мне ведаць аб усім, што адбываецца.*

*З любоўю, Герміёна.»*

- Ну што, добрая прапанова, паедзем туды і набудзем усё неабходнае,- прамовіла місіс Візлі, пачынаючы прыбіраць са стала.- А сёння вы чым плануеце заняцца?

Гары, Рон, Фрэд і Джордж вырашылі пайсці да невялічкага загончыку, што належыў сям'і Візлі. Загончык з усіх бакоў быў аточаны дрэвамі, якія надзейна ўкрывалі яго ад жыхароў ляжалай унізе вёсцы, што дазваляла хлопцам уволю (канечне, калі не залятаць завысока) практывацца там у квідытчы. Канечне, яны карысталіся не сапраўднымі квідытчнымі мячамі, таму што цяжка было б растлумачыць нешта маглам, калі якісь з іх заляціць у вёску. Таму, Гары, Рон і блізняты кідалі адно аднаму яблыкі, па чарзе карыстаючыся Гарыным Німбусам 2000, які быў занадта лепей за Ронаў Метэор, які неаднаразова абганялі матылькі, што пырхалі навокал.

Праз пяць хвілін, трымаючы мётлы на плячах, яны ўжо спяшалі да ўзгорка на якім знаходзіўся загончык. Хлопцы і Персі з сабой запрасілі, але той сказаў ім што будзе вельмі заняты. Увогуле, Гары бачыў Персі, толькі за сталом, увесь астатні час, той замыкаўся ў сваім пакоі.

- Хацеў бы я ведаць, што ён задумаў?- пахмурліва прамовіў Фрэд.- У апошні час ён сам на сябе не падобны. Вынікі яго іспытаў прыйшлі за дзень да таго, як мы прывезлі цябе; Атрымаў дванаццаць П.Р.А.Ш.Ч.А.ў, а ён нават не ўзрадаваўся.

- П.Р.А.Ш.Ч.А. – гэта Простая Рэзультатыўная Адзнака Школьнай Чарадзейскай Адукацыі,- заўважыўшы здзіўлены выраз на Гарыным твары, растлумачыў Джордж.- У Біла таксама было дванаццаць П.Р.А.Ш.Ч.А.ў. Калі мы не будзем асцярожнымі ў сям'і з'явіцца яшчэ адзін староста школы. Падобнай ганьбы я не вытрымаю.

Біл быў, старэйшым з братоў Візлі. Ён і другі з братоў – Чарлі ўжо пакінулі Хогвартс. Гары не сустракаўся з імі, але ведаў, што Чарлі даследваў драконаў у Румыніі, а Біл працаваў у ягіпецкім аддзяленні чарадзейскага банка Грынгатс.

- Ня ведаю, як у мамы з татам атрымаецца набыць у гэтым годзе ўсё неабходнае да школы,- крыху памаўчаўшы, сказаў Джордж.- пяць камплектаў кніг Локхарта! А яшчэ Джыні неабходна набыць мантыю, палачку і шмат чаго іншага...

Гары не адказаў анічога. Ён адчуваў сябе няёмка. Бацькі пакінулі дзеля яго ў лонданскім сховішчы Грынгатса даволі вялізную купу грошаў. Хаця, канечне, гэтыя грошы можна было выкарыстаць толькі ў чарадзейскім свеце, бо за галеёны, сіклі і кнаты ў маглаўскіх крамах анічога немагчыма было набыць. Дурслі пра сваю спадчыну ён нічога не казаў, бо вырашыў, што іх жах перад усім чароўным знікне пры адной толькі ўзгадке аб вялізнай колькасці золата.

*

У сераду місіс Візлі пабудзіла ўсіх на золку. Хутка закінуўшы ў сябе па поўтузіна бутэрбродаў з беконам, усе нацягнулі на сябе паліто і згрудзіліся ля кухоннага коміна. Місіс Візлі узяла ў рукі нейкі гаршчык і зазірнула ў сярэдзіну.

- Ён амаль скончыўся, Артур,- уздыхнула яна.- Сёння нам трэба будзе набыць яшчэ... ну добра, госці першыя! Гары, пасля цябе!

Жанчына працягнула Гары гаршчык.

Гары і сям'я Візлі вытарапіліс адно на аднаго.

- І ш-што я павінен рабіць?- прамармытаўшы, спытаўся хлопчык.

- Ён жа ніколі не падарожнічапў з дапамогаю парашка фло,- раптам, заявіў Рон.- прабач, Гары, я зусім забыўся.

- Ніколі?- спытаўся містэр Візлі.- А як ты ў мінулым годзе трапіў на Дыягон Алею?

- На метро...

- САПРАЎДЫ?- занепакоена спытаўся містэр Візлі.- І там былі ЭСКАПАТАРЫ? А як дакладна яны...

- Давай не ЦЯПЕР, Артур,- сказала місіс Візлі.- З дапамогаю парашка фло, дабірацца значна хутчэй, мой любы, але, божачкі, калі ты раней ім не карыстаўся...

- У яго атрымаецца, мама,- заявіў Фрэд,- Гары, спачатку паглядзі.

Ён ўзяў з горшчыка дробку нейкага бліскучага парашка, падыйшоў да коміна і кінуў парашок у полымя.

З равеннем полымя, зрабіўшаеся смарагдава зялёным, паднялося вышэй за Фрэдаву галаву, тады хлопчык папросту увайшоў у полымя, крыкнуў «Да Дыягон Алеі» і знік.

- Толькі кажы выразна, мой любы, куды табе трэба патрапіць,- наказала Гары місіс Візлі, пакуль дробку з горшчыка браў Джордж,- і глядзі не выйдзі не з таго коміна...

- Не з таго чаго?- занепакоена спытаўся Гары, калі ў равучым смарагдавым полыве знік Джордж.

- Да сеткі падключана шмат чарадзейскіх комінаў, ну ты разумееш, але калі адрэсу прамовіць выразна...

- Ён зможа, Молі, кінь мітусіцца,- сказаў містэр Візлі і ўзяў сабе дробку парашка фло.

- Але, даражэнькі, калі ён згубіцца, як мы растлумачым гэта яго цётке з дзядзькам?

- Яны ня будуць супраць,- супакоіў яе Гары.- Калі я вылечу з чыёйсьці трубы, Дадлі вырашыць, што гэта заблісокучы жарт, не турбуйцеся.

- Ну... добра... ты пойдзеш пасля Артура,- прамовіла місіс Візлі.- Вось, калі ўвойдзеш у полымя, выразна скажы куды накіроўваешся...

- І локці шчыльней да цела прыцісні,- параіў Рон.

- І вочы заплюшчы,- дадала місіс Візлі,- каб сажа ў іх не трапіла...

- І не мітусіся,- сказаў Рон,- ці выпадзеш з чужога коміна...

- Але і не панікуй, што выйдзеш зарана, рабі гэта калі ўбачыш Фрэда і Джорджа.

Спрабуючы ўтрымаць ў розуме ўсё то, што яму зараз паведамілі, Гары ўзяз дробку парашку і падыйшоў да полымя. Ён глыбока ўздыхнуў, кінуў парашок у вагонь і зрабіў крок наперад. Яго ахутала смарагдавае полымя, але складалася ўражанне што яго абдувае цёплым ветрыкам; Гары адкрыў рота і імгненна наглытаўся попелу.

- Да... Д... Дыя... гон Алеі,- закашляўшыся, прамовіў ён.

Гары адчуў, як быццам яго засмоктвае ў нейкую гіганцкую дзіру. Яго вельмі хутка закруціла... у вушах стаяла аглушальнае равенне... Гары імкнуўся трымаць вочы адкрытымі, але ад віра зялёнага полымя яго пачынала нудзіць... ён стукнуўся локцем аб нешта цвёрдае, таму шчыльней прыціснуў яго да сябе і ўсё працягваў і працягваў круціцца... Праз некаторы час, Гары падалося, бы яго па шчоках б’юць халодныя рукі, ён прыадкрыў вочы... жмурачыся праз акуляры і ўбачыў размыты струмень комінаў і мільгаценне пакоеў у ім... сэндвічы з беконам пачалі падступаць да горла... таму Гары зноў заплюшчыў вочы, жадаючы, каб гэты рух найхутчэй скончыўся і... раптам ён паваліўся тварам наперад на халодную каменную падлогу і адчуў, як трэснула шкло ў яго акулярах.

Гары быў увесь у чарняках, яго галаву круціла, да таго ж ён быў з галавы да ног запэцканы сажай. Ён асцярожна падняўся на ногі і начапіў на нос свае пабітыя акуляры.

Хлопчык азірнуўся, ён быў адзін, да таго ж ня ведаў КУДЫ трапіў. Усё што Гары мог сказаць пра пакой ў якім ён апынуўся – той нагадваў чарадзейную краму, але ў яго адразу склалася ўражанне, што тут наўрацці мажліва набыць штосьці дзеля Хогвартса.

У вітрыне паблізу ад Гары на падушцы стаяла высушаная рука, ля якой ляжалі скрываўленая калода карт і бліскучае шкляное вока. Са сцен на яго вытарапіліся злыя маскі, на прылаўку ляжалі чалавечыя косткі, а пад столлю віселі іржавыя пакрытыя шыпамі прылады. Але самым горшым было тое, што цёмная вуліца за пакрытым пылам вакном анічым не нагадвала Дыягон Алею.

Чым ранней ён пакіне гэта месца, вырашыў Гары, тым будзе лепей. Нос, пасля ўдару аб падлогу ўсё яшчэ крыху пякло ад болю. Хлопчык ціхенька, але хутка накіраваўся да дзвярэй, аднак супыніўся на поўдарогі, па той бок ад дзвярэй аб’явіліся два чалавекі... і аднаго з іх, пабіты, перапэцканы сажай і з пабітымі акулярамі, Гары жадаў бачыць менш за ўсё. За дзвярыма крамы стаяў Драко Малфой.

Гары хутка азірнуўся навокал і злева ад сябе заўважыў вялізную чорную шафу. Хлопчык куляй кінуўся да яе, залез у сярэдзіну і зачыніў дзверы, пакінуўшы толькі невялічкую шчыліну, каб мажліва было бачыць і чуць, тое што будзе тварыцца звонку. Праз імгненне дзвякнуў званочак над дзвярыма і Малфой завітаў у краму.

Яго спадарожнікам, быў хутчэй за ўсё ягоны бацька. Той меў гэткі ж бледны, завостранны твар і гэткія ж халодныя шэрыя вочы. Містэр Малфой, абыякава разглядаючы тавары, падыйшоў да прылаўку і стукнуў далонню па званку, потым развярнуўся да сына.

- Анічога тут не чапай, Драко.

- Я думаў,- цягнучыся да шклянога вока сказаў Драко,- мы набудзем тут падарунак.

- Я сказаў, што набуду табе хуткасную мятлу,- стукаючы па прылаўку пальцамі адказаў яму бацька.

- Што мне з той мятлы, калі мяне няма ў камандзе?- панура і злосна паглядаючы, сказаў Драко.- У мінулым годзе Гары Потэр атрымаў Німбус 2000 і спецыяльны дазвол ад Дамблдора, каб граць за грыфіндорскі Дом. А ён не такі ўжо і добры вучань, ён усяго толькі ВЯДОМЫ... вядомы сваім дурным ШНАРАМ на ілбе...

Драко нахіліўся, каб добра разгледзіць паліцу з чарапамі.

-... усе лічаць ён такі ЗУХАВАТЫ, гэты цудоўны ПОТЭР з яго ШНАРАМ і МЯТЛОЙ...

- Ты казаў мне аб гэтым ўжо добры тузін разоў,- знішчальным поглядам зірнуўшы на сына, прамовіў містэр Малфой.- І мне хацелася б нагадаць табе, што не так ужо і... разумна... дэманстраваць нешта меншае за шанаванне ўбок Гары Потэра, тым больш, што значная частка нашых лічыць яго за героя, праз якога знік Цёмны Лорд... А, містэр Боргін.

За прылаўкам аб’явіўся гарбаваты чалавек з зачэсаным назад сальным валоссем.

- Містэр Малфой,- голасам ня менш сальным, чым яго валасы, прамовіў Боргін.- Рады вас пабачыць ізноў. О, і юны майстар Малфой з вамі... таксама вельмі рады сустрэцца. Чым магу быць вам карысным? Хачу вам сёе тое паказаць, толькі сёння і па вельмі танным кошце...

- Сёння, містэр Боргін, я прыйшоў не набываць... а прадаваць,- адказаў Малфой.

- Прадаваць?- усмешка з твара містэра Боргіна імгненна знікла.

- Вы вядома чулі, што цяпер міністэрства ладзіць усё больш і больш рэйдаў,- выцягнуўшы з унутраннай кішэні скрутак і расклаўшы яго перад Боргіным прамовіў Малфой.- А ў маёй хаце... ёсць сёе-тое, што можа пашкодзіць маёй рэпутацыі, калі міністэрства вырашыць завітаць да мяне...

Містэр Боргін паправіў пенсне і зазірнуў у пергамент.

- Але ж ці адважыцца міністэрства патурбаваць вас, сэр?

Малфой-бацька скрывіў вусны.

- Пакуль не адважыліся. Імя Малфоеў усё яшчэ карыстаецца нейкай павагай, але міністэрства пачынае рабіцца ўсё больш дакучлівым. Ходзяць чуткі аб стварэнні новага маглаахоўнага закону... Не сумняваюся, што тут не абыйшлося без гэтага рызманага маглалюба Артура Візлі....

Гары адчуў, як пачынае палаць ад гневу.

-... а як вы бачыце, некаторыя з гэтым зелляў можна ЎСПРЫНЯЦЬ, як...

- Вядома ж сэр, я ўсё разумею,- адказаў Боргін.- Так, давайце пагледзім...

- А ці магу я набыць вось ГЭТА?- перарваў іх Драко і паказаў на высахлую руку.

- А, рука хвалы!- на секунду адарваўшы ад спіса вочы, каб паглядзець аб чым кажа Драко, прамовіў місэр Боргін,- Калі ўставіць у яе свечку, тая будзе свяціць толькі гаспадару рукі! Лепшы сябра для рабаўнікоў і марадзёраў! У вашага сына файны густ, сэр!

- Спадзяюся, Боргін, мой сын будзе нечым большым за рабаўніка ці марадзёра,- халодна заявіў Малфой.

- Не крыўдуйцеся, сэр,- хутка адказаў Боргін.- Я не жадаў вас зняславіць...

- Хаця канечне,- яшчэ больш халодным голасам працягваў містэр Малфой, - калі яго адзнакі ў школе не будуць лепшымі, гэта адзінае што яму застанецца рабіць.

- Тут няма маёй віны,- заявіў Драко.- Усе нашыя настаўнікі маюць ўлюбёнкаў, такіх як Герміёна Грэйнджэр...

- Я лічыў, што цябе будзе сорамна, калі на іспытах цябе абыйдзе дзяўчынка з нечарадзейскай сям'і,- гыркнуў на Драко бацька.

- Ха!- сказаў сабе пад нос Гары, убачыўшы збянтэжаннасць і злосць на твары Драко.

- І так паўсюль,- сваім алейным голасам, прамовіў Боргін.- Чарадзейская кроў цяпер паважаецца ўсё менш і менш...

- Толькі не мной,- заявіў раздзмуваючы свае вострыя ноздры, містэр Малфой.

- Канечне не, сэр, і не мной,- з глыбокім паклонам сказаў Боргін.

- Можа тады, мы вернемся да майго спісу,- адразу ж прапанаваў містэр Малфой.- Я вельмі спяшаюся, Боргін, у меня сёння ёсць яшчэ справы ў іншым месцы.

Яны пачалі гандлявацца. Гары занепакоена назіраў, як Драко разглядаючы тавары ўсё бліжэй і бліжэй падыходзіў да ягонай схованкі. Малфой-малодшы супыніўся, каб разгледзіць доўгі скрутак вяроўкі вешальніка, потым усміхнуўся, прачытаўшы надпіс на картцы, што ляжала ля шыкоўных апалавых караляў: «Увага! Не дакранацца. Заклята. Пазбавіла жыцця ўжо дзевятнаццаць гаспадароў-маглаў.»

Драко павярнуў галаву і ўбачыў перад сваімі вачыма шафу дзе схаваўся Гары. Драко падыйшоў да яе... пацягнуўся да ручкі...

- Згода,- прамовіў, стаялы ля прылаўка містэр Малфой.- Пайшлі, Драко!

Гары выцер рукавом узапрэлы лоб, калі Драко адыйшоў ад шафы.

- Добрага дня, містэр Боргін, буду чакаць вас заўтра ў сваім маёнтку.

Як толькі дзверы зачыніліся, алейнасць імгненна пакінула голас містэра Боргіна.

- І табе добрага дня, МІСТЭР Малфой! Калі верыць таму што кажуць, ты не прадаў мне і паловы таго, што ўтоена ў тваім МАЁНТКУ...

Нешта злосна мармычучы, Боргін сыйшоў у задні пакой. Пачакаўшы хвіліну, на той выпадак, калі стары пажадае вярнуцца, Гары, як мага цішэй вылез з шафы, праслізнуў міма вітрын і выскочыў з крамы надворак.

Прыціскаючы свае паламаныя акуляры да вачэй, Гары азірнуўся. Ён знаходзіўся ў брудным завулку, які, здавалася, увесь быў утыканы крамамі, гандляваўшымі таварамі дзеля цёмных мастацтваў. Тая, якую ён толькі што пакінуў называлася «Боргін і Бёркі» з выгляду была самай вялікай. Насупраць яе, хлопчык убачыў краму ў гідкай вітрыне якой стаялі нечыя скурчаныя галовы, а праз пару дзвярэй стаяла клетка кішэлая агромістымі жывымі чорнымі павукамі. Два ўбогіх з выгляду вядзмака перашэптваліся, назіраючы за хлопчыкам з-за дзвярэй. Адчуваючы занепакоеннасць, Гары пайшоў прэчкі, трымаючы рукой акуляры і спадзяючыся знайсці выхад з завулка.

Старая, драўляная шыльда віселая на краме па продажу атрутных свечак, сказала Гары, што ён апынуўся на Цемраш Алее. Гэта аніяк не дапамагло Гары, паколькі раней ён ніколі аб ёй не чуў. Хлопчык вырашыў, што наглытаўшыся попелу ў коміне Логавішча, ён не дастаткова выразна прамовіў пункт свайго накіравання. Спрабуючы не губляць супакой, Гары пачаў разважаць, што рабіць далей.

- Ці ты не згубіўся, мой любы?- над самым Гарыным вухам прагучаў голас, прымусіўшы яго падскочыць.

Перад ім стаяла, трымаючы паднос з нечым жудасным, нагадваючым чалавечыя пазногці, старая вядзьмачка. Яна скоса зірнула на Гары і ашчэрыла сваі балотнага колеру зубы.

- Ані, дзякуй, са мной усё добра,- адказаў хлопчык.- Я толькі...

- ГАРЫ! Што т сабе думаў, калі сьды шоў?

Гарына сэрца шалёна скокнула. Тое ж зрабіла і вядзмачка, пазногці з падноса рынуліся да яе ног. Старая рассыпалася праклёнамі, калі да іх падыйшла агромістая фігура хогвартскага палясоўшчыка Хагрыда. Недзе на яго зарослым твары заблішчэлі чорныя жукападобныя вочы.

- Хагрыд!- прасіпеў з палёгкаю хлопчык.- Я згубіўся... парашок фло...

Хагрыд схапіў Гары за каўнер і, па дарозе выбіўшы з вядзьмачкіных рук паднос, пацягнуў хлопчыка прэч. Вядзмачкіны ляманты яшчэ доўга пераследвалі іх, ажно пакуль яны па звілістым завулку не выйшлі на залітую сонечным святлом пляцоўку. На некаторай адлегласці, Гары ўбачыў знаёмы снежна-белы мармуровы будынак Грынгатса. Хагрыд вывеў яго на Дыягон Алею.

- Трэб прывесць це ў лад!-ваўкавата сказаў Хагрыд і з такой сілай пачаў чысціць Гары, што той ледзь не паваліўся ў бочку з драконавым гноем, якая стаяла ля дзвярэй аптэкі.- Пракрасся на Цемраш Алею, нат ня вед'ю... больш нябспечнага месц, Гары... каб я це там больш не бачыў...

- Я ўжо зразумеў,- адказаў Гары, ухіляючыся, калі Хагрыд зноў паспрабаваў яго пачысціць.- Я ўжо сказаў цябе, што згубіўся... а сам ты, між іншым, што там рабіў?

- Я... я шкаў атрут супрць драпежых смоўжаў,- прабурчаў Хагрыд.- Яны знішылі сю школьну капусту. А ты т не сам па сабе?

- Я гасцюю ў Візлі, але мы размінуліся,- адказаў Гары брамніку.- Мне трэба знайсці іх...

Яны пайшлі ўздоўж вуліцы.

- Чаму т не дказаў на м’е лісты?- спытаўся Хагрыд у Гары, які бег паблізу ад яго (каб паспяваць за брамнікам, яму трэба было рабіць па тры крокі на кожны Хагрыдаў). Гары распавёў яму ўсё аб Добі і аб Дурслі.

- Дзяблвы маглы,- прагыркаў Хагрыд,- Клі б я пра гэт даведся...

- Гары! Гары! Сюды!

Гары падняў вочы. На самым версе грынгатскіх сходаў стаяла Герміёна Грэйнджэр. Яна пабегла ім насустрач, а яе густыя каштанавыя валасы развіваліся за спіной ветрам.

- Што з тваімі акулярамі? Здароўку, Хагрыд... Ёйку, як прыемна зноўку бачыць вас дваіх... Ты да Грынгатса, Гары?

- Так. Толькі знайду Візлі,- адказаў хлопчык.

- Доўг шкаць ня прыдцца,- усміхнуўся Хагрыд.

Гары і Герміёна азірнуліся, скрозь натоўп у іх бок беглі Рон, Фрэд, Джордж, Персі і містэр Візлі.

- Гары,- запыхаўшыся прамовіў містэр Візлі.- Мы СПАДЗЯВАЛІСЯ, што ты праскочыў не далей чым на адзін комін...- ён выцер бліскучую ад пота лысіну.- Молі звар’яцела ад хвалявання... яна хутка падыйдзе.

- Дзе ты выйшаў?- спытаўся Рон.

- На Цемраш Алее,- сурова сказаў Хагрыд.

- ШЫКОЎНА!- адначасова сказалі Фрэд і Джордж.

- А нас туды ніколі не пускаюць,- з зайздрасцю прамовіў Рон.

- Яшэ б вас тды пусцілі! - гыркнуў Хагрыд.

У полі зроку аб’явілася місіс Візлі, якая неслася ў іх вок, дзіка размахваючы торбай, што трымала ў адной руцэ, другой цягнучы за сабой Джыні.

- Гары... ты ж мой любы... ты ж мог апынуцца дзе заўгодна...

Цяжка дыхаючы, яна адчыніла торбу, выцягнула адтуль вялізную адзежную шчотку і прынялася чысціць тое, што не атрымалася выбіць Хагрыду. Тым часам містэр Візлі ўзяў Гарыны акуляры, крануўся да іх палачкай і вярнуў іх гаспадару, бы новыя.

- Добр, мне трэб сці,- прамовіў Хагрыд, руку якому моцна сціскала місіс Візлі (Цемраш Алея! Хагрыд, калі б ты не знайшоў яго там!...).- Стрэмся ў Хогвартсе!- Брамнік пайшоў прэчкі, але яго галава і плечы яшчэ доўга былі бачныя на перапоўненнай народам вуліцы

- А ці вы здагадаецеся,- спытаўся Гары ў Рона з Герміёнаю, калі яны падымаліся па грынгатскіх сходах,- каго я бачыў там у Боргіна і Бёркаў? Малфоя і яго бацьку.

- Ці Люцыюс Малфой там штосьці набываў?- спытаўся містэр Візлі, які ішоў за імі.

- Не, ён прадаваў.

- Так-так, ён пачынае турбавацца,- са змрочным задавальненнем прамовіў містэр Візлі.- Аёй, як бы я хацеў схапіць яго...

- Асцерагайся, Артур,- рэзка заўважыла місіс Візлі, калі яны праходзілі ў дзверы міма пакланіўшагася ім гобліна.- Яны – існы жах, не бяры на сябе больш чым данясеш.

- Няўжо ты лічыш мяне слабейшым за Люцыюса Малфоя?- з абурэннем пачаў містэр Візлі, але тут яго ўвагу прыцягнулі Герміёніны бацькі, якія занепакоена стаялі ля банкаўскай стойкі, што цягнулася ўздоўж усёй агромістай мармуровай залы і чакалі, пакуль дачка не пазнаёміць іх са сваімі сябрамі.

- Але ж вы МАГЛЫ!- у захапленні прамовіў містэр Візлі.- Нам трэба будзе выпіць! А там у вас што? Аёйку, вы мяняеце маглаўскія грошы? Молі, глядзі!- ён патрос у паветры заціснутай ў руцэ містэра Грэйнджэра дзесяціфунтавай банкнотай.

- Чакай нас тут.- сказаў Рон Герміёне, калі сям'я Візлі і Гары, следам за гоблінамі накіраваліся да сваіх падземных сховішчаў.

Да сховішчаў трэба было дабірацца на кіруемых гоблінамі вазочках, якія несліся з шалёнай хуткасцю па мініятурных рэйках. Увесь час, пакуль яны ехалі да сховішча сям'і Візлі, Гары адчуваў як ветрык прыемна развівае яго валасы. Але калі дзверы сховішча адчыніліся, Гары зрабілася горш, чым на Цемраш алее – у сховішчы ляжала толькі невялічкая купка срэбных сіклей і ўсяго адзін галеён. Добра памацаўшы па ўглах, місіс Візлі адным рухам зграбла ўсё змесціва сховішча ў сваю торбу. Але калі дабраліся да ягонага сховішча Гары адчуў сябе яшчэ горш. Спрабуючы сваёй спіной захаваць змесціва, хлопчык таропка ўзяў колькі жменяў і ссыпаў грошы ў скураны гаманец.

Зноўку апынуўшыся на мармуровых прыступках банку яны раздзяліліся. Персі прамармытаў нешта пра тое, што яму неабходна новае пяро. Фрэд і Джордж сустрэлі свайго хогвартскага сябра Лі Джордана. Місіс Візлі павяла Джыні ў краму сэканд-хэнд мантый. А містэр Візлі настойліва пацягнуў Грэйнджэраў да Дзіравага катла па чарку.

- Сустрэнемся праз гадзіну ў Флорыша і Блотса, каб набыць падручнікі,- прамовіла, трымаючая Джыні за руку місіс Візлі.- І каб нат на адзін крок не набліжаліся да Цемраш Алеі!- у спіну блзнятам крыкнула яна.

Гары, Рон і Герміёна няспешна крочылі ўздоўж звілістай брукаванай вуліцы. Залатыя, срэбныя і бронзавыя манеты вясёла пабразгвалі у Гарыным гаманцы і быццам патрабавалі, каб іх патрацілі. Таму хлопчык набыў сябе і сябрам тры вялізных марозева з трускаўкай і арахісавым маслам, якія тройца шчасліва лізала падчас прагулянкі і разглядання вітрынаў усемагчымых займальных крамак. Рон доўга з тугой разглядаў поўны набор мантый Чадлійскіх гарматаў у вітрыне «Найякаснейшых прыладаў для квідытча», ажно пакуль Герміёна не пацягнула іх з Гары ў суседнюю краму, каб набыць чарніла і пергамент. У «Краме чарадзейных жартаў Гэмбла і Джэйпса» яны ўбачылі Фрэда, Джорджа і Лі Джордана, якія запасаліся «Легендарнымі феерверкамі доктара Флібусцьера» (Выбухаюць без агня і дыма). У невялічкай крамке старызніка, сярод паламаных чароўных палачак, хісткіх шаляў і старых мантый запэцканых плямамі зелля, яны ўбачылі Персі захопленнага чытаннем маленькай, але занудотнай кнігі «Прэфекты, што дасягнулі ўлады»

- ХОГВАРТСКІЯ ПРЭФЕКТЫ І ІХ ДАЛЕЙШАЯ КАР'ЕРА,- уголас прачытаў Рон.- Гучыць ЗАЙМАЛЬНА...

- Вэк адсюсь,- гыркнуў Персі.

- Так, Персі - ён вельмі амбіцыйны, у яго ўжо ўсё распланавана наперад... ён хоча, калі-небудзь зрабіцца міністрам па магічных справах...- напоўголаса паведаміў Рон Гары і Герміёне, калі яны пакідалі краму.

Мінула гадзіна і сябры накіраваліся да Флорыша і Блотса. Больш таго, яны былі далёка не адзіныя хто спяшаўся у кнігарню. Калі Гар, Рон і Герміёна наблізіліся, то ўбачылі вялізны натоўп, які штурмаваў дзверы крамы, спрабуючы патрапіць усярэдзіну. Прычынай ўсяму быў вялізны банэр над вітрынай:

*Сёння з паловы на першую да паловы на пятую гадзіну*
*ГІЛЬДЭРОЙ ЛОКХАРТ*
*Будзе падпісваць асобнікі сваёй аўтабіяграфіі*
*«МАЯ МАГІЧНАСЦЬ»*

- І мы зможам пабачыцца з ім!- правішчала Герміёна.- То бок, ён жа напісаў амаль усе падручнікі з нашага спісу!

Натоўп амаль поўнасцю складаўся з вядзьмарак, аднагодак місіс Візлі. А ў дзвярах крамы стаяў раздражнёнe з выгляду чараўнік.

- Цішэй, ледзі, калі ласка... не націскайце, асцярожней з кнігамі, калі ласка...

Гары, Рон і Герміёна праціснуліся ўсярэдзіну. Доўгая чарга плазавала ў дальні кут крамы, дзе свае кнігі падпісваў Гільдэрой Локхарт. Сябры ўзялі па асобніку «Банкетавання з беншы» і далучыліся ў чарзе да містэра і місіс Грэйнджэр, што стаялі разам з астатнімі Візлі.

- А, гэта вы, добра,- прамовіла, ледзь дыхаючы, місіс Візлі, штохвілінна прыгладжваючы валасы.- Праз хвіліну-другую мы ўбачым яго...

Паволі перад іх вачыма ўзнік, сядзячы за сталом Локхарт у атачэнні сваіх вялізных партрэтаў. Локхарты з партрэтаў падміргвалі натоўпу і блішчэлі на яго асляпляльна белымі зубамі. Жывы Локхарт быў апрануты ў незабудкава-блакітную мантыю, што сапраўды пасавала да яго вачэй, а на яго хвалістыя валасы набакір быў надзеты востраканцовы чарадзейскі капялюш.

Вакол яго, з агромістай чорнай камерай, што пры кожным здымку выкідала ў паветра клубы пурпуровага дыма, танчыў нейкі невялічкі раздражняльна выглядаючы чалавек.

- Прэч з дарогі,- гыкнуў чалавечак на Рона, чарговы раз перасоўваючы камеру дзеля лепшага здымка.- Гэта для «Штодзённага вяшчуна».

- Вялікая справа,- паціраючы нагу, на якую толькі што наступіў фатограф, сказаў Рон.

Локхарт пачуў ягоныя словы, падняў вочы, паглядзеў на Рона... і ўбачыў Гары.

- Гэта НЕМАГЧЫМА, сам Гары Потэр!- ўскочыўшы на ногі, ўсклікнуў пісменнік.

Усхвалявана перашэптваючыся, натоўп расступіўся. Локхарт нырнуў наперад, схапіў Гары за руку і пацягнуў яго да стала. Натоўп выбухнуў апладысментамі. Гарын твар зрабіўся чырвоным, калі Локхарт паціснуў яму руку, пазіруючы дзеля фатографа, які насіўся непадалёк, шалёна пстрыкаючы сваёй камерай і ухутываючы клубамі дыма сям'ю Візлі.

- Усміхайся шырэй, Гары,- праз свае бліскучыя зубы прамовіў Локхарт.- Мы з табой сёння будзем на першай паласе.

Калі той, нарэшце, пусціў Гарыну руку, хлопчык з цяжкасцю мог адчуваць пальцы. Ён паспрабаваў бокам праціснуцца назад да Візлі, але Локхарт моцна схапіў яго за плечы і падцягнуў да сябе.

- Ледзі і Джэнтльмены,- гучна прамовіў ён, адной рукой заклікаючы згрудзіўшыхся да супакою.- Гэта надзвычайны момант! Але ён ідэальны дзеля таго, каб распавясці вам тое, што дагэтуль некаторы час утойвалася!

- Калі сёння юны Гары ўвайшоў у «Флорыш і Блотс», ён толькі хацеў набыць маю аўтабіяграфію... якую я з радасцю яму падарую...- зноў выбухнулі апладысменты...- але ён і НЕ ЗДАГАДВАЎСЯ,- працягваў Локхарт, злёгку патрэсваючы Гарыны плечы, ад чаго акуляры ў хлопчыка з’ехалі на кончык носа,- што ён і яго школьныя сябры атрымаюць нешта большае за маю кнігу... у хуткім часе яны на ўласныя вочы змогуць пабачыць і адчуць МАЮ МАГІЧНАСЦЬ. Так, ледзі і джэнтэльмены, я з вялікім гонарам і задавальненнем абвяшчаю вам, што з верасня гэтага году я прымаю пасаду настаўніка па Абароне ад Цёмных мастацтваў у хогвартскай школе чарадзейства і вядзьмарства!

Пад гучныя воклічы і апладыяванне натоўпу, Гары атрымаў збор твораў Локхарта. Злёгку хістаючыся пад вагой кніг, у хлопчыка атрымалася пралезці ў цёмны куток крамы, дзе ля свайго новага катла стаяла Джыні.

- Трымай, гэта табе,- высыпаючы кнігі ў яе кацёл, прамовіў Гары.- Я сабе сам набуду...

- Іду ў заклад, табе гэта спадабалася. Так, Потэр?- хлопчык пачуў над сваім вухам голас, які немагчыма было пераблытаць ані з чыім іншым. Гары выпрастаўся і воч на воч апынуўся з Драко Малфоем, які як заўжды здзекліва ўсміхаўся.

- НАШ ВЯДОМЫ Гары Потэр,- працягваў Малфой.- Ня можа нат у краму ўвайсці, каб не трапіць на першыя палосы.

- Адчапіся ад яго, ён увогуле гэтага не жадаў!- кінуўшыся на Малфоя, прамовіла Джыні. Першы раз за ўвесь час, яна размаўляла пры Гары.

- Потэр, у цябе з’явілася ДЗЯЎЧЫНА?!- заявіў Малфой. Джыні зрабілася пунсовай, у гэты самы момант да іх скрозь натоўп прабіліся Рон і Герміёна трымаючыя ў руках локхартаўскія кнігі.

- А, гэта ты,- пазіраючы на Малфоя, як на кавалак бруда прыліпшы да чаравіка, сказаў Рон.- Іду ў заклад ты здзівіўся, калі ўбачыў тут Гары?

- Не так, як убачыўшы ў краме цябе, Візлі.- адказаў Драко.- Мяркую тваім бацькам прыйшлося галадаць цэлы месяц, каб набыць табе гэта.

Рон пачырванеў, як і Джыні. Ён таксама кінуў свае кнігі ў кацёл і кінуўся на Малфоя, але Гары і Герміёна ўтрымалі яго на месцы, схапіўшы за крыса курткі.

- Рон!- прамовіў містэр Візлі, прадзіраючыся праз натоўп, услед за Фрэдам і Джорджам.- Ты што робіш? Ці ты не сшалеў, ідзі на вуліцу.

- Так, так, так... Артур Візлі.

Гэта быў містэр Малфой. Ён стаяў паклаўшы руку на плячо сына і, як і Драко, здзекліва ўсміхаўся.

- Люцыюс,- халодна прывітаўшы таго кіўком, прамовіў містэр Візлі.

- Я чуў ты вельмі заняты на працы,- сказаў Малфой.- Усе гэтыя рэйды... Я спадзяюся табе плацяць звышурочныя?

Містэр Малфой нахіліўся да Джынінага катла і сярод купы глянцавых кніг знайшоў вельмі стары, патрапаны асобнік «Ператварэнняў: Кіраўніцтва для пачаткоўцаў».

- Ані, зразумела ж не плацяць,- падсумаваў ён.- Дружа мой, ці мае сэнс ганьбіць імя чараўніка, калі за гэта нават не жадаюць плаціць?

Містэр Візлі зрабіўся чырванейшым за Рона і Джыні.

- У нас з табой, Малфой,- адказаў ён,- розныя погляды на тое, што ганьбіць імя чараўніка.

- Вядома ж,- сказаў Малфой, яго бледныя вочы на імгненне супыніліся на містэры і місіс Грэйнджэр, што з асцярогай паглядалі на яго.- Ну і кампанія ў цябе, Візлі... а я лічыў, што тваёй сям'і ўжо няма куды занепадаць...

Адчуўся металічны звон, гэта на зямлю паваліўся Джынін кацёл. У наступнае імгненне містэр Візлі кінуўся на старэйшага Малфоя і шпурнуў яго на кніжны стэлаж. На іх галовы пасыпаліся дзесяткі кніг з замовамі.

- Так яго, тата!- закрычалі Фрэд з Джорджам.

- Не, Артур, ня трэба!- завішчала місіс Візлі.

У натоўпе ўзнікла паніка і на падлозе апынулася яшчэ большая колькасць кніг.

- Джэнтльмены, калі ласка... калі ласка!- лямантаваў мэнэджэр крамы, перакрыківаючы натоўп.- Супыніце бойку, джэнтльмены, калі ласка, супыніцеся...

Праз груды кніг на падлозе да іх падыйшоў Хагрыд. На вокамгненне ён расчапіў задзіраў. У містэра Візлі была паранена губа, а містэру Малфою падбілі вока «Энцыклапедыяй атрутных грыбоў». Ён стаяў ўсё яшчэ працягваючы трымаць ў руках Джыніну кнігу паператварэннях.

- Вось, дзяўчынка.- злосна паблісківаючы вачыма прамовіў ён...- Трымай сваю кнігу... Гэта лепшае, што могуць даць табе твае бацькі...

Вырваўшыся з Хагрыдава захопа, ён паклікаў да сябе сына і з гонарам пакінуў краму.

- Ня трэб было звятаць на го вагу, Артур,- ледзь не збіўшы містэра Візлі з ног, калі папраўляў яго мантыю.- Іх сямейка прагніл наскрозь, гэт се вед'юць. Млфояў вогуль ня трэб слухць. У іх дурна кроў. А цер давайць... падзем адсюль.

Мэнэджэр выглядаў так, быццам жадаў супыніць іх, але заўважыўшы, што быў не вышэй за Хагрыдаву талію, таму вырашыў, што гэта благая ідэя. Яны паспяшаліся надворак. Грэйнджэры дрыжалі ад жаху, а місіс Візлі ашалела ад лютасці.

- Які ВЫДАТНЫ прыклад ты даеш дзецям, Артур... БОЙКА на людзях... І што ПАДУМАЕ Гільдэрой Локхарт...

- Ён задаволены,- заявіў Фрэд.- Хіба вы не чулі, як ён пытаўся ў таго дзяцюка са «Штодзённага вяшчуна», ці нельга распавесці аб бойцы ў рэпартажы.... сказаў што гэта будзе найлепшай рэкламай ягонай кнігі.

Аднак, да Дзіравага катла яны падыйшлі ў прыгнечаным стане. Ад мясцовага каміна Візлі і Гары з дапамогаю парашка фло збіраліся трапіць назад у Логавішча. Яны развіталіся з Грэйнджэрамі, якія выйшлі з паба на маглаўскую вуліцу. Містэр Візлі хацеў спытацца ў іх, як працуюць аўтобусныя прыпынкі, але глянуўшы на жонцын твар адразу ж супыніўся.

Гары зняў з сябе акуляры і паклаў іх ў кішэню перад тым як ўзяць сабе дробку парашку. Несумненна гэты від вандроўкі не з'яўляўся яго самым любімым.

## — РАЗДЗЕЛ V —

### *Лупцуючая вярба*

На погляд Гары, летнія вакацыі скончыліся занадта хутка. Як не чакаў ён вяртання ў Хогвартс, але той месяц, які хлопчык правёў у Логавішчы быў самым шчаслівым часам за ўсё яго жыццё. А разважаючы над тым, якая сустрэча чакае яго, калі ён ў наступны раз аб'явіцца на Прайвет Драйв, Гары пачынаў зайздросціць Рону.

У вечар перад іх ад'ездам, місіс Візлі прыгатавала сапраўды раскошную вячэру ў якую уваходзілі ўсе ўлюбёныя Гарыны стравы, што скончылася апетытным патачным пудзінгам. А напрыканцы, Фрэд і Джордж запусцілі пару флібусцьераўскіх феерверкаў. Кухню запоўнілі купы чырвоных і блакітных зорак, якія яшчэ з поўгадзіны лялі ў паветры адскокваючы ад столі і сцен. Потым усе выпілі па апошнім кубку гарачага шакаладу і накіраваліся ў ложкі.

Каб выехаць з дому на наступную раніцу ўсім спатрэбілася даволі шмат часу. Ня гледзячы на тое, што ўсе падняліся разам з пеўнямі, здавалася што засталося яшчэ шмат чаго зрабіць. Місіс Візлі, прабываючы ў благім настроі кідалася паўсюль у пошуках запасных шкарпэтак і пёраў; сям-там на сходах сутыкаліся адно з адным паўапранутыя людзі з кавалкамі тостаў у руках; а містэр Візлі ледзь не зламаў сабе шыю, калі спатыкнуўся, пераносячы да машыны Джыніну валізу, аб блукаючую па двары курыцу.

Гары аніяк не мог зразумець, якім чынам восем чалавек, шэсць валізаў, две савы і пацук змесцяцца ў адным невялічкім Фордзе Англія. Хаця, ён падазраваў, што тут не абыйшлося без спецыяльнай даробкі містэра Візлі.

- Толькі Молі анічога не кажы,- прашапатаў ён Гары, калі раскрыў багажнік і паказаў яму, што той быў магічным чынам пашыраны так, каб туды маглі з лёгкасцю быць пакладзены шэсць валізаў.

- Гэтыя маглы могуць больш, чым пра іх мажліва падумаць,- зірнуўшы на заднюю сядушку, дзе з лёгкасцю памясціліся Гары, Рон, Фрэд, Джордж і Персі, прамовіла місіс Візлі, калі ўсе нарэшце ўселіся. Яна сама, разам з Джыні села на пярэдняй сядучцы, магічна пашыранай да памераў паркавай лаўцы.- Я мела на ўвазе, звонку і не скажаш, што машына такая прасторная.

Містэр Візлі завёў матор і яны пакрысе выехалі са двара. Павярнуўшыся, Гары апошні раз зірнуў на дом, разважаючы, калі ў яго атрымаецца ўбачыць яго ў наступны раз. І тут ім прыйшлося вярнуцца, таму што Джордж забыў узяць скрыню з флібусцьераўскімі феерверкамі. Праз пяць хвілінаў, яны зноў супыніліся ў двары, таму што Фрэду трэба было бегчы дамоў па забытую ім мятлу. Яны ўжо амаль даехалі да шашы, калі Джыні завішчала, што забылася ўзяць свой дзённік. Калі яна нарэшце зноў села ў машыну, яны ўжо вельмі спазняліся і таму былі на ўзводзе.

Містэр Візлі зірнуў на гадзіннік, а потым на жонку.

- Молі, даражэнькая мая...

- АНІ, Артур.

- Нас ніхто не ўбачыць. Вось бачыш маленечкую кнопку – гэта я ўсталяваў у машыну прывад нябачнасці... ён дапаможа нам... мы зробімся нябачнымі, падымемся да аблокаў. На месцы мы будзем праз хвілінаў дзесяць і ніхто нас не ўбачыць...

- Я сказала НЕ, Артур, не сярод белага дня.

Калі яны дабраліся да вакзала Кінгс Крос было ўжо без чвэці адзінаццатая гадзіна. Містэр Візлі паімчаўся праз дарогу, каб здабыць вазочкі для ўсіх валізаў і яны ўсе паспяшалі да станцыі.

Гары ўжо ездзіў на Хогвартс Экспрэсе ў мінулым годзе. Было даволі складана трапіць на платформу дзевяць і тры чвэрці нябачную для маглаўскіх вачэй. Дзеля гэтага трэба было прайсці праз калону, якая раздзяляла платформы дзевяць і дзесяць. Гэта не было балючым, аднак прайсці трэба было так, каб ані адзін магл не замеціў вашага знікнення.

- Персі, ты ідзі першым,- загадала місіс Візлі, пазіраючы на наручны гадзіннік, які казаў, што ім засталося ня больш чым пяць хвілінаў, каб непрыметна прайсці праз калону.

Персі бадзёра крочыў наперад і знік за бар’ерам. Гэтак жа зрабіў містэр Візлі, а следам за ім Фрэд і Джордж.

- Так, я іду разам з Джыні,- хапаючы дзяўчынку за руку прамовіла місіс Візлі,- а вы паспяшайце за намі.- яны вокаімгнення зніклі ў калоне.

- Хадзем разам,- прапанаваў Рон.- Ці то засталася адна хвіліна.

Гары пераканаўся, што клетка з Хэдвіг, надзейна замацавана на вяршыні яго валізы і накіраваў свой вазок на калону. Гары адчуваў сябе ўпэўненна, больш упэўненна чым пры выкарыстанні парашка фло. Абодва хлопца нахіліліся над ручкаў сваіх вазкоў, мэтанакіравана рухаючыся на калону. Да яе засталося колькі футаў, хлопцы перайшлі на бег і...

БАХ.

Абодва вазка стукнуліся аб калону і адкаціліся назад. Ронава валіза перакулілася з гучным стукам, Гары паваліўся на зямлю, а клетка з Хэдвіг, якая пачала з абурэннем галасіць, падскокваючы, пакацілася па брудным пероне. Людзі здзіўлена паглядзелі на Гары і Рона, а вакзальны службовец загаласіў:

- Што вы, дзяры вас халера, тут тварыце?

- Прабачце, мы страцілі кантроль над вазкам,- хапаючы ротам паветра і трымаючыся за рэбры, прамовіў Гары. А Рон пабег да клеткі з Хэдвіг, каб хутчэй яе падняць, бо сям там у натоўпе пачаліся размовы аб жорсткім абыходзе з жывёламі.

- Чаму ў нас не атрымалася прайсці праз бар’ер?- шэптам спытаўся Гары ў Рона.

- А я адкуль ведаю...

Рон дзікавата азірнуўся навокал. Тузін людзей усё яшчэ вытарапіўшыся глядзелі на іх.

- Мы можам спазніцца на цягнік,- прашапатаў Рон,- і я ня ведаю, чаму праход зачынены...

Гары зірнуў на гіганцкі гадзіннік і яго пачало муціць. Дзесяць секунд... дзевяць...

Ён асцярожна развярнуў вазок, накіраваў яго на калону і асцярожна штурхнуў. Калона па ранейшаму заставалася цвёрдай.

Тры секунды... дзве... адна....

- Ну ўсё,- ашаломлена прамовіў Рон,- цягнік адыйшоў са станцыі. А што калі мама з татам таксама не могуць да нас прабіцца? Ці ў цябе ёсць маглаўскія грошы?

- Дурслі,- слаба ўсміхнуўся Гары,- ўжо шэсць год не давалі мне кішэнных грошаў.

Рон прыціснуўся вухам да халоднай калоны.

- Я анічога ня чую,- напружана прамовіў ён.- І што цяпер рабіць? Невядома колькі часу спатрэбіцца маме з татам, каб прабіцца да нас?

Сябры зноў азірнуліся. Людзі па ранейшаму працягвалі назіраць за імі, а яшчэ больш за працягваючай галасіць Хэдвіг.

- Я лічу, нам лепей пачакаць іх ля машыны,- прамовіў Гары.- Тут мы прыцягваем да сябе зашмат ува...

- Гары!- зіхоцячы вачыма ўсклікнуў Рон.- Машына!

- А што з ёй?

- Мы паляцім ў Хогвартс на машыне!

- Але...

- Мы спазніліся, так? Але мы павінны трапіць у школу, так? А ў сапраўды безвыходным становішчы нат непаўналетнім чараўнікам дазваляецца карыстацца магіяй. Пра гэта гаворыцца ў дзевятнаццатым артыкуле закона аб абмежавані чагосьці там...

Пачуццё панікі ў Гарыным улонні ператварылася на моцнае хваляванне.

- А ці ты зможаш на ёй ляцець?

- Не сумнявайся,- адказаў Рон, развярнуўшы свой вазок.- Ходзьма. Калі паспяшаемся, зможам прасачыць за Хогвартс Экспрэсам.

І, скрозь натоўп здзіўленных маглаў, яны накіраваліся да выхаду са станцыі, а адтуль праз дарогу падыйшлі да аўтастаянкі дзе быў прыпаркаваны старэнькі Форд Англія.

Колькімі стукамі чароўнай палачкі, Рон адчыніў падобны на пячору багажнік і паклаў туды іх з Гары валізы. Клетку з Хэдвіг паставілі на заднюю сядушку, а самі хлопцы паселі на пярэдняй.

- Паглядзі, ці не назірае хто за намі?- спытаўся Рон. Чарговым стукам палачкі заводзячы матор. Гары высунуў галаву ў вакно – асноўная траса была перапоўнена машынамі, але ў іх завулку анікога не было.

- Усё, ОК,- сказаў ён Рону.

Рон націснуў маленечкую срэбную кнопку на прыборнай панэлі і машына знікла... з хлопцамі разам. Гары адчуваў як вібруе пад ім сядушка, чуў як працуе матор, адчуваў свае рукі на каленях і акуляры на носе, аднак сам ён, хутчэй за ўсё, ператварыўся на пару вачэй, што плылі цяпер у некалькіх футах па над бруднымі вуліцамі, поўнымі прыпаркаваных на іх аўтамабіляў.

- Паняслася,- прамовіў Ронаў голас з правага боку ад Гары.

Вуліцы і брудныя будынкі з абодвух бакоў ад іх зменшыліся, калі машына набрала вышыню і хутка ўвесь цмяны і бліскучы Лондан ляжаў пад імі бы на далоні.

Потым адчуўся нейкі хлапок і машына, разам з Ронам і Гары зноўку зрабілася бачнай.

- Аёй,- націскаючы на прывад нябачнасці, сказаў Рон.- Не працуе...

Хлопцы ў дваіх пачалі націскаць на кнопку. Машына знікла. Але праз імгненне зноў зрабілася бачнай.

- Трымайся!- прагаласіў, націскаючы на педаль газа, Рон; яны куляй заляцелі ў нізкія пухнатыя аблокі і вакол ўсё зрабілася панурым і цмяным.

- І што цяпер?- спытаўся Гары, пазіраючы прыжмурачыся на густую аблочную масу, што ахутала іх з усіх бакоў.

- Нам трэба ўбачыць цягнік, каб ведаць у якім кірунку ляцець,- прамовіў Рон.

- Тады крыху апусціся ўніз... толькі хутка...

Яны выслізнулі з аблокаў і пачалі крадком аглядаць зямлю...

- Я бачу яго!- загаласіў Гары.- Ён вось там... наперадзе нас!

Хогвартс Экспрэс поўз недзе далёка ўнізе, нагадваючы пунсовую змяю.

- Ляцім у паўночным кірунку,- зірнуўшы на компас на прыборнай панэлі, паведаміў Рон.- Добра... аднак нам трэба будзе правяраць напрамак недзе раз на поўгадзіны. Цяпер трымайся...- І яны зноў падняліся ў аблокі. Праз хвіліну яны апынуліся ўвярху сярод ззяння сонечнага прамення.

Гэта нагадвала зусім іншы свет. Колы машыны слізгалі па пухнатым воблачным моры, неба зрабілася яскравым, бясконца блакітным, а сонца – асляпляльна белым.

- Адзінае, што нас цяпер павінна непакоіць,- сказаў Рон,- гэта самалёты.

Хлопцы зірнулі адно на аднаго і прыняліся рагатаць, не спыняючыся даволі доўга.

Хлопцы быццам бы апынуліся ў казачным сне. Гары вырашыў, што гэта адзіны найгоднейшы спосаб вандраваць: па над воблачнымі вежамі і вірамі, у машыне, напоўненнай гарачым сонечным праменнем з тоўстым пакетам ірысак у бардачку і перспектывай бачыць зайздросныя твары Фрэда і Джорджа, калі яны мягка апусцяцца на траўніку ля хогвартскага замку.

Яны па ранейшаму ляцелі на поўнач, рэгулярна апускаючыся, каб правяраць накірунак цягніка і кожны раз перад іх вачыма ўзнікаў іншы краявід. Лондан неўзабаве хутка знік, змяніўшыся акуратнымі зялёнымі палямі, якія ў сваю чаргу сступілі месца шырокім барвяным балотам, вёскам з маленькімі цацачнымі цэркаўкамі і гарадкам з машынамі, нагадваючымі разнакаляровых мурашоў.

Прамінула колькі нудных гадзінаў і Гары прыйшлося прызнацца сябе самому, што задавальнення ад падобнай вандроўкі замала. Да таго ж пасля ірысак надыйшла страшэнная смага, а папіць ў іх анічога не было. Хлопцы сцягнулі з сябе джэмперы, але Гарына тэніска ўсё адно прыліпла да сядушкі, а акуляры спаўзлі на самы кончык яго ўзапрэлага носа. Хлопчык перастаў заўважаць мудрагелістыя формы аблокаў і з тугой думаў аб цягніку, што поўз па зямлі колькімі мілямі ніжэй, дзе ў вядзьмаркі з вазочкам мажліва было набыць ільдзянога гарбузовага соку. І ўсё-ткі ЧАМУ ў іх не атрымалася трапіць на платформу дзевяць і тры чвэрці?

- Напэўна ўжо хутка прыедзем?- прабурчаў Рон, колькімі гадзінамі пазней, калі сонца пачало апускацца ў аблокі, афарбаваўшы іх у цёмна-ружовы колер.- Давай, трэба яшчэ раз праверыць дзе знаходзіцца цягнік.

У нізе, пад аблокамі было значна цямней. Цягнік па ранейшаму поўз пад імі. У дадзены момант ён адольваў заснежанную горную вяршыню.

Рон націснуў педаль газу і накіраваў машыну ўверх, але ў гэты момант у матора нешта завыла.

Хлопцы занепакоенна пераглянуліся.

- Напэўна ён стаміўся,- выказаў здагадку Рон.- Ён яшчэ аніколі не залятаў так далёка...

Абодва хлопца быццам не заўважалі, што вой у матора рабіўся ўсё гучней, а неба тым часам няўхільна цямнела. Сям-там паміж аблокаў заквітнелі зоркі. Гары зноў нацягнуў джэмпер, спрабуючы не звяртаць увагу, што машына пачала, быццам пратэстуючы слаба хістаць дворнікамі.

- Ужо недалёка,- сказаў Рон, больш машыны, чым Гары,- зусім недалёка засталося,- занепакоена паляпваючы яе па прыборнай панэлі паўтараў ён.

Калі колькімі хвілінамі пазней, яны зноў апусціліся пад аблокі ім прыйшлося прыжмурыцца, каб знайсці вядомы арыентыр.

- ТАМ!- прымусіўшы Рона і Хэдвіг падскочыць, залямантаваў Гары,- Глядзі наперад!

Недзе на даляглядзе на высокай скале на беразе возера ўзніклі сілуэты шматлікіх вежаў і вежачак хогвартскага замку.

У гэты момант машына ўздрыганулася і пачала губляць хуткасць.

- Ну, давай,- лісліва мовіў Рон, злёгку тузаючы стырно,- мы ўжо амаль на месцы, ну, давай...

Рухавік завыў. З пад капота павалілі струменчыкі пару. Гары, злавіў сябе на том, што моцна ўчапіўся за сядушку, бо яны пакрысе падлятали да возера.

Машына непрыемна хістнулася. Вызірнуўшы із вакна, Гары ўбачыў у міле пад імі чорную гладкую паверхню возера. Рон учапіўся за стырно так, што касцяшкі на пальцах зрабіліся белымі. Машына зноў хістнулася.

- Ну, ДАВАЙ,- мармытаў Рон.

Яны ляцелі над возерам... наперадзе іх узвышаўся Хогвартс... Рон націснуў на газ.

Адчуўся гучны ляск і матор перастаў працаваць.

- Аёй,- адчуўся ў цішыні Ронаў голас.

Нос машыны апусціўся. Набіраючы хуткасць яны імчалі ў замкавую сцяну.

- Нееееее!- залямантаваў Рон, і прыняўся шалёна круціць стырном. Яны праляцелі ў колькіх цалях па над сцяной. Машына зрабіла вялікую дугу. Працягваючы губляць вышыню, яны праляцелі па над цяпліцамі, гародамі і цёмным траўнікам.

Рон пусціў стырно і выцяг з задняй кішэні палачку.

- СТОЙ!- загаласіў ён і прыняўся біць палачкай па прыборнай панэлі і лабавым шкле.- СТОЙ!- аднак яны ўпарта працягвалі падаць...

- ТАМ ДРЭВА НАПЕРАДЗЕ!- закрычаў Гары, кінуўся да стырна, але было запозна...

ДЫНС.

З аглушальным бразгатам машына стукнулася аб тоўсты комель і з цяжкім грукатам павалілася на зямлю. З-пад памятага капота павалілі струмені пары; Хэдвіг перапужана лямантавала, на Гарыным ілбе выраз гузак памерам з тэнісны мячык, а з правага ад яго боку, адчайна і ціха застагнаў Рон.

- Ты ЯК?- імгненна спытаўся Гары.

- Мая палачка,- дрыготкім голасам прамовіў Рон.- Зірні на маю палачку.

Ронава палачка раскалолася амаль што напалам, а яе кончык разляцеўся на колькі аскепкаў і вяла боўтаўся на аднарогавым валоссі.

Гары адкрыў было рота, каб сказаць Рону, што ён ўпэўнены ў тым, што палачку атрымаецца адрэмантаваць, калі яны трапяць ў школу, але не паспеў. У той жа момант ў

левы бок машыны нешта стукнула, быццам бы ў яе ўрэзаўся бык. Гары паваліла на Рона. Праз імгненне гэткі ж удар абрынуўся на дах машыны.

- Што зда...

Рон, вытарапіўшыся на ветравое шкло, вохнуў; Гары азірнуўся і вельмі своечасова, бо праз секунду на шкло абрынулася тоўстая бы пітон галіна. Дрэва ў якое яны толькі што ўрэзаліся цяпер атакавала іх. Камель дрэва сагнуўся амаль ў два разы, а каржакаватае галлё, калаціла кожную цалю аўтамабіля да якой магло дацягнуцца.

- Аааааа!- ўсклікнуў Рон, калі закручаная галінка прабіла дзірку ў дзвяры; лабавое шкло дрыжала пад ударамі кулакападобных галін, астатнее ж галлё быццам таран люта грукатала па даху, які амаль што пачаў прагінацца...

- Уцякаем!- прагаласіў Рон. Ён абрынуў усю сваю вагу на дверцы, аднак праз імгненне быў кінуты на Гары, чарговым злосным аперкотам дрэва.

- Ну ўсё, нам гамон!- прастагнаў ён, калі пад чарговым ударам правіс дах. Але тут нечакана падлога аўтамабіля завібравала... рухавік зноўку дзейнічаў.

- ДАВАЙ ЗАДНІ ХОД!- пракрычаў Гары і машына рванула з места. Дрэва ўсё яшчэ спрабавала атакаваць іх, хлопцы чулі як рыпяць яго карані. Дрэва ледзь не вырвала само сябе, каб дацягнуцца да машыны, але хлопцы ўжо былі па-за межаю яго дасягальнасці.

- Фуф,- уздыхнуў Рон.- Яшчэ б крыху і... Малайчынка, машынка.

Але форд, здаецца, ужо быў зведзены на пусты канец. Пачуліся два рэзкія ляскаючыя шчаўчкі, дзверы расчыніліся і Гары адчуў як сядушка пад ім выгнулася. У наступны момант хлопчык ўжо ляжаў на сырой зямлі. Гучны стук паведаў яму, што машына выкінула з багажніка валізы. Клетка з Хэдвіг ўзляцела ў паветра, расчынілася і сава вылецеўшы з яе вонкі, моцна ды раз'юшчана віскнула і, не азіраючыся, паляцела ў бок замка. У наступнае імгненне пагнутая, пакрытая драпінамі і парам машына з грукатам ад'ехала некуды ў цемру, раззлавана мыргаючы заднімі фарамі.

- Вярніся!- услед ёй, размахваючы паламанай палачкай, загаласіў Рон.- Тата мяне заб'е!

Але машына, у апошні раз пыхнуўшы выхлапнымі газамі, знікла з вачэй.

- Ну нам і ПАШАНСАВАЛА,- змрочна прамовіў Рон, нахіляючыся, каб падабраць з зямлі свайго пацука Скаберса.- З усіх дрэваў у якія мы маглі ўрэзацца мы абралі тое, якое вырашыла нас забіць.

Ён праз плячо зірнуў на старое дрэва, якое ўсё яшчэ пагрозліва махала галлём.

- Ну до ўжо,- стомлена сказаў Гары,- Пойдзем да школы...

Іх прыбыццё было ані не такім трыюмфальным, як хлопцы сябе ўяўлялі. Здубелыя, пакрытыя чарнякамі і гузакамі, хлопцы пацягнулі свае валізы па травяным схіле да вялізных дубовых дзвярэй замка.

- Думаю святкаванне ўжо пачалося,- апусціўшы валізу ля прыступак і ціха зірнуўшы на яскрава асветленныя вокны, прамовіў Рон.- Гэй, Гары, пайшлі паглядзім... ці пачалося ўжо сартаванне!

Разам з Гары яны паспяшалі да вокан, каб зазірнуць у галоўную залу.

Незлічоная колькасць свечак лунала ў паветры асвятляючы чатыры доўгіх перапоўненных вучнямі сталоў, застаўленных залатымі талеркамі і бліскучымі кубкамі. А столя па над галавой, што як заўжды адлюстроўвала неба знадворку, зіхацела зоркамі.

Праз лес востраканцовых капелюшэй, Гары ўбачыў, як ў залу ўвайшоў доўгі шэраг перапалоханых першагодак, сярод якіх, ён разглядзеў Джыні, якую было добра відаць з-за яе яскрава-рудых візлеўскіх валасоў. Між тым, прафесарка МакГонагал, вядзьмарка ў акулярах і з валоссем сабраным у тугі пук, вынесла і паставіла перад першагодкамі зэдлік, на які паклала знакаміты хогвартскі Сартавальны капялюш.

Штогод гэты жудасна стары, зацыраваны, пацёрты і брудны капялюш, размяркоўвае новых вучняў па чатырох хогвартскіх Дамах - Грыфіндоры, Хафлпафе, Рэйвенкло і Слізэрыне. Гары добра памятаў, як сам ў мінулым годзе стаяў і, скамянеўшы, чакаў яго рашэння, а капялюш размаўляў з хлопчыкам, мармычучы яму на вуха. Колькі жудасных секундаў, Гары баяўся, што капялюш адправіць яго да слізэрынскага Дому ў якім вучылася большасць самых цёмных чараўнікоў і вядзьмарак чым дзе-небудзь яшчэ... аднак капялюш, нарэшце адправіў яго ў Грыфіндор, разам з Ронам, Герміёнаю і астатнімі Візлі. А потым, яны нарэшце дапамаглі Грыфіндору, у першы раз за апошнія сем год, перамагчы Слізэрын у Кубку Дамоў.

Наперад быў пакліканы вельмі малы хлопчык з мышынага колеру валасамі і на яго галаву быў апрануты капялюш. Між тым Гарыны вочы прамінулі хлопчыка і пачалі глядзець на Дамблдора, які сядзеў, назіраючы за размеркаваннем, за настаўніцкім сталом, а яго акуляры ў форме паўмесяцаў і доўгая сівая барада зіхецелі ў святле свечак. У колькіх крэслах ад Дамблдора, апрануты ў аквамарынавую мантыю, сядзеў Гільдэрой Локхарт. А на самым краі стала, Гары заўважыў агромістага і кудлатага Хагрыда, які добра прыклаўся да свайго кубку.

- Чакай...- прамармытаў Гары Рону.- Адно крэсла пустое... Дзе Снэйп?

Прафесар Снэйп быў самым нелюбімым Гарыным настаўнікам. А Гары быў самым нелюбімым яго вучнем. Жорсткі і з'едлівы Снэйп, якога не любілі ўсе вучні, акрамя тых, што апынуліся ў яго Доме (а Снэйп узначальваў Слізэрын), выкладаў зеллеварства.

- Мо захварэў!- з надзеяй выказаў здагадку Рон.

- Ці ЗВОЛЬНІЎСЯ,- заўважыў Гары,- калі яму ЗНОЎ адмовілі ў пасадзе настаўніка па Абароне ад Цёмных мастацтваў!

- Альбо яго ЗВОЛЬНІЛІ!- з захапленнем прамовіў Рон.- Яго ж аніхто не любіць...

- А можа,- адчуўся за спінамі хлопцаў халодны голас,- ён чакае, каб вы распавялі яму, чаму з'явіліся да школы не на цягніку.

Гары павярнуўся. За іх з Ронам спінамі, у чорнай мантыі хістаемай халодным ветрам стаяў прафесар Северус Снэйп. Ён быў хударлявым мужчынай з жаўтлявай скурай, кручкаватым носам і па плечы даўжынёй чорнымі лоевымі валасамі. На яго твары лунала непрыемная ўсмешка, казаўшая Гары і Рону, што ў дадзены момант яны знаходзяцца ў зацяжкім становішчы.

- Ідзіце за мной,- загадаў прафесар.

Нават не рызыкуючы глядзець адно на аднаго хлопцы ўслед за Снэйпам крочылі па сходах у асветлены палаючымі паходнямі вестыбюль. З галоўнай залы да іх даносіўся прыемны пах ежы, але прафесар павёў іх прэчкі ад святла і цеплыні – па вузенькай каменнай лесвіцы, яны спускаліся ў падзямелле.

- Сюды!- адчыніўшы дзверы пакою, які знаходзіўся недзе ў сярэдзіне калідора і кажучы пальцам, сказаў Снэйп.

Пакрытыя дрыжыкамі хлопцы ўвайшлі ў кабінэт прафесара. Ухутаныя змрокам сцены былі застаўлены паліцамі са шклянкамі ў якіх плавала нешта гідкае, але ў дадзены момант Гары не надта хацелася ведаць што. Комін не гарэў і ў ім здаецца нават не было дроў. Снэйп зачыніў за сабой дзверы і, павярнуўшыся да хлопцаў.

- Ну што,- ціха прамовіў ён,- цягнік не дастаткова добры транспарт для вялікага Гары Потэра і яго вернага паплечніка Візлі? Што, хацелі аб'явіцца з ШЫКАМ, хлопчыкі?

- Ані, сэр, гэта ўсё з-за прахода на Кінгс Крос, ён...

- Сціхні!- халодна загадаў Снэйп.- Што сталася з машынай?

Рон нервова зглынуў. А ў Гары чарговы раз склалася ўражанне, што прафесар можа чытаць іхныя думкі. Аднак, калі праз імгненне, Снэйп кінуў перад імі свежы нумар «Вячэрняга Вяшчуна», ён крыху супакоіўся.

- Зірніце,- прасыкаў Снэйп, кажучы на загаловак артыкула – «ЛЯТАЮЧЫ ФОРД АНГЛІЯ ЗБЯНТЭЖЫЎ МАГЛАЎ». Ён ўзяў газэту і ўголас прачытаў,-»Два лонданскіх магла ўпэўненны, што бачылі, як стары аўтамабіль пралятаў над вежаю офіса паштовай службы...», «Па апоўдні, місіс Хэці Бэйліс з Норфалка, развешваючы бялізну...», «Містэр Ангус Фліт з Піблса, распавёў паліцыі...». Шэсць ці сем маглаў. Гэта ж ТВОЙ бацька працуе ў камітэце па барацьбе са злаўжываннем маглаўскімі артэфактамі?- зірнуўшы на Рона і ўсміхнуўшыся яшчэ больш гідка, спытаўся прафесар.- Божа мой, божачкі... уласны сын...

Раптам Гары адчуў сябе так, бы па яго жываце трапіла адна з буйных галінаў таго шалёнага дрэва. Што калі нехта даведаецца пра тое, што містэр Візлі зачараваў машыну... Ён не падумаў што...

- А калі я прайшоўся па парку, я заўважыў, што значная шкода была нанесена вельмі каштоўнай Лупцуючай вярбе,- працягваў прафесар Снэйп.

- Яно НАМ нанесла значна больш шкоды...- вырвалася ў Рона.

- СЦІХНІ!- зноўку гыркнуў Снэйп.- Шкада, што вы не ў маім Доме, ці былі бы выкінуты са школы, нават не прысеўшы з дарогі. Аднак, зараз я пайду і паклічу людзей, якія НА ШЧАСЦЕ маюць такія паўнамоцтвы. Чакайце тут.

Збляднелыя Гары і Рон зірнулі адно на аднаго. Гары больш не адчуваў сябе галодным, цяпер яго моцна муціла, таму ён імкнуўся не глядзець на гідкія склізкія істоты, што плавалі ў зялёнкай вадкасці на Снэйпавых паліцах. А калі Снэйп пайшоў за галавой грыфіндорскага Дому прафесаркай МакГонагал, ім ад гэтага будзе ані не лепш. Тая была больш справядлівай за Снэйпа, але ўсё ткі вельмі суровай.

Прафесар вярнуўся праз дзесяць хвілінаў і прафесарка МакГонагал, зразумела ж, была з ім. Гары колькі разоў бачыў прафесарку раззлаванай, але ці то забыўся, ці то не бачыў, каб яна злавалася настолькі моцна. Яе вусны зрабіліся танюткімі танюткімі. Увайшоўшы ў кабінэт яна падняла палачку, Гары і Рон у жаху зрабілі крок назад, але прафесарка толькі прымусіла запалаць пусты комін.

- Сядайце,- прамовіла яна так, што абодва хлопцы апынуліся ў фатэлях ля коміна.

- А цяпер, расказвайце,- злавесна пабісківаючы акулярамі, загадала прафесарка.

Рон прыняўся распавядаць аб тым, што з імі здарылася, пачынаючы з таго, што праход на вакзале адмовіўся іх прапускаць.

- ... мы ня мелі іншага выбару, бо не змаглі патрапіць на цягнік.

- А чаму вы не даслалі саву ў школу?- спыталася прафесарка пазіраючы на Гары.- Наколькі я памятаю ТЫ маеш саву.

Гары здзіўлена паглядзеў на МакГонагал. Гэта здавалася відавочным, але толькі пасля яе слоў.

- Я... я не падумаў...

- Гэта,- сказала прафесарка,- і так зразумела.

У дзверы Снэйпаўскага кабінэта нехта пастукаў. Выглядаючы самым шчаслівым у свеце чалавекам, Снэйп адчыніў. За дзвярыма стаяў хогвартскі дырэктар, прафесар Дамблдор.

Гарына цела скамянела. Дамблдор выглядаў невярагодна змрочным. Яго вочы па над неверагодна скрыўленым носам так паглядзелі на хлопцаў, што Гары пажадаў, каб яго з Ронам працягвала збіваць Лупцуючая вярба. У кабінэце на доўгі час запанавала цішыня.

- Растлумачце мне калі ласка,- нарэшце спытаўся ён,- навошта вы гэта зрабілі?

Яго голас быў поўным расчаравання. І лепей бы ён накрычаў на хлопцаў, таму што Гары ненавідзеў, калі з ім размаўляюць расчараваным тонам. У Гары былі прычыны не глядзець дырэктару ў вочы, таму аб тым што з імі здарылася, ён распавядаў Дамблдоравым каленкам. Ён зноўку распавёў дырэктару пра тое, што з імі здарылася, акрамя таго, што машына на якой яны ляцелі, належыла містэру Візлі, што гучала так, быццам яны з Ронам знайшлі лятаючы аўтамабіль, наўпрост прыпаркаваным звонку станцыі. Хлопчык ведаў, што Дамблдор навылет бачыць, што ён нешта не дасказаў, але той анічога не пытаўся аб машыне. Калі Гары скончыў, ён папросту працягваў стаяць і глядзець на хлопцаў, праз свае акуляры.

- Ну, мы пайшлі па нашы рэчы,- з безнадзейнасцю ў голасе, прамовіў Рон.

- Аб чым вы кажыце, Візлі?- гыркнула прафесарка МакГонагал.

- Хіба ж вы нас не выключаеце са школы?- спытаўся Рон.

Гары хутка зірнуў на дырэктара і зноў апусціў вочы.

- Не цяпер, містэр Візлі, не цяпер,- адказаў Дамблдор.- Аднак я павінен давесці да вас абодвух, што ваша правіна вельмі сур’ёзная. Сёння ж я напішу аб усім вашым сем’ям. І папярэджваю вас, калі вы зробіце штосьці падобнае, я буду вымушаны выключыць вас.

Цяпер Снэйп выглядаў так, быццам нехта скасаваў Хрыстова Нараджэнне. Ён пракхекаўся і сказаў:

- Прафесар Дамблдор, гэтыя хлопцы з пагардаю аднесліся да дэкрэта аб абмежаваннях для непаўналетніх чараўнікоў, нанеслі сур’ёзную шкоду старому, каштоўнаму дрэву... і безумоўна, дзеі падобнага роду...

- Як пакараць гэтых хлопцаў, Северус, няхай вырашае прафесарка МакГонагал,- перабіў яго спакойным тонам дырэктар.- Яны навучэнцы яе Дому і адказвае за іх, менавіта яна.- Дамблдор павярнуўся да прафесаркі.- Мне трэба вярнуцца на банкет, Міневра, я павінен зрабіць колькі аб’яваў. Пойдзем, Северус, там ёсць даволі смачныя на выгляд заварныя пірожныя, якія я б хацеў паспрабаваць.

Снэйп паглядзеў на хлопцаў з выразам чысцюткай нянавісці на твары, аднак прымусіў сябе найхутчэй пакінуць уласны кабінет, каб пакінуць Гары і Рона разам з МакГонагал, якая ўсё яшчэ глядзела на хлопцаў, як надта разлютаваны арол.

- Ці не пайсці вам ў шпітальнае крыло, Візлі? У вас кроў цячэ.

- Ані, дзякуй,- паспешліва, рукавом, выціраючы кроў з рассечанай раны пад вокам адказаў Рон,- Мадам прафесар, я бы хацеў прысутнічаць на размеркаванні маёй сястры...

- Цэрымонія сартавання ўжо скончылася,- адказала МакГонагал.- Ваша сястра трапіла ў Грыфіндор.

- О, выдатна,- прамовіў Рон.

- І калі казаць аб Грыфіндоры...

Як хутка не гаворыла прафесарка, але Гары прымудрыўся яе перабіць.

- Мадам прафессар, здарэнне з машынай адбылося, яшчэ да пачатку заняткаў... Грыфіндор жа не павінен страціць з-за гэтага балы?- скончыўшы, ён з трывогай паглядзеў на МакГонагал.

Прафесарка праняла яго вачыма, але Гары быў упэўнены, што яна ледзь стрымлівае ўсмешку. Ува ўсялякім выпадку яе вусны зрабіліся менш тонкімі.

- Я не буду здымаць з Грыфіндора балы,- адказала яна і ў Гары палегчыла на сэрцы.- Але вы ўсё адно павінны будзеце панесці пакаранне.

Гэта было лепей за самыя смелыя спадзяванні Гары. А то што Дамблдор напіша Дурслі. Гары дакладна ведаў, што тыя ўсяго толькі пашкадуюць, што Вярба не зрабіла з яго аладку.

Прафесарка зноў падняла палачку і накіравала яе на Снэйпаў стол. З гучным ХЛАПКОМ на ім аб’явіліся вялізная талерка з бутэрбродамі, два срэбных кубкі і збанок ільдзянога гарбузовага соку.

- Ешце тут, а потым адразу ж ідзіце ў грыфіндорскую гасцёўню,- прамовіла яна.- А я павінна вярнуцца на банкет.

Як толькі за прафесаркай зачыніліся дзверы, Рон працягла але ціха свіснуў.

- Уф, я вырашыў, што нас неадкладна пакараюць,- схапіўшы бутэрброд заявіў ён.

- І я,- адказаў яму Гары і таксама ўзяў сабе бутэрброда.

- Але ж як нам «пашчасціла»,- ротам, поўным кураціны і вяндліны, прамовіў Рон. Фрэд з Джорджам ляталі на машыне пяць ці шэсць разоў і ІХ не заўважыў аніводзін магл,- Рон праглынуў і зноўку добра кусіў ад бутэрброда.- І ўсё ткі, ЧАМУ ў нас не атрымалася прайсці праз бар’ер?

Гары пацiснуў плячыма.

- Цяпер мы павінны сачыць за кожным сваім крокам,- прамовіў ён, з лагодаю робячы глыток гарбузовага соку.- Але, як шкада, што мы не можам прысутнічаць на банкеце...

- Напэўна прафесарка не хацела, каб мы паказаліся ў выгодным свеце,- мудра заўважыў Рон.- Каб аніхто не вырашыў, што прылятаць ў школу на аўтамабіле, гэта так крута.

Калі хлопцы з’елі столькі бутэрбродаў, сколькі ў іх магло памясціцца (а талерка напаўняла сама сябе), яны пакінулі кабінэт Снэйпа і знаёмым шляхам накіраваліся ў грыфіндорскую вежу. Прамінуўшы размаўляючыя адзін з адным партрэты і з рыпеннем рухаючыеся даспехі, яны падняліся вузкімі каменнымі сходамі і трапілі ў знаёмы калідор, што вёў да ўваходу ў грыфіндорскую гасцёўню, які быў схаваны за партрэтам вельмі тоўстай жанчыны ў шоўкавай ружовай сукенцы.

- Пароль?- спыталася Тлустая Пані ў падыйшоўшых да яе хлопцаў.

- Эмм...- толькі і змог сказаць Гары.

Яны ня ведалі пароля, бо пакуль не бачылі грыфіндорскага прэфекта. Аднак дапамога прыйшла да іх амаль адразу. Хлопчыкі адчулі за сваімі спінамі шпаркія крокі, а павярнуўшыся ўбачылі, як да іх нясецца Герміёна.

- ВОСЬ вы дзе! Што з вамі ЗДАРЫЛАСЯ? Па школе ходзяць самыя ДУРНЫЯ чуткі... быццам бы вас выкінулі са школы за тое, што вы разбілі лятаючы АЎТАМАБІЛЬ.

- Ані, нас не выгналі,- запэўніў яе Гары.

- Няўжо, вы НАСАМРЭЧ прыляцелі сюды?- прамовіла Герміёна, якая магла размаўляць ня менш сурова за саму МакГонагал.

- Годзе ўжо лекцый,- перабіў яе Рон.- Лепей скажы нам новы пароль.

- «Новазеландскі шпак»,- раздражнённа адказала дзяўчынка,- спадзяюся вы не...

Герміёна не паспела дагаварыць, бо партрэт Тлустай Пані ад’ехаў, адчыніўшы праход у грыфіндорскую гасцёўню, адкуль пачулася бура апладысментаў. Здавалася аніхто з грыфіндорйцаў не думаў класціся спаць, гасцёўня была перапоўнена; сёй-той, чакаючы прыходу Гары і Рона, ускараскаўся на сталы і спінкі фатэляў. Як толькі праход адкрыўся ў адтуліну высунулася колькі рук, якія зацягнулі хлопцаў усярэдзіну, а Герміёна была вымушана караскацца самастойна.

- Выдатна!- пралямантаваў Лі Джордан.- Ну проста геніяльна! Якое аб’яўленне! Урэзацца на машыне ў Лупцуючую вярбу, народ будзе казаць аб гэтым яшчэ шмат год!

- Малайчына,- сказаў Гары нейкі пяцігодка з якім хлопчык дагэтуль нават не размаўляў аніразу; а хтосьці сяброўскі паляпаў яго па спіне, як быццам Гары толькі што выйграў марафон.

- Маглі б і нас паклікаць,- праціснуўшыся ў натоўпе да хлопцаў, у адзін голас заявілі Фрэд з Джорджам. Рон папунсавеў і збянтэжана ўсміхнуўся, але Гары заўважыў сярод натоўпу, чалавека, які ані ня быў у захапленні з іх учынка. Персі ўзвышаўся па над галовамі першагодак і здавалася, спрабаваў праціснуцца да Гары і Рона дастаткова блізка, каб даць ім дыхта. Гары штурхнуў сябра ў бок і кіўнуў галавою ў бок Персі і Рон яго намёк зразумеў.

- Добра, мы мабыць пойдзем... стаміліся,- прамовіў ён і хлопцы пачалі працiскацца да дзвярэй у процілеглым канцы пакоя, дзе былі вінтавыя сходы, якія вялі да спалень.

- Дабранач,- сказаў Гары Герміёне, якая была не менш раззлаванай за Персі.

Праз натоўп, працягваючы ляпаць іх па спінах, у хлопцаў атрымалася дабрацца да вінтавых сходаў, дзе іх нарэшце чакала палёгка. Яны крочылі на самы верх да дзвярэй сваёй старой спальні, на якіх цяпер вісела шыльда з надпісам «Другі год». Адчыніўшы дзверы, Гары і Рон увайшлі ў знаёмы круглы пакой з пяццю ложкамі пад балдахінамі з чырвонага аксаміта і высокімі вузкімі вокнамі. Там іх ужо чакалі іхныя валізы прыстаўленыя да ложкаў.

Рон вінавата ўсміхнуўся Гары..

- Я разумею, што я не павінен атрымліваць ад гэтага задавальненне, але ж...

Тут дзверы спальні зноў адчыніліся і ў пакой завіталі астатнія хлопцы-другагодкі – Шымас Фініган, Дын Томас і Нэвіл Лонгботам.

- НЕВЕРАГОДНА!- шырока ўсміхаючыся, сказаў Шымас.

- Крута,- дадаў Дын.

- Надзвычайна,- з глыбокай павагай, прамовіў Нэвіл.

І Гары ўжо не мог анічога з сабой зрабіць. Ён таксама ўсміхнуўся.

## — РАЗДЗЕЛ VI —

## *Гільдэрой Локхарт*

Аднак, на працягу ўсяго наступнага дня Гары ўсміхнуўся толькі аднойчы і то злёгку. Пачалося ўсё, як толькі яны ранніцай спусціліся ў галоўную залу на сняданак. Чатыры доўгіх сталы пад зачараванай (на гэты раз пахмурна шэрай) столлю, былі перапоўнены міскамі з кашай, вэнджаным селядцом, падносамі з горамі тостаў і талеркамі з яйкамі ды беконам. Гары і Рон прыселі паміж Герміёнаю, што прысланіўшы кнігу да збана з малаком, чытала «Угалоп з упірамі» і суха павіталася з хлопцамі, бо ўсё яшчэ злавалася на іх з Нэвілам, які наадварот сустрэў іх з радасцю.

- Хутка будзе пошта, - прамовіў Нэвіл, хлопчык які меў круглы твар, паталагічнае нешанцаванне і самую дзіравую памяць з усіх, каго калісь ведаў Гары.- Упэўнены, бабуля дашле мне купу рэчаў, якія я прымудрыўся забыцца.

Гары ледзь паспеў прыняцца за сваю аўсянку, калі па над іх галовамі, сапраўды адчуўся парывісты шыпячы гук і сотня соў струменем панесліся з-пад столі да балбочучых вучняў кідаючы перад імі лісты і паштоўкі. Нечакана ў Нэвіла трапіла нешта вялікае і камякаватае, адскочыўшы ад нэвілавай галавы ў збан з малаком, абпырскаўшы Герміёну і хлопчыкаў малаком і пер’ем.

- Эрал!- выцягваючы за ногі перапэцканую малаком саву прамовіў Рон. Той без прытомнасці паваліўся на стол, трымаючы ў дзюбе нешта чырвонае.

- Толькі не гэта...- ледзь дыхаючы прастагнаў хлопчык.

- З ім ўсё добра,- асцярожна паштурхаўшы Эрала пальцам сказала Герміёна.- Ён жывы.

- Ды не... я вось пра ШТО.

Рон паказаў на чырвоны канверт. З пункту гледжання Гары, у ім не было анічога незвычайнага, але Рон і Нэвіл глядзелі на канверт так, быццам той вось вось выбухне.

- Дык, а што здарылася та?- не разумеючы спытаўся Гары.

- Яна...- слабым голасам прамовіў Рон.- Яна даслала мне лямантоўку.

- Табе ўсё ткі лепш яе адкрыць,- слабым шэптам параіў Нэвіл.- Ці то будзе яшчэ горш. Неяк бабуля даслала мне такую, а я яе праігнараваў,- ён зглынуў.- Гэта было жудастна.

Гары ўбачыў скамянелыя твары сяброў, вытапарыўшыеся на канверт.

- А што за лямантоўка?- спытаўся ён.

Але ўся ўвага Рона цяпер была прыкавана да канверта, які пачаў дыміцца ў кутках.

- Адчыняй хутчэй,- заклікаў яго Нэвіл.- Праз колькі хвілінаў усё скончыцца...

Дрыготкай рукой, Рон выцягнуў канверт з эралавай дзюбы і адчыніў. Нэвіл імгненна заткнуў вушы пальцамі і праз імгненне Гары зразумеў навошта. Першы час яму здалося бы НЕШТА выбухнула, залу, абтрасаючы са столі пыл, напоўніла аглушальнае равенне.

- *...СКРАСЦІ МАШЫНУ, Я НЕ ЗДЗІВІЛАСЯ, КАЛІ Б ЦЯБЕ ВЫКІНУЛІ СА ШКОЛЫ; ПАЧАКАЙ, ВОСЬ Я ДА ЦЯБЕ ДАБЯРУСЯ; ЦІ ТЫ НЕ ПАДУМАЎ, ЯКІЯ ДУМКІ ПРЫЙШЛІ НАМ З БАЦЬКАМ ДА ГАЛАВЫ, КАЛІ МЫ ВЯРНУЛІСЯ ДА МАШЫНЫ І ЎБАЧЫЛІ ШТО ЯНА ЗНІКЛА...*

Голас Місіс Візлі ўзмоцнены ў сто разоў лунаў пад столлю і рэхам адбіваўся ад каменных сценаў так, што на сталах бразгаталі талеркі. Усе згрудзіўшыеся ў галоўнай зале

павярнулі галовы, каб паглядзець на таго хто атрымаў лямантоўку, а Рон у сваім крэсле апусціўся так нізка, што бачна было толькі яго, зрабіўшыйся малінавым лоб.

- *КАЛІ ЎЧОРА ЎВЕЧАРЫ,*- працягваў голас,- *МЫ АТРЫМАЛІ ЛІСТ АД ДАМБЛДОРА, БАЦЬКА ЛЕДЗЬ НЕ ПАМЁР АД СОРАМУ; ЦІ Ж ГЭТАМУ МЫ З ІМ ЦЯБЕ ВУЧЫЛІ; ТЫ І ГАРЫ МАГЛІ ЗАГІНУЦЬ...*

Гары было цікава, як хутка прагучыць яго імя. З ўсёй моцы, ён імкнуўся рабіць выгляд, што не чуе голасу, які прымушаў пульсаваць яго барабанныя перапонкі.

-*... ГЭТА БОЛЬШ ЧЫМ ГАНЬБА. ТВАЙГО БАЦЬКУ ЦЯПЕР ЧАКАЕ СЛУЖБОВАЕ РАССЛЕДАВАННЕ І Ў ГЭТЫМ ЦАЛКАМ ТВАЯ ВІНА, КАЛІ ХОЦЬ РАЗ ТЫ ДАЗВОЛІШ СЯБЕ ВЫКІНУЦЬ ШТОСЬ ПАДОБНАЕ, МЫ НЕАДКЛАДНА ЗАБЯРЭМ ЦЯБЕ СА ШКОЛЫ.*

Настала звінячая цішыня. Чырвоны канверт, які Рон выпусціў з саслабелых пальцаў, успыхнуў яскравым полымям і праз колькі секунд ператварыўся на попел. Гары і Рон сядзелі ашаломленыя, як быццам па ім толькі што прайшлася прыліўная хваля. Колькі чалавек засмяялася і паступова зноўку адчуўся звыклы гуд галасоў.

Зачыніўшы «Угалоп з упірамі», Герміёна зірнула на Ронаву патыліцу.

- Ну, ня ведаю на што ты спадзяваўся, Рон, але...

- Толькі ня трэба казаць, што я гэта заслужыў,- адгыркнуўся Рон.

Гары адсунуў прэч талерку з аўсянкай. Яго ўлонне палала ад пачуцця сваёй віны. Містэра Візлі чакае службовае расследваванне. І гэта пасля ўсяго таго, што яны з місіс Візлі зрабілі для яго ўлетку...

Аднак, у хлопчыка было замала часу на развагі. Да іх стала наблізілася прафесарка МакГонагал і раздала ўсім лісткі з раскладам заняткаў. Зірнуўшы ў лісток Гары ўбачыў, што сёння, першым урокам у іх будзе падвоенае зёлазнаўства разам з хафлпафцамі.

Гары, Рон і Герміёна разам пакінулі замак і, прамінуўшы агароды, крочылі да цяпліцаў, дзе былі пасаджаны разнастайныя чароўныя расліны. Што не казаць, а адну добрую справу лямантоўка ўсё ткі зрабіла. Цяпер Герміёна вырашыла, што хлопцы былі дастаткова пакараны і зноў пачала адносіцца да іх з прыязнасцю.

Падыйдзя да цяпліцаў, сябры заўважылі згрудзіўшыхся там вучняў, што чакалі ля ўвахода прафесарку Спроўт, якая аб’явілася ў суправаджэнні Гільдэроя Локхарта. Яны крочылі па траўніку ад ўскрайка леса, Рукі прафесаркі былі перабінтаваны. Гары адчуў дакоры сумлення, бо заўважыў, што прафесары ішлі ад Лупцуючай вярбы, колькі з галінаў якой, цяпер былі перавязаны.

Прафесарка Спроўт была маленечкай прысадістай вядзьмаркаю ў зацыраваным старым капелюшы на непаслухмяным валоссі, а на яе вопрадцы і пад яе пазногцямі было столькі зямлі, што ўбачыўшы прафесарку, цётка Пятунья грымнула бы ў непрытомнасці. Гільдэрой жа Локхарт наадварот быў апрануты ў чысцюткую бірузовую мантыю, а яго ідэальна ўкладзенае залатое валоссе зіхацела з-пад бірузовага капелюша з залатой аблямоўкай.

- Вітаю ўсіх!- абдараваўшы дзяцей прамяністай усмешкай, усклікнуў ён.-Я тут проста дэманстраваў прафесарцы Спроўт, як лепей лекаваць Лупцуючую вярбу! Аднак я ані не жадаю, каб вы збеглі адсюль з думкаю, бы я ведаю зёлазнаўства лепш за вашу настаўніцу!

Не, але ж я падчас сваіх падарожжаў, выпадкова сстрэў шмат разнастайных экзатычных раслін...

- Сёння, парнік нумар тры, дзеці!- мятаючы перуноў, прамовіла звычайна вясёлая прафесарка.

У натоўпе адчуўся зацікаўлены гоман. Раней яны звычайна працавалі толькі ў першым парніку... трэці знаходзіўся крыху далей і ў ім раслі больш небяспечныя і таму больш цікавыя расліны. Прафесарка Спроўт зняла са свайго паса ключ і адамкнула дзверы. У нос Гары кінула пахам вільготнай зямлі ды ўгнаенняў у змешку з цяжкім водарам агромістых, да столі вышынёй, парасонападобных кветак. Ён ужо збіраўся ўслед за Ронам і Герміёнаю прайсці ўсярэдзіну, як на поўдарозе яго локаць схапіла рука Локхарта.

- Гары! Я даўно хацеў сказаць табе сёе-тое... прафесарка Спроўт, ці вы не будзеце супраць, калі Гары на пару хвілін спазніцца?

Усім сваім разлютаваным выглядам прафесарка паказала, што будзе супраць...

- Вось і добра, дзякуй,- не звяртаючы на гэта ўвагі, сказаў Локхарт і зачыніў дзверы перад яе тварам.

- Гары,- прамовіў ён хістаючы галавой і сонечнае праменне адбівалася ад яго белых зубоў,- Гары, Гары, Гары.

Ушчэнт збянтэжаны Гары толькі маўчаў у адказ.

- Калі я пачуў... зразумела, гэта толькі мая віна. Не паверыш, як я злуюся на сябе самога.

Гары не разумеў аб чым той кажа. Ён ўжо збіраўся сказаць аб гэтым, але Локхарт працягваў.

- Ня памятаю, калі ў апошні раз я быў настолькі сшакаваным. Прыляцець ў школу на машыне! І вядома ж я зразумеў чаму ты так зрабіў. Гэта ж відавочна. Гары, Гары, ГАРЫ.

Гэта было даволі дзіўным, але Локхарт прымудраўся казаць кожны са сваіх бліскучых зубоў нават калі маўчаў.

- Я даў табе прагу да публічнасці, - працягваў прафесар. - Я заразіў цябе гэтай ХВАРОБАЙ. Ты аб’явіўся са мной на першай старонцы газэты і не змог дачакацца, каб трапіць туды зноў.

- Вох... ані, прафесар, справа ў тым...

- Гары, Гары, Гары,- моцна ухапіўшы хлопчыка за плячо, прамовіў Локхарт.- Я ЎСЁ РАЗУМЕЮ. Натуральна, паспрабаваўшы славы першы раз, заўсёды хочацца зведаць яе яшчэ і яшчэ... як я сябе за гэта вінавачу, бо гэта раней ці пазней захапіла б твой розум... але зразумей, мой хлопчык, нельга прымушаць МАШЫНЫ ЛЯТАЦЬ толькі дзеля таго, каб цябе заўважылі. І, супакойся калі ласка, добра? Вядомасць сама прыйдзе да цябе, калі ты будзеш крыху больш старэйшым. Так, так, я разумею пра што ты зараз думаеш! «Добра яму пра гэта казаць, ён ужо сусветна вядомы чараўнік!» Аднак, калі мне было дванаццаць год, я быў гэдак жа як і ты, анікім. Я быў анікім нават большым за цябе! Я маю на ўвазе, што пра цябе сёй-той усё ткі чуў. Я зараз аб тваіх сутычках з тым Чыё Імя Нельга Называць!- Локхарт зірнуў на маланкападобны шнар на Гарыным ілбе.- Ведаю, ведаю, гэта зусім не тое, што пяць разоў запар атрымаць прыз «Вядзьмарскага тыднёвіка» за самую ачаравальную ўсмешку... але ж, Гары, гэта толькі ПАЧАТАК, разумееш, толькі ПАЧАТАК.

Локхарт па сяброўску падміргнуў хлопчыку і пайшоў прэчкі. Колькі секунд, Гары аслупянела стаяў на адным месцы, аднак прыпомніўшы, што павінен знаходзіцца на занятках, адчыніў дзверы цяпліцы і слізгануў усярэдзіну.

Прафесарка Спроўт стаяла ў цэнтры цяпліцы, ля паліцы з гаршкамі, па краі якой ляжала дванаццаць пар разнакаляровых навушнікаў. Калі Гары заняў сваё звычайнае месца між Ронам і Герміёнаю, прафесарка паведаміла.

- Сёння мы будзем займацца перасадкаю мандрагоры. Хто мне распавядзе пра яе ўласцівасці?

Анікога не дзівіла, што першай у паветра ўзнялася рука Герміёны.

- Мандрагора, ці як яе клічуць яшчэ - вядзьмаркіна зёлка, мае наймацнейшыя ажыўляючыя магчымасці.- сваім звычайным тонам, быццам вызубрыла ўвесь падручнік, паведаміла дзяўчынка.- Яе выкарыстоўваюць дзеля таго, каб вярнуць першапачатковы выгляд людзям, якія былі некім ператвораны, альбо пракляты.

- Выдатна,- сказала прафесарка Спроўт,- Дзесяць балаў Грыфіндору. Так, мандрагоры з'яўляюцца найважлівейшым інгрэдыентам большасці з проціатрутаў. Аднак, яны таксама нясуць небяспеку. Хто раскажа чаму?

Ледзь не збіўшы па дарозе Гарыны акуляры, рука Герміёны зноўку ўзнялася ў паветра.

- Галас мандрагоры, смяротна небяспечны для тых хто яго чуе,- выпаліла яна.

- Цалкам дакладна.- прамовіла прафесарка.- Яшчэ дзесяць балаў Грыфіндору. Так, аднак мандрагоры з якімі мы будзем працаваць зусім маленькія.

Прафесарка паказала ім на шэраг глыбокіх латкоў.авучэнцы наблізіліся да іх, каб лепей разглядзець. З латкоў у радочак тырчала каля сотні невялічкіх кусточкаў пурпурова зялёнага колеру, якія на Гарыну думку былі цалкам звычайнымі і ён аніяк не мог зразумеў пра што мела на ўвазе Герміёна, калі штосьці казала пра іх «галас».

- А зараз, няхай кожны возьме сабе па пары навушнікаў,- загадала Спроўт.

Між дзецьмі адразу ж пачалася невялічкая сутычка, бо аніхто не жадаў каб яго навушнікі былі ружовымі і пухнатымі.

- Цяпер, па маёй камандзе апраніце свае навушнікі і пераканайцеся, што яны НАДЗЕЙНА закрываюць вашыя вушкі.- папярэдзіла навучэнцаў прафесарка.- Калі зняць іх будзе бяспечна, я падыму ўгору вялікі палец. Гатовы? АПРАНУЦЬ навушнікі.

Па загадзе настаўніцы Гары начапіў навушнікі, яны надзейна прыхавалі яго слых ад усялякага гуку. Прафесарка Спроўт ўзяла ружовую і пухнатую пару, начапіла яе на галаву, падкасала рукавы, моцна схапіла адзін з кусточкаў і праз намаганне рванула ўгору.

Аніхто не пачуў, як Гары вохнуў ад здзіўлення.

Замест звычайнага кораня, з зямлі выцягнулася маленечкае, бруднае і надта выродлівае немаўля з пуком лістоты, што рос адразу ж з яго галавы. Немаўля мела бледна зялёную спярэшчаную крапінкамі скуру і было бачна, як яно раве ўва ўсю моц сваіх грудзяў.

Пасля гэтага, прафесарка выцягнула з-пад свайго стала вялізны кветкавы горшчык поўны кампоста і понасцю пагрузіла ў яго мандрагору, пакінуўшы на паверхні толькі пук лісця. Скончыўшы працу, яна абтрэсла рукі, узняла ўгору вялікі палец і зняла ўласныя навушнікі.

- Нашыя мандрагоры цяпер толькі саджанцы і іх галас не здольны забіць вас,- спакойна, быццам зрабіла штосьці цалкам звычайнае, накшталт палівання бегоніі, паведаміла

Спроўт,- аднак ён ЗДОЛЬНЫ накаўтаваць вас на колькі гадзін. А паколькі, як я разумею, вы не жадаеце згубіць свой першы школьны дзень, упэўніцеся, што вашы навушнікі находзяцца на патрэбным месцы. Я пакажу вам, калі надыйдзе час скончыць заняткі.

- Па чатыры чалавекі ў кожнага латка... вось тут будзе вялізны запас горшчыкаў... а вунь там ў мяшку вы знойдзеце кампост... і яшчэ, сцеражыцеся атрутных тэнтакулаў у іх пачалі прарэзвацца зубкі.

Кажучы гэта, Спроўт пляснула па калючай цёмна чырвонай расліне, якая ўпотай цягнула да яе пляча сваё доўгае шчупальца.

Ля латка да Гары, Рона і Герміёны далучыўся нейкі кучаравы хлопчык з Хафлпафу, якога Гары ведаў на твар, але ніколі з ім не меў стасункаў.

- Джасцін Фінч-Флечлі,- ззяючы назваўся ён і патрос Гарыну руку.- А вас ўсіх я, зразумела ж, ведаю, ты наш вядомы Гары Потэр... ты – Герміёна Грэйнджэр... лепшая вучаніца па ўсіх дысцыплінах...- Герміёна заззяла, калі Джасцін трос яе руку...- А ты Рон Візлі. Гэта ж табе належыў той лятаючы аўтамабіль?

Рон нават не ўсміхнуўся. З яго галавы пэўна дагэтуль не знікла памяць аб лямантоўцы.

- Гэты Локхарт – ён супэр, згодны?- шчаслiва прамовiў Джасцiн, напаўняючы разам з тройцай горшыкі кампостам з драконавага гною.- Ён жахліва адважны дзядзька. Чыталі яго кнігі? Я б з жаху памёр, калі б мяне ваўкалак загнаў у тэлефонную будку, а ён ані, ён заставаўся хладнакроўным... а потым бац... гэта проста ФАНТАСТЫКА.

- Бацькі мяне ў Ітан жадалі накіраваць, але ж я так задаволен што замест Ітана трапіў у Хогвартс. Не, зразумела, маці была крыху расчаравана, аднак калі я даў ёй пачытаць кнігі Локхарта, думаю яна зразумела наколькі карысна, калі ў сям’і ёсць адукаваны чараўнік...

Аднак адказаць штосьці было немагчыма. Яны зноў начапілі навушнікі на галовы і засяродзіліся на перасадцы мандрагораў. У руках прафесарцы Спроўт гэта выглядала як вельмі лёгкі занятак, але на самой справе ўсё было даволі складана. Мандрагорам аднолькава не падабалася, і калі іх выцягвалі з зямлі, і калі спрабавалі пасадзіць ў горшык з кампостам. Яны круціліся, штурхаліся нагамі, махалі ў паветры маленечкімі кулачкамі і спрабавалі кусіць аб’явіўшыміся ўжо вострымі зубкамі; Гары згубіў хвілінаў дзесяць, запіхваючы ў горшык адну асабліва тлустую мандрагору.

Калі заняткі скончыліся, Гары, як і ўсе астатнія быў узапрэлым, яго цела балела, а сам ён з галавы да ног быў перапэцканы зямлёю. Па сігнале прафесарцы Спроўт, яны знялі навушнікі і накіраваліся да замку, каб хуценька абмыцца, пераапрануцца і паспяшаць разам з астатнімі грыфіндорцамі на заняткі па ператварэннях.

Заняткі ў прафесаркі МакГонагал аніколі не былі лёгкімі, але сёння праца была асабліва цяжкай. Усё, што Гары вывучыў у мінулым годзе за лета выветрылася з яго галавы. Замест таго, каб ператварыць жука на гузік, хлопчык толькі пазаймаўся з ім фізкультурай, бо той ўвесь час імкліва збягаў ад яго палачкі.

Але яшчэ горшыя праблемы былі ў Рона. Ён заматаў палачку запазычаным у кагосці чараскотчам, але яна здаецца ўжо не падлягала рэмонту. Увесь час яна трашчала і сыпала іскрамі, а калі Рон, усё ткі паспрабаваў ператварыць свайго жука, таго ахутаў густы шэры дым, пахлы стухлымі яйкамі. Нарэшце, Рон, выпаткова раздавіў свайго жука лакцём і быў вымушаны папрасіць у прафесаркі МакГонагал новага, ад чаго яна ані не была задаволена.

З палёгкаю Гары пачуў званочак, запрашаўшы ўсіх на абед, яго мозг цяпер, больш нагадваў выціснутую губку. Усе навучэнцы пакінулі кабінэт у якім застаўся адзін толькі Рон, што працягваў апантана калаціць сваёй палачкай па парце.

- Дурная... анінашто не здольная... штука...

- Слухай, напішы дадому, каб цябе набылі новую,- прапанаваў Гары, калі палачка чарговы раз стрэліла ў паветра феервергам іскрынак.

- І атрымаць новую лямантоўку,- запіхаўшы, працягваючую шыпець палачку ў сваю торбу.- «ГЭТА ЦАЛКАМ ТВАЯ ВІНА, У ТЫМ ШТО ПАЛАЧКА БЫЛА ЗЛАМАНА...»

Ронаў настрой ані не палепшыўся і калі спусціўшыся на абед, яны сустрэлі Герміёну, якая паказала ім колькі ідэальных гузікаў для паліто, якія яна стварыла падчас заняткаў.

- А што ў нас пасля абеду?- паспешліва мянняючы тэму, спытаўся Гары.

- Абарона ад Цёмных мастацтваў,- імгненна выпаліла Герміёна.

- НАВОШТА,- схапіўшы яе графік, спытаўся Рон,- ты пазначыла ўсе локхартаўскія лекцыі маленечкімі сэрцанькамі?

Герміёна вырвала ў Рона свой графік, а яе тварык пачырванеў ад злосці.

Скончыўшы абедаць, сябры выйшлі надворак. Герміёна, прысеўшы на каменныя прыступкі, уткнула носа ўва «Угалоп з упірамі», а Гары з Ронам прыняліся разважаць аб квідытчы. Прамінула колькі хвілінаў іхнай размовы, калі Гары адчуў, што за ім нехта пільна назірае. Аглядзеўшыся, Гары ўбачыў маленечкага хлопчыка з мышыннага колеру валасамі, якога ўчора бачыў праз вакно з Сартавальным капелюшом на галаве. У сваіх ручках малы сціскаў штосьць нагадваючае звычайную маглаўскую фатакамеру. Калі хлопчык зразумеў, што Гары заўважыў яго, твар малога імгненна зрабіўся яскрава чырвоным.

- Як маесся, Гары? Я... я – Колін Крыві,- ледзь дыхаючы прамовіў ён і зрабіў колькі крокаў наперад.- Я таксама з Грыфіндору. Ці ты не будзеш... супраць, калі я цябе... я цябе сфатаграфую?- вымавіў Колін і падняў камеру да вачэй.

- Сфатаграфуеш?- абыякава перапытаў у яго Гары.

- Ну, каб мне паверылі, што мы з табой сапраўды знаёмы,- з прагнасцю ў голасе прамовіў Колін, працягваючы набліжацца да Гары.- Я шмат пра цябе ведаю, а яшчэ больш мне расказалі іншыя. Аб тым як ты пераЖыў напад Сам Ведаеш Каго, як ён паспрабаваў цябе забіць, а знік сам, а ў цябе на ілбе застаўся шнар-маланка,- вочы малога стрэлілі кудысьці пад Гарыну чэлку.- А хлопчык з майго пакою, расказаў, што калі апрацаваць здымак у адпаведным зеллі, людзі на ім будуць РУХАЦЦА.- дрыжачы ад узбуджэння, Колін набраў у грудзі пабольш паветра і забалбатаў,- Тут так ВЫДАТНА. Я ніколі не здагадваўся, што ўсе тыя дзівосы, што са мной дзеяцца – сапраўдная магія, ажно пакуль не атрымаў ліст з Хогвартса. Мой тата малочнік, ён таксама ня мог у гэта паверыць. Так што цяпер я раблю шмат фатаграфій, каб мажліва было адправіць іх дадому. Так цудоўна, што я магу быць адным з вас...- з мальбой у вачах ён паглядзеў на Гары...- а можа твой сябра сфатаграфуе нас разам? А потым ты падпішаш здымак.

- ПАДПІСАЦЬ ЗДЫМАК? Ты раздаеш ФОТКІ З АЎТОГРАФАМІ, Потэр?

Гучны і з’едлівы голас Драко Малфоя разнесся па ўсяму двары, ён устаў ззаду Коліна, а па баках ад Малфоя, як і заўсёды ў Хогвартсе, усталі яго паплечнікі Крэйб і Гойл.

- Усім ўстаць у чаргу!- крыкнуў Малфой згрудзіўшымся у двары навучэнцам,- Зараз Гары Потэр будзе раздаваць фоткі з аўтографамі!

- Нават не збіраўся,- сціскаючы кулакі, раззлавана прамовіў Гары.- Заткніся, Малфой.

- Ты папросту зайздросціш,- піснуў Колін, чыё цельца было таўшчынёй з шыю Крэйба.

- ЗАЙЗДРОШЧУ?- спытаўся Малфой, усе хто быў знадворку прыслухаліся да размовы, таму Драко больш ня трэба было крычаць.- Чаму зайздросціць? Я не хацеў бы мець шнар праз усю галаву. І не лічу, што калі цябе раскавялілі чэрап, ты павінен зрабіцца некім асаблівым.

Крэйб з Гойлам пачалі тупа гігікаць.

- Нажрыся смаўжоў, Малфой,- разлютавана сказаў Рон. Крэйб кінуў гігікаць і, паціраючы агромістыя косткі на сваіх кулаках, пагрозліва рушыў да хлопца.

- Асцеражыся, Візлі,- здзекліва ўсміхнуўся Малфой.- Ты не павінен трапляць у непрыемнасці, ці то твая матулька прыедзе і забярэ цябе са школы...- Малфой зрабіў свой голас высокім і пранізлівым,- КАЛІ ХОЦЬ РАЗ ТЫ ДАЗВОЛІШ СЯБЕ ВЫКІНУЦЬ ШТОСЬ ПАДОБНАЕ...

Гурток сізэрынскіх пяцігодак, стаялых непадалёк голасна зарагатаў.

- А ты жадаў бы, Візлі, мець потэраву фотку з аўтографам,- пахмыльнуўся Малфой.- Яна ж будзе каштаваць больш за ўсю вашу хату.

Рон выхапіў сваю замотаную чараскотчам палачку, але тут Герміёна гучна зачыніла «Угалоп з упірамі» і прашапатала яму:

- Ціха!

- Што тут тварыцца?- праз імгненне далунаў да іх голас Гільдэроя Локхарта, які хутка крочыў у іх бок, так што яго бірузовая мантыя развівалася ззаду.- Што тут тварыцца? Хто тут фота з аўтографамі раздае?

Гары хацеў ужо сказаць нешта, але Локхарт схапіў яго за плечы і вясёла прароў:

- Ня трэба было і пытацца! Гэта зноўку ты, Гары!

Сціснуты Локхартам і палаючы са знявагі, Гары ўбачыў як Мафой усміхаючыся слізнуў у натоўп.

- Хадзем сюды, містэр Крыві,- ззяючы, паклікаў Коліна Локхарт.- Падвойны партрэт, гэта будзе больш чым справядліва, і мы АБОДВА падпішам яго табе.

Колін няўмела падняў камеру, зрабіў здымак і тут адчуўся звон, заклікаючы ўсіх на працяг заняткаў.

- Ужо час, цяпер вам трэба быць там,- клікнуў Локхарт згрудзіўшымся навучэнцам і сам накіраваўся да замку, моцна прыціскаючы да сябе Гары, які цяпер вельмі хацеў добра ведаць якую-небудзь знікальную замову.

- Выслухай словы старэйшага сябра, Гары,- па бацькоўску прамовіў прафесар, калі яны ўваходзілі ў школу праз бакавы праход.- Сёння я абараніў цябе, перад юным Крыві... ён фатаграфаваў цябе разам са мной і цяпер твае школьныя сябрукі не будуць лічыць, што ты выбэндываешся...

Не слухаючы Гарыны спробы апраўдацца, Локхарт, імкліва пацягнуў хлопчыка ўздоўж усыпанага, вытарапіўшыміся на іх, вучнямі калідора, а потым сходамі на наступны паверх.

- Раздаваць карткі з аўтографамі на даденым этапе тваёй кар'еры – сапраўднае глупства... і калі казаць шчыра, Гары, выглядае крыху па-позерску. Зразумела ж, прыйдзе час, калі ты, як і я сам, ані не будзеш у стане на вуліцу выйсці не маючы з сабой пачак-другі, але...- прафесар злёгку гігікнуў,- я не думаю, што у тваім жыцці гэты час прыйшоў.

Разам, яны падыйшлі да Локхартаўскай класы і толькі тады прафесар адпусціў Гары. Хлопчык, хістнуўшы мантыяй, адразу ж кінуўся ў самы канец аўдыторыі і імкліва адгарадзіўся ад сапраўднага Локхарта яго кнігамі.

Тым часам ў класу завіталі астатнія вучні і Рон з Герміёнаю далучыліся да Гары.

- На тваім твары можна яечню смажыць,- паведаміў Рон.- І для цябе будзе лепш, калі гэты Крыві не аб'ядваецца з Джыні, ці то разам яны створаць твой фан-клуб.

- Заткніся!- адгыркнуўся Гары. Ён спадзяваўся што, Локхарт аб фан-клубе не пачуў.

Калі нарэшце апошні вучань заняў свае месца, Локхарт адкашляўся і ў класе запанавала цішыня. Прафесар нахіліўся, ўзяў асобнік «Трывання з тролямі» у Нэвіла Лонгботама і паказаў усім прысутным сваю ўласную падміргваючую выяву на вокладцы.

- Я,- кажучы на выяву і таксама падміргнуўшы,- Гільдэрой Локхарт, кавалер Ордэна Мерліна трэцяй ступені, ганаровы сябра Лігі Абароны ад Цёмных мастацтваў і пяціразовы прызёр прэміі «Вядзьмарскага тыднёвіка» за самую ачаравальную ўсмешку... але пра гэта сёння гаворкі ня будзе. Тым больш што ані не сваёй ЎСМЕШКАЙ я перамог беншы з Бандана!

Локхарт чакаў пачуць гучны смех, але толькі ўбачыў колькі ўсміхаючыхся вучняў.

- Бачу, усе вы набылі мае кнігі... гэта добра. Таму сёння я прапаную распачаць заняткі з невялічкай віктарыны. Нічога цяжкага... я толькі праверу, наколькі добра вы іх чыталі і ці шмат зразумелі...

Ён раздаў прысутным лісткі з пытаннямі, потым зноў вярнуўся на сваё месца і сказаў:

- На выкананне працы вам даецца трыццаць хвілінаў. Увага... пачынаем!

Зірнуўшы ў свой лісток, Гары прачытаў наступныя пытанні:

*Любімы колер Гільдэроя Локхарта?*

*Запаветная мроя Гільдэроя Локхарта?*

*Што на ваш погляд з'яўляецца найвялікшым дасягненнем Гільдэроя Локхарта на сённяшні дзень?*

І яшчэ тры старонкі падобных пытанняў, ажно да наступнага:

*54. Калі Гільдэрой Локхарт святкуе свой дзень нараджэння і які падарунак лічыў бы для сябе самым лепшым?*

Прамінула поўгадзіны. Локхарт сабраў лісткі і пачаў хуценька праглядаць іх перад вучнямі.

- Ай-яй-яй... амаль ніхто з вас не прыпомніў, што мой любімы колер – бэзавы. А я пісаў аб гэтым у «Зімоўцы з Зюзям». А калі б вы больш уважліва чыталі бы «Вандроўку з ваўкалакамі» вы б прыпомнілі, што ў дванаццатым раздзеле я кажу, што лепшым у свеце

падарункам для мяне была бы гармонія паміж магічным і немагічным людам... хаця ад вялікай бутэлькі старога огдэнскага агневіскі я б таксама не адмовіўся!

Локхарт абдараваў іх чарговай круцельскай усмешкай. Цяпер Рон пачаў глядзець на яго з недаверам на твары, а  Шымас Фініган і Дын Томас, што сядзелі наперадзе, пачалі трэсціся ад бязгучнага смеху. Герміёна ж наадварот слухала яго з яшчэ большай увагай і нават ўздрыганулася, калі Локхарт вымавіў яе імя.

- ... а вось міс Герміёна Грэйнджэр добра ведае,- Локхарт адняў і паказаў усім Герміёнін лісток,- што мая запаветная мроя – пазбавіць свет ад зла і адкрыць крамку па продажу зелляў дзеля догляду за валоссем, майго ўласнага вынаходніцтва... малайчынка! Сапраўды так! Найвышэйшая адзнака! Хто з вас міс Герміёна Грэйнджэр?

У паветра ўзнялася дрыжачая рука Герміёны.

- Выдатна!- заззяў Локхарт.- Цалкам выдатна! Грыфіндор атрымлівае дзесяць балаў! А цяпер да справы...

Прафесар нахіліўся і ўзгруваздзіў на стол вялізную, пакрытую цёмнай тканінаю клетку.

- А зараз... будзьце вельмі асцярожнымі! Мая праца навучыць вас змагацца з самымі брыдотнымі істотамі ў чарадзейным свеце! Цяпер, у гэтым пакоі, вы воч-на-воч сутыкнецеся з самай вялізнай небяспекай за ўсё ваша жыццё. Аднак ведайце, анічога благога з вамі не здарыцца, пакуль з вамі я. Усё, аб чым я вас зараз папрашу – захоўвайце спакой.

Перасіліўшы сам сябе, Гары вызірнуў з-за стоса кніг, каб клетку было лепей бачна. Тым часам Локхарт паклаў руку на тканіну. Дын і Шымас кінулі рагатаць, а на першым радзе, Нэвіл сцяўся на сваім крэсле.

- А цяпер, я прашу вас не крычаць,- сцішыўшы голас, прамовіў прафесар.- Гэта можа справакаваць іх.

Згрудзіўшыеся нават кінулі дыхаць. Локхарт рыўцоў скінуў з клеткі покрыва.

- Такім чынам,- тэатральна прамовіў ён,- вось яны – СВЕЖАЗЛОЎЛЕНЫЯ КАРНУОЛЬСКІЯ ПІКСІ.

Шымас Фініган ня быў болей у стане стрымліваць сябе. Ён так пырснуў са смеху, што нават Локхарт не змог пераблытаць гэты гук з жахлівым крыкам.

- Нават так?- пасміхаючыся спытаўся ён у хлопца.

- Дык, гэта іх... вы лічыце для нас... НЕБЯСПЕЧНЫМІ?- працягваў рагатаць Шымас.

- Не трэба быць гэткім упартым!- раздражнённа хістнуўшы на Фінігана рукой, заявіў Локхарт.- Гэта па-чартоўску хітрыя маленькія паскуднікі!

Піксі, былі істотамі васьмі цаляў у вышыню і скурай колеру электрык. Яны мелі завостраныя твары і іх неверагодна пранізлівыя галасы нагадвалі сварку ў вялізнай зграі хвалістых папугайчыкаў. Як толькі покрыва з клеткі было знята, піксі імгненна паднялі гоман, прыняліся гойсаць па клетцы, бразгатаць кратамі і цягнуць сваі дзікія тварыкі да бліжэйшых людзей.

- А цяпер!- гучна прамовіў Локхарт і адчыніў клетку.- Паглядзім як вы з імі зладзіце!

Пачаўся сапраўдны гармідар. Піксі, з хуткасцю ракеты, разнесліся па класе. Два з іх схапілі Нэвіла за вушы і паднялі ў паветра. Колькі стрэлілі ў вакно асыпаўшы двор дажджом разбітага шкла. Астатнія ж прыняліся разбураць класу з моцаю большаю за ашалелага насарога. Піксі схапілі са сталоў чарніліцы і прыняліся распырсківаць іх

паўсюль, пачалі рваць кнігі і пергаменты, сарвалі са сцен карціны, перавярнулі сметнік, схапіўшы кнігі і торбы вучняў прыняліся кідаць іх у разбітае вакно. Палова класа схавалася ад іх пад партамі, а Нэвіл гайдаўся пад столяй на кандэлябры

- Ну што ж вы, давайце, давайце, заганіце іх у клетку,- прароў Локхарт.- Гэта ж усяго толькі піксі...

Потым падкасаў рукавы, ўзняў палачку і ўскрыкнуў:

- Пэскіпіксі Пэстэрномі!

Аднак яго замова ані не падзейнічала на піксі. Адзін з іх падляцеў да Локхарта, выхапіў з яго рук палачку і выкінуў у вакно. Локхарт зглынуў і залез пад свой стол, ледзь пазбегнуўшы сутыкнення з Нэвілам, які праз імгненне паваліўся на падлогу разам з кандэлябрам.

Зазвінеў звон, што абвяшчаў заканчэнне заняткаў. Вучні, ашалеўшы, кінуліся да дзвярэй. Як толькі зрабілася адносна ціха, Локхарт вылез з-пад стала, выпрастаўся і заўважыўшы ля дзвярэй Гары, Рона і Герміёну сказаў.

- А вас трох я б папрасіў застацца і загнаць піксі ў клетку.

Прамовіўшы гэта, Локхарт кінуўся міма іх да дзвярэй і хутка зачыніў іх за сабой.

- І ці можна пасля гэтага ВЕРЫЦЬ яму?- зароў Рон, бо адзін з піксі кусіў яго за вуха.

- Ён толькі хацеў, каб мы атрымалі сёй-той практычны вопыт,- абязрушыўшы адразу двух піксі даволі разумнай замоваю замарозкі і накіраваўшы іх у клетку, прамовіла Герміёна.

- ПРАКТЫЧНЫ ВОПЫТ?- усклікнуў Гары, ён паспрабаваў схапіць аднаго з піксі, але той хутка адскочыў і паказаў хлопчыку языка.- Герміёна, ён сам ані ня ведаў, як іх адолець.

- Не гавары ерунды,- адказала Герміёна,- Ці ты не чытаў яго кнігі... бачыш, колькі дзівосных спраў ён зрабіў...

- Дакладней СКАЗАЎ, што зрабіў,- прамармытаў Рон.

## *Глеекроўкі і Галасы*

На працягу колькіх наступных дзён у Гары безліч разоў атрымлівалася пазбегнуць сустрэчы з Локхартам, пабачыўшы таго ў калідоры. Нашмат цяжэй было хавацца ад Коліна Крыві, бо той, здаецца, добра вывучыў Гарын графік заняткаў. Складалася ўражанне, быццам анішто не прыносіла малому гэткага задавальнення, як разоў пяць-шэсць на дзень пытацца ў Гары, як той маецца і чуць у адказ штораз больш раздражнённае «Здароўку, Колін».

Хэдвіг усё яшчэ злавалася на Гары, з-за таго што здарылася падчас палёту, а Ронава палачка прадэманстравала вышыню сваёй няўпраўнасці, калі ў пятніцу ранкам, падчас уроку замоваў, яна стрэліла з Ронавых рук і трапіла маленечкаму старому прафесару Флітвіку раўнютка між вачэй, ад чаго там адразу ж пачала пульсаваць вялізная зялёная скула. І вось так, пакрысе Гары, нарэшце, дачакаўся першых выходных, чым быў бязмерна задаволены. Разам з Ронам і Герміёнаю, яны планавалі суботняй ранніцай наведаць Хагрыда, але на золку Гары быў пабуджаны Оліверам Вудам, капітанам грыфіндорскай квідытчнай каманды.

- Штоздарся?- праз сон спытаўся Гары.

- Квідытчная трэніроўка!- адказаў Вуд.- Давай, прачынайся!

Гары, крадком зірнуў у вакно. Залатое з ружовым неба было укрыта лёгкай смугой. Цяпер, калі ён, нарэшце прачнуўся, Гары аніяк не мог зразумець, як ён мог спаць пад той гоман, які тварылі птушкі, гойсаючыя за вакном.

- Олівер,- прабурчаў Гары,- яшчэ так зарана.

- Канечне,- адказаў Вуд – высокі дужы хлопец, вочы якога блішчэлі з энтузіязмам вар'ята.- Гэта частка маёй новай праграмы трэніровак. Давай, хапай мятлу і пайшлі,- з апантанасцю працягваў ён.- Аніводная каманда яшчэ не пачала трэніравацца, у гэтым годзе мы будзем першымі...

Раскрыўшыся і крыху дрыжучы, Гары падняўся з ложка і прыняўся шукаць сваю квідытчную мантыю.

- Малайца,- падсумаваў Вуд,- сустрэнемся на поле праз пятнаццаць хвілінаў.

Нарэшце, пунсовая квідытчная форма была знойдзена і апранута, а каб не змерзнуць па дарозе, на яе Гары дадаткова начапіў плашч. Потым хуценька чыркануўшы Рону цыдулку, каб той ведаў куды ён падзеўся, Гары паклаў на плячо свой Німбус 2000 і па вінтавых сходах спусціўся ў гасцёўню. Хлопчык ужо амаль дасягнуў адтуліны за партрэтам, як пачуў, што за яго спіной нешта грукоча. Абярнуўшыся, Гары ўбачыў, як па вінтавых сходах, як ачумелы нясецца, сціскаючы нешта ў руцэ, Колін з шалена хістаючайся на шыі камерай.

- Я чуў, як нехта тут на сходах вымаўляе тваё імя, Гары! Глядзі, што я маю! Я зрабіў карткі і хацеў паказаць табе...

Гары збянтэжана паглядзеў на фота, якім Колін размахваў перад яго носам.

На рухаючымся здымку, ён убачыў Локхарта, які моцна зацягваў у кадр нечую руку, у якой Гары пазнаў, сваю ўласную. Хлопчык з задавальненнем бачыў, як яго фатаграфічная

копія, дала неблагі бой, не жадаючы трапляць у кадр. Нарэшце, Локхарт на здымку здаўся і цяжка дыхаючы прысеў, абапёршыся на белы край фатакарткі.

- Ці можа ты яго падпішаш?- з нецярплівасцю папытаў малы.

- Ані,- рашуча адказаў Гары, азіраючыся, каб упэўніцца, што ў пакоі анікога няма.- Прабач, Колін, але я спяшаюся... квідытчная трэніроўка.

Ён зрабіў крок праз адтуліну.

- Аніўто сабе!Пачакай мяне! Я ніколі ранней не бачыў, як гуляюць у квідытч!

Колін ускараскаўся праз адтуліну следам за Гары.

- На трэніроўке табе не будзе надта цікава,- хутка паведаміў Гары, але Колін не слухаў яго, а толькі ззяючы тварам ішоў побач.

- Гары, ты ж самы малады гулец сярод грыфіндорцаў за апошнія сто год, так?- шпарка перабіраючы нагамі, спытаўся Колін.- Ты напэўна бліскуча гуляеш. А я вось ніколі не лятаў. Гэта цяжка? А гэта твая ўласная мятла? А яна самая лепшая з тых што есць?

Гары ня ведаў як пазбавіцца ад Коліна, які нагадваў нейкі вельмі гаманкі цень.

- А я сапраўды анічагосінька не разумею ў квідытчы,- ўздыхнуў Колін.- Там насамрэч чатыры мячы? І што – два з іх лятаюць і спрабуюць збіць гульцоў з мётлаў, так?

- Так,- упакорыўшыся, таму што цяпер яму прыйдзецца тлумачыць маломy квідытчныя правілы, пакутліва адказаў Гары.- Іх называюць бладжэрамі. Аднак, у кожнай камандзе ёсць бітакі, якія адбіваюць іх ад гульцоў сваёй каманды ў бок супернікаў сваімі бітамі. У грыфіндорскай камандзе бітакі – Фрэд і Джордж Візлі.

- А іншыя мячы навошта?- даганяючы Гары, на якога толькі што глядзеў раззявіўны рота, спытаўся Колін.

- Ну, яшчэ ёсць квафл... ён вялізны і чырвоны... ім забіваюць галы. Дзеля гэтага ў камандзе ёсць тры перасьледнікі, яны кідаюць квафла адно аднаму і спрабуюць закінуць іх у адно з трох колаў варот – гэта такія вялізныя слупы з колам на вяршыні – на баку суперніка.

- А чацвёрты мяч?

- Чацвёрты – гэта залаты сніч,- адказаў Гары,- ён вельмі маленькі, вельмі хуткі і яго надта складана злавіць. Але ў кожнай камандзе ёсць паляўнічы, якому даручана гэтая справа і пакуль сніч не будзе злоўлены – гульня не скончыцца. І паляўнічы, які здабудзе сніч – прынясе сваёй камандзе сто пяцьдзесят балаў.

- І грыфіндорскі паляўнічы – гэта ты, так?- з багавейнасцю прамовіў Колін.

- Так,- паведаміў малому Гары, яны выйшлі з замка і пайшлі па пакрытаму расой траўніку.- А яшчэ ў кожнай камандзе ёсць наглядчык і ён абараняе ад супернікаў колы варот. Ну, вось і усё.

Аднак Колін працягваў бамбардыяваць Гары пытаннямі ўвесь час пакуль яны спускаліся па траўніку да квідытчнага поля. Нарэшце, у Гары атрымалася адкараскацца ад малога увойдучы ў распранальню. З-за двярэй данёсся колінаў піск.

- Гары, я пайду на трыбуны і займу лепшае месца!- сказаўшы гэта, Крыві сыйшоў.

Астатнія грыфіндорскія гульцы ўжо былі на месцы. Адзіным чалавекам, які выглядаў па сапраўднаму прачнуўшымся быў толькі Вуд. Фрэд і Джордж Візлі з апухлымі вачыма і ўскудлачанымі валасамі сядзелі побач з чатырохгодкай Алісіяй Спінэт, што вадзіла

борухі, прытуліўшыся спіною да сцяны. А сядзелыя насупраць іх праследніцы Кэці Бэл і Анджэліна Джонсан пазіхалі, седзячы плячо ў плячо адна да адной.

- А вось і ты, Гары!- хутка прамовіў Вуд.- Ты чаго затрымаўся? Добра, цяпер, я хацеў бы, перш чым мы пойдзем на поле, караценька вам аб усім распавесці. Усё лета я правёў, распрацоўваючы новую праграму трэніровак, якая, як я сапраўды думаю, дапаможа нам вызначыцца...

Вуд дастаў агромістую схему квідытчнага поля на якой было разнакаляровымі чарнілами намалявана мноства ліній, стрэлак і крыжыкаў. Ён пастукаў па схеме чароўнай палачкай і стрэлкі, накшталт разнакаляровых вусеняў, пачалі рухацца. Як толькі Вуд распачаў тлумачэнні сваёй новай тактыкі, галава Фрэда апусцілася на плячо Алісіі і ён даў храпу.

На разгляд першай схемы ў Вуда пайшло дваццаць хвілінаў, аднак пад ёй была другая з пад якой выглядала трэцця. Гары аслупянеў, а Вуд усё працягваў і працягваў роўна бубніць.

- Ну,- рэзка прамовіў Вуд, аддцягнуўшы Гары ад фантазіявання, што ён зараз еў бы на сняданак, калі б застаўся ў замку.- Усім усё зразумела? Можа ў каго ёсць пытанні?

- Адно пытанне, Олівер,- прамовіў, раптам прачнуўшыся, Джордж.- Чаму ты не распавёў усё гэта ўчора, калі мы не спалі?

Вуд рассвірапеў.

- Так, а цяпер паслухайце вы ўсе,- раззлавана сказаў ён,- Мы павінны былі выйграць кубак яшчэ ў мінулым годзе. Таму што мы сапраўды лепшая каманда. Толькі нажаль у сілу абставінаў незалежных ад нас...

Гары вінавата закруціўся на крэсле. Падчас мінулагодняга фіналу ён знепрытомлены ляжаў у шпітальным крыле, таму грыфіндорцы гралі ў скарочаным складзе і панеслі горшую паразу за апошнія тры стагоддзі.

Вуду спатрэбілася хвіліна-другая, каб зноў завалодаць сабой. Успамін аб паразе ўсё яшчэ прыносіў яму невыносны боль.

- Так, у гэтым годзе мы будзем трэніравацца яшчэ больш чым раней... Добра, а цяпер давайце пойдзем на поле і на практыцы разгледзім тое, што спазналі ў тэорыі!- усклікнуў Вуд і кінуўся з распранальні. Следам за ім на нягнуткіх нагах, працягваючы пазіхаць, рушылі гульцы яго каманды.

Калі яны выйшлі надворак сонца ўжо ўзяло свае правы і толькі сям-там па над стадыёнам віселі асобныя туманныя шматкі. На трыбунах Гары заўважыў сядзелых там Рона з Герміёнай.

- А хіба вы яшчэ не скончылі трэніроўку?- з недаверам крыкнуў Рон.

- Дык мы яшчэ і не пачыналі,- адказаў Гары з зайздрасцю пазіраючы на тосты з мармеладам, якія Рон і Герміёна прынеслі з галоўнай залы.- Вуд разглядаў з намі новую тактыку гульні.

Ён ускочыў на мятлу, адштурхнуўся ад зямлі і ўзляцеў у паветра. Халоднае ранішняе надвор’е кінуўшыся яму ў твар, абудзіла хлопчыка нашмат лепей за доўгія цягучыя размовы Вуда. Вярнуўшыся на квідытчнае поле, Гары зноў пачаў выдатна сябе адчуваць. Амаль адразу ж ён навыперадкі з блізнятам зрабіў кола-другое ўздоўж стадыёну.

- Не разумею,- зайшоўшы на паварот прамовіў Фрэд,- што там за дзіўнае пстрыканне?

Гары зірнуў на трыбуны. На самым верхнім радзе, падняўшы фотаапарат, стаяў Колін і рабіў здымак за здымкам, напаўняючы пусты стадыён гучным стрыканнем.

- Гары! Паглядзі ў мой бок!- пранізліва крыкнуў ён.

- Хто гэта?- спытаўся Фрэд.

- Ані ня ведаю,- схлусіў Гары і, набраўшы хуткасці, адляцеў як мага далей ад Коліна.

- Што там тварыцца?- падляцеўшы да іх, пахмурліва прамовіў Вуд,- Чаму гэты першагодка нас здымае? Мне гэта не падабаецца. Ён можа быць шпіёнам, якога даслаў Слізэрын, каб даведацца аб нашай новай праграме трэніровак.

- Ён з Грыфіндора,- хутка адказаў Гары.

- І слізэрынцам, Олівер, не патрэбна аніякіх шпіёнаў,- дадаў Джордж.

- Што ты хочаш гэтым сказаць?- у раздражненні спытаўся Вуд.

- То, што яны ўсё бачаць уласнымі вачыма?- кажучы на поле, адказаў Джордж.

Колькі чалавек у зялёных мантыях крочылі праз поле, трымаючы на плячах мётлы.

- Ня веру сваім вачам,- у раздражненні прасыкаў Вуд.- Я ж замовіў поле на ўвесь дзень! Трэба ўсё высветліць!

Кулею, Вуд панёсся да зямлі, у сваёй лютасці прызямліўшыся закрута, таму ледзь не паваліўся, калі злязаў з мятлы. Паблізу ад яго селі Гары, Фрэд і Джордж.

- Флінт!- кінуўшыся на слізэрынскага капітана, закрычаў Олівер.- Зараз наш час на трэніроўку! Мы асабіста замовілі стадыён! Так што прыбірайцеся адсюль!

Маркус Флінт быў агромісцей нават за Вуда. Ён зірнуў на грыфіндорскага капітана сваім тролепадобным тварам і адказаў:

- Тут хопіць месца на ўсіх, Вуд.

На поле прызямліліся Анджэліна, Алісія і Кэці. У слізэрынскай камандзе дзяўчатаў не было... плячо ў плячо на грыфіндорскую каманду злавесна ўсміхаючыся глядзелі адны толькі хлопцы.

- Але ж я замовіў гэта поле!- пырскаючы ад лютасці сліной закрычаў Вуд.- Замовіў!

- А, ты пра гэта,- адказаў Флінт,- але мы таксама маем спецыяльны дазвол падпісаны прафесарам Снэйпам

Флінт працягнуў яму цыдулку:

«Я, прафесар С. Снэйп даю слізэрынскай камандзе дазвол на трэніроўку на квідытчным поле сённяшнім днём, у сувязі з неабходнасцю ўвеські у склад каманды новага паляўнічага.»

- У вас новы паляўнічы?- спытаўся збіты з ладу Вуд.- І дзе ж ён?

З-за спінаў шасці вялічэзных постацяў выйшаў сёмы – маленечкі хлопчык з бледным, завостранным тварам. Гэта быў Драко Малфой.

- Ці ты часам не сын Люцыюса Малфоя?- з непрыязнасцю паглядаючы на Драко, спытаўся Фрэд.

- Добра, што ўзгадаў аб Драковым бацьку,- прамовіў Флінт, ён і ўся слізэрынская каманда ўсміхнуліся яшчэ шырэй.- Калі жадаеце, паглядзіце, які шчодры падарунак ён зрабіў камандзе Сізэрыну.

Усё сямёра паказалі грыфіндорцам сваі мётлы. Сем навюценькіх лакіраваных тронкаў з біскучымі шыльдамі «Німбус 2001» заблішчэлі ў праменні ранішняга сонца перад насамі грыфіндорцаў.

- Найноўшая мадэль, мінулага месяца выпуску,- нядбайна абтрасаючы пылінкі з тронку, паведаміў Флінт.- У колькі разоў хутчэйшая за папярэднюю двухтысячную серыю. А што датычыцца Перамогаў,- ён брыдотна ўсміхнуўся блізнятам Фрэду і Джорджу, сціскаючым у руках тронкі сваіх Перамогаў 5,- новыя Німбусы на галаву іх разаб'юць.

Грыфіндорцы стаялі ані ня ведаючы што і адказаць. Драко Малфой усміхнуўся і яго халодныя вочкі ператварыліся на дзве шчыліны.

- О, глядзіце,- парушыў цішыню Флінт,- заўзятары на поле.

Праз поле, каб паглядзець што адбываецца, у іх бок несліся Рон і Герміёна.

- Што здарылася?- спыталіся Рон у Гары.- Чаму не трэніруецеся? І што тут робіць ЁН?

Рон зірнуў на апранутага у слізэрынскую квідытчную мантыю, Малфоя.

- Я новы слізэрынскі паляўнічы, Візлі,- апурыста заявіў Драко,- А прысутныя папросту захапляліся новымі мётламі, якія набыў для каманды мой бацька.

Раззявіўшы рота, Рон паглядзеў на сем найвыдатнейшых мётлаў.

- Пышныя, ці не так?- заспакоена сказаў Малфой,- Але магчыма і ў Грыфіндору знойдзецца крыху золата для набыцця такіх. Прапаную разыграць права між музэямі на атрыманне ў сваю калекцыю вашых Перамог 5.

Слізэрынская каманда ажно завыла ад рогату.

- Затое, аніхто ў грыфіндорскай камандзе не НАБЫВАЎ сабе месца,- рэзка ўціснулася ў размову Герміёна.- КОЖНЫ атрымаў яго толькі за свой талент.

Чапурыстасць імгненна знікла з Малфоева твару.

- Тваім меркаваннем аніхто не цікавіўся, брыдкая малая глеекроўка,- кінуў ён Герміёне.

Адзінае што зразумеў Гары, Малфой сказаў нешта асабліва агіднае, таму што пасля ягоных слоў на поле распачаўся сапраўдны гармідар. Флінт устаў перад Драко, каб папярэдзіць напад скочыўшых наперад блізнятаў.

- ЯК ТЫ ТОЛЬКІ АСМЕЛІЎСЯ!- завішчала Алісія.

- Ты пашкадуеш аб гэтым, Малфой!- выцягваючы з пад мантыі палачку, закрычаў Рон і накіраваў яе пад Флінтаву руку, наўпрост у твар Малфоя.

Гучны выбух рэхам пранёсся па-над стадыёнам. З кончыка палачкі стрэліла бруя зялёнага святла і трапіла ў жывот Рону, хільнуўшы яго на траву.

- Рон! Рон! Што здарылася?- загаласіла Герміёна.

Рон адкрыў рота, каб нешта адказаць, але ў яго не атрымалася вымавіць ані слова. Замест гэтага Рон моцна адрыгнуў і з вуснаў на яго калені выслізнула колькі смоўжаў.

Слізэрынская каманда была без духу ад смеху. Флінт, каб не паваліцца, рагочучы абапёрся аб тронак сваёй мятлы. А Драко стоячы на кукішках, біў па зямлі кулаком. Грыфіндорцы ж згрудзіліся вакол Рона, якога працягвала ванітаваць склізкімі і бліскучымі смоўжамі. Але, здавалася, аніхто з іх не вырашыўся дакрануцца да хлопца.

- Лепей адвядзем яго да Хагрыда, гэта значна бліжэй,- прапанаваў Гары Герміёне, якая з мужнасцю кіўнула яму ў адказ і яны разам, узяўшы Рона пад рукі, павялі яго з поля.

- Гары, што тут здарылася? Што тут дзеецца? Ён захварэў? Але ты ведаеш як яго вылекаваць?- Колін пакінуў свае месца на трыбунах і цяпер скочыў вакол Гары і Герміёны, якія пакідалі поле. Рона кінула наперад і з яго рота вырвалася новая порцыя смоўжаў.

- Супэр,- зачаравана прамовіў Колін і прыняўся падымаць камеру.- Ці ты яго не патрымаеш на адным месцы, Гары?

- Ідзі вэк, Колін!- раззлавана гыркнуў Гары. Падтрымліваючы Рона, яны з Герміёнаю пакінулі межы стадыёну і накіраваліся на ускраіну Забароненага леса.

- Мы ўжо амаль што прыйшлі,- як толькі халупа палясоўшчыка аб’явілася ў полі іх зроку, прамовіла Герміёна,- Праз хвілінку ўсё скончыцца... амаль прыйшлі...

Да халупы засталося якіхсь дванаццаць футаў, калі дзверы яе нечакана адчыніліся. Аднак замест гаспадара праз іх выйшаў, апрануты сёння ў бледна ліловую мантыю, Гільдэрой Локхарт.

- Хутчэй, - прасыкаў Гары,- хаваемся.

Ён пацягнуў Рона ў бліжэйшыя кусты, куды праз імгненне з неахвотай рушыла Герміёна.

- Гэта ўсё вельмі проста. Асабліва, калі ведаеш што рабіць!- гучна заявіў Локхарт.- І калі табе спатрэбіцца мая дапамога, ты ведаеш дзе мяне знайсці! Я дашлю табе асобнік маёй кнігі – я ўвогуле здзіўлены тым, што ў цябе няма ні не адной. Я сёння ж ўвечары падпішу якую-небудзь і адразу ж дашлю табе. Ну, бывай!- і Локхарт рушыў у бок замка.

Гары дачакаўся пакуль Локхарт знікне з вачэй, выцягнуў Рона з кустоў, пацягнуў да дзвярэй халупы і пастукаўся.

Імгненна з-за дзвярэй паказаўся Хагрыд. Яго з пачатку запагрозлівы твар імгненна падабрэў, калі ён ўбачыў, хто да яго завітаў.

- А я ось думаў, клі вы да мне завьтаеце... заходзць... заходзць... я спачат выршыў, што гэт прафес Лохарт вярнуўся.

Падтрымліваючы Рона пад рукі, Гары і Герміёна завіталі ў халупу, якая ўяўляла сабой адзіны пакой з велічэзным ложкам у кутку і комінам з патрэсківаючым у ім полымем насупраць. Хагрыда ані не засмуціла Ронава праблема, аб якой Гары яму распавёў, хутка апусціўшы Рона на крэсла.

- Лепей звонк чым ўсярэдзьне,- усміхаючыся, прамовіў той і з грукатам паставіў перад Ронам вялізную медную місу.- Давай, Рон,- Давай, выганяй іх сех, дашчэнт.

- Думаю, адзінае, што мы можам зрабіць,- занепакоена назіраючы, за схіліўшымся над місаю Ронам, заўважыла Герміёна,- гэта дачакацца, пакуль яны ўсе самі не выйдуць. Рон выбраў вельмі складаную замову, а тут яшчэ яго сапсаваная палачка...

Хагрыд мітусіўся па пакоі гатуючы гарбату. Тым часам яго сабака Фанг, слінявіў Гарыну мантыю.

- Хагрыд, а што,- чухаючы Фанга за вушамі, спытаўся Гары,- ад цябе хацеў Локхарт?

- Вчыў мне, як выгнаць кельпі з клодзежу,- скідваючы са стала напалову абскубаванага пеўня і ставячы туды імбрычка, прабурчэў Хагрыд.- Быцц я сам ня вед’ю як гэт рабіць. Шчэ гамоніў аб тым як ласнаруч выгняў беншы. Калі хоць адно з го слоў праўда, я з’ем сваго імбрка.

Гары паглядзеў на Хагрыда са здзіўленнем, ён у першыню чуў, каб ён крытыкаваў кагосьці з хогвартскіх настаўнікаў. Герміёна ж, крыху вышэйшым чым звычайна голасам заўважыла:

- Я думаю ты трошкі несправядлівы да яго, Хагрыд. Аднак, прафесар Дамблдор палічыў яго кандыдатуру лепшай на гэту пасаду...

- Ён быў ДЗІНЫМ кандыдатм на гэт пасад,- адказаў Хагрыд і прапанаваў сябрам патачныя ірыскі у той час, як Рон задушліва кашляў над місай.- То бок ІНШЫХ прэтдзентаў на яе і не было. Знасці настаніка на псаду Аброны ад Цёмных Мастацваў цер вельм цяжка. Жадайчых няма. Некторыя дум’юць што псаду сурочлі. Ані дзін з настанікаў не пратымася на ёй больш года.- Хагрыд павярнуўся да Рона.- А ты жо кго збраўся суроч?

- Малфой нешта сказаў Герміёне.- патлумачыў Гары.- Нешта па сапраўднаму дрэннае. Бо пасля ўсе сшалелі.

- Нешта БОЛЬШ чым дрэннае,- прахрыпеў Рон, падняўшы галаву, ён быў збляднелым і пакрытым потам.- Ён назваў яе «глеекроўкай»...

Хлопчык зноўку схіліўся над місай, з яго абрынулася новая хваля смоўжаў. Хагрыд запалаў з абурэння.

- Ён не мог гэтга зрабіць!- зароў ён павярнуўшыся да Герміёны.

- Зрабіў,- прамовіла яна.- Ня ведаю што гэта за слова. Але гучыць яно сапраўды груба...

- Анічога больш брыдкага ён не мог сказаць,- цяжка дыхаючы паведаміў Рон, другі раз падымаючы над сталом галаву,- «Глеекроўка» – самая гідкая мянушка для магланароджаннага – то бок таго, чыі бацькі не былі чарадзеямі. Ёсць колькасць чараўнікоў... такіх, як сям’я Малфоеў... якія лічаць сябе лепшымі за астатніх, бо яны, так бы мовіць – чыстакроўныя.- Рон крыху адрыгнуў і на яго далонь паваліўся самотны смоўж, хлопчык кінуў яго ў місу і працягваў.- Я хацеў сказаць, што ўсе астатнія ведаюць, што гэта ўсё лухцень і чысціня крыві ўвогуле ня мае аніякага сэнсу. Паглядзіце на таго ж Нэвіла – ён чыстакроўны вядзьмак, а наўрацці ведае з якога боку да катла падыйсці.

- І шчэ не прыдумлі замовы, якую ня зможа засвойць наша Герміёначка,- з гонарам дадаў Хагрыд, прымусіўшы Герміёнін твар зрабіцца пурпуровым.

- Гэта самая жахлівая абраза з тых, што мажліва сабе ўявіць,- дрыготкай рукою, выціраючы узапрэўшы лоб,- сказаў Рон.- Брудная кроў. Мешаніна кровей. Шаленства. Большасць сучасных чараўнікоў – паўкроўкі. Калі б мы не браліся шлюбам з магламі, мы б даўно вымерлі.

Яго зноў пачало ванітаваць і ён схаваўся пад сталом.

- Я не буду вінваціць це за спробу праклясь Малфоя,- перакрыківаючы залеву слімакоў, што з грукатам падалі ў місу, заявіў Хагрыд.- Але магчым, да дабра, што твая палчка сурочла цябе, а не го.- Шаноўн Люц’юс Малфой прымаршаваў бы ў школу, калі б хтось акляў го сынка. А так ты ў шмат меншай бядзе.

Гары хацеў ужо выказаццца, што горшай бяды, чым ванітаваць слімакамі быць ня можа, але не змог гэтага зрабіць, бо яго сківіцы былі склееныя патачнымі ірыскамі.

- Гары,- быццам гэта думка нечакана прыйшла яму да галавы, прамовіў брамнік.- А ў мне на це вяліка крыўда. Кажць ты фота з атографамі разд’ёш. А ў мне чаму няма?

Са злосці ў Гары атрымалася расклеіць зубы.

- Я АНІКОМУ не раздаю свае фота,- з палкасцю заявіў ён.- А калі Локхарт усё яшчэ лічыць, быццам...

Але тут ён заўважыў, як Хагрыд пачаў смяяцца.

- Я ж тольк жартуй,- прамовіў Хагрыд і па сяброўску паляпаў хлопчыка па спіне так, што Гары паляцеў тварам у стол,- Я ж вед'ю, што ты не з такіх. І Лохарту кзаў, што це гэт ня трэб. Што ты і так без услякіх намганням, знакміцьшы за його.

- Закладаюся, яму гэта вельмі не спадабалася,- зноўку сеўшы на крэсла і паціраючы падбароддзе заўважыў Гары.

- А то ж не,- адказаў з мігаценнем у вачах брамнік,- А пот я сказаў, што не чтаў ань воднай го кнігі, а ён перкруціў усё на свой конт. Ірыску, Рон?- спытаўся ён у зноўку аб'явіўшагася хлопца.

- Ані, дзякуй,- слабым голасам адказаў той,- Лепей не рызыкаваць.

- Хадзем,- прапанаваў Хагрыд, калі Гары і Герміёна скончылі сваю гарбату,- пакжу вам, што я вырсціў.

У невялічкім гародзіку за Хагрыдавай хацінай рос тузін самых вялізных гарбузоў, якіх толькі і бачыў у сваім жыцці Гары. Кожны гарбуз памерам быў з невялічкі валун.

- Глядзіць які спраўныя!- шчасліва прамовіў Хагрыд.- Я рыхтуй іх да хэлоўінскага банкетвання... да тго часу яны вырстуць так, як трэб.

- Чым жа ты іх падкормліваў?- спытаўся Гары.

Хагрыд азірнуўся па баках, каб пераканацца, што іх аніхто не чуе.

- Ну, я ім... як бы гэт кзаць... трошк дапмог.

Гары заўважыў Хагрыдаў ружовы парасон прыціснуты да задняй сцяны халупы. У хлопчыка склалася ўражанне, што парасон быў ані такім простым, як выглядаў і больш таго ў Гары было адчуванне ўсярэдзіне яго, Хагрыд схаваў рэшткі сваёй старой палачкі. Калі Хагрыд быў трэццягодкам, яго выключылі са школы, аднак Гары ніколі не пытаўся за што... тым больш, што Хагрыд заўжды, калі пра гэта заходзіла размова, раптоўна і таямніча рабіўся глухім і слых да яго вяртаўся толькі тады, калі мянялася тэма. У любым выпадку, чараваць брамніку было забаронена.

- Перапалняльная замова, так?- аднačасова неўхвальна і здзіўлена спыталася Герміёна.- Ну, ты з імі добра папрацаваў, малайчына.

- Тое ж сама казала тва сястра,- зірнуўшы на Рона, прамовіў Хагрыд. Бачыў ё ўчора. Хдзіла тут навокл,- ён павярнуў галаву ў Гарын бок.- Казала, што сяго толь тут шпацруе, але дум'ю яна тут кагось шкала.- палясоўшчык падміргнуў Гары.- А клі ты спыташ у мне, я думэю ад фоткі з атографам яна б...

- Ну, до ўжо,- адгыркнуўся Гары, а Рон зарагатаў так, што з яго зноў паляцелі смоўжні.

- Асцярожна!- зароў Хагрыд, адцягваючы Рона ад сваіх каштоўных гарбузоў.

Быў абедзены час, а ў Гары з ранку ў роце акрамя ірысак не было анічога, таму ён жадаў вярнуцца ў замак і пад'есці. Развітаўшыся з Хагрыдам, сябры рушылі ў замак. Рон адчасу ікаў, але за ўвесь шлях да замку з яго выйшлі толькі два маленечкіх смоўжыка.

Як толькі яны ступілі ў прахалодны вестыбюль, аднекуль пачуўся голас.

- Потэр, Візлі, вось вы дзе,- ім на сустрач, з самым суровым выглядам, ішла прафесарка МакГонагал.- Вашае пакаранне адбудзецца сёння ўвечары.

- Што нам трэба рабіць, мадам прафесар?- занепакоена падаўляючы адрыжку, спытаў Рон.

- ВЫ, будзеце дапамагаць містэру Філчу ў трафейне, паліраваць срэбныя кубкі,- адказала прафесарка.- І, каб аніякай магіі, Візлі... толькі цяжкая праца рукамі.

Рон зглынуў. Аргус Філч быў мясцовым наглядчыкам, якога ненавідзелі ўсе вучні.

- А вы, Потэр,- працягвала МакГонагал,- пойдзеце да прафесара Локхарта, дапамагаць яму адказваць на лісты фанатаў.

- Толькі ня гэта...- у адчаі прамовіў Гары.- Можна я лепей таксама пайду чысціць кубкі.

- Зразумела, што не,- падняўшы бровы, адказала прафесарка.- Прафесар Локхарт папрасіў аб гэтым асабіста. А восьмай вечара, каб абодва былі на месцы.

У моцнай маркоце, хлопцы папляліся да галоўнай залы, а следам за імі з выразам а-вы-чаго-чакалі-калі-парушалі-школьныя-правілы на тварыку, крочыла Герміёна. Нават ад бульбяной запяканкі з мясам, Гары атрымаў меншае задавальненне, чым чакаў. Што ён, што Рон, абодва лічылі сваё пакаранне за найгоршае.

- Філч зробіць усе, каб я праваждаўся там ўсю ноч,- цяжка ўздыхаючы, сказаў Рон.- І без ніякай магіі! У трафейне сотні кубкаў. Няма карысці, спрабаваць чысціць іх па-маглаўску.

- У любы момант магу памяняцца з табой.- глухім голасам заўважыў Гары.- Я меў добрую практыку ў Дурслі. А вось адказваць у кампаніі Локхарта на лісты яго фанатаў... вось гэта сапраўдны кашмар...

Суботні дзень, здавалася, праміную незаўважна. Склалася ўражанне, што прамінула не так шмат часу, а на гадзінніку ўжо было без пяці на восьмую. І вось, Гары, ледзь цягнучы ногі, крочыў па калідоры на трэцім паверсе, каб завітаць ў локхартаўскі кабінэт. Падыйдзя да дзвярэй і сціснуўшы зубы ён пастукаў.

Дзверы імгненна адчыніліся. Зіхоцячыйся Локхарт паглядзеў на хлопчыка зверху ўніз.

- А вось і наш свавольнік!- прамовіў ён.- Ну, заходзь, Гары, заходзь.

На сценах у святле мноства свечак біскала зубамі незлічоная колькасць локхартаўскіх фатаграфій ў рамках. Колькія з іх, Локхарт нават падпісаў. На яго стале таксама ляжала вялізная кіпа.

- Ты можаш падпісваць адрэсы на канвертах!- прапанаваў Локхарт, такім тонам, быццам гэта было большым задавальненнем у свеце.- Вось гэтае першае для Глэдзіс Гуджін, блаславі яе, Бог... самая гарачая мая фанатка.

Хвіліны паўзлі за хвілінамі. Гары пускаў локхартаўскія словы праз вуха і часцей за ўсё чуў толькі «Ммм», «Добра» і «Так» хаця адчасу да яго свядомасці траплялі цэлыя фразы, накшталт: «Слава – ненадзейны сябра, Гары» ці «Знакамітасць, той, каго ведаюць усе, памятай пра гэта».

Свечкі рабіліся ўсё ніжэй і ніжэй і іх святло плясала на незлічоных рухаючыхся Локхартах, пазіраючых на хлопчыка. Гары патрос сшэрхлай рукой, ён адчуваў сябе так, бы падпісваў ужо тысячны канверт. Потым зноўку ўзяўся за напісанне адрэсы Веронікі Смітлі. «Магчыма ўжо час сыходзіць»,- з тугой падумаў хлопчык: «Калі ласка, няхай ўжо будзе час»...

І тут ён нешта пачуў. Нешта, што зусім не нагадвала гук аплываючых свечак і не датычылася локхартаўскаму гоману аб яго прыхільніцах.

Голас ад якога стыла кроў, голас які захопліваў цябе сваёй ільдзяной нянавісцю.

- Хадзі... хадзі да мяне... Дай мне схапіць цябе... Разарваць цябе... Забіць цябе...

Гары хістнуў рукой і на месцы адрэсы Веронікі Смітлі з’явілася агромістая бэзавая клякса.

- ШТО?- уголас сказаў ён.

- Ведаю!- адказаў Локхарт.- Шэсць месяцаў на вяршыні спіса бесцэлераў! Гэта б’е ўсе рэкорды.!

- Не,- у адчаі прамовіў Гары.- Я пра гэты голас!

- Прабач,- дзіўлена спытаўся Локхарт.- Пра які ты голас кажаш?

- Голас... ён яшчэ сказаў... вы што, анічога ня чулі?

Локхарт зірнуў на Гары ў моцным здзіўленні.

- Аб ЧЫМ гэта ты, Гары? Можа ты крыху задрамаў? А, святыя шатландскія... паглядзі які ўжо час! Мы займаемся ўжо чатыры гадзіны! Ніколі не паверыў бы... час праляцеў як адна хвіліна.

Гары нічога не адказаў. Ён напружыў свой слых, але адзінае што ў яго атрымалася пачуць – гэта разважанні Локхарта, аб тым, каб Гары больш не трапляў у калатнечу, ці другі раз яму так не пашансуе. Адчуваючы сябе ў моцнай разгубе, Гары пайшоў прэчкі.

Было ўжо настолькі запозна, что грыфіндорская гасцёўня была амаль што пустой. Не затрымаўшыся там, Гары адразу пайшоў у спальню. Рон пакуль не вяртаўся. Гары пераапрануўся ў піжаму, сеў на ложак і прыняўся чакаць сябра. Той, прыціскаючы да грудзей правую руку і распаўсюджваючы за сабой пах паліролі, аб’явіўся праз поўгадзіны.

- У мяне ўсе рукі адвальваюцца.- апускаючыся на Гарын ложак, прастагнаў ён.- Філч чатырнаццаць раз прымушаў мяне драіць квідытчны кубак, перш чым задаволіўся рэзультатам. А што было, калі мяне зноў пачало ванітаваць смоўжамі і я запэцкаў нечую спецыяльную ўзнагароду за заслугі перад школай. Думаў пройдзе год, пакуль я адшкрабу з яго ўсю слізь... А як там было у цябе з Локхартам?

Сцішыўшы голас, каб не абудзіць Нэвіла, Дына і Шымаса, Гары у падрабязнасцях распавёў Рону аб голасе, які пачуў у локхартаўскіх пакоі.

- І Локхарт сказаў, што анічога не пачуў?- спытаўся Рон. У святле месяца, Гары ўбачыў, як той нахмурыўся.- Думаеш, ён брэша? Нават калі ўладар голаса быў нябачны... яму ўсёроўна прыйшлося бы адчыняць дзверы.

- Ведаю,- прамовіў Гары, ён лёг і ўтаропіўся на балдахін.- І таксама анічога не разумею.

## — РАЗДЗЕЛ VIII —

### *Вечарына з нагоды дня ўмярцвення*

Распаўсюджваючы ў замку і яго наваколлі сырасць, надышоў кастрычнік. Хогвартская лекарка, мадам Помфры была перагружана працай у сувязі з выбухам захворвання на прастуду сярод навучэнцаў і супрацоўнікаў. Яе ўсперчаная настойка была здольна вылекаваць вас за хвіліну, хаця пасля гэтага на працягу колькіх гадзінаў з вашых вушэй курэў дым. Джыні Візлі блукала па замку з бледным тварам, таму пад пагрозамі свайго брата Персі была таксама вымушана яе прыняць. З-пад рудых валасоў дзяўчынкі пайшоў пар і склалася ўражанне, бы Джыніна галава ахоплена полымем.

Дажджавыя кроплі памерам з кулю грукаталі аб замкавыя вокны дзень і ноч, вады ў возеры зрабілася нашмат больш, кветкавыя клумбы размыла, а гарбузы на Хагрыдавым гародзе выраслі настолькі, што цяпер былі вышэй за адрыну. Аднак дзікая залева не змыла энтузіязму Олівера Вуда і трэніроўкі праходзілі з заўзятай рэгулярнасцю. Вось і цяпер у непагодную суботу за колькі дзён да Хэлоўіна, хлопчык вяртаўся ў грыфіндорскую вежу дашчэнту змоклы і перапэцканы брудам.

Але не толькі дождж і вецер прымушалі яго непакоіцца. Фрэд з Джорджам прабраліся на слізэрынскую трэніроўку і падглядзелі на то як хутка лётаюць іхныя Німбусы 2001. Блізняты расказалі, што слізэрынцы больш за ўсё нагадвалі ім сем зялёных зданяў, што гойсалі ў паветры з хуткасцю рэактыўнага самалёта.

Хлюпаючы праз пустынны калідор, Гары наштурхнуўся на таго, хто быў заклапочаны ня менш за яго. Грыфіндорскі прывід – Амаль Безгаловы Нік, стаяў вытарапіўшыся ў вакно і ціха мармытаў сабе пад нос:

-... не падыходжу пад іх крытэрыі... нейкія полцалі скуры...

- Здароўку, Нік,- павітаўся Гары.

- Здароў – здароў,- уздрыгануўшы і азірнуўшыся навокал, адказаў прывід. Ён меў зухаваты капялюш з пяром на расчэсаных напалам валасах, а рыфлёны каўнер яго камзола ўтойваў тое, што нікава галава была амаль што поўнасцю адрублена. Ён быў бледны ды празрысты як дым і Гары бачыў скрозь яго, счарнелае неба і залеву знадворку.

- Ты выглядаеш нечым занепакоенным, юны Потэр,- заўважыў Нік, складаючы празрысты ліст і запіхваючы яго ў камзол.

- Ты таксама,- адказаў Гары.

- Ай,- шляхетна махнуўшы рукой адказаў Амаль Безгаловы Нік.- Не істотна... я не тое каб вельмі жадаў да іх далучыцца... я толькі адаслаў ім заяву, аднак высветлілася, што я «не падыходжу пад іх патрабаванні».

Не гледзячы на абыякавасць ў голасе, на твары Ніка адбівалася вялікая горыч.

- Вось як ты сам думаеш,- раптам ускіпеў Нік, выцягваючы ліст з кішэні,- калі атрымаць сорак пяць удараў тупой сякераю па шыі, ці гэта будзе дастаткова, каб далучыцца да Безгаловага палявання?

- А то ж,- адказаў Гары, ад якога, відавочна і патрэбна была згода.

- То бок, аніхто так як я не жадаў, каб усё было зроблена хутка і без праблемаў. І каб мая галава была адсечана, так як трэба. Гэта выратавала б мяне ад неперавышанага болю і кпінаў. І тут вось...- Нік, адным рэзкім рухам раскрыў ліст і раззлавана прачытаў:

«Сябрамі нашай супольнасці могуць з’яўляцца толькі тыя, чыё цела поўнасцю развіталася з галавой. Інакш супольніку будзе немагчыма ўдзельнічаць у такіх забавах Палявання, як жангляванне галавою вершкі ці пола галавой. Таму з вялікім жалем я павінен паведаміць вам, што вы не адпавядаеце нашым патрабаванням. З найлепшымі пажаданнямі сэр Патрык Дэлані-Падмор.»

Кіпя ад злосці, Амаль Безгаловы Нік зноў сунуў ліст у кішэню свайго камзола.

- Поўдзюйма скуры і сухажылляў, вось і ўсё, Гары, што трымае маю галаву! Большасць людзей лічаць, што гэтага дастаткова, каб лічыцца абезгалоўленым, але гэта, вох, замнога для  сэра Якслед Абезгалоўленага-Падмора.

Нік зрабіў колькі глыбокіх подыхаў, а потым спытаўся значна спакойнейшым голасам.

- Так... а цябе што турбуе? Я магу табе нечым дапамагчы?

- Ані,- адказаў Гары.- Калі толькі ты ня ведаеш, дзе я магу адшукаць сем дармовых Німбусаў 2001 дзеля нашага матча супраць Слі...

Канчатак Гарыных слоў быў заглушаны пранізлівым мяўканнем, адчуўшымся ля ягоных ног. Гары зірнуў уніз і сустрэўся з парай жоўтых падобных на лямпы вачэй, што належылі Місіс Норыс – худой, як шкілет котке хогвартскага наглядчыка Аргуса Філча, якую той выкарыстоўваў, як памагатку ў сваім адвечным змаганні з навучэнцамі.

- Табе лепей бегчы адсюль, Гары,- хутка прамовіў Нік.- Філч зараз не ў добрым настроі. Ён хворы на грып, да таго ж сёння нейкія трэцягодкі выпацкалі жабінымі мазгамі ўсю столю ў пятым падзямеллі; ён усю раніцу яе чысціў і калі ён заўважыць бруд, які ты тут разнёс...

- Маеш рацыю,- адказаў Гары і пад дакорлівым позіркам Місіс Норыс пасняшаўся прэчкі, але было запозна. Дзякуючы нейкай таямнічай сіле, што існавала паміж ім і яго брыдотнай коткай, Філч нечакана выскочыў з-за габелена наўпрост перад Гары. З хрыпеннем наглядчык шалёнымі вачыма паглядзеў на парушальніка правілаў. Яго галава была ўхутана тоўстым клятчатым шалікам, а нос быў неверагодна фіялетавага колеру.

- Бруд!- загаласіў ён, кажучы пальцам на лужыну, што накрапала з Гарынай квідытчнай вопрадкі. Яго абвіслыя шчокі трымцелі, а вочы панічна вылупіліся.- Паўсюль вэрхал і брыда! З мяне годзе! Хадзі за мной, Потэр!

Гары змрочна памахаў рукой Амаль Безгаловаму Ніку і пашкандымаў ўслед за Філчам ўніз па сходах, павялічваючы колькасць брудных слядоў.

Ніколі ранней Гары ня быў у кабінэце Філча, тым больш што гэтага месца імкнуліся пазбягаць ўсе навучэнцы. Цёмны, без вокан і крышку прапахлы смажанай рыбай пакой асвятляўся адной толькі алейнай лямпай, што звісала з нізкай столі. Уздоўж сцен стаялі драўляныя шафы поўныя скрынак, на кожную з якіх была налеплена шыльдачка дзе быў пазначан спіс вучняў, якіх калі-небудзь затрымліваў Філч і спіс іх парушэнняў. А ў Фрэда і Джорджа Візлі нават была ўласная скрынка. Па-за сталом наглядчыка на сцяне вісела колькі добра змазаных і адпаліраваных кайданоў. Усе вучні ведалі, што Філч рэгулярна ўмольвае Дамблдора, каб той дазволіў яму прыкоўваць вінаватых вучняў  да столі за шчыкаладкі.

З гаршка, што стаяў на яго стале наглядчык выхапіў пяро і пачаў капацца ў паперах на стале ў пошуках чыстага кавалка пергаменту.

- Брыдота,- люта прамармытаў наглядчык,- агромістыя палаючыя драконавы соплі... жабіны мазгі... пацучыныя кішкі... з мяне годзе... пакараць у НАВУКУ іншым... дзе ж бланкі... а вось...

Ён выцягнуў са скрыні свайго стала скрутак пергаменту, разгарнуў і абмакнуў пяро ў чарніліцу.

- Імя: Гары Потэр, Злачынства...

- Я ўсяго толькі троху запэцкаў падлогу!- прамовіў Гары.

- Гэта табе «Троху запэцкаў», хлопча, а мне дадатковая гадзіна прыбірання!- закрычаў Філч, на успухлым носе якога з’явілася і непрыемна задрыжала кропля. Злачынства: Апаганьванне замка... Прапануемае пакаранне...

Наглядчык выцер нос і гідка прыжмурачыся зірнуў на Гары, які сцішыўшы дыханне чакаў, што ж той выдумае яму ў якасці пакарання.

Аднак, не паспеў Філч чарговы раз апусціць у чарніліцу пяро, як адчуўся аглушальны БУМ! Ад якога на столі Філчава кабінэту закачалася лямпа.

- ПІЎЗ!- заравеў Філч, са злосцю кідаючы пяро.- На гэты раз я цябе спаймаю!

Не азірнуўшыся на Гары, наглядчык перавальваючыся выбег з кабінэту, а следам за ім шмыганула Місіс Норыс.

Піўз - школьны полтэргейст, быў выскалякам і лятучай небяспекай, мэтай жыцця якога было нясенне паўсюль хааса і разрухі. Гары ня надта любіў Піўза, але цяпер ён адчуваў сябе ўдзячным полтэргейсту за такое своечасовае шалапуцтва і хлопчык спадзяваўся, што яно (а мяркуючы па гуку, Піўз знішчыў нешта вельмі вялікае), адцягне Філчаву ўвагу.

Вырашыўшы, што яму ўсё ткі варта дачакацца вяртання наглядчыка, Глопчык прысеў на пакоцаны моллю фатэль побач з пісьмовым сталом. Акрамя напалову запоўненага бланку на стале Гары ўбачыў толькі агромісты пурпуровы канверт, падпісаны срэбнымі чарнілами. Хутка зірнуўшы на дзверы, каб упэўніцца, што наглядчык пакуль не збіраецца вяртацца, Гары ўзяў канверт у рукі і прачытаў:

*«КВІКСПЭЛ*
*Завочны курс*
*Чараванне для пачаткоўцаў.»*

Заінтрыгаваўшыся, Гары раскрыў канверт і выцягнуў адтуль пачак пергаментаў. Фігурнымі срэбнымі літарарамі на першай старонцы было напісана:

*«Адчуваеце сябе па-за светам сучаснай магіі? Шукаеце адгаворкі, каб не карыстацца нават самымі простымі замовамі? Вы настолькі жахліва трымаеце ў руках палачку, што гэта заўжды выклікае посмешкі наваколля?*

***У нас ёсць тое, што вам патрэбна!***

*Квікспэл – найноўшы, надзейны, хуткасны і лёгкі для вывучэння курс. Сотні чараўнікоў і вядзьмарак ужо скарысталіся метадам Квікспэл!*

*Мадам З. Нэтлз с Топшэма піша нам:*

*«Колісь мая памяць на замовы і ўсе мае зеллі былі агульнасямейным жартам! Але цяпер, пасля таго, як я скарысталася квікспэлаўскім курсам, я пачала прыцягваць агульную ўвагу на ўсіх вечарынах і ўсе сябры просяць, каб я дала ім рэцэпт маёй мігатлівай мікстуры!»*

*Вядзьмак Д. Дж. Прод з Дідзбёры праведамляе:*

*«Мая жонка ўвесь час здзеквалася з маіх нямоглых сурокаў, але праз месяц вывучэння па вашаму бліскучаму метаду, я пераварацiў яе на яка! Дзякуй, Квікспэл!»*

Заварожана, Гары праглядзеў астатняе змесціва канверта. Навошта Філчу карыстацца квікспэлскім курсам? Няўжо ён не з’яўляецца дасканалым чараўніком? Гары толькі паспеў прачытаць: «Лекцыя першая: Кіраванне палачкай (Колькі карысных парадаў)», аднак пачуў у калідоры шоргаючыя крокі, якія казалі яму аб вяртанні Філча. Запхнуўшы пергаменты ў канверт, хлопчык кінуў яго на стол. Адчыніліся дзверы.

У кабінет з перамогаю на твары завітаў яго гаспадар.

- Гэта знікацельная шафа была вельмі каштоўнай!- радасна заявіў ён Місіс Норыс.- Цяперча, Піўз трапіць нам ў рукі, мая любая.

Яго вочы ўтаропіліся на Гары, потым на квікспэлскі канверт, які, хлопчык запозна гэта зразумеў, быў пасунуты на два футы ўбок са свайго папярэдняга месца.

Бледны твар наглядчыка зрабіўся цагляна-чырвоным. Гары падрыхтаваўся ўжо да новай хвалі лютасці, аднак Філч усяго толькі прашкандыбаў да стала, схапіў канверт і кінуў яго у шуфляду.

- Ты... не чытаў яго..?- запінаючыся ад хвалявання, спытаўся ён.

- Ані,- імгненна збрахаў Гары.

Філч пераплёў між сабой свае вузлаватыя пальцы.

- Калі б я,- прамовіў ён,- даведаўся аб тым што ты чытаеш мае... дакладней не тое, каб мае... гэта аднаго майго сябра... тым ня менш...

Гары занепакоена глядзеў на наглядчыка, ён ніколі ня бачыў таго настолькі ашалелым. Філчавы вочы вылупіліся яшчэ больш, а на адну з яго абвіслых шчок напала дрыготка ад чаго ані не дапамагаў нават яго клятчаты шалік.

- Добра...- праз некаторы час сказаў наглядчык...- Ідзі... і каб анікому не слова... альбо... канечне, калі ты не чытаў... ідзі, я павінен напісаць рапарт на Піўза... ідзі...

Здзіўлены сваім шчасцем, Гары выслізнуў ад наглядчыка і па сходах кінуўся назад у калідор. Пакінуць кабінет Філча без пакарання, гэта трэба было запісаць для нашчадкаў.

- Гары! Гары! Ну што, спрацавала?

З адной з клас выслізнуў Амаль Безгаловы Нік. За яго спіной Гары ўбачыў рэшткі агромістай чорнай з залатым шафы, якую здавалася нехта скінуў з велічэзнай вышыні.

- Я падбухторыў Піўза, каб той скінуў яе прамкі над кабінетам Філча,- рашуча заявіў Нік.- Вырашыў, што гэта можа адцягнуць Філчаву ўвагу ад цябе...

- Дык гэта твая справа?- з удзячнасцю прамовіў Гары.- Дзякуй, Нік, усё добра, я нават пазбег пакарання!

Разам яны рушылі па калідоры. Гары заўважыў, што прывід працягваў мяць ў руках адмову сэра Патрыка.

- Мне таксама,- сказаў ён,- хочацца дапамагчы цябе з гэтым Безгаловым паляваннем.

Амаль Безгаловы Нік застыў як скуты, таму Гары прайшоў праз яго. Хлопчык адразу пашкадаваў аб гэтым, бо яго ахапіла пачуццё бы ён прайшоў скрось душ з лёду.

- Нешта ты дзеля мяне зрабіць усё ткі можаш,- усхвалявана прамовіў Нік,- Гары... не, я прашу замнога... хаця, ці ты б не хацеў...

- Ты аб чым?- спытаўся хлопчык.

- Ну, разумееш, на гэты Хэлоўін споўніцца пяцьсот год з дня маёй смерці,- Нік выцягнуўся і прыняў шляхетны від.

- Ёйк,- усклікнуў Гары, сумняваючыся, шкадаваць ці радавацца гэткай нагодзе.- Добра.

- Я ладжу вечарыну ў адным з найпрасторнейшых падзямелляў. Да мяне прыляцяць сябры з усёй краіны. І, канечне, для мяне будзе вялікі ГОНАР, калі ты вырашыш на ёй папрысутнічаць. Містэра Візлі і міс Грэйнджэр я вядома ж, таксама запрашаю...- але,- Нік быў быццам на голках,- думаю вы ўсё ткі вырашыце ісці на школьны банкет.

- Не,- хутка адказаў Гары,- я прыйду...

- Мой ты хлопчык! Гары Потэр на маім дне ўмярцвення! А яшчэ,- ён замарудзіў, узбуджана азіраючыся навокал,- ці б ты не мог сказаць сэру Патрыку, якім я з’яўляюся ў тваіх вачах жахлівым і ўражлівым?

- А.. так-так... канечне,- адказаў Гары.

На твары Амаль Безгаловага Ніка заблішчэла ўсмешка.

*

- Дзень умярцвення?- з зацікаўленасцю прамовіла Герміёна, калі Гары пераапрануўшыся, нарэшце, далучыўся да іх з Ронам.- Іду ў заклад, ня шмат жывых людзей ўдзельнічалі хаця б у адным з іх... гэта будзе цікава!

- Навошта камусьці святкаваць дзень уласнай смерці?- адгыркнуўся Рон, які зрабіў хатнюю работу па зеллям толькі напалову і таму быў вельмі раздражнён.- Мяне гэта самога да смерці прыгнятае...

Дождж, як і ўвесь апошні час працягваў лупіць па смаляна чорным вокнам, але ў пакоі ўсё было яскравым і вясёлым. Вогнішча ў коміне асвятляла незлічоныя фатэлі на якіх сядзелі вучні. Хтось з іх чытаў, хтось выконваў хатнюю работу, а нехта ў асобе Фрэда і Джорджа Візлі спрабаваў накарміць саламандру флібусцьераўскімі феерверкамі, каб паглядзець што з ёй здарыцца. Яскравую, памаранчавую, жывучую ў полымі яшчарку, якая цяпер кідала на стол мягкае цмянае святло, Фрэд «выратаваў» з кабінета па догляду за магічнымі істотамі і цяпер вакол іх з братам згрудзіўся дапытлівы гурток.

Гары збіраўся ўжо расказаць сябрам аб Філчы і квікспелскім курсе, але раптам праз гасцёўню са свістам, вывяргаючы з сябе іскры і дзіка кружачыся праляцела саламандра. Персі да хрыпаты заравеўшы на блізнятаў ды яскравыя памаранчавыя зорачкі з роту саламандры, што амаль адразу ж з гучным выбухам уцякла ў комін, усё гэта прымусіла Філча і яго паштоўку выслізнуць з Гарынай галавы.

*

Аднак, калі надыйшоў Хэлоўін, Гары пашкадаваў аб сваёй неабдуманай абяцанке. Уся школа рыхтавалася да святочнага банкетавання, галоўная зала, як заўжды, была ўпрыгожана жывымі кажанамі, з Хагрыдавых вялізных гарбузоў выразалі ліхтары настолькі агромістыя, што ў іх без праблемаў маглі змясціцца тры чалавекі. Да таго ж хадзілі чуткі, што дзеля забавы Дамблдор запрасіў на свята трупу танцуючых шкілетаў.

- Абяцаў, значыць абяцаў,- уладарна нагадала Гары Герміёна.- Ты СКАЗАЎ, што пойдзеш на вечарыну да Ніка.

І вось, а сёмай гадзіне вечара, Гары, Рон і Герміёна прамінулі дзверы ў галоўную залу, з яе залатымі талеркамі і яскравымі свечкамі і накіраваліся да падзямелляў.

Калідор, што вёў на вечарыну да Ніка таксама быў асветлены шэрагам свечак, але весялосці ад іх ані не адчувалася: тонкія, доўгія, смалява-чорныя свечкі гарэлі яскрава блакітным полымям, што надавала прывіднае адценне нават жывым тварам Гары, Рона і Герміёны. З кожным крокам рабілася халадней. Задрыжаўшы, Гары шчыльней закруціўся ў сваю мантыю і тут пачуў нешта, нагадваючае гук тысячы пазногцяў, што шкрабуцца па агромістай класнай дошцы.

- Гэта што, МУЗЫКА такая?- прашапатаў Рон. Яны завярнулі за кут і ўбачылі Амаль Безгаловага Ніка, які стаяў ў дзвярах, драпіраваных чорным аксамітам.

- Мае любыя сябры,- змрочна сказаў ён,- запрашаю сардэчна... удзячны што завіталі...

Ён зняў свой капялюш з пяром і прыхіліўшыся запрасіў іх у падзямелле.

Усярэдзіне іх чакала неверагоднае відовішча. Падзямелле месціла ў сабе сотні празрыстых жамчужна-белых гасцей, што танчылі на перапоўненай танцпляцоўцы вальс, пад жудасныя вібруючыя гукі трыццаці музычных піл, на якіх стоячы на драпіраванай чорным сцэне граў аркестр. Люстра над іх галовамі складалася з тысячы чорных свячэй гарэлых цёмна-сінімі вагнямі. З ротаў Гары, Рона і Герміёны валіла пара, быццам яны завіталі ў лядоўню.

- А ці нам не прагуляцца?- прапанаваў Гары, жадаючы даць сагрэцца нагам.

- Толькі асцярожна, каб не прайсці скрозь кагосьці з гасцей,- занепакоенна прамовіў Рон і яны пайшлі ўздоўж танцпляцоўцы. Сябры прамінулі гурток панурых манахінь, нейкага закутага ў кайданы і апранутага ў рахманы чалавека, сустрэлі вясёлага хафлпафскага прывіда - Тоўстага Айца, які гаманіў аб нечым з рыцарам, з лоба якога тырчэла страла. Потым яны ўбачылі Крывавага Барона - пакрытага плямамі срабрыстай крыві, хударлявага слізэрынскага прывіда, якому, і гэта ані не здзівіла Гары, іншымі прывідамі выдзялялася значна больш месца.

- Вой, не,- рэзка супыніўшыся, прамовіла Герміёна.- Давайце пойдзем назад. Я не хачу размаўляць з Мармытухай Міртлаю...

- З кім?- спытаўся Гары, калі яны хуценька пайшлі назад.

- Яна жыве ў дзявочай прыбіральне на другім паверсе,- адказала дзяўчынка.

- Жыве ў ПРЫБІРАЛЬНІ?

- Так. У мінулым годзе прыбіральня ўвогуле не працавала, бо калі ў Міртлы пачынаецца гістэрыка, яна адразу ж ладзіць патоп. Аднак, я ў любым выпадку туды б не хадзіла, каму спадабаецца, калі па-над яго вухам нехта плача...

- Глядзіце! Пачастунак!- сказаў Рон.

У дальняй сцяны падзямелля месціўся доўгі стол, як і ўсё астатняе пакрыты чорным аксамітам. Сябры з нецярпеннем падыйшлі да яго, але адразу ж з жахам супыніліся. Адтуль ішоў сапраўды брыдкі пах. На прыгожых, срэбных талерках ляжалі вялізныя кавалкі гнілой рыбы, на падносах ляжалі спаленыя ў вугаль кексы, агромісты паточаны чарвякамі барані рубец і пакрытая пухмянай зялёнай цвіллю галоўка сыра. А ў цэнтры стала ўзвышаўся вялізны шэры трот ў форме надмагілля з напісанай дзёгцепадобрай глазур'ю словамі:

*«Сэр Нікалас дэ Мімсі-Порпінгтан*
*памёр 31 кастрычніка, 1492 года»*

Гары здзіўлена вытарапіўся на то, як нейкі мажны прывід падыйшоў да стала, прысеў і раскрыўшы рота прайшоў праз адзін са смярдзючых кавалкаў ласасіны.

- А што, праходзячы праз страву, вы здольны адчуць яе смак?- спытаўся хлопчык.

- Амаль што, так,- з жалем адказаў прывід і адыйшоў прэчкі.

- Мяркую, яны чакаюць калі страва загніе, каб мацней адчуць яе пах,- з веданнем справы выказала здагадку Герміёна і заціснуўшы носа нахілілася да гнілога рубца, каб лепей яго разгледзіць.

- Можа пойдзем ужо?- спытаўся Рон.- Ці то мяне зараз знудзіць.

Толькі яны развярнуліся, як з-пад стала выслізнуў маленечкі чалавечак і супыніўся ў паветры перад іх тварамі.

- Здароўку, Піўз,- з асцярогаю павітаўся Гары.

У адрозненні ад згрудзіўшыхся ў падзямеллі зданяў, полтэргейст Піўз зусім ня быў бледным і празрыстым. На галаве ён насіў яскрава-памаранчавы каўпак, на шыі вярчальную бабачку, а на яго злым твары лунала шырокая усмешка.

- Ці не жадаецце паспрабаваць?- салодкім голасам спытаўся ён, падаючы ім талерку з пакрытым грыбком арахісам.

- Дзякуй, ня трэба,- адказала Герміёна.

- Я чуў, што ты казала пра бедную Міртлу,- круцячы вачыма, заявіў полтэргейст.- Як груба ты гэта рабіла,- ён набраў грудзі пабольш паветра і загаласіў.- ГЭЙ, МІРТЛА!

- Вой, не Піўз, толькі не кажы Міртле пра гэта, яна моцна засмуціцца,- у адчаі прашапатала дзяўчынка.- Ммм, здароўку, Міртла.

Да іх праслізнула праз паветра каржакаватая дзяўчынка-прывід. Яна мела пануры твар, напалову схаваны за тонкім валоссем і тоўстыя перламутравыя акуляры.

- Што?- змрочна спыталася яна.

- Як маешся, Міртла?- ілжыва-вясёлым голасам спыталася Герміёна.- Як прыемна бачыць цябе па-за прыбіральней.

Міртла пырхнула.

- Міс Грэйнджэр, хвіліну таму казала пра цябе...- хітра мовіў на вушка прывіду Піўз.

- Так... казала... як добра ты выглядаеш сёння,- пазіраючы на Піўза заявіла Герміёна

Міртла з падазронам зірнула на дзяўчынку.

- Ты хацела пасмяяцца з мяне,- прамовіла яна і з яе празрыстых вачэй імгненна пацяклі срэбныя слёзы.

- Не... сапраўды... не, я ж казала вам аб тым, якая Міртла сёння прыгожая,- балюча штурхнуўшы хлопцаў у бакі, сказала Герміёна.

- Ага, так...

- Казала...

- Ты ўсё хлусіш,- задыхаючыся ад слёз, якія струмянямі пацяклі па яе шчоках, прамовіла Міртла, а з-за яе пляча задаволена ўсміхаючыся вызіраў Піўз.- Ці ты думаеш, я ня ведаю, як людзі называюць мяне па-за вочы? Тлустая Міртла! Страхота Міртла! Нікчэма, мармытуха, маркотная Міртла!

- Ты забылася аб «прышчавай Міртле»,- прашапатаў ёй на вуха Піўз.

Міртла пачала пакутліва галасіць і адляцела прэчкі з падзямелля, а Піўз кідаў ёй ўслед зацвілымі гарэхамі і лямантаваў.

- ПРЫШЧАВАЯ! ПРЫШЧАВАЯ!

- Ёечку,- з жалем прамовіла Герміёна.

Праз натоўп да іх падляцеў Амаль Безгаловы Нік.

- Весяліцеся?

- Канечне,- сылгалі ў адказ сябры.

- Не благі сход,- ганарліва заявіў Нік,- Лямантуючая Ўдава прыляцела ажно з Кенту... Аднак, амаль надыйшоў час ўзяць слова, пайду папярэджу музыкаў...

Але аркестр змоўк адразу пасля яго слоў. Музыкі, як і госці, сціхлі, не разумеючы азіраючыся. Адекуль чуўся гук паляўнічага ражка.

- Ну вось, пачалося!- маркотна прамовіў Нік.

У падзямелле ўварвалося з тузін каней, кожны з якіх нёс на сябе вершніка без галавы. Госці выбухнулі шаленымі апладысментамі. Гары таксама пачаў пляскаць ладкамі, але зірнуўшы на твар Амаль Безгаловага Ніка, імгненна супыніўся.

Коні супыніліся ў цэнтры танцпляцоўкі і падняліся на дыбкі. Агромісты прывід, што ехаў наперадзе і чыя барадатая галава, якую той трымаў пад пахай, дзьмула ў ражок, скочыў са свайго каня і падняў сваю галаву высока ў паветра, каб добра разгледзіць гасцей (ад чаго тыя засмяяліся), потым падыйшоў да Ніка і начапіў галаву на шыю.

- Нік!- заравела галава.- Як маешся? Галава як, усё яшчэ на плячах?

Прывід бадзёра зарагатаў і паляпаў Ніка па плячы.

- Вітаю, Патрык!- суха адказаў Нік.

- Жыўцякі!- заўважыўшы Гары, Рона і Герміёну прамовіў сэр Патрык і высока ды роблена скочыў ад здзіўлення, пасля чаго яго галава (пад дружны рогат талакі), павалілася на падлогу.

- Ой, як пацешна,- змрочна прамовіў Амаль Безгаловы Нік.

- Не звяртайце на Ніка ўвагу!- крыкнула з падлогі галава сэра Патрыка,- Ён ўсё яшчэ засмучаны, што мы не ўзялі яго ў Паляванне! Аднак, што я хачу сказаць... зірніце на нашага калегу...

- А я лічу,- паспешліва, пасля шматзначнага погляда Ніка, прамовіў Гары,- што Нік вельмі... жахлівы і... ну...

- Ха!- прагаласіла галава сэра Патрыка.- Іду ў заклад, ён сам цябе аб гэтым папрасіў!

- Ці не мог бы я ўсё ткі папрасіць у вас хвілінку ўвагі, дзеля маёй прамовы!- папросіў Нік і падыйшоў пад ільдзяно-блакітные промні лямпаў да трыбуны.

- Мае памерлыя панове, ледзі і джэнтльмены з вялікем жалем я...

Але больш аніхто нічога не пачуў, бо сэр Патрык са сваім Безгаловым паляваннем распачалі гуляць ў хакей галавой і ўсе прысутныя абярнуліся, каб паглядзець на іх. Колькі разоў Амаль Безгаловы Нік спрабаваў вярнуць да сябе ўвагу гасцей, але пасля таго, як пад бурныя пляскі, міма яго праляцела галава сэра Патрыка, здаўся.

Гары адчуваў сябе скалелым ад холаду і да таго ж моцна згаладалым.

- Я больш не магу гэтага вытрываць,- стукаючы зубамі прамармытаў Рон, калі музыкі зноў распачалі граць, а здані вярнуліся на танцпляцоўку.

- Хадземце адсюль,- пагадзіўся з ім Гары.

Яны пакрысе пачалі рухацца да дзвярэй, ківаючы галовамі і ўсміхаючыся, кожнаму хто глядзеў у іх бок. Хвіліну пазней, яны ўжо беглі па асветленаму чорнымі свечкамі праходу да сходаў..

- Можа яшчэ не ўвесь пудынг з’елі,- з надзеяй прамовіў Рон, калі сябры пачалі падымацца па сходах, што вялі да вестыбюлю.

І тут Гары пачуў:

-... схапіць... разарваць... забіць...

Гэта быў той самы халодны, знішчальны голас, які ён калісь чуў у кабінэце Локхарта.

Спатыкнуўшыся Гары супыніўся, прыціснуўся да каменный сцяны і, прыжмурыўшыся аглядзеў цмяна асветлены праход, з усяе моцы прыслухоўваючыся.

- Гары, што..?

- Голас, я зноў яго пачуў... памаўчыце хвілінку...

-... як яяяяяяяяя згаладаўся... як доўга...

- Слухайце!- імгненна прамовіў Гары. Рон з Герміёнаю аслупянеўшы пазіралі на яго.

-... забіць... час забіць...

Голас пачаў слабець. Гары быў упэўнены, што ён рухаецца... рухаецца кудысьці ўгору. З сумесью жаху і ўзбуджэння ён глянуў на цёмную столю, хто мог сыйсці туды? Можа гэта прывід, дзеля якога столя не з’яўляецца перашкодай?

- Сюды,- ускрыкнуў ён і паспяшаў па лесвіцы, што вяла ў вестыбюль. Няма было чаго спадзявацца пачуць тут што-небудзь, бо гоманы з галоўнай залы дзе ўся школа банкетавала з нагоды Хэлоўіна, рэхам разносіліся вакол. Гары прыпусціў па мармуровых сходах на другі паверх, а Рон з Герміёнаю тупалі следам.

- Гары, што мы...

- Шшш!

Гары напружыў слых. З трэцяга паверха пачуўся, працягваючы слабець голас:

- Я адчуваю кроў... Я АДЧУВАЮ КРОЎ!

У яго ўсё перакруцілася ў грудзях.

- Ён хоча кагосьці забіць!- ускрыкнуў Гары і, не звяртаючы ўвагі на разгубленыя твары Рона і Герміёны, панёсся, пераскокваючы праз тры прыступкі, наверх, спрабуючы пачуць голас праз грукат уласных крокаў.

Гары пабег па трэццему паверху, а Рон з Герміёнаю, запыхаўшыся спяшалі следам. Яны не спыняліся ажно пакуль, загарнуўшы за кут, не трапілі ў апошні пустынны калідор.

- Гары, ШТО тварыцца?- выціраючы ўзапрэлы лоб, спытаўся Рон.- Я анічога не...

І тут Герміёна нечакана вохнула, кажучы кудысьці ў глыбіню калідора.

- ГЛЯДЗІЦЕ!

На сцяне насупраць іх нешта блішчэла. Жмурачыся ў цемры, сябры паволі падыйшлі бліжэй. Між вокнамі на сцяне, пераліваючыся ў святле паходняў, луналі, напісаныя літарамі ў фут вышынёй, словы.

*«ПАТАЕМНАЯ ЗАЛА АДЧЫНІЛАСЯ.*
*ЦЯПЕР СЦЕРАЖЫЦЕСЯ, ВОРАГІ СПАДКАЕМЦЫ.»*

- А там, што такое... вісіць пад надпісам?- злёгку дрыготкім голасам, спытаўся Рон.

Сябры зрабілі яшчэ колькі крокаў наперад і Гары ледзь не падслізнуўся, уся падлога была заліта вадою. Рон з Герміёнаю паспелі яго падхапіць і ўсе трое, асцярожна працягнулі набліжацца да надпісу, углядаючыся ў цень пад ім. Зразумеўшы, што гэта такое, сябры, з гучным усплёскам, адскочылі назад.

Да клямкі ад паходні, за хвост была прычэплена котка наглядчыка Місіс Норыс. Цвёрдая быццам дошка, яна вытарапіўшы вочы, глядзела перад сабой.

Колькі імгненняў яны аслупянеўшы стаялі на месцы.

- Уцякаем адсюль,- парушаючы маўчанне, сказаў Рон.

- А хіба мы не павінны ёй нечым...- няўпэўнена прамовіў Гары.

- Шчыра кажучы,- адказаў Рон,- будзе лепей, каб нас тут не знайшлі.

Аднак, было ўжо запозна. Гул, падобны на далёкі грукат навальніцы, казаў аб тым, што святочны банкет скончыўся. З абодвух бакоў калідора, дзе стаялі сябры, пачуліся стук падымаючыхся ног і гучны, шчаслівы гоман. Праз імгненне калідор, напоўніўся сытымі і задаволенымі навучэнцамі.

Але балбатня, мітусня і гармідар сціхлі, як толькі ўсе ўбачылі віселую на клямцы котку. Гары, Рон і Герміёна, самотна стаялі ў цэнтры калідора аточаныя сціхшым натоўпам навучэнцаў, якія рушылі наперад, каб добра разгледзіць жудаснае відовішча, паўстаўшае перад іх вачыма.

Тут цішыню парушыў нечый крык.

- Будзе пільнымі, ворагі спадкаемцы! Наступнымі будзеце вы, глеекроўкі!

Гэта быў, прадраўшыйся праз натоўп Драко Малфой. Яго звычайна халодныя вочы заблішчэлі, а бледны твар пачырванеў, калі ён выскаліўшыся, глядзеў на знерухомленую котку.

## — РАЗДЗЕЛ IX —

### *Надпісы на сцяне*

- Што вы тут робіце? Што тут тварыцца?

Безумоўна, пачуўшы крык Малфоя, праз натоўп праціснуўся нечакана аб'явіўшыйся Аргус Філч. Убачыўшы Місіс Норыс, ён з жахам ў вачах закрыў рукамі твар.

- Мая котка! Мая котачка! Што здарылася з Місіс Норыс? – загаласіў ён.

І тут, яго вылупленыя вочы ўбачылі Гары.

- ТЫ!- правіскатаў ён,- ТЫ! Гэта ты забіў маю котку! Ты яе знішчыў! Я цябе заб'ю! Я...

- АРГУС!

На месцы здарэння аб'явіўся Дамблдор, а следам за ім ўсе астатнія настаўнікі. Дырэктар у секунду пранесся міма Гары, Рона і Герміёны і зняў з клямкі Місіс Норыс.

- Хадзем, Аргус,- загадаў ён Філчу.- Містэр Потэр, містэр Візлі, міс Грэйнджэр, вы таксама ідзіце разам з намі.

І тут наперад рашуча скочыў Локхарт.

- Мой кабінэт, бліжэй за ўсё... толькі па сходах падняцца... прашу, не саромцеся...

- Дзякуй, Гільдэрой,- адказаў на запрашэнне дырэктар.

Маўклівы натоўп расступіўся, каб даць ім прайсці. Першым ішоў Дамблдор, следам за ім паглядаючы ганарліва і ўзбуджана спяшаўся Локхарт. Да іх таксама далучыліся прафесары МакГонагал і Снэйп.

Калі яны завіталі ўва ўхутаны цемраю кабінэт Локхарта, на сценах адразу ж пачаліся гармідар і мітусня; колькі фота-Локхартаў схаваліся за рамамі, каб ніхто не бачыў бігудзі на іх фрэзурах. Сапраўдны Локхарт тым часам запаліў на сваім стале свечкі і зрабіў крок назад. Дамблдор, паклаў Місіс Норыс, на паліраваную паверхню стала і прыняўся ўважліва яе разглядаць. Гары, Рон і Герміёна занепакоена перазірнуліся і апусціўшыся ў фатэлі ў цёмным кутку кабінэта, падалей ад свечак, напружана вытарапіліся на дырэктара.

Кончык доўгага і крывога Дамблдоравага носу на цалю не дакранаўся да поўсці Місіс Норыс. Дырэктар аглядаў котку праз свае акуляры-поўмесяцы, а яго доўгія пальцы мягка тыцкалі і мацалі знерухомленую жывёліну. Паблізу ад дырэктара, сагнуўшыся гэдак жа блізка да коткі і звузіўшы вочы, стаяла прафесарка МакГонагал. За іхнымі спінамі, напалову схаваўшыся ў цень, стаяў Снэйп, на твары якога быў вельмі дзіўны выраз, як быццам зеллевар з усяе моцы імкнуўся не засмяяцца. А вакол іх гойсаў Локхарт, адчасу выказваючы свае прапановы.

- Яна бясспрэчна была забіта праклёнам... хутчэй за ўсё трансмагрыфіянскім катаваннем. Я шмат разоў бачыў, як яно дзейнічае, шкада, што мяне не было паблізу, я ведаю вельмі моцны супраць-праклён, ён бы яе выратаваў...

У паўзах паміж каментарамі Локхарта чуліся пакутлівыя, бясслёзныя хліпанні Філча. Ён паваліўся на фатэль ля стала і ня маючы сілаў глядзець на Місіс Норыс, заціснуў твар рукамі. Гары глядзеў на яго, ня ў сілах пазбавіцца ад адчування, што яму шкада наглядчыка, хаця і не так моцна, як сябе самога. Бо, калі Дамблдор паверыць Філчу, хлопчыка безумоўна выкінуць са школы.

Дамблдор прамармытаў сябе пад нос колькі дзіўных слоў і пастукаў па котке кончыкам сваёй палачкі, аднак ані нічога не адбылося. Місіс Норыс працягвала выглядаць, як свежазробленае пудзіла.

- Памятаю,- працягваў Локхарт,- нешта вельмі вельмі падобнае здарылася ў Уагудугу. Там адбылася серыя нападаў, гэту гісторыю вы можаце прачытаць у маёй аўтабіяграфіі. У той раз я паспеў забяспечыць гараджан разнастайнымі кудменямі і напады адразу ж прыпыніліся...

Фота-Локхарты на сценах, зацівалі ў знак згоды. Адзін з іх забыўся зняць з фрэзуры сетачку для валос.

Нарэшце Дамблдор выпрастаўся.

- Яна не памёрла, Аргус,- мягка прамовіў ён.

Локхарт імгненна супыніў падлік смерцяў, якіх дзякуючы яму атрымалася пазбегнуць.

- Не памярла,- задушліва прамовіў Філч, скрозь пальцы паглядаючы на Місіс Норыс.- А чаму яна тады... гэткая цвёрдая і застылая?

- Яна скамянела,- адказаў яму дырэктар («Ага! Гэдак жа меркаваў і я!»- заявіў Локхарт).- Аднак, я не магу сказаць, якім чынам...

- ЯГО спытайце!- загаласіў Філч, павярнуўшы да Гары грудкаваты, заплаканы твар.

- Аніводзін другагодка не здольны на такое,- цвёрда заявіў Дамблдор.- Тут выкарыстоўвался чорная магія самага дасветчанага ўзроўня...

- Ён мог, ён гэта зрабіў!- пырскаў Філч сліною, яго азызлы твар зрабіўся барвяным.- Ці вы бачылі, што ён напісаў на сцяне! Ён быў... у маім кабінэце... ён ведае што я... што я...- наглядчык з цяжкасцю рухаў цяглiцамі свайго твару.- Ён ведае, што я сквіб!- нарэшце скончыў ён.

- Я ніколі не ДАКРАНАЎСЯ да Місіс Норыс,- прамовіў Гары, няёмка сябе адчуваючы з-за таго, што на яго вытарапіліся ўсе, у тым ліку і Локхарты на сцяне.- Я нават ня ведаю, ШТО такое сквіб.

- Лухта!- гыркнуў Філч.- Ён бачыў мой ліст ад Квікспэл!

- Калі мне будзе дазволена сказаць, дырэктар, сэр,- сказаў з ценю Снэйп, у Гары павялічылася злавеснае пачуццё: што б не сказаў Снэйп, яму гэта не прынясе аніякай карысці.

- Потэр і яго сябры, магчыма, апынуліся не ў той час і не у тым месцы,- працягваў зеллевар, яго рот скрывіўся ў невялічкай ўсмешцы, так як быццам ён сумняваўся ў сваіх словах.- Тым ня менш, мы маем шмат падазроных абставінаў. Чаму яны ўвогуле апынуліся ў тым калідоры? І чаму іх не было на банкетаванні з нагоды Хэлоўіна?

Гары, Рон і Герміёна, усе разам прыняліся распавядаць аб нікавым дне ўмярцвення.

-... там былі сотні прывідаў, якія могуць падцвердзіць, што мы былі там...

- Але чаму ж вы пасля гэтага не далучыліся да свята?- паблісківаючы вачыма ў святле свечак, спытаўся Снэйп.- Навошта вы завіталі ў той калідор?

Рон з Герміёнаю азірнуліся на Гары.

- Ну... таму...- пачаў Гары, сэрца ў яго грудзях пачало шалёна калаціцца; нешта падказала яму, што калі ён распавядзе аб тым што трапіў ў калідор даганяючы бесцялесны голас, гэта будзе гучаць заневерагодна, таму адказаў так,- таму што мы вельмі стаміліся і хацелі як мага хутчэй трапіць у свае ложкі.

- Не павячэраўшы?- прамовіў Снэйп, на яго кашчавым твары залунала пераможная ўсмешка.- Не думаю, што на сваіх вечарынах прывіды падаюць хоць нешта, прыдатнае для спажывання жывымі людзьмі.

- Мы не былі галоднымі,- гучна, каб заглушыць буркатанне ў жываце, адказаў Рон.

Гідкая ўсмешка Снэйпа зрабілася яшчэ шырэй.

- Мяркую, дырэктар, сэр, што Потэр не быў з намі цалкам праўдзівым,- заявіў зеллевар,- таму, будзе даволі добра, калі яго пазбавяць пэўных прывілеяў, ажно пакуль ён не вырашыць распавесці гісторыю цалкам. Мая прапанова, выключыць яго са складу грыфіндорскай квідытчнай каманды.

- Насамрэч, Северус,- рэзка ўціснулася ў размову прафесарка МакГонагал.- Я не бачу прычынаў, па якіх хлопчыку трэба забараніць гуляць у квідытч. Тым больш, што котку не ляпнулі па галаве мятлой. Тым больш не існуе аніякіх доказаў, што Потэр у нечым вінаваты.

Дамблдор тым часам выпрабавальна глядзеў на Гары і хлопчыку здалося, што светла-блакітныя вочы дырэктара пранізаюць яго як рэнтген.

- Памятай аб прэзумпцыі невінаватасці, Северус,- цвёрда сказаў дырэктар.

Снэйп прабываў у разлютаваным стане. Гэткім жа раззлаваным быў і Філч.

- Мая котка скамянела!- вылупіўшы вочы, закрычаў ён.- Я патрабую, каб хтось быў ПАКАРАНЫ!

- Мы вылекуем яе, Аргус,- паблажліва заявіў Дамблдор.- У цяпліцы ў прафесаркі Спроўт расце колькі раскошных мандрагораў. Як толькі яны выспеюць, мы зробім зелле, якое ажывіць Місіс Норыс.

- Я асабіста гэта зраблю,- уціснуўся Локхарт.- Я рабіў гэта ўжо сто разоў. Пабудзіце ноччу, я вам і скрозь сон прыгатую дозу-другую мандрагоравых лекаў...

- Прабач,- з ільдом у голасе, заявіў Снэйп,- але я лічыў, што майсар зелляў у школе – я.

У пакоі запанавала вельмі няёмкае маўчанне.

- Вы трое, можаце ісці,- загадаў Дамблдор сябрам.

Яны хутка пайшлі, амаль што пабеглі прэчкі. Падняўшыся паверхам вышэй, яны скочылі ў нейкую пустую класу і ціхінька зачынілі за сабой дзверы. Азірнуўшыся, Гары ўбачыў змрочныя твары Рона і Герміёны.

- Як думаеце, ці ня трэба было расказаць ім аб голасе?- спытаўся ён.

- Ані,- не вагаючыся адказаў Рон.- Чуць галасы, якія не чуюць астатнія, благі знак, нат у чарадзейскім свеце.

То, як Рон сказаў гэта, прымусіла Гары спытаць ў сябра:

- Але ж ты верыш мне?

- А то ж,- хутка адказаў той.- Аднак, ты павінен прызнаць, гэта ўсё выглядае задзіўна...

- Так, я і сам ведаю,- прамовіў Гары.- Тут шмат што дзіўна выглядае. Той жа надпіс на сцяне: «Патаемная зала адчынілася»... Аб чым ідзе гаворка?

- Ведаеш, я аб нечым падобным чуў,- павольна сказаў Рон.- Нехта... магчыма Біл... распавядаў мне аб хогвартскай патаемнай зале...

- А што гэта за сквіб такі?- спытаўся Гары.

Да яго здзіўлення, Рон пачаў гігікаць, але задушыў у сабе смяшок.

- Ну... на самой справе гэта не надта смешна... але ж Філч...- нарэшце адказаў ён.- Сквібамі называюць тых, хто нарадзіўся ў чарадзейнай сям'і, але ня мае чарадзейных здольнасцяў. Гэта як магланароджаныя чараўнікі, але наадварот. Толькі сквібы, яны нараджаюцца даволі рэдка. Калі Філч спрабуе вучыцца магіі па квікспэлскаму курсу – ён магчыма і ёсць сквіб. І гэта шмат што тлумачыць. Напрыклад тое, чаму ён ненавідзіць усіх навучэнцаў.- Рон задаволена ўсміхнуўся.- Для яго бачыць нас – сапраўдная пакута.

Недзе прабіў гадзіннік.

- Апоўначы,- сказаў Гары.- Нам лепей спяшацца ў ложкі. Ці то прыйдзе Снэйп і выдумае нам якуюсь новую правіну.

*

Адзінай тэмай для нематлікіх размоваў на працягу колькіх наступных дзён быў напад на Місіс Норыс. Тым больш, што Філч, які штодня прыходзіў на месца напада і быццам лічыў што злаўмыснік абавязкова павінен аб'явіцца там яшчэ раз, не даваў навучэнцам пра гэта забыць. Гары бачыў, як той спрабаваў адцерці надпіс з дапамогаю «Універсальнага чароўнага плямавыводніка ад місіс Сковерс». Аднак надпіс працягваў яскрава блішчэць. Калі Філч не ахоўваў месца злачынства, ён з чырвонымі вачыма хаваўся ў калідорах, нападаючы на ані ў чым не вінаватых вучняў, спрабуючы пакараць іх за то, што тыя загромка дыхаюць, выглядаюць занадта шчаслівымі ці за нешта падобнае.

А больш за астатніх, лёс Місіс Норыс турбаваў Джыні Візлі. Калі верыць Рону, тая была заўзятай аматаркай котак.

- Ты папросту блага яе ведаеш,- паспрабаваў падбадзёрыць сястру Рон.- Шчыра кажучы, без яе нашмат лепей.

Вусны дзяўчынкі пачалі дрыжаць.

- Паслухай, сястрычка,- працягваў Рон,- падобныя рэчы здараюцца ў школе вельмі вельмі рэдка. Вар'ята, які гэта зрабіў хутка спаймаюць і яшчэ хутчэй выкінуць са школы. Але ж я спадзяюся, што да таго часу, ён паспее скаменаваць Філча. Я жартую,- убачыўшы, як Джыні збляднела, дадаў Рон.

Напад таксама сур'ёзна паўплываў і на Герміёну. Канечне і ранней для яе было нечым звычайным праводзіць шмат часу за кнігамі, аднак цяпер яна больш анічога іншага не рабіла. Гары з Ронам, як не пыталі яе, так і не атрымалі адказу, чым яна займаецца і толькі ў сераду аб усім даведаліся.

Гары затрымаўся ў кабінэце зелляў, бо Снэйп прымусіў яго ачышчаць сталы ад аскепкаў кальчакоў. Скончыўшы працу, хлопчык панесся ў бібліятэку, каб сустрэцца там з Ронам і ўбачыў па дарозе Джасціна Фінч-Флечлі, хлопчыка з Хафлпафа з якім пазнаёміўся на зёлазнаўстве. Гары ўжо адкрыў рота, каб павітацца з ім, але Джасцін, як толькі ўбачыў Гары, адразу ж рэзка развярнуўся і збег у супрацлеглым напрамку.

Рон сядзеў ў дальнім кутку бібліятэкі, дзе рабіў хатнюю работу па гісторыі магіі. Прафесар Бінс, запатрабаваў сачыненне ў тры фута даўжынёй на тэму «Сярэднявечная асамблея еўрапейскіх чарадзеяў».

- Я ня веру... мне не хапае яшчэ васьмі цаляў...- раззлавана заявіў Рон выпусціўшы з рук свой пергамент, які імгненна згарнуўся ў скрутак.- А Герміёна напісала ўжо чатыры футы з дзюймамі і пры гэтым драбнюткімі літаркамі.

- Дзе яна?- схапіўшы рулетку і разгарнуўшы скрутак з хатняй работай, спытаўся Гары.

- Недзе там?- махнуўшы рукой уздоўж паліц адказаў Рон.- Шукае новую кнігу. Я мяркую, яна задалася мэтай прачытаць ўсю бібліятэку да Калядаў.

Гары распавёў Рону аб тым, як ад яго ўцёк Джасцін.

- Ой, ня ведаю чаму ты дурыш сабе галаву, я, напрыклад лічу яго за паўдурка,- перапісваючы хатняе заданне вялікімі літарамі, каб яно заняло больш месца, заявіў Рон.- Усе гэтыя яго казанні аб велічы Локхарта...

З-за кніжных паліц да іх выйшла Герміёна. Яна была моцна раздражнённай і здавалася, нарэшце, была гатова зноўку з імі размаўляць.

- УСЕ асобнікі «Гісторыі Хогвартса» раздадзены,- сядаючы побач з Гары і Ронам, паскардзілася яна.- І бліжэйшага вольнага трэба чакаць два тыдні. Я канечне, МАЮ, асобнік дома, але з-за кніг Локхарта, ён не памясціўся ў валізу.

- А нашто ён цябе так патрэбны?- спытаўся Гары.

- Дзеля таго, што і ўсім астатнім,- адказала дзяўчынка.- Каб прачытаць лягенду аб патаемнай зале.

- Аб чым?- адразу ж прамовіў Гары.

- То ж бо то, што я не памятаю,- прыкусіўшы губу, сказала Герміёна.- І не магу знайсці гэтую гісторыю дзесь у іншым месцы.

- Герміёна, ці ты не дасі мне пачытаць сваё сачыненне,- гледзячы на свой скрутак, спытаўся Рон.

- Ані,- нечакана суровым тонам, адказала яна.- Ты меў дзесяць дзён на яго напісанне.

- Ну, мне трэба дадаць усяго толькі две цалі, ну, калі ласка...

Прабіў звон. Увесь шлях да кабінэта па гісторыі магіі, Рон і Герміёна працягвалі спрачацца.

Гісторыя магіі была самай найнуднейшай з дысцыплін, якія сябры вывучалі ў Хогвартсе. Прафесар Бінс, які яе выкладаў, быў адзіным ува ўсім свеце настаўнікам-прывідам і самым захапляльным на яго ўроку быў момант, калі ён уваходзіў у класу праз дошку. Ён быў замшэлым і лядашчым і шмат хто сцвярджаў, што прафесар нават не заўважыў, як памёр. Аднойчы раніцай ён папросту, як заўжды накіраваўся на чарговую лекцыю, пакінуўшы сваё цела ў фатэлі ля коміна і яго звычкі за ўвесь час ані не змяніліся.

Сённяшні ўрок быў нудней чым звычайна. Прафесар Бінс дастаў свае запісы і роўным голасам, нагадваючым гуд пыласоса, прыняўся чытаць сваю лекцыю, хутка давёўшы амаль усіх навучэнцаў да глыбокай непрытомнасці, адчасу сёй-той з вучняў ўсхамянаўся, але часу, перш чым зноўку заснуць, у яго хапала толькі на то, каб запісаць чыёсь імя ці дату. Так доўжылася поўгадзіны, пакуль не здарылася тое, чаго аніхто ў класе не чакаў. У паветра ўзнялася рука Герміёны.

Падняўшы галаву, пасярод смяротна сумнага расказа пра міжнародны сход чарнакніжнікаў 1289 года, прафесар Бінс, замаўчаў і здзіўлена паглядзеў на дзяўчынку.

- Міс... ээ..?

- Грэйнджэр, прафесар,- адкхекаўшыся прамовіла Герміёна.- Ці не маглі бы вы распавесці нам, што-небудзь аб патаемнай зале?

Дын Томас, які адчыніўшы рота глядзеў у вакно, імгненна апрытоміў; галава Лавендры Браўн паднялася з рукі, а Нэвілаў локаць саслізнуў са стала.

Прафесар Бінс прыняўся здзіўлена лыпаць вачыма.

- Мой прадмет – гісторыя магіі,- сухім, хрыплым голасаў сказаў ён.- Я маю справу з ФАКТАМІ, міс Грэйнджэр, а не з міфамі і лягендамі.- Кхекнуўшы з гукам нагадваючым ламанне крэйды і працягнуў чытаць сваю лекцыю.- «У верасні таго ж году, падкамітэт чарадзеяў Сардыніі...

Ён спатыкнуўся на палове слова, бо Герміёна зноўку падняла руку.

- Міс Грэнт?

- Ну калі ласка, сэр, хіба ж не любая лягенда абапіраецца на факты?

Прафесар глядзеў на яе такімі здзіўленымі вачыма, што Гары вырашыў, што ў таго ані пры жыцці, ані пасля смерці ніхто ніколі не аб чым ніколі не пытаўся.

- Ну,- павольна сказаў Бінс і зірнуў на дзяўчынку такімі вачыма, быццаў ніколі раней не бачыў сапраўднага вучня.- Думаю, можна сказаць і так. Аднак лягенда аб якой вы пытаецеся, уяўляе сабой ЗАНАДТА СЭНСАЦЫЙНЫ і нават БЯЗГЛУЗДЫ расказ...

Аднак вучні лавілі цяпер кожнае яго слова. Сваімі празрыстымі вачыма ён азірнуў дзяцей. Гары быў ўпэўнены, што падобная зацікаўленнасць цалкам збіла яго з ладу.

- Вох, ну добра, добра,- павольна сказаў прафесар.- Каб не схлусіць... Патаемная зала...

- Як вы ўсе напэўна памятаеце, Хогвартс быў заснаваны больш за тысячу год таму... і дакладная дата пакуль не высветлена... Заснавалі яго чатыры найвялікшых чараўніка і вядзьмаркі свайго часу: Годрык Грыфіндор, Хэльга Хафлпаф, Равэна Рэйвенкло і Салазар Слізэрын. Менавіта ў іх гонар былі названы чатыры хогвартскія Дамы. Разам, яны пабудавалі гэты замак тут, у далечыні ад цікавых маглаўскіх глаз, бо рабілі яны гэта ў тыя часы, калі магія пужала звычайных людзей і ўсе чарадзеі пакутавалі з моцнага праследу.

Ён зноўку супыніўся, асавела паглядзеў на вучняў і працягваў.

- Колькі першых год, заснавальнікі працавалі ў гармоніі адно з адным. Разам яны шукалі юнакоў, якія паказвалі магічныя здольнасці, каб адвозіць іх у школу і даваць ім адукацыю. Аднак праз час паміж Слізэрынам і іншымі заснавальнікамі пачаліся спрэчкі. Салазар жадаў, каб яны былі больш ВЫБІРАЛЬНЫМІ ў прыняцці новых вучняў. Ён лічыў, што навучэнне магіі не павінна было выходзіць па-за межы чарадзейскіх сем’яў. Ён меў непрыязь да прыняцця навучэнцаў маглаўскага паходжання, бо лічыў іх ненадзейнымі. Хутка паміж Слізэрынам і Годрыкам Грыфіндорам распачаліся моцныя спрэчкі па гэтаму пытанню і Салазар пакінуў замак.

Прафесар Бінс зноўку замаўчаў і, паціснуўшы вусны, азірнуў вучняў, нагадваючы старую маршчыністую чарапаху.

- Гэта ўсё, што кажуць нам надзейныя крыніцы,- прамовіў ён.- Але гэтыя дакладныя факты засланіла лягенда аб патаемнай зале. Гісторыя распавядае аб тым, што ў сакрэце ад іншых заснавальнікаў, Слізэрын быццам пабудаваў у замке нейкае ўтоенае памяшканне.

- Згодна з лягендаю, ён запячатаў патаемную залу, так, каб распячатаць яе мог толькі той хто з’яўляецца яго праўдзівым спадкаемцай. Толькі ён зможа зняць пячатку з залы, вызваліць з яе жах, што быў там схаваны і з яго дапамогаю ачысціць школу ад тых, хто не варты вучыцца чарадзейству.

Калі прафесар скончыў свой расказ ў класе запанавала цішыня, але гэта была не та сонная цішыня, што звычайна вісела ў классе на яго занятках. У паветры лунала заклапочанасць і ўсе як адзін працягвалі глядзець на Бінса, быццам чакаючы, што той будзе працягваць. Бінс жа выглядаў крыху раздражнёным гэтым.

- Але ж усё гэта вядома глупства,- заявіў ён.- Натуральна, школу ў пошуках залы шмат разоў абшуквалі самыя адукаваныя ведзьмакі. Патаемнай залы не існуе. Гэта ўсё казка, якую прыдумалі, каб палохаць даверлівых дзетак.

Герміёніна рука зноў стрэліла ў паветра.

- Сэр... а што вы мелі на ўвазе, пад ЖАХАМ, які быў схаваны ў зале?

- Кажуць,- сухім, пранізлівым голасам адказаў Бінс,- што гэта нейкая пачвара, якую будзе здольны кантраляваць толькі слізэрынскі нашчадак.

Вучні занепакоена азірнуліся адно на аднаго.

- Кажу ж вам,- шастаючы сваімі паперамі, заявіў Бінс.- Іх не існуе... Ані залы... ані пачвары.

- Але ж, сэр,- сказаў Шымас Фініган,- калі залу здольны адчыніць толькі праўдзівы спадкаемца Слізэрына, ці ж не зразумела, чаму што АНІХТО іншы не змог яе знайсці?

- Лухта, О’Флаэрці,- з раздражненнем у голасе адказаў Бінс,- калі доўгі шэраг дырэктараў і дырэктарак Хогвартса, нават не знайшлі яе слядоў...

- Але, прафесар,- піскнула Парваці Паціл,- дзеля яе адкрыцця пэўна трэба было скарыстацца чорнай магіяй...

- Калі хтось з ведзьмакоў НЕ КАРЫСТАЕЦЦА чорнай магіяй, гэта не азначае, што ен НЯ МОЖА ёй карыстацца, міс Пеніфітэр,- адрэзаў Бінс.- Паўтару, калі такія вялікія чарадзеі, як Дамблдор...

- Аднак, калі дзеля гэтага трэба быць сваяцтве са Слізэрынам, Дамблдор не...- пачаў было Дын Томас, але прафесар Бінс быў сыты іхнымі заявамі па завязку.

- Годзе,- рэзка ўсклікнуў ён.- Патаемная зала - гэта міф! Яе не існуе! Як і не існуе ані найменшых доказаў, што Слізэрын пабудаваў у Хогвартсе нават сакрэтную камору для мёцел! Я ўжо шкадую, што распавёў вам гэтую дурацкую байку! А цяпер, калі вы не супраць, мы фернемся да сапраўднай ГІСТОРЫІ, да цвёрдых, праўдзівых і праверaных ФАКТАЎ!

І не мінула пяці хвілінаў, як класса паглыбілася ў сваё звыклае соннае знепрытомленне.

*

- Я заўсёды ведаў, што Слізэрын быў ашалеўшым старым лунацікам,- заявіў Рон, Гары і Герміёне, калі пасля ўроку, яны праціскваліся праз знатоўпіўшыхся ў калідорах людзей, каб закінуць свае торбы ў гасцёўню і накіравацца на абед. Аднак, я і не здагадваўся, што менавіта ён распачаў гэту брыдоту, наконт чыстай крыві. Я не пайшоў бы ў яго Дом, нат, калі б мне за гэта далі грошаў. І шчыра кажучы, калі сартавальны капялюш накіраваў бы мяне да слізэрынцаў, я не чакаючы сеў бы на цягнік дадому...

Герміёна палка заківала ў згодзе. А Гары прамаўчаў, ўсярэдзіне яго ўсё абвалілася.

Ён ніколі не распавядаў сябрам, што капялюш цалкавіта сур’ёзна збіраўся накіраваць ЯГО ў слізэрынскі Дом. Быццам гэта было толькі ўчора, Гары памятаў як у мінулым годзе, толькі ён начапіў сартавальны капялюш, той зашапатаў ціхім голасам:

«Ты можаш быць вялікім і Слізэрын дапаможа табе гэтага дасягнуць. Гэта ўсё тут ў тваім розуме. Не сумнявайся...»

Але Гары чуў, што ў Слізэрына, рэпутацыя Дома у якім навучаюцца цёмныя чараўнікі, таму ў адчаі паўтараў у сваёй галаве, што не хоча туды. Таму, калі капялюш нарэшце скарыўся, ён накіраваў хлопчыка ў Грыфіндор.

Прадзіраючыся праз натоўп, сябры сутыкнуліся з Колінам Крыві.

- Здароўку, Гары!

- Вітаю, Колін!- аўтаматычна адказаў Гары.

- Гары... Гары... слухай, адзін хлопчык з майго класа сказаў, быццам ты...

Аднак Колін быў настолькі малы, што быў не здольны супрацьстаяць натоўпу, што хутка панёс яго да галоўнай залы.

- Яшчэ ўбачымся, Гары,- піскнуў ён і знік з вачэй.

- Хм, і што такога сказаў яму той хлопчык у класе?- зацікаўлена спыталася Герміёна.

- Думаю то, што я і ёсць нашчадкам Слізэрына,- адказаў Гары і ўсярэдзіне яго ўсё абвалілася яшчэ мацней, ён прыпомніў, як падчас ланча ад яго збег Джасцін Фінч-Флэчлі.

- Людзі паверацць ува што заўгодна,- з агідаю прамовіў Рон.

Тым часам натоўп зрадзеў і яны без працы змаглі дабрацца да наступнай лесвіцы.

- А ты сапраўды думаеш, што патаемная зала існуе?- спытаўся Рон у Герміёны.

- Я ня ведаю што думаць,- нахмурыўшыся адказала яна.- Дамблдор не змог вылекаваць Місіс Норыс і таму мне здаецца, што той хто напаў на яе не... ммм... не чалавек.

Тым часам, сябры зайшлі за рог і апынуліся як раз у тым месцы, дзе адбыўся напад. Супыніўшыся, яны азірнуліся. Калідор выглядаў гэдак сама, як і ў тую ноч, толькі на клямцы не вісела здранцвелая котка, а пад надпісам стаяла пустое крэсла.

- Гэта тут ахоўны пункт Філча,- прамармытаў Рон.

Сябры азірнуліся. У калідоры было пуста.

- Нам не пашкодзіць, калі мы крыху пашукаем тут доказаў,- скідаючы сумку, сказаў Гары. І ўстаўшы на карачкі прыняўся за пошук доказаў.

- Тут падпаліны!- прамовіў ён.- І там... і там таксама...

- Хадзі сюды!- паклікала яго Герміёна.- Паглядзі! Гэта вельмі дзіўна...

Гары выпрастаўся і падыйшоў да аднаго з вокан ля надпісу. Герміёна паказвала яму на вяршыню аконнай рамы. Два дзесятка павукоў манеўруючы паспешна прадзіраліся праз маленечкую расколінку ў шкле. Там жа хісталася доўгая срэбная павуцінка, якую тыя напэўна выкарыстоўвалі ў якасці лесенькі, каб выбрацца вонкі з замка.

- Ці вы бачылі калі-небудзь, каб павукі рабілі нешта падобнае?- здзівілася Герміёна.

- Ані,- адказаў Гары,- а ты Рон? Рон?

Гары азірнуўся праз плячо. Рон, стаяў паводдаль і здавалася з усяе моцы змагаўся з жаданнем ўцячы.

- Ты чаго?- спытаўся Гары.

- Я... не... люблю... павукоў,- напружана адказаў той.

- Ніколі б не падумала,- здзіўлена пазіраючы на Рона, заўважыла Герміёна.- Ты столькі разоў выкарыстоўваў іх дзеля выкатавання зелляў...

- Не маю ані нічога супраць здохлых павукоў,- адказаў Рон, старанна намагаючыся глядзець куды заўгодна, але толькі не на раму.- Я не люблю тых, якія рухаюцца...

Герміёна загігікала.

- Гэта не смешна,- у адчаі прамовіў Рон.- Калі хочаце ведаць, мне было тры гады і Фрэд ператварыў майго... майго плюшавага мішку на вялізнага гідкага павука, калі я паламаў яго цацачную мятлу. Вам бы таксама не спадабалася трымаць у руках мішку ў якога раптам вырасла б шмат ног і...

Рон змоўк, яго ўсяго калаціла. Герміёна па-ранейшаму імкнулася не ўсміхацца. Адчуваючы, што тэму лепей змяніць, Гары спытаўся:

- Ці вы памятаеце сколькі вады было на падлозе? Адкуль яна ўзялася? Яе хтось выцер.

- Лужа была тут,- прамовіў Рон, ён ачуняў настолькі, што змог прайсці колькі крокаў міма Філчава крэсла.- На адным узроўне з гэтымі дзвярыма.

Ён пацягнуўся да латуннай ручкі, але адразу ж адхапіў яе, як быццам ручка яго апякла..

- Што яшчэ здарылася?- спытаў яго Гары.

- Туды я не пайду,- змрочна прамовіў ён.- Гэта дзявочая прыбіральня.

- Ай, Рон, ня бойся, там усё роўна анікога няма,- падыходзячы да яго заявіла Герміёна.- Гэта рэзідынцыя Мармытухі Міртлы. Хадзем, паглядзім.

І не звяртаючы ўвагі на вялізную шыльду з надпісам «Не працуе», яна адчыніла дзверы.

Гэта была самая жахлівая і самая прыгнятальна выглядаючая прыбіральня, якую Гары толькі бачыў у сваім жыцці. Пад вялізным, пакрытым плямамі і трэснутым люстэркам месціўся шэрах каменных ракавін. У вільготнай падлозе адлюстроўвалася цмянае святло ад колькіх свячных недагаркаў, амаль ушчэнт спрацаваных; драўляныя дзверцы кабінак былі пашарпаны і падрапаны, а адна вісела толькі на адным завесе.

Герміёна прыклала палец да вуснаў і пайшла да апошняй кабіны.

- Гэй, прывітанне, Міртла, як маешся?- дайшоўшы на месца, спыталася дзяўчынка.

Гары і Рон падыйшлі і таксама зазірнулі ўсярэдзіну. Мармытуха Міртла плавала ў бачку, калупаючы прышчынку на падбароддзі.

- Гэта ДЗЯВОЧАЯ прыбіральня,- заявіла яна, з падазронасцю паглядзеўшы на Гары і Рона,- А ЯНЫ не дзяўчынкі.

- Ані, не дзяўчынкі,- пагадзілася з ёй Герміёна,- але я... я толькі хацела паказаць ім, як... ммм... тут добра.

Яна няўпэўненна хістнула рукой кажучы на старое люстэрка і вільготную падлогу.

- Спытай у яе, ці не бачыла яна кагось,- аднымі вуснамі прашапатаў Гары Герміёне.

- Што ты там шапочаш?- спытала вытарапіўшыся на яго, Міртла.

- Не, нічога,- хутка адказаў ёй Гары.- Я толькі хацеў спытаць...

- Як бы мне хацелася, каб людзі кінулі гаварыць за маёй спіной!- задыхаючыся ад слёз ўз’енчыла Міртла.- У мяне ж таксама ЁСЦЬ пачуцці, не гледзячы на тое, што Я памерла.

- Міртла,- прамовіла Герміёна,- мы не хацелі цябе пакрыўдзіць. Гары толькі...

- Не хацелі пакрыўдзіць! Якая лухта!- залямантавала Міртла.- Пры жыцці я ня ведала тут анічога акрамя пакут! А цяпер людзі прыходзяць, каб сапсаваць мне яшчэ і смерць!

- Мы хацелі спытаць цябе, ці не бачыла ты чагосьці дзіўнага апошнім часам?- выпаліла Герміёна.- Наўпрост за дзвер’ю тваёй прыбіральні на Хэлаўін адбыўся напад на котку.

- Ці ты не бачыла кагось у тую ноч?- спытаў Гары.

- Не звярнула ўвагі.- тэатральна адказала Міртла.- Піўз моцна пакрыўдзіў мяне, таму вярнуўшыся, я вырашыла накласці на сябе рукі. А потым, зразумела, прыпомніла, што я...

- Ужо і так памерла,- папамагаючы ёй, прамовіў Рон.

Міртла выдала трагічны енк, паднялася ў паветра, разгарнулася, распырскаўшы паўсюль ваду, нырнула ва ўнітаз і знікла з вачэй. Дзе, калі судзіць па гуку яе рыданняў, схавалася ў выгіб трубы.

Гары і Рон стаялі раззявіўшы рота, але Герміёна, стомлена паціснуўшы плячыма, заявіла:

- Шчыра кажучы, Міртла, сёння была амаль што вясёлай... добра, хадзем адсюль.

Гары, ледзь паспеў зачыніць дзверы, за якімі ўсё яшчэ, з булькатам рыдала Міртла, як гучны холас прымусіў усіх траіх падскочыць.

- РОН!

На верхняй прыступкі лесвіцы стаяў, бліскаючы прэфектаўскім значыкам, Персі Візлі, на твары якога адлюстраваўся моцны шок.

- Гэта ДЗЯВОЧАЯ прыбіральня!- ледзь дыхаючы, прамовіў ёе.- Што ты..?

- Троху пашукалі,- паціснуў плячыма Рон.- Ці не знойдзем ключэй да разгадкі...

Персі надзмуўся, так што адразу ж нагадаў Гары місіс Візлі.

- А ну... прэч... адсюль...- набліжаючыся да іх і адначасова праганяючы іх, махамі рук, сказаў Персі.- Вас не ТУРБУЕ, як гэта выглядае з боку. Вяртацца сюды, пакуль усе астатнія на абедзе...

- А чаму нам нельга тут быць,- палка заявіў Рон, супыніўшыся і вылупіўшыся на Персі.- Слухай, аніхто з нас і пальцам не крануўся да той коткі!

- Тое ж самае я сказаў Джыні,- раззлавана сказаў Персі,- але яна дагэтуль лічыць, што вас выключаць са школы. Я ніколі ранней не бачыў яе такой засмучанай, яна ўсе вочы выплакала. Падумай пра яе, няма ніводнага першагодкі, якога не захапіла гэта...

- ТЫ не пра Джыні клапоцішся,- адказаў Рон, вушы якога зрабіліся чырвонымі.- ТЫ турбуешся аб тым, што я магу сапсаваць твае планы зрабіцца школьным старастам.

- Пяць балаў з Грыфіндора!- каротка прамовіў Персі, кажучы пальцам на свой значык.- Спадзяюся, што хоць гэта чаму-небудзь цябе навучыць! І каб больш аніякай ДЭТЭКТЫЎНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ, альбо я напішу маці!

Персі развярнуўся і рушыў прэч. Яго шыя была гэткай жа чырвонай, які і Ронавы вушы.

*

Тым вечарам, Гары, Рон і Герміёна абралі ў гасцёўне месца, як мага далей ад Персі. Рон ўсё яшчэ заставаўся ў благім настроі, таму нарабіў кляксаў у хатняй рабоце па замовах. А калі ён, каб выдаліць кляксы, безуважліва кранаў пергамент сваёй палачкай, той загарэўся. Палаючы ад злосці, як той пергамент, Рон ляпнуў сваёй «Стандартнай кнігай замоў». Да Гарынага здзіўлення тое ж самае зрабіла і Герміёна.

- Аднак, хто ж гэта мог зрабіць?- ціхім голасам, працягваючы распачатую ранней размову.- Хто жадае, каб усе сквібы і магланароджаныя пакінулі Хогвартс?

- Давай паразважаем,- з фальшывай збянтэжанасцю, сказаў Рон.- Хто, як мы ведаем, лічыць усіх магланароджаных брыдотай?

Ён паглядзеў на Герміёну, тая, нерашуча азірнулася.

- Ты аб Малфоі?

- А хіба не!- заявіў Рон.- Ты чула яго словы: «Наступнымі будзеце вы, глеекроўкі!» Слухай, на яго брыдкі пацучыны твар годзе аднаго раза глянуць, каб зразумець - гэта ён!

- Думаеш, Малфой – нашчадак Слізэрына?- з недаверам спыталася дзяўчынка.

- Ты зірні на ягоную сямейку,- адкладаючы сваю кнігу, уціснуўся ў размову Гары.- Малфой заўсёды хваліўся, што ягоныя продкі былі толькі слізэрынцамі. Яны лёгка маглі

быць нашчадкамі заснавальніка свайго Дому. І яго бацька для гэтага суцэль дастаткова злы.

- І яны маглі праз стагоддзі, дадаў Рон,- захоўваць у сябе ключы ад патаемнай залы! Перадаючы іх ад бацькі да сына...

- Ну, што,- з асцярогай, прамовіла Герміёна.- Мяркую, што гэта цалкам мажліва...

- Але дзе мы возьмем доказы?- змрочна спытаўся Гары.

- Ёсць спосаб іх здабыць,- ціхенечкім голасам павольна сказала дзяўчынка, яна хутка азірнула пакой, каб паглядзець, ці няма паблізу Персі,- Аднак ён, зразумела ж цяжкі. І надта надта небяспечны. Не кажучы пра тое, што для яго выканання нам трэба будзе парушыць не менш за пяцьдзесят школьных правілаў.

- Калі на працягу месяца-паўтара, ты будзеш гатова нам яго растлумачыць,- раздражнённа сказаў Рон.- Даш нам ведаць, добра?

- Ну, добра,- абыякава прамовіла Герміёна.- Нам трэба трапіць у слізэрынскую гасцёўню і задаць Малфою колькі пытанняў, але каб ён не зразумеў што размаўляе з намі.

- Гэта ж не мажліва,- заявіў Гары, а на Ронавым твары аб’явілася ўсмешка.

- Не, мажліва,- адказала дзяўчынка.- Усё што нам для гэтага спатрэбіцца, крыху шматыстотнага зелля.

- Крыху, чаго?- у адзін голас, спыталіся Рон і Гары.

- Снэйп узгадваў пра яго на ўроку колькі тыдняў таму...

- Думаеш, падчас зелляварства, нам ані няма больш нічога рабіць, як толькі Снэйпа слухаць,- прабуркатаў Рон.

- З яго дапамогаю можна пераварацічца на іншага чалавека. Падумайце. Мы маглі б пераварацічца на трох слізэрынцаў і ніхто б не здагадаўся, што мы гэта мы. Тады, верагодна, Малфой раскажа нам што-небудзь. Напэўна ён нават зараз пахваляецца гэтым у слізэрынскай гасцёўне. Калі б мы маглі яго чуць...

- Гучыць занадта хітравата,-пахмурліва заявіў Рон.- А што калі праз гэта шматыстотнае зелле мы назаўжды застанемся выглядаць як слізэрынцы?

- Ані, у яго толькі часовае дзеянне,- махнуўшы рукой сказала Герміёна.- Але будзе вельмі цяжка здабыць яго рэцэпт. Снэйп сказаў, што ён ёсць у кнізе «Найпотэжны зелля»і што яна павінна быць у забароненай секцыі бібліятэкі.

Існаваў толькі адзін спосаб узяць кнігу з забароненай секцыі: цябе трэба было мець на гэта дазвол ад кагосьці з настаўнікаў.

- Так, будзе цяжкавата растлумачыць каму-небудзь,- прамовіў Рон,- навошта нам спатрэбілася гэта кніга, калі мы не збіраемся паспрабаваць анічога з пададзеных у ёй зелляў.

- Я мяркую,- адказала на гэта Герміёна,- што калі б мы пераканалі кагось з настаўнікаў, што нас цікавіць толькі тэорыя, мы б мелі шанец...

- Ай, кінь дурное, хто з настаўнікаў купіцца на такое,- заявіз Рон.- Хіба што поўны ёлуп...

## — РАЗДЗЕЛ X —

### *Бладжэр з норавам*

Пасля катастрафічнага выпадка з піксі, Локхарт больш не рызыкаваў прыносіць на заняткі жывых істотаў. Замест гэтага, прафесар распачаў чытаць вучням свае кнігі, а адчасу ладзіў па іх невялічкія спектаклі. У памочнікі сабе, ён звычайна абіраў Гары, так што, хлопчык да сённяшняга моманту ўжо паспеў пабываць трансільванскім селянінам, якога Локхарт вылекаваў ад балбатальных сурокаў, Зюзям з ільдзяной галавой і ўпіром, які не мог, пасля сустрэчы з Локхартам, есці анічога акрамя салаты.

Вось і на гэтым занятку па абароне ад Цёмных мастацтваў, Гары выцягнулі да дошкі. На гэты раз хлопчыку трэба было ўявіць сабой ваўкалака. І калі б не важкая прычына, захаваць Локхарта ў добрым настроі, Гары б са здавальненнем адмовіўся.

- А цяпер гучна ўзвый, Гары... праўдзівей... дык вось, тады, паверыце вы мне ці не, я кінуўся на яго... вось так... ШПУРНУЎ на зямлю... такім вось чынам... адной рукой прыціснуў да зямлі, а другой, крануў яго горла сваёй палачкай... і тады, прыцягнуўшы на дапамогу свае апошнія сілы, я выканаў над ім незвычайна складануў замову Гаморфус... ён жаласліва завыў... давай, Гары... грамчэй... добра... яго поўсць знікла... яго іклы зменшыліся... і ён зноў ператвараціўся на звычайнага чалавека. Проста, але эфектыўна... і вось цяпер, яшчэ адна вёска будзе памятаць мяне, як героя, што пазбавіў іх ад штомесячных жахлівых нападаў ваўкалака.

Празвінеў звон і Локхарт выпрастаўся.

- Хатняя работа: скласці паэму аб паразе ваўкалака Вагі Вагі ў змаганні са мной! Аўтар лепшай, атрымае асобнік кнігі «Мая магічнасць» з аўтографам!

Навучэнцы пакрысе пачалі выходзіць з кабінэта, а Гары вярнуўся у глыбіню класы, дзе яго чакалі Рон і Герміёна.

- Гатова?- прамармытаў Гары.

- Дачакаюся пакуль выйдуць ўсе,- занепакоена адказала Герміёна.- Уф, ну добра...

Яна падыйшла да локхартаўскага стала, сціскаючы ў руках нейкую паперу, а Гары і Рон крочылі следам.

- Эээ... прафесар Локхарт?- запінаючыся, сказала дзяўчынка.- Мне б хацелася... узяць у бібліятэцы адну кнігу. Для дадатковага чытання.- крыху дрыжачымі рукамі, яна працягнула Локхарту паперу.- Але, уся справа ў тым, што яна знаходзіцца ў забароненай секцыі бібліятэцы і трэба, каб хто-небудзь з настаўнікаў падпісаў дазвол на яе атрыманне... упэўнена, што толькі яна дапаможа мне зразумець , тое што вы казалі аб атрутах запаволеннага дзеяння ў сваёй кнізе «Гульні з гулямі»...

- А, «Гульні з гулямі»!- прымаючы ў Герміёны цыдулку і шырока ўсміхаючыся.- Гэта вельмі любімая мной кніга. Яна спадабалася табе?

- Так, зразумела,- палка адказала дзяўчынка.- А як вы разумна зрабілі... калі трапілі ў пастку маючы толькі чайны падсітак...

- Ну, я ўпэўнены, што калі я крышачку дапамагу лепшай вучаніцы году, ніхто супраць ня будзе,- з цеплынёй прамавіў Локхарт і выцягнуў аднекуль вялізнае паўлінне пяро,-

Прыгожае, ці не праўда?- не правільна зразумеўшы агідны выраз на Ронавым твары.- Звычайна, я падпісваю ім кнігі

Ён паставіў на Герміёнінай цыдулцы зухаваты рочырк і вярнуў яе дзяўчынцы.

- Во, Гары,- прамовіў прафесар, калі нягнуткімі пальцамі Герміёна складала цыдулку і клала яе ў сваю торбу,- заўтра ж першы квідытчны матч сэзону, так? Калі не памыляюся Грыфіндор грае супраць Слізэрыну. Я чуў ты выдатны гулец. Я таксама быў паляўнічым. Мне нават прапаноўвалі месца ў нацыянальнай зборнай, але я вырашыў прысвяціць сваё жыццё выкараненню з гэтага света цёмных сіл. Тым ня менш, калі ты будзеш адчуваць патрэбу ў невялічкім прыватным практыкаванні, не саромся папытаць мяне аб гэтым. Я заўжды гатовы дапамагчы сваімі ведамі і вопытам камусьці менш здольнаму...

Гары выдаў нейкі невыразны гук са свайго горла, а потым пасьпяшаў следам за сябрамі.

- Мне ў гэта не верыцца,- прамовіў Гары, калі яны ўтраіх разглядалі локхартаўскі подпіс на Герміёнінай цыдулцы.- І нават НЕ ЗІРНУЎ, што за кнігу ты жадаеш узяць?

- Гэта таму, што ён бязмозглы ёлупень,- адказаў Рон,- але каго гэта павінна хваляваць, калі дазвол у нашай кішэні.

- Ён табе НЕ бязмозглы ёлупень,- пранізліва заявіла Герміёна і яны напалову бегам пасьпяшалі ў бібліятэку.

- Ты так думаеш, таму што ён назваў цябе лепшай вучаніцай году...

Яні кінулі свае спрэчкі, бо ўвайшлі ў ахутаную цішынёй бібліятэку дзе панавала мадам Пінс, хударлявая і заўжды раздражнённая жанчына, якая нагадвала сабой недаядаючага сцервятніка.

- Найпатэжны зеллі?- паўтарыла яна і паспрабавала ўзяць цыдулку з Герміёніных рук, але дзяўчынка працягвала моцна трымаць яе.

- Я буду ўдзячна, калі вы не будзеце яе забіраць,- адным дыханнем прашапатала Герміёна.

- Ай, кінь ты дурное,- вырваўшы цыдулку з Герміёніных рук і кінуўшы яе мадам Пінс, сказаў Рон.- Калі Локхарт пратрымаецца на сваім месцы дастаткова доўга, ты зможаш атрымаць яшчэ ані не адзін яго аўтограф.

Мадам Пінс паглядзела на цыдулку праз святло, спрабуючы выявіць падробку, але нічога не знайшла. Таму, падняўшыся з месца, яна крочыла між высокіх паліц ў глыбіню бібліятэкі і праз колькі хвілінаў вярнулася адтуль трымаючы ў руках вялізную і застаражытную з выгляду кнігу. Герміёна асцярожна паклала яе ў торбу і яны пасьпяшалі прэчкі намагаючыся ісці не надта хутка і не выглядаць надта вінаватымі.

Праз пяць хвілінаў, яны ўжо акупіявалі непрацуючую прыбіральню Мармытухі Міртлы. Адкінуўшы ўсе Ронавы пратэсты, Герміёна вырашыла, што гэта апошняе месца, куды можа завітаць хтось у добрым розуме, таму ім гарантыявана некаторая прыватнасць. У сваёй кабінцы працягвала енчыць Міртла, але яны ігнаравалі адно аднаго.

Герміёна асцярожна адчыніла кнігу і усе трое схіліліся над яе вільготнымі, пакрытымі плямамі старонкамі. З першага погляду яны зразумелі, чаму кніга апынулася ў забароненай секцыі. Шмат зелляў прадстаўленых у ёй мелі надта жахлівы эфект, што было паказана на колькіх гідкіх ілюстрацыях - чалавек, якога здавалася вывернула навыварат ці вядзьмарка ў якой з галавы расло колькі дадатковых пар рук і таму падобныя.

- А вось і яно,- прамовіла Герміёна, знайшоўшы зелле, ілюстраванае выявамі людзей, якія ўжо напалову ператварыліся на кагосці іншага. І гледзячы на іх, Гары шчыра спадзяваўся што наймацнейшыя пакуты на іх тварах, толькі фантазіі мастака.

- Гэта самае складанае зелле з тых што я калісь бачыла,- праглядаючы рэцэпт, паведаміла Герміёна.- Мухі сеткакрылкі, п'яўкі, стуліха, драсён,- шапатала яна, водзячы пальцам па радках.- Ну гэта дастаць вельмі лёгка, яны ёсць у шафе для навучэнцаў. Ёйку, глядзіце, таўчоны рог двурога... нат ня ведаю дзе яго знайсці... Цёртая скура бумсланга... гэта таксама будзе складана, ну і вядома крышачку ад таго ў каго мы жадаем пераваравіцца.

- Прабач?- перабіў яе Рон.- Што ты мела на ўвазе, пад «крышачку ад таго ў каго мы жадаем пераваравіцца»? Я не буду піць анічога ў чым ёсць Крэйбавы пазногці...

Герміёна працягвала чытаць, быццам нават не чула Рона.

- Хаця аб гэтым нам непакоіцца пакуль ня трэба, бо іх трэба дадаваць напрыканцы...

Рон адвярнуўся, у яго аднялася мова, а вось Гары выглядаў надта занепакоенным.

- Герміёна, ты разумееш колькі мы будзем мець праблемаў, калі паспрабуем скрасці адсутныя інгрэдыенты? Цёртая скура бумсланга... яе ў шафе для навучэнцаў не знойдзеш. А як нам правацца да асабістых запасаў Снэйпа? Я нават ня ведаю, ці ёсць гэта добрай ідэяй...

Герміёна з грукатам захлопнула кнігу.

- Ну што, калі вы абодва збіраецесь падтуліць хваста, добра,- адказала Герміёна, яе шчокі паружавелі, а ў вачах аб'явіўся большы чым звычайна бляск.- Вы абодва ведаеце як Я не люблю парушаць правілы. І Я лічу, што тое, што пагражае ўсім магланароджаным чараўнікам значна горшае, за варства цяжкога зелля. Аднак, калі вы не хочаце даведацца, якім бокам да гэтай справы тычыцца Малфой, я зараз жа пайду і вярну кнігу мадам Пінс...

- Не думаў, што дажыву да таго дня, калі ты будзеш пераконваць нас парушыць школьныя правілы,- прамовіў Рон.- Добра, мы згодны. Але, каб без пазногцяў.

- А як доўга будзе варыцца зелле?- спытаўся Гары, калі задаволеная Герміёна зноўку адчыніла кнігу.

- Ну, стуліху трэба апрацоўваць на поўню, а сеткакрылак таміць на працягу дваццаці аднаго дня... Думаю, калі мы знойдзем усе неабходныя інгрэдыенты, на гэта пойдзе прыблізна месяц.

- Месяц?- спытаўся Рон.- За месяц Малфой паспее ажыцявіць напад на палову магланароджаных, што тут вучацца!- але заўважыўшы, як вочы дзяўчынкі зноўку небяспечна звузіліся, імгненна дадаў.- Хаця, гэта лепшы план, які ў нас зараз ёсць, так што наперад на ўсіх парах.

Тым ня менш, пакуль Герміёна правярала, ці няма небяспекі за дзвярыма прыбіральні, Рон прашапатаў Гары:

- Аднак, лепей будзе, калі ты заўтра папросту, скінеш Малфоя з мятлы.

*

У суботу, Гары прачнуўся на золку і, працягваючы ляжаць ў ложку, прыняўся разважаць аб маючым адбыцца матчы. Ён быў занепакоены, і тым што скажа ім Вуд, калі яны прайграюць, і тым, што сёння ім прыйдзецца супрацьстаяць камандзе, якая лятае на самых хуткіх мётлах, якія толькі мажліва набыць за золата. Ніколі ранней ён так моцна не

жадаў паразы слізэрынцаў. Праз поўгадзіны ляжання ў яго пачало круціць у жываце, тады ён ўстаў, апрануўся і спусціўся на сняданак. Да яго здзіўлення, не гледзячы на ранні час, уся грыфіндорская каманда ўжо сядзела за пустым сталом, занепакоеная і не шматмоўная.

Аб адзінаццатай гадзіне ўся школа пачала рухацца ў напрамку квідытчнага стадыёну. Дзень быў задушлівы, а ў паветры адчувалася хуткае набліжэнне грымотаў. Ля распранальні да Гары падбеглі Рон з Герміёнаю, каб пажадаць яму поспеху. Потым ён, разам з астатняй камандай, пераапрануўся у пунсовую квідытчную мантыю і прысеў, каб паслухаць звычайную падбадзёрлівую перадматчавую прамову Вуда.

- Так, у Слізэрынцаў лепшыя мётлы за нашыя,- распачаў ён,- і ня мае сэнсу сцвярджаць, што гэта не так. Аднак на нашых мётлах, сядзяць найлепшыя за іхных ГУЛЬЦЫ. Мы трэніраваліся больш чым яны, мы ляталі ў любое надвор’е... (- Цалкавітая праўда,- прамармытаў Джордж Візлі.- Апошні раз надзейна высахлая вопратка ў мяне была ў жніўне.)...- таму, давайце зробім так, каб яны праклялі той дзень, калі дазволілі Малфою, гэтаму куску брыды, набыць шлях у іх каманду.

Усхвалявана ўздымаючы грудзі, Вуд звярнуўся да Гары.

- І асабістае заданне для цябе, Гары - пакажы Малфою, што дзеля таго, каб быць паляўнічым, трэба нешта большае за багатага бацьку. Злаві сніч раней за Малфоя, ці памры ў спробе яго злавіць. Мы павінны выйграць сённяшні матч, павінны.

- Так што не турбуйся, Гары!- падміргнуў яму Фрэд.

Як толькі яны выйшлі на поле, іх сустрэла аглушальнае равенне натоўпу - Рэйвенкло і Хафлпаф таксама з нецярпеннем чакалі паразы слізэрынцаў, аднак ў натоўпе было чуваць і няўхвальны гуд ды сыканне слізэрынцаў. Мадам Хуч, квідытчная суддзя, загадала Вуду і Флінту наблізіцца і паціснуць адно да аднаму рукі. Што яны і зрабілі, абдараваўшы суперніка пагрозлівым поглядам і сціснуўшы рукі мацней чым гэта было неабходна.

- Пачынаем па маім свістку.- сказала мадам Хуч.- Раз... два... тры...

Пад равенне натоўпу, чатырнаццаць мёцел ўзняліся ў свінцовага колеру неба. Гары ўзляцеў вышэй за астатніх і прыжмурыўшыся, прыняўся шукаць вачамі сніч.

- Як ты там маешся, шнарагаловы?- спытаўся Малфой, куляй ўзляцеўшы перад яго вачыма, быццам жадаў паказаць Гары хуткасць сваёй мятлы.

Адказаць Гары не паспеў. У тое ж імгненне ў яго бок кінуўся цяжкі чорны бладжэр. У апошні момант Гары ўхіліўся і мяч пранесся ўшчыльную да яго галавы, кранууўшы валасы.

- Ён амаль патрапіў па цябе, Гары!- прамільгатнуўшы міма хлопчыка, кінуў Джордж і стукнуўшы бітай па бладжэру, пусціў яго у бок слізэрынцаў. Гары выразна бачыў, як пасля магутнага ўдару, бладжэр паляцеў у бок Адрыяна Пасі, аднак папросту змяніў свой кірунак і зноўку рынуўся да Гары.

Каб пазбегнуць яго, Гары рэзка знізіўся, а Джордж з ўсяе моцы шпурнуў бладжэра ў бок Малфоя. Аднак той, зноў змяніў напрамак і нібы бумеранг паляцеў у Гарыну галаву.

Гары набраў хуткасці і супыніўся на другім канцы поля. Ён чуў, як бладжэр са свістам раздзіраючы паветра паляцеў уследза ім. Што тварыцца? Ніколі раней бладжэры не канцэнтравалі свае сілы на адным гульцы, звычайна яны намагаліся трапіць у як мага больш чалавек...

На процілеглым канцы поля Гары і бладжэра ўжо чакаў Фрэд Візлі. Гары паднырнуў пад Фрэда, а той шыбануўшы па бладжэру зноўку збіў таго з курса.

- Я зрабіў гэта!- прагаласіў Фрэд, але ён памыляўся. Бладжэра быццам магнітам працягвала цягнуць да Гары. Ён зноўку кінуўся ў бок хлопца і Гары, каб чарговы раз пазбегнуць сутыкнення быў вымушаны ляцець на поўнай хуткасці.

Распачаўся дождж. Гары адчуў як цяжкія кроплі трапляюць па ягоным твары і распырсківаюцца па акулярах. Ён ня меў аніякага разумення, што адбываецца на полі, пакуль не пачуў каментар Лі Джордана.

- З лікам шэсцьдзесят на нуль наперадзе Слізэрын.

Найвыдатнейшыя слізэрынскія мётлы добра рабілі сваю справу, а бладжэр тым часам рабіў усё магчымае, каб збіць Гары з мятлы. Фрэд і Джордж цяпер ляцелі паабапал ад яго і Гары мог бачыць толькі махі іх бітаў. Хлопчык быў не ў стане не тое, каб злавіць сніч, ён не мог нават адшукаць яго.

- Гэты... бладжэр... нехта... сапсаваў...- размахнуўшыся, каб адбіць чарговую атаку мяча, прабурчаў Фрэд.

- Нам патрэбны тайм-аўт,- крыкнуў Джордж, спрабуючы адначасова даць ведаць аб гэтым Оліверу і не даць бладжэру разбіць Гарын нос.

Відавочна Вуд усё-ткі зразумеў Джорджа, таму што праз імгненне адчуўся свісток мадам Хуч і Гары, Фрэд ды Джордж апусціліся на зямлю, спрабуючы не трапіць пад ашалелы бладжэр.

- Што тут тварыцца?- спытаўся Вуд, калі каманда прыціснуўшыся адно да аднаго плячыма і чуючы здзекі слізэрынцаў, пачала нараду.- Нас на галаву бьюць. Фрэд, Джордж, вы дзе валэндаліся, калі бладжэр не даў Алісіі забіць гол?

- Мы былі дваццацю футамі ніжэй, Олівер, і спрабавалі не даць другому бладжэру забіць Гары.- раззлавана адказаў Джордж.- Нехта прымусіў мяч атакаваць менавіта яго... бладжэр не пакідае яго ў спакоі, а іншых гульцоў цалкам не заўважае. Нехта са слізэрынцаў пэўна папрацаваў над ім.

- Але ж з часу нашай апошняй трэніроўкі бладжэры былі зачынены ў кабінэце мадам Хуч і ў той час нічога дрэннага з імі не было...- трывожна прамовіў Вуд.

У іх бок крочыла мадам Хуч. Праз яе плячо Гары бачыў, як слізэрынская каманда здзекваецца, кажучы пальцамі ў яго кірунку.

- Слухайце,- сказаў Гары, сочачы за набліжэннем Хуч.- Пакуль вы двое будзеце лятаць ля мяне, я змагу спаймаць сніч, толькі калі ён заляціць мне ў рукаў. Вяртайцеся да астатняй каманды і пакінце мяне сам-насам з гэтым шэльмецом.

- Ці ты не здурнеў?- спытаўся ў яго Фрэд.- Бладжэр цябе галаву адаб’е.

Вуд пераводзіў свой погляд з Гары на блізнятаў і назад.

- Олівер, гэта чыстае вар’яцтва,- люта прамовіла Алісія.- Ты не павінен дазваляць Гары заставацца сам-насам з бладжэрам. Трэба правесці расследванне...

- Калі мы супынім матч, то прайграем!- адказаў ёй Гары.- Мы не павінны прайграваць, усяго толькі з-за ашалелага мяча! Давай, Олівер, загадай ім, каб пакінулі мяня ў супакоі!

- Гэта ўсё з-за цябе,- раззлавана заявіў Вуду Джордж.- «Злаві сніч, ці памры ў спробе яго злавіць»... трэба ж цябе было сказаць падобную лухту!

Да каманды падыйшла мадам Хуч.

- Вы гатовы працягваць?- спыталася яна ў Олівера.

Вуд паглядзеў на рашучы твар Гары.

- Ну добра,- прамовіў ён.- Фрэд, Джордж, ці вы чулі Гары... пакінце яго і дазвольце самому змагацца з тым бладжэрам.

Тым часам дождж узмацніўся. Адчуўся свісток мадам Хуч і Гары, адштурхнуўшыся нагой ад зямлі кінуўся ў паветра, адразу ж пачуўшы за сабой знаёмы свіст бладжэра,. Ён падымаўся ўсё вышэй і вышэй, ён пятляў і кідаўся ўніз, ён ляцеў па спіралі, зігзагамі і круціўся вакол сваёй восі. У Гары пачала крыху круціцца галава, але ён працягваў ляцець шырока раскрыўшы вочы. Залева закрапала яго акуляры, а кроплі траплялі ў яго ноздры, калі ён перакуліўся дагары нагамі, чарговы раз ухіляючыся ад мяча. Ён чуў смех гледачоў і ведаў, што зараз напэўна выглядае вельмі недарэчна, аднак ён таксама ведаў, што бладжэр быў вельмі цяжкім і не мог змяняць курс настолькі хутка. Гары пусціўся ўздоўж стадыёну ў нешта нагадваючае паездку на амерыканскіх горках. Праз заслону дажджу ён бачыў, як Адрыян Пасі спрабаваў прайсці міма Вуда...

Свіст у Гарыным вуху, паказаў хлопчыку, што бладжэр толькі што зноў абмінуў яго. Хлопчык развярнуў мятлу і пусціў яе ў процілежным кірунку.

- Рыхтуеш балетны нумар, Потэр?- прагаласіў Малфой, калі Гары, чаговы раз быў вымушаны шелёна закруціцца ў паветры, каб пазбегнуць сутыкнення з мячом. Пакінуўшы бладжэра ў колькіх футах па-за сабой, Гары развярнуў мятлу, з нянавісцю зірнуў на Малфоя і ўбачыў ЗАЛАТЫ СНІЧ, што вісеў у таго адразу над левым вухам... але Драко быў настолькі заняты высмейваннем Гары, што папросту не заўважаў мяча.

На адно цягучае імгненне Гары завіс у паветры, не рашаючыся кінуцца ў бок Малфоя, бо той мог заўважыць сніча і тут...

БАМ!

Гары занадта доўга вісеў на адным месцы. Бладжэру хапіла гэтага часу, каб нарэшце яго дастаць. Ён стукнуў хлопчыка ў локаць і той адчуў як ламаецца ягоная рука. Напалову згубіўшы прытомнасць ад болю ў руцэ, Гары слізгануў на пакрытым дажджом тронку сваёй мятлы, аднак утрымаўся на ёй, абкруціўшы тронак адной нагой, але яго правая рука бескарысна боўталася з боку. Тым часам бладжэр падрыхтаваўся да новага нападу, на гэты раз накіраваўшыся ў Гарын твар. Гары паспеў ухіліцца, яго розум быў заняты толькі адной думкай: ТРЭБА ДАБРАЦЦА ДА МАЛФОЯ.

Пераадольваючы покрыва дажджу і боль, Гары кінуўся ў бліскучы, здзеклівы твар Малфоя, ён бачыў, як вочы слізэрынца ў жаху пашыраюцца. Той вырашыў, што Гары яго атакуе.

- Што...- ледзь дыхаючы прамовіў ён і паспяшаў прэчкі ад Гары.

Гары адарваў ад мятлы левую руку і трымаючыся толькі каленямі кінуўся наперад. Ён адчуў, як яго пальцы стуліліся вакол халоднага сніча. Чуючы крык натоўпу ў нізе, Гары накіраваў мятлу да зямлі, намагаючыся не страціць прытомнасць.

З плёскаючым гукам, хлопчык апусціўся на пакрытую брудам зямлю і скаціўся з мятлы. Яго правая рука вісела пад вельмі дзіўным вуглом. Перапоўнены болем, ён чуў недзе здалёк свісценне і крыкі. Ён паспрабаваў засяродзіцца на снічы, які сціскаў здаровай рукой.

- Так,- няўпэўнена прамовіў ён.- Мы перамаглі.

Сказаўшы гэта, хлопчык знепрытомеў.

Гары ачуняў ад таго што дождж біў яго ў твар, ён ўсё яшчэ ляжаў на полі і нехта схіліўся над ім. Гары ўбачыў знаёмы бляск зубоў.

- Вой, не,- прамармытаў хлопчык,- толькі ня вы.

- Не разумею, што ён такое кажа,- гучна заявіў Локхарт згрудзіўшамуся вакол іх занепакоенаму натоўпу грыфіндорцаў.- Не хвалюйся, Гары. Зараз я папраўлю тваю руку.

- НЕ!- усклікнуў хлопчык.- Дзякуй, ня трэба. Няхай застаецца як ёсць...

Ён папрабаваў сесці, але яго пранізаў нясцерпны боль. Гары пачуў знаёмыя пстрычкі.

- Я не хачу,- гучна прамовіў ён,- каб ты зараз фатаграфаваў мяне, Колін.

- Ляжы, Гары,- супакойваючы яго сказаў Локхарт.- Я ведаю простую замову, якой карыстаўся безліч разоў.

- Чаму б мне папросту не пайсці ў шпітальнае крыло?- сціснуўшы зубы, сказаў Гары.

- Яму сапраўды лепей пайсці туды, прафесар.- прамовіў загважджаны брудам Вуд, які не мог стрымаць усмешку, нават гледзячы на свайго параненага паляўнічага.- Гэта было сапраўды пышна, Гары. Лепшае ўзяцця сніча, якое я толькі бачыў.

Скозь зарасці ног, Гары ўбачыў Фрэда і Джорджа, якія намагаліся запхнуць ашалелага бладжэра назад у скрынку. Ён ўсё яшчэ працягваў аказваць дзікі супраціў.

- Адсунцеся!- загадаў Локхарт і закасаў рукавы сваёй нефрытава-зялёнай мантыі.

- Ані... ня...- слаба прамовіў Гары, але Локхарт ўжо паспеў махнуць палачкай і скіраваць яе на руку хлопчыка.

Дзіўнае і непрыемнае пачуццё ахапіла Гарына плячо і распаўсюдзілась ажно да кончыкаў пальцаў. Яму падалося, што яго рука нібыта садзьмулася. Ён заплюшчыў вочы і адвярнуўся, не адважваючыся паглядзець на то, што сталася, аднак па таму, што згрудзіўшыеся вакол яго навучэнцы вохнулі, а Колін Крыві апантана пачаў пстрыкаць сваёй камерай зразумеў, што споўніліся яго самыя найгоршыя жахі. Рука больш не балела... аднак тое, што ён адчуваў, ані не нагадвала руку.

- Аёй,- войкнуў Локхарт.- Так. Адчасу такое здараецца. Але самае галоўнае, што косткі больш не паламаныя. А гэта, мне здаецца, самае галоўнае. Цяпер, Гары, можаш пакрысе ісці да шпітальнага крыла... так, містэр Візлі, міс Грэйнджэр, ці вы не правядзеце яго? Няхай мадам Помфры... эээ... зробіць усё астатняе.

Падняўшыся на ногі, Гары адчуў сябе неяк дзіўна аднабокім. Набраўшы паветра ў грудзі ён вырашыўся паглядзець на правую руку. І тое што ён убачыў, ледзь не прымусіла яго зноўку знепрытомець.

Тое што тырчала з рукава яго мантыі, больш за ўсё нагадвала тоўстую, цялеснага колеру гумовую пальчатку. Гары паспрабаваў паварушыць пальцамі. Аднак у яго нічога не атрымалася.

Локхарт не вылекаваў Гарыны косткі. Ён іх выдаліў.

*

Мадам Помфры ані не была задаволена.

- Вы павінны былі адразу ж прывесці яго да мяне,- лютавала яна, разглядаючы безвольную рэшту таго, што яшчэ поўгадзіны таму было нармалёваю рукой.- Паламаныя косткі я б паправіла яму за секунду... а вось вырасціць іх наноў...

- Але ж вы зможаце гэта зрабіць,- з адчаем ў голасе, спытаўся Гары.

- Канечне магу,- кідаючы Гары піжаму, адказала яна.- Аднак гэта будзе балюча і табе прыйдзецца правесці тут усю ноч...

Герміёна стаяла чакаючы па-за заслонаю Гарынага ложку, пакуль Рон дапамагаў яму апрануць піжаму. Спатрэбіўся даволі працяглы час, каб запхнуць у рукаў застаўшуюся бяз костак руку.

- Ну што, Герміёна, ты так і будзеш працягваць абараняць гэтага Локхарта?- з-за фіранкі крыкнуў ёй Рон, нарэшце прапхнуўшы млявыя Гарыны пальцы праз абшэвак рукава.- Думаю, калі б Гары вырашыў застацца без костак, ён бы сам аб гэтым папрасіў.

- Слухай,- адказала Герміёна,- памыліцца можа кожны. Гары, але рука больш не баліць?

- Ані,- прамовіў Гары.- Яна ўвогуле нічога не ў стане рабіць.

Ён разваліўся на ложку, а яго рука бескарысна ляснулася побач.

Фіранка адсунулася, па-за ёй стаялі Герміёна і мадам Помфры. У руках лекарка трымала вялізную бутэльку да якой была прышпілена налепка з надпісам «Скелегро».

- Сёння цябе чакая цяжкая ноч,- падаючы Гары, курэючую шклянку, заявіла мадам Помфры,- вырошчваць косткі прыкрая справа.

Гары выпіў змесціва шклянкі. Скелегро абпаліў яму рот і горла. Хлопчык закхекаўся і пачаў адплёўвацца. Панаракаўшы нешта ў адрэсу небяспечных відаў спорту і нязграбаў-настаўнікаў, мадам Помфры адыйшла, пакінуўшы Гары разам з сябрамі, каб тыя дапаглі яму запіць лекі колькімі глыткамі вады.

- Затое, мы перамаглі,- сказаў Рон і на яго твары расплылася ўсмешка. А твой кідок? Ці ты бачыў Малфоеўскі твар... ён цябе забіць быў гатовы!

- А мне цікава, як ён зачараваў на цябе бладжэра,- дадала Герміёна.

- Дададзім гэта ў спіс пытанняў, якія зададзім Малфою, калі прыгатуем шматыстотнае зелле,- прапанаваў, апускаючыся на падушку, Гары.- Спадзяюся, яно будзе смачней за Скелего...

- Гэта с кавалачкамі слізэрынцаў-та?- заявіў Рон.- Жартуеш?

Тут дзверы ў палату расчыніліся і туды, каб пабачыць Гары, ўваліліся астатнія гульцы грыфіндорскай каманды.

- Твой палёт быў найневерагодным,- прамовіў Джордж.- Слухай, я толькі што бачыў як Маркус Флінт галасіў на Малфоя. Накшталт таго, што ён не заўважыў сніча, які быў ў яго на галаве. І Малфой ані не выглядаў шчаслівым.

З сабой грыфіндорцы прынеслі кексаў, разнастайных слодычаў і колькі бутэлек з гарбузовым сокам і ўжо збіраліся распачаць невялічкую, але ўтульную вечарыну, але тут ў палату ўвайшла мадам Помфры.

- Хлопчыку трэба адпачываць. Ён павінен вырасціць трыццаць тры косткі! Вэк! ВЭК!

Гары пакінулі ў самоце і цяпер нішто не магло адцягнуць яго увагі ад колкага болю ў яго друзлай руцэ.

*

Гадзіны міналі за гадзінамі. Ратам Гары прачнуўся ў непрагляднай цемры і енкнуў ад болю: яго рука здавалася была перапоўнена вострымі буйнымі аскепкамі. Імгненне-другое ён думаў, што яго разбудзіла менавіта гэта. І тут, яго закалаціла ад жаху. Гары зразумеў, што нехта ў цемры праціраe ягоны лоб губкай.

- А ну прэч!- гучна прамовіў ён спачатку. І тут...- ДОБІ!

Вылупіўшы свае вочы-тэнісныя мячы, на Гары глядзеў хатні эльф. Па яго востраму носу кацілася самотная сляза.

- Гары Потэр вярнуўся ў школу,- гаротна прашапатаў ён.- Добі папярэджваў і зноў папярэджваў яго. Ах, сэр, чаму вы не прыслухаліся да Добіных слоў? Чаму не вярнуўся дамоў, калі спазніліся на цягнік?

Гары з цяжкасцю прысеў на ложку і адштурхнуў губку, якой Добі праціраў ягоны лоб.

- Што ты тут робіш?- спытаўся ён.- І адкуль ведаеш, што я спазніўся на цягнік?

Добіны вусны задрыжэлі і Гары, нечакана ахапілі няясныя падазрэнні.

- Гэта ТЫ зрабіў!- прамовіў хлопчык.- ТЫ не дазволіў нам прайсці праз бар’ер!

- Канечне, сэр,- адказаў Добі і затрос галавой так, што яго вушы пачалі пляскаць адно аб адно.- Добі хаваўся і назіраў за Гары Потэрам, а потым зачыніў праход, потым Добі за гэта апёк сабе рукі прасам...- ён прадэманстраваў Гары, дзесяць доўгіх, замотаных анучаю пальцаў...- Але Добі не звяртае на гэта ўвагі, сэр, ён хацеў, каб Гары Потэр быў у бяспецы. Добі нават НЕ ДУМАЎ, што Гары Потэр зможа прыехаць у школу іншым шляхам!

Ён пачаў хістацца сюды-туды, матляючы сваёй выродлівай галавой.

- Добі быў так сшакаваны, весткаю пра тое, што Гары Потэр вярнуўся ў школу, што спаліў абед свайму гаспадару! Добі ніколі ў жыцці так не лупцавалі, сэр...

Гары зноўку апусціўся на падушку.

- З-за цябе нас з Ронам ледзь не выкінулі са школы.- раззлавана прамовіў ён.- І цябе лепей цікаць адсюль да таго як вырастуць косткі ў маёй руцэ, Добі, інакш я цябе задушу.

Добі слаба ўсміхнуўся.

- Добі за звычай чуць пагрозы смерці, сэр. Дома Добі атрымлівае іх пяць разоў за дзень.

Эльф высмаркаўся ў куточак бруднай навалачкі, якую насіў на сябе і выглядаў у гэты момант такім бездапаможным, што гнеў Гары, насуперак яго пачуццям, знік сам сабой.

- Слухай, Добі,- здзіўлена спытаўся ён.- Чаму ты носіш на сябе ГЭТА?

- Гэта, сэр?- кажучы на навалачку перапытаў яго Добі.- Гэта сымвал рабства хатніх эльфаў, сэр. Калі гаспадары падаруюць Добі сапраўдную вопрадку, Добі зробіцца вольным. Яго сям’я турбуецца, каб не даць Добі ў рукі нават шкарпэтку, бо тады ён зробіцца вольным і зможа пакінуць свой дом.

Добі выцер свае лупатыя вочы і нечакана прамовіў:

- Гары Потэр ПАВІНЕН быў вярнуцца дадому! Добі лічыў, што яго бладжэра хопіць...

- ТВАЙГО бладжэра?- спытаўся Гары, яго зноўку ахапіў гнеў.- Што ты маеш на ўвазе пад ТВАІМ бладжэрам? Дык гэта па тваёй віне, ён імкнуўся мяне забіць?

- Не забіць, сэр, не!- ашаломлена, прамовіў эльф.- Добі хацеў ўратаваць жыццё Гары Потэру! Лепей, сэр, паехаць дамоў цяжка параненаму, чым заставацца ў замку! Добі хацеў, каб Гары Потэр пацярпеў настолькі, каб быць адпраўленым дадому!

- Ды няўжо?- люта спытаўся хлопчык.- І няўжо ты не скажаш мне, ЧАМУ хочаш адправіць мяне дадому па кавалках?

- Ах, калі б Гары Потэр ведаў!- уз’енчыў Добі, на яго ірваную навалачку пацяклі магутныя струмені слёз.- Калі б ён ведаў, прыгнечаных, пакорлівых, адкінутых чарадзейным светам істотаў! Добі памятае, сэр, як было ў тыя часы, калі Той Чыё Імя Нельга Называць быў у сваіх лепшых сілах. Нас хатніх эльфаў, лічылі нечым накшталт шкодных жывёлін, сэр! У яго доме, Добі, зразумела, дагэтуль гэткім лічацаць,- прызнаўся

ён, выціраючы навалачкай твар.- Аднак, з большага, калі вы, сэр, перамаглі Таго Чыё Імя Нельга Называць, жыццё значна палепшылася. Гары Потэр застаўся жывым, а Цёмны Лорд быў знішчаны і гэта было промням надзеі для тых, сэр, хто лічыў, што чорныя дні ані ніколі не прамінуць... Але ж хутка ў Хогвартсе адбудуцца, а можа ўжо адбываюцца жудасныя рэчы і Добі ня можа дазволіць Гары Потэру тут заставацца. Цяпер, калі патаемная зала адкрылася, гісторыя зноўку паўтараецца...

Добі аслупянеў ахоплены жахам, потым схапіў з тумбачкі ля Гарынага ложка збан з вадой і даўбануўшы ім па сваёй галаве, кульнуўся з ложка ды знік з вачэй. Хвіліну пазней эльф з паракошанымі вачыма зноўку ўскараскаўся на ложак, мармычучы:

- Дрэны Добі, вельмі дрэнны...

- Так што, патаемная зала існуе насамрэч?- прашапатаў хлопчык.- І ... ты хочаш сказаць, што яе ўжо адчынялі РАНЕЙ? СКАЖЫ мне праўду, Добі!

Ён схапіў эльфа за кашчавае запясце, якое зноўку пацягнулася да збана.

- Але ж я не магланароджаны... якую небяспеку зала можа несці для мяне?

- Ах, сэр, не пытайцеся больш, не пытайцеся больш нічога ў беднага Добі,- мармытаў той, блішчучы ў цемры сваімі вялізнымі вачыма.- Тут адбудуцца цёмныя справы і Гары Потэр не павінен пры гэтым прысутнічаць. З’яжджайце, Гары Потэр. З’яжджайце дамоў. Гары Потэр не павінен умешвацца, сэр, гэта вельмі, вельмі небяспечна...

- Хто, Добі,- моцна трымаючы эльфавы запясці ў сваёй руцэ і не даючы таму біць сябе збанам па галаве.- Хто яе адчыніў? Хто адчыняў залу ў мінулы раз?

- Добі не скажа, сэр. Ён ня можа, ён не павінен казаць!- віскатаў эльф.- З’яжджайце дамоў, Гары Потэр, хутчэй з’яжджайце дамоў!

- Анікуды я не паеду!- раззлаваўся Гары.- Мая лепшая сяброўка – магланароджаная і калі патаемная зала сапраўды адчынілася, яна будзе адна з першых у шэрагу...

- Гары Потэр рызыкуе жыццём за сваіх сяброў!- замармытаў, ашалелы ад гора, Добі.- Як гэта шляхетна! Як доблесна! Але ён павінен абараніць сваё жыццё, павінен. Гары Потэру нельга...

Добі зноў аслупянеў, рухаліся толькі яго кажанападобныя вушы. Гары таксама нешта пачуў. Па-за межамі палаты нехта ішоў.

- Добі трэба ісці!- ледзь чутна прамовіў перапужаны эльф. Нешта гучна шчоўкнула і Гарына рука нечакана сціснулася ў паветры. Ён зноўку адкінуўся на ложку і вытарапіліся на цёмныя дзверы палаты. Тым часам крокі набліжаліся і набліжаліся.

У наступнае імгненне дзверы расчыніліся, у палату завітаў Дамблдор апрануты ў доўгі пухнаты халат і начны каўпак. Ён трымаў нешта, нагадваючае статую. Праз імгненне другое, трымаючы статую за ногі ў палату ўвайшла прафесарка МакГонагал. Настаўнікі данеслі статую да ложку і паклалі на яго.

- Пакліч мадам Помфры,- загадаў шэптам Дамблдор і прафесарка МакГонагал, прамінуўшы ложак на якім ляжаў нерухомы, прыкінуўшыйся спячым Гары, кудысьці знікла. Хлопчык пачуў галасы, якія хутка гаманілі аб нечым і праз хвіліну ў палату вярнулася прафесарка ў суправаджэнні накінуўшай джэмпер на начную кашулю мадам Помфры. Ён пачуў як яна пранізліва войкнула.

- Што здарылася?- схіліўшыся над статуяй у ложку, шэптам спыталася яна ў дырэктара.

- Чарговы напад,- адказаў Дамблдор.- Мінерва знайшла яго на лесвіцы.

- Ля яго ляжала гронка вінаграда,- дадала прафесарка. Мы думаем, ён употай збіраўся наведаць Потэра.

У Гары непрыемна засвярбела ў грудзях. Павольна і асцярожна ён падняўся ў ложку і ўважліва паглядзеў на статую. Яе твар асвятляла месячнае праменне.

Але гэта была не статуя, гэта быў Колін Крыві. Ён ляжаў шырока раскрыўшы вочы, а яго рукі былі падняты і трымалі фотаапарат.

- Ён скамянеў?- прашапатала лекарка.

- Так,- адказала прафесарка.- І я з жахам думаю. А калі б Альбус не вырашыў спуціцца за кубкам гарачага шакаладу, хто ведае што б...

Яны ўтраіх утаропіліся на Коліна. Потым Дамблдор нахіліўся наперад і выцягнуў камеру з нягнуткіх пальцаў малога.

- Думаеце ён паспеў сфатаграфаваць злачынцу?- нецярпліва прамовіла прафесарка.

Замест адказа, дырэктар адчыніў заднюю накрыўку.

- А мой ты Бог!- вымавіла мадам Помфры.

Зашыпеўшы, з камеры вырваўся струмень пара. І нават лежачы праз тры ложкі ад Коліна, Гары адчуў пах палёнага пластыка.

- Растала,- ашаломлена прамовіла лекарка.- Яна папросту растала...

- Што гэта можа АЗНАЧАЦЬ, Альбус?- неадкладна спыталася прафесарка МакГонагал.

- Гэта азначае,- адказаў дырэктар,- што патаемную залу на самой справе адчынілі зноў.

Мадам Помфры заціснула рукой вусны, а прафесарка МакГонагал вытарапіўшыся зірнула на Дамблдора.

- Альбус... ты ўпэўнены... але ж ХТО?

- Пытанне ані не ў ты ХТО,- пазіраючы на Коліна адказаў дырэктар,- а ў тым, ЯК...

І пазіраючы на ўкутаны ценем твар прафесаркі, Гары здагадаўся, што яна ведае адказ на гэта пытанне ані не лепш за Дамблдора.

## *Двубойны клуб*

Прачнуўшыся нядзельнаю ранніцай, Гары выявіў, што палата была запоўнена святлом зімовага сонца, а яго рука зноў была запоўнена косткамі, хаця яны былі неймаверна цвёрдымі. Ён сеў у ложку і паглядзеў на колінаў ложак, аднак той быў закрыты завесаю, той самай за якой Гары ўчора перапранаўся. Заўважыўшы, што ён прачнуўся, мадам Помфры замітусіўшыся, кінулася да Гары трымаючы ў руках паднос са сняданкам, а потым села ля яго ложка і прынялася згінаць і расцягваць яго руку і пальцы.

- Ну вось,- прамовіла яна, пакуль Гары нязграбна пытаўся падсілкавацца з дапамогаю левай рукі,- цяпер ўсё добра. Калі ты скончыў снедаць, можаш ісці.

Гары пераапрануўся наколькі мог хутка і кінуўся ў грыфіндорскую вежу, каб паведаміць Рону і Герміёне, аб Коліне і Добі; але ў гасцёўне іх не знайшоў. Гары пайшоў іх шукаць, здзіўлены тым, што сябры ані не пацікавіліся, ці выраслі ў яго нанова косткі рукі.

Праходзячы міма бібліятэкі, Гары сустрэў ўзрушанага Персі Візлі, які шпацыраваў па калідоры. І было адразу ж бачна, што настрой ў яго значна лепшы, чым падчас іх мінулай сустрэчы.

- О, прывітанне, Гары.- сказаў ён.- Ты ўчора выдатна, сапраўды выдатна лятаў. Ты зарабіў 50 балаў... і цяпер Грыфіндор першы ў кубку Дамоў!

- Ці ты не бачыў Рона з Герміёнаю?- спытаўся ў яго Гары.

- Не, ня бачыў,- адказаў Персі, усмешка з яго твара знікла.- Аднак спадзяюся ён не ў чарговай дзявочай прыбіральне...

Гары выдушыў з сябе ўсмешку, дачакаўся пакуль Персі не знікне з вачэй і наўпрост накіраваўся да прыбіральні Мармытухі Міртлы. Не разумеючы, навошта яны туды пайшлі, Гары азірнуўся, пераканаўся што паблізу няма ані Філча, ані кагось з прэфектаў і адчыніўшы дзверы пачуў з замкнёнай кабінцы іхныя галасы.

- Гэта я,- зачыніўшы за сабой дзверы, прамовіў Гары. У кабінцы нешта глуха бомкнула, пачуліся ўсплёскі і нечае воханне, а ў замочную свірдлавіну зазірнула Герміёніна вока.

- ГАРЫ!- прамовіла яна.- Як ты нас напужаў. Заходзь... як там твая рука?

- Выдатна,- адказаў Гары, праціскаючыся ў кабінку. Там наўпрост на ўнітазе стаяў стары кацёл пад якім гарэў агонь. Вычароўваць невялічкае, воданеўспрымальнае полымя было адной са здольнасцяў Герміёны.

- Мы хацелі цябе наведаць, але вырашылі найперш распачаць варыць шматыстотнае зелле.- назіраючы за тым, як Гары з цяжкасцю зачыняў за сабой кабінку, растлумачыў яму Рон.- І вырашылі, што варыць яго тут будзе бяспечней за ўсё.

Гары пачаў распавядаць ім аб Коліне, але Герміёна яго спыніла.

- Мы ведаем. Раніцай пачулі, як прафесарка МакГонагал распавядала пра гэта прафесару Флітвіку. Вось, чаму мы вырашылі, што трэба неадкладна пачынаць...

- Чым хутчэй мы распытаем Малфоя, тым будзе лепш.- гыркнуў Рон.- Я тут падумаў, учора, пасля паразы Слізэрына, ён быў у такім благім настроі, што мог напасці на Коліна.

- І вось яшчэ,- дадаў Гары, назіраючы за тым, як дзяўчынка раздзірае пукі драсёну і кідае іх у кацёл.- Сярод ночы да мяне завітаў Добі.

Рон і Герміёна здзіўлена вытарапіліся на яго. Хлопчык распавёў аб тым што пачуў... ці НЕ пачуў ад эльфа. Сябры слухалі Гары, раззявіўшы рота.

- Дык патаемная зала ЎЖО адчынялася?- прамовіла дзяўчынка.

- Ну, цяпер усё зразумела.- з перамогай у голасе заявіў Рон.- Люцыюс Малфой адчыняў залу, калі сам вучыўся ў школе, а цяпер расказаў аб тым як гэта рабіць нашаму даражэнькаму Драко. Аднак я жадаў бы, каб Добі распавёў цябе, што гэта за пачвара. Якім чынам, яна перасоўваецца па школе, так, што ані ніхто яе не бачыць.

- Можа,- прамовіла Герміёна, падымаючы наверх асеўшых на дно катла п'явак,- яна можа рабіцца нябачнай. Ці маскіявацца пад якісьці прадмет – даспехі ці нешта падобнае. Я чытала аб гулях-хамелеонах...

- Ты надта шмат чытаеш, Герміёна.- кідаючы зверху на п'явак дохлых сеткакрылак, заўважыў Рон. Скамячыўшы пусты пакет, ён падняў вочы на Гары.

- Дык гэта з-за Добі мы не трапілі на цягнік, а ты зламау руку...- ён пахістаў галавой.- Слухай, Гары. Калі ён не кіне ратаваць табе жыццё, ён цябе заб'е.

*

Навіна пра тое, што на Коліна Крыві адбыўся напад і цяпер ён ляжыць усё адно, як мерцвяк у шпітальным крыле раніцай у панядзелак распаўсюдзіліся па ўсёй школе. Паветра знянацку запоўнілася ўсемагчымымі чуткамі і плёткамі. Першагодкі хадзілі па школе выключна дружнымі гурткамі, быццам баяліся, што будуць атакаваны, калі хтось з іх адважыцца пайсці сам-насам.

У моцнай маркоце прабывала Джыні Візлі, якая сядзела разам з Колінам на замовах, але яе браты Фрэд і Джордж, як адчуваў Гары, абралі ня той, шлях, каб яе падбадзёрыць. Блізняты пакрывалі свае целы поўсцю ці выскоквалі на сястру з-за статуй. Супыніліся яны толькі тады, калі Персі збарвянеўшы ад лютасці паведаміў ім, што збіраецца паскардзіцца на іх місіс Візлі, бо малая пачала сніць кашмары.

А тым часам употай ад настаўнікаў у Хогвартсе распачаўся бойкі гандль усемагчымымі талісманамі, кудменямі і іншымі ахоўнымі прыладамі. Нэвіл Лонгботам набыў сабе агромістую зялёную цыбулінцу са смуродным пахам, востраканцовы фіялетавы крышталь ды прагнілы хвост трытона і толькі потым хлопцы з Грыфіндора супакоілі яго – Нэвіл быў чыстакроўным чарадзеем і небяспека яму не пагражала.

- Першым пацярпеў Філч,- з жахам на круглявым твары апраўдваўся перад імі Нэвіл.- А ўсе ведаюць, што я таксама амаль што сквіб.

*

На пачатку другога тыдня снежня, прафесарка МакГонагал, як і заўсёды распачала складаць спіс тых, хто застанецца ў Хогвартсе на калядныя вакацыі. Свае імёны ў спіс упісалі Гары, Рон і Герміёна. Больш таго, сябры пачулі навіну, якая агаломшыла іх і выклікала купу падазронаў – у школе таксама заставаўся Малфой. Час вакацый як мага лепш падыходзіў дзеля таго, каб ажыцявіць допыт гэтага гнюса і паспрабаваць дзеянне шматыстотнага зелля.

Хаця само зелле не было да канца гатовым. Ім ўсё яшчэ не хапала рога двурога і скуры бумсланга і адзіным месцам, дзе меліся гэтыя кампанэнты, былі прыватныя запасы

Снэйпа. Аднак, асабіста Гары лічыў, што сустрэцца з легендарнаю слізэрынскай пачвараю бяспечней, чым быць схопленным Снэйпам, падчас спробы абрабаваць ягоны кабінэт.

- Цяпер,- хутка паведаміла хлопцам Герміёна, калі у чацвер па апоўдні ім паставілі падвойныя заняткі па зеллеварству.- Нам неабходны невялічкі адцягваючы манэўр. Тады адзін з нас, можа пракрасціся да Снэйпаўскага кабінэта і ўзяць тое, што нам неабходна.

Гары і Рон занепакоена вытарапіліся на яе.

- Будзе лепей, калі ў кабінэта прабяруся я,- празаічным тонам працягвала яна.- Вас абодвух, ледзь што, адразу ж выключаць са школы, а я пакуль з чыстай рэпутацыяй. Усё што вам неабходна будзе зрабіць, дык гэта стварыць невялічкі хаас, які мог бы адцягнуць увагу Снэйпа хвілінаў на пяць ці каля таго.

Гары слаба ўсміхнуўся. Ствараць наўмысны хаас падчас Снэйпавых заняткаў, было не менш небяспечнай справай, чым торкаць спячага дракона ў вока.

Заняткі па зеллеварству праходзілі ў адным з вялікіх падзямелляў. У чацвер па апоўдні ўсё пачыналася як заўжды. Ля драўляных сталоў, на якіх месціліся латунныя шалі і пляшкі з інгрыдзіентамі, чадзіла дванаццаць катлоў. Па праходзе, сярод чада хадзіў Снэйп і выдаваў з’едлівыя заўвагі грыфіндорцам, выклікаючы ўдзячныя смяшкі з боку навучэнцаў свайго Дому. Снэйпаў улюбёнец Драко Малфой забаўляўся тым, што шпуляўся ў Рона і Гары вачыма рыбы фугу, ведаючы, што калі тыя паспрабуюць яму адказаць, атрымаюць пакаранне раней, чым паспеюць прамовіць слова «несправядліва».

Гарын раздзьмуваючы расчын быў занадта вадкім, але цяпер яго цікавілі іншыя больш важныя рэчы. Ён чакаў Герміёнінага сігналу і слухаў Снэйпаву заўвагу наконт яго зелля напоў вуха. Як толькі Снэйп пакінуў Гары ў супакоі і павярнуўся да яго спіной, каб паздзеквацца з міктуры Нэвіла, Гары сустрэўся вачыма з Герміёнай і тая дала ямуківок.

Хутка нахіліўшыся за свой кацёл, Гары выцягнуў з-за яго адзін із флібусцьерскіх феерверкаў Фрэда і крануў яго палачкай. Той зашыпеў і пачаў пырскаць вадзянымі кроплямі. Разумеючы, што мае ўсяго колькі секунд на развагі, Гары імгненна выпрастаўся, прыцэліўся і шпурнуўшы феерверк трапіў наўпрост у Гойлаў кацёл.

Зелле Гойла выбухнула і заліло ўсю класу. Паўсюль ўскрыквалі навучэнцы на якіх траплялі кроплі раздзьмуваючага расчына. Малфою запырскала ўвесь твар і цяпер яго нос больш нагадваў паветраны шарык; Гойл, заціскаючы рукамі пашырыўшыеся да памераў талерак вочы, наўслеп тыкаўся па ўсяму падзямеллю, а тым часам Снэйп спрабаваў супакоіць усіх і высветліць, што здарылася. Крайком вока Гары заўважыў, як скарыстаўшаяся мітуснёй Герміёна праслізнула ў дзверы, што вялі ў малое падзямелле, дзе месціўся Снэйпаў кабінэт.

- Ціха! СЦІХНІЦЕ ЎСЕ!- прароў Снэйп.- Цяпер, усе на каго трапіў расчын, падыйдзіце да мяне па здзімаючае зелле. А калі я даведаюся, хто быў вінаваты...

Намагаючыся не засмяяцца, Гары назіраў, як да Снэйпа, сагнуўшыся пад вагаю ўласнага, велічынёй з невялічкую дыню, носа пасляшаў Малфой. Хутка ля стала настаўніка нязграбна вышыхтавалася з палову вучняў: у кагосьці з іх рукі нагадвалі дзве агромістыя доўбні, хтось не мог размаўляць з-за раздзьмуўшыхся вуснаў, а тым часам з малога падзямелля, як заўважыў Гары, вярнулася Герміёна і пад мантыяй у яе быццам вырас агромісты пухір.

Як толькі пацярпелыя прынялі проціяддзе і ў іх зніклі ўспухліны, Снэйп, падыйшоў да Гойлавага катла і вычэрпаў адтуль рэшткі флібусцьерскага феерверка. У класе імгненна запанавала цішыня.

- Калі я знайду, таго хто яго кінуў,- прасыкаў ён, - я ўласнаруч пераканаюся, каб гэты вучань быў выключаны са школы.

На сваім твары Гары адлютраваў, нешта, што з на яго погляд нагадвала збянтэжаны вырас. Тым ня менш Снэйп увесь час упарта глядзеў ў яго бок, таму звон, абвяшчаўшы заканчэнне заняткаў, адчуўшыйся праз дзесяць хвілінаў, быў больш чым жаданым.

- Ён ведае, што гэта справа маіх рук,- расказаў Гары сябрам, калі яны разам спяшаліся да мармытухінай прыбіральні.- Сапраўды вам кажу, ведае.

Герміёна кінула новыя складнікі ў кацёл і пачала ліхаманкава іх мяшаць.

- Ну вось,- задаволена прамовіла яна,- праз два тыдня ўсё будзе гатова.

- Снэйп ані ніколі не дакажа, што гэта зрабіў ты,- падбадзёрыў Гары Рон.- А што ён табе зробіць без доказаў?

- Ведаючы Снэйпа,- адказаў Гары, пазіраючы на то, як кіпіць і пакрываецца бурбалкамі зелле,- магу сказаць дакладна - нешта сапраўды благое.

*

Тыднем пазней, Гары, Рон і Герміёна мінаючы вестыбюль, убачылі, як невялічкая купка навучэнцаў чытае свежапрышпілены на дошку аб’яваў пергамент. Заўважыўшы іх, ўсхваляваныя Шымас Фініган і Дын Томас паклікалі сяброў да дошкі.

- Яны вырашылі стварыць двубойны клуб!- паведаміў Шымас.- Сёння ў вечары адбудуцца першыя заняткі! Я б не адмовіўся ад колькіх урокаў, цяперча, падобныя веды будуць дарэчы...

- Думаеш, пачвара Слізэрына выйдзе з табой на двубой?- спытаўся Рон, але таксама з зацікаўленасцю ўтаропіўся на аб’яву.

- Гэта можа быць карысным,- заявіў ён Гары і Герміёне, спяшаючы на вячэру.- Хадзем?

Сябры былі цалкам з ім згодны, таму а восьмай вечара паспяшаліся ў галоўную залу. Доўгія абедзенныя сталы зніклі, а ўздоўж адной са сцен, аб’явіўся залаты памост асветлены плаваючымі пад аксамітава-чорнай столей свечкамі. Здавалася, што ў зале сабралася большая частка навучэнцаў. Усе яны былі вельмі ўсхаляваны і кожны трымаў у руцэ палачку.

- Цікава, а хто будзе нас вучыць?- прамовіла Герміёна, калі яны ўтраіх прадзіраліся скрозь гамонкі натоўп.- Можа прафесар Флітвік? Кажуць у маладосці ён быў чэмпіёнам у чарадзейскім двубоі.

- Абы толькі не...- не скончыўшы фразы Гары застагнаў – на памосце аб’явіліся апрануты ў цёмна-фіялетавую мантыю Гільдэрой Локхарт і Снэйп, што як заўсёды быў у чорным.

Махнуўшы рукой, Локхарт папрасіў цішыні і ўсклікнуў:

- Увага, увага, усе паглядзіце сюды! Бачыце мяне? Чуеце? Выдатна!

- Прафесар Дамблдор, - працягваў Локхарт,- даў мне дазвол, зладзіць наш невялічкі двубойны клуб, каб вы, як толькі ў гэтым будзе спатрэба, маглі сябе абараніць, гэдак жа, як я сам рабіў безліч разоў... аб чым вы даведаецеся, прачытаўшы мае кнігі.

- А цяпер,- бліснуўшы зубамі, прамовіў ён,- дазвольце пазнаёміць вас з маім асістэнтам – прафесарам Снэйпам. Ён паведаміў мне, што крышку ведае аб двубоях і зычліва пагадзіўся на тое, каб перад пачаткам нашых заняткаў сёе-тое вам прадэманстраваць. Аднак не хвалюйцеся мае юныя сябры, пасля нашай бойкі вы ў цэласці атрымаеце свайго настаўніка па зеллеварству назад!

- Было б не блага,- прамармытаў на Гарына вуха Рон,- калі б яны забілі адно аднаго!

Снэйп скрывіў верхнюю губу. А Гары было цікава, чаму Локхарт усё яшчэ працягваў усміхацца. Калі б з гэткай ўсмешкай Снэйп паглядзеў на яго, хлопчык куляй кінуўся бы ў процілеглы бок залы.

Локхарт і Снэйп развярнуліся адно да аднаго тварамі і павіталі суперніка: Локхарт нахіліўшыся і махнуўшы рукой, а Снэйп, раздражнённа кіўнуўшы галавой. Потым, яны быццам трымаючы шпагі, паднялі перад сабой свае палачкі.

- Як вы бачыце, нашыя палачкі знаходзяцца ў баявой пазіцыі,- растлумачыў прыціхламу натоўпу Локхарт. На лік тры, мы абмяняемся першымі замовамі. І вядома ж, ані адзін з нас не збіраецца забіваць другога.

- А я ў гэтым не перакананы,- гледзячы на ашчэраныя зубы Снэйпа, прамармытаў Гары.

- Раз... два... тры...

Абодва суперніка рэзка ўзмахнулі палачкамі.

- Экспеліярмус!- усклікнуў Снэйп, з яго палачкі выбліснуў асляпляльна пунцовы струмень. Локхарта падняло ў паветра і адкінула да процілеглай сцяны. Саслізнуўшы, той знерухомлена расцягнуўся на падлозе.

Малфой і колькі іншых слізэрынцаў заапладыявалі. Герміёна паднялася на дыбачкі

- Думаеце з ім усё будзе добра,- прыціснуўшы да твара далонь, спыталася яна.

- А ці не ўсёроўна,- адначасова адказалі Гары і Рон.

Локхарт няўпэўнена падняўся на ногі. Яго капялюш скаціўся на падлогу, а хвалістыя валасы стаялі дыбком.

- Ну, што мы маем!- заявіў ён і хістаючыся вярнуўся на памост.- Раззбройваючая замова... як вы заўважылі, я згубіў сваю палачку... о, дзякуй, міс Браун. Так, выдатная ідэя прадэманстраваць ім гэтую замову, прафесар Снэйп, але калі вы не супраць, я скажу, што адразу зразумеў, што менавіта ёй вы і скарыстаецеся, бо гэта было відавочна і, калі б я сам гэтага пажадаў, адбіць яе было бы вельмі проста. Аднак, я адчуў, што, убачыць яе дзеянне, будзе для нашых вучняў вельмі карысна...

Магчыма заўважыўшы знішчальны выгляд Снэйпа, Локхарт прамовіў:

- Ну, годзе дэманстрацый! Цяпер, я збіраюся разбіць вас на пары. Прафесар, калі жадаеце, можаце мне дапамагчы...

Яны рушылі ў натоўп. Локхарт выбраў сабе пару Нэвіл і Джасцін Фінч-Флечлі, а Снэйп рушыў да Гары і Рона.

- Надыйшоў час разбіць вашу парачку.- вышчэрыўшыся сказаў ён.- Візлі, ты будзеш змагацца з Фініганам. Потэр...

Гары міжвольна зрабіў крок у бок Герміёны.

- Не, я думаю інакш,- абдараваўшы Гары халонай ўсмешкай, заявіў Снэйп.- Малфой, хадзі да мяне, паглядзім што ты зробіш з нашым знакамітым Потэрам. А ты, Грэйнджэр, можаш абраць на суперніцы... міс Бульстрод.

Пасміхаючыся, Малфой рушыў наперад. Следам за ім ішла слізэрынка, якая на Гарын погляд нібыта сыйшла з ілюстрацыяў да «Вакацый з вядзьмачкамі». Яна была вялізнарнай, дурнаватай і мела цяжкія агрэсіўна вытаркія сківіцы. Герміёна слаба пасміхнулася суперніцы, але тая ёй не адказала.

- Павярніцеся да сваіх супернікаў,- крыкнуў з памоста Локхарт,- і пакланіцеся ім!

Не адрываючы адно ад аднаго вачэй, Гары і Малфой ледзь бачна хіснулі галовамі.

- Палачкі ў баявую пазіцыю!- усклікнуў Локхарт.- Як толькі я скажу тры, скарыстайцеся любой раззбройваючай замовай... РАЗЗБРОЙВАЮЧАЙ... нам не патрэбны няшчасныя выпадкі. Раз... Два... Тры...

Гары махнуў палачкай, але Малфой пачаў яшчэ на лік «два». Яго замова стукнула Гары настолькі моцна, што яму падалося быццам хтосьці даў яму рондалем па галаве. Гары спатыкнуўся, аднак, як здавалася, застаўся на нагах. Не губляючы часу, Гары скіраваў палачку на Малфоя і крыкнуў: «Рыктусэмпра!»

Бруя срэбнага святла стукнула Малфоя ў жывот і ён, хрыпячы, сагнуўся напалам.

- Я КАЗАЎ ТОЛЬКІ РАЗЗБРОІЦЬ!- у трывозе крыкнуў Локхарт над галовамі змагаючыхся вучняў заўважыўшы, як Малфой стаіць на каленях і, пасля казытаючай замовы Гары, ледзьве можа рухацца. Гары зрабіў крок назад з няясным пачуццём, што атакаваць яшчэ адной замоваю таго, хто апынуўся на падлозе будзе не надта спартыўным, але гэта было яго памылкай. Ледзь дыхаючы, Малфой накіраваў палачку на яго калені і прахрыпеў: «Таранталегра!» У наступную секунду, Гарыны ногі не слухаючыся свайго гаспадара пачалі танчыць хуткі факстрот.

- Стоп! Супыніцеся!- залямантаваў Локхарт, але адказнасць на сябе ўзяў Снэйп.

- «Фінітэ Інкантатэм!»- крыкнуў ён. Гарыны ногі ногі кінулі тузацца, Малфой скончыў смяяцца і яны абодва змаглі паназіраць за іншымі змаганцамі.

Усё было ўхутана зеленаватай смугой. Нэвіл і Джасцін, цяжка дыхаючы, ляжалі на падлозе; Рон трымаў змярцвела-бледнага Шымаса за галаву і прасіў прабачэнне за ўсё што нарабіла яго паламаная палачка. Аднак, Герміёна і Мілісэнта Бульстрод усё яшчэ былі на нагах; Мілісэнта ззаду схапіла Герміёну за шыю і тая застагнала ад болю. Абедзве іх палачкі валяліся на падлозе. Гары падскочыў да Мілісэнты і, з вялікай цяжкасцю, бо тая была нашмат яго больш, адцягнуў ад Герміёны.

- Аёечку!- бегаючы паміж вучняў і назіраючы за наступствамі двубояў, усклікнуў Локхарт.- Падымайся Макмілан... асцярожней, міс Фосэт... прыцісні мацней і кроў праз секунду супыніцца, Бут...

- Думаю надыйшоў час, навучыць вас, якім чынам БЛАКАВАЦЬ непрыязныя замовы.- сказаў, усё яшчэ ўсхвалявана стоячы пасярод зала, Локхарт. Ён зірнуў на Снэйпа, але заўважыўшы бляск у яго чорных вачах, хутка адвярнуўся.- Пара дабраахвотнікаў, хадзіце сюды... Лонгботам і Фінч-Флечлі, як наконт вас?

- Благая ідэя, прафесар,- праслізнуўшы сярод вучняў, накшталт вялізнага, злоснага кажана, заявіў Снэйп.- Лонгботам здольны нарабіць моцнай шкоды нават пры выкананні самай простай замовы. Нам прыйдзецца адпраўляць Фінч-Флечлі ў шпітальнае крыло ў карабку ад запалак.- Круглявы ружовы твар Нэвіла густа пачырванеў.- Як наконт Потэра і Малфоя?- на Снэйпавым твары з’явілася крывая ўсмешка.

- Пышная ідэя!- пагадзіўся з ім Локхарт, ён рухаміі вызваў Гары і Драко на сярэдзіну залы, дзе натоўп расступіўшыся даў ім месца дзеля змагання.

- Слухай мяне, Гары,- прамовіў Локхарт,- як толькі Драко скіруе на цябе палачку зрабі вось ТАК.

Ён узняў палачку, паспрабаваў зрабіць, нейкі складаны рух і выпусціў яе на падлогу. Снэйп пасміхнуўся, а Локхарт, падымаючы палачку з падлогі ўсклікнуў.

- Ейку... Мая палачка сёння крыху пераўзбуджана.

Снэйп, працягваючы ўсміхацца наблізіўся да Малфоя і нахіліўшыся, нешта прашапатаў яму на вуха. Той таксама пачаў пасміхацца. Гары занепакоена зірнуў на Локхарта.

- Прафесар,- спытаўся ён,- ці вы не маглі бы, яшчэ раз паказаць мне тую блакіроўку?

- Забаяўся?- так, каб яго ня мог пачуць Локхарт, прамармытаў Малфой.

- Яшчэ чаго захацеў,- таксама аднымі вуснамі адказаў яму Гары.

- Проста рабі так, як зрабіў я!- паляпаўшы хлопчыку па плячы, заявіў Локхарт.

- Як? Выпусціць з рук палачку?

Але Локхарт ужо яго не чуў.

- Раз... Два... Тры... паехалі!- крыкнуў ён.

Малфой хутка ўскінуў палачку і прагарлапаніў: «Серпенсорцыя!

Кончык яго палачкі выбухнуў. Гары з жахам назіраў, як адтуль выслізнула доўгая чорная змяя, павалілася на падлогу між імі і, падняўшы галаву, падрыхтавалася да атакі. Сярод згрудзіўшыхся адчуліся крыкі і натоўп хутка пачаў адыходзіць назад.

- Не варушыся, Потэр,- ляніва працягнуў Снэйп, яўна атрымліваючы задавальненне паглядаючы на тое, як Гары стаіць сам-насам з раззлаванай змяёй.- Зараз я прыбяру яе...

- Я сам!- усклікнуў Локхарт. Ён накіраваў палачку на змяю, адчуўся выбух, але змяя, замест таго, каб знікнуць, паднялася на дзесяць футаў у паветра і з гучным пляскам павалілася на падлогу. Раз’юшчаная, злосна сыкаючая, яна наўпрост рушыла ў бок Джасціна Фінч-Флечлі і зноўку, агаліўшы іклы, падняла галаву.

Гары ня быў упэўнены, навошта гэта зрабіў. Ён нават ня быў упэўнены ці ўвогуле збіраўся рабіць што-небудзь. Адзінае, што ён зразумеў, гэта то, што нясецца наперад, быццам быў на роліках і крычыць змяе, як той дурань: «Адчапіся ад яго!» І нейкім цудоўным... незразумелым чынам... змяя паслухмяна апусцілася, быццам тоўсты чорны шланг, на падлогу і вытарапіла вочы на Гары. Хлопчык адчуў, як лютасць пакрысе пакідае яго. Ён ведаў, хаця не мог зразумець як, што змяя больш ані на каго не нападзе.

Гары ўсміхаючыся паглядзеў на Джасціна. Ён чакаў ўбачыць на яго твары палёгку, разгубленнасць ці нават удзячнасць... але той быў разлютаваным і напалоханым.

- Думаеш гэта весела, так?- пралямантаваў ён, і перш чым Гары паспеў, хоць што сказаць у адказ, Джасцін развярнуўся і выбег з залы.

Снэйп, зрабіўшы крок наперад, узмахнуў палачкай і, ператварыўшыся на невялічкі клуб чорнага дыму, змяя знікла ў паветры. Прафесар таксама паглядзеў на Гары. Ён зірнуў на хлопца неяк па-новаму, хітрым, вылічаючым поглядам, які таму вельмі не спадабаўся. І яшчэ не надта добра разумеў прычыну злавеснага мармытання ўздоўж сценаў. Тут нехта тузануў яго ззаду за мантыю.

- Хадзем,- адчуў ён на вуха Ронаў голас.- Давай, варушыся... Пойдзем АДСЮЛЬ...

Рон павёў Гары з залы, а Герміёна пасьпяшала разам з імі. Калі яны праміналі дзверы іншыя вучні паабапал ад іх адсунуліся, быццам баяліся падхапіць нейкай халеры. Гары не мог зразумець, што адбываецца, а Рон з Герміёнаю ані нічога не тлумачылі яму, ажно пакуль яны не ўвайшлі ў пустую грыфіндорскую гасцёўню. Там, Рон штурхнуў Гары ў фатэль і спытаўся:

- Чаму ты не сказаў нам, што ты парсельмовец?

- Я хто?- перапытаў яго Гары.

- ПАРСЕЛЬМОВЕЦ!- адказаў Рон.- Той, хто можа размаўляць са змеямі!

- Ну ня ведаю,- прамовіў Гары.- То бок, раней я рабіў гэта толькі аднойчы. Гэта было, калі я выпадкова нацкаваў ў заапарку ўдава на майго стрыечанага брата Дадлі... доўгая гісторыя... ну, ён сказаў мне, што ніколі не бачыў Бразілію і я быццам бы выпусціў яго на волю, вось. Але, я тады яшчэ ня ведаў, што я чараўнік...

- Удаў сказаў табе, што ніколі ня бачыў Бразілію?- слабым голасам спытаў Рон.

- І што?- адказаў Гары.- Закладаюся, тут шмат хто валодае падобнымі здольнасцямі.

- Аніхто,- заявіў Рон.- Гэта не надта распаўсюджаны дарунак. І, Гары, гэта - дрэнна.

- І што тут дрэннага?- усклікнуў Гары, адчуваючы, што пачынае злавацца.- Што з вамі ўсімі здарылася? Калі б я не папрасіў тую змяю не нападаць на Джасціна...

- А, дык вось, што ты ёй сказаў?

- Пра што ты кажаш? Вы ж там былі... і вы мяне чулі.

- Я чуў,- адказаў Рон,- як ты размаўляеш на змяінай мове – парсельтонгу. Ты мог сказаць ёй усё што заўгодна. Не дарма Джасцін запанікаваў, гэта гучала так, быццам ты нацкоўваеш змяю ці нешта падобнае. І, каб ты ведаў, выглядала гэта вельмі жахліва.

Гары здзіўлена паглядзеў на яго.

- Я размаўляў іншаю моваю, так? Але... растлумачце, як можна размаўляць нейкай моваю нават яе ня ведаючы?

У адказ, Рон толькі пахістаў галавою. Яны з Герміёнай выглядалі так, быццам нехта памёр. Аднак, Гары не бачыў у гэтым анічога жудаснага.

- Вы хочаце сказаць, што я зрабіў памылку, не даўшы гэтай гідкай змяішчы адкусіць Джасціну галаву, так?- спытаўся хлопчык.- І якая розніца, ЯКІМ ЧЫНАМ я гэта зрабіў, калі Джасцін не далучыўся да Безгаловага палявання?

- Розніца ёсць,- нарэшце, загаварыла глухім голасам Герміёна,- таму, што здольнасцю размаўляць са змеямі быў вядомы Салазар Слізэрын. Таму і сімвалам слізэрынскага Дому ёсць змяя.

Гары ад здзіўлення раззявіў рота.

- І цяпер,- дадаў Рон,- уся школа, вядома ж, будзе думаць, што ты яго пра-пра-пра-пра-праўнук ці нешта падобнае...

- Але я не ён,- адказаў Гары, ад сполаху згубіўшы мову.

- Гэта цяжка даказаць,- заявіла Герміёна.- Ён жыў тысячу год таму і мы ўсё ведаем, што падобнае цалкам магчыма.

*

Гары ў тую ноч не мог заснуць колькі гадзінаў. Праз адтуліну ў фіранке балдахіна ён назіраў за тым, як падае снег за вокнамі і здзіўляўся.

А ці не МОГ ён сапраўраўды быць нашчадкам Салазара Слізэрына? У рэшце рэшт Гары ані нічога ня ведаў аб сям'і свайго бацькі. А ў доме Дурслі пытанні аб яго сваяках чараўніках былі пад забаронай.

Ціха, каб ніхто не пачуў, Гары паспрабаваў сказаць колькі слоў на парсельтонге, але ў яго нічога не атрымалася. Пэўна, каб гэта зрабіць яму трэба апытуцца воч на воч са змяёй.

- Але ж я апынуўся ў ГРЫФІНДОРЫ,- разважаў Гары.- Сартавальны капялюш ніколі бы не накіраваў мяне сюды, калі б ува мне цякла кроў Слізэрына...

- Ага,- прамовіў у яго галаве гідкі галасок.- Але, калі ты памятаеш капялюш хацеў накіраваць цябе ў слізэрынскі Дом?

Гары развярнуўся на другі бок. Заўтра ён убачыць Джасціна на зёлазнаўстве і растлумачыць яму, што жадаў супыніць змяю, а не нацкаваць на яго (у лютасці Гары пачаў калаціць падушку), як гэта падалося ўсялякім ёлупам.

*

Аднак наступнай раніцай, снег, што пачаўся яшчэ ноччу ператварыўся на сапраўдную завіруху, таму заняткі па зёлазнаўству адмянілі. Прафесарка Спроўт збіралася апрануць мандрагораў у шкарпэткі і шалікі, і гэту аперацыю, асабліва цяпер, калі мандрагоры былі такімі важнымі дзеля адраджэння вырашыша рабіць цалкам самастойна.

У непакоі, Гары сядзеў ля коміна ў грыфіндорскай гасцёўне, а побач Рон з Герміёнаю, карыстаючыся нечаканым вольным часам гулялі у чарадзейныя шахматы.

- Дзеля ўсяго святога, Гары,- прамовіла Герміёна сярдзіта, бо толькі што Ронаў афіцэр збіў яе вершніка з каня і павалок прэч з дошкі. - Калі гэта так для цябе важна пайдзі і сам знайдзі Джасціна.

Гары выпрастаўся, прайшоў адтуліну за партрэтам і пайшоў па калідоры, разважаючы, дзе той можа зараз быць.

Ня гледзячы на то, што на двары быў дзень, з-за завірухі за вокнамі, у замку было даволі цёмна. Дрыжучы, Гары ішоў міма класаў, прыслухоўваючыся да таго, што там рабілася. Прафесарка МакГонагал крычала на нейкага недарэку, які прымудрыўся пераварацiць свайго сябра на барсука. Гары закарцела зазірнуць і паглядзець, але ён перамог гэта жаданне і пайшоў далей. Паразважаўшы, ён вырашыў, што Джасцін мог скарыстацца вольным часам  для падрыхтоўкі хатняй работы і ў першую чаргу вырашыў завітаць у бібліятэку.

Хафлпафцы, якія павінны былі займацца на зёлазнаўстве, сапраўды цяпер сядзелі ў глыбіні бібліятэкі, аднак яны ані не займаліся рыхтаваннем хатняй работы. Гары між стэлажамі бачыў іх прыціснутыя адна да адной галовы і чуў урыўкі з іхнай размовы. Ён не мог разгледзіць сярод іх Джасціна, таму наблізіўся і... Пачутая ім размова прымусіла яго схавацца ў секцыі нябачнасці , каб падслухаць, што кажуць хафлпафцы.

- У любым выпадку,- прамовіў нейкі тоўсты хлопец.- Я параіў Джасціну не выходзіць з нашай гасцёўні. То бок, калі Потэр азначыў яго, як наступную ахвяру, будзе лепей, калі Джасцін стаіцца на некаторы час. Вядома ж ён чакаў раней ці пазней чагосьці падобнага, ажно з тых часоў, калі выдаў Потэру, што ён магланароджаны. Ён РАСПАВЁЎ таму, што збіраўся ісці да Ітана. А хіба гэта тая тэма, якую трэба абмяркоўваць з разгуляўшымся нашчадкам Слізэрына?

- Эрні, а ты ўпэўнены, што гэта Потэр?- занепакоена спыталася светлакосая дзяўчынка .

- Ханна,- змрочна адказаў таўстун,- ён парсельмовец. Усе ведаюць, што гэта знак чорнага ведзьмака. Ты колісь чула, хоць пра якога добрага чарадзея, які размаўляў бы са змеямі? А ў Слізэрына нават мянушка сярод сяброў была – Змяіны язык.

Нейкі час яны ціха спрачаліся між сабой, нарэшце Эрні выдаў:

- Ці вы памятаеце, што было напісана на сцяне? «Сцеражыцеся, ворагі спадкаемцы». Філч затрымаў Потэра, а потым... была атакавана котка Філча. Першагодка Крыві дакучаў Потэру на матчы па квідытчу, фатаграфаваў Потэра, пакуль той ляжаў увесь у брудзе, а потым... Крыві быў атакаваны.

- Ён заўсёды здаваўся такім добрым?- няўпэўнена заявіла Ханна.- А яшчэ ён той, хто перамог Самі-Ведаеце-Каго. Можа ён не такі ўжо і благі?

Эрні таямніча панізіў голас і ўсе хафлпафцы шчыльней наблізіліліся да яго. Гары таксама падкраўся бліжэй, каб пачуць аб чым той кажа.

- Ані ніхто не разумее, як ён выжыў пасля атакі Самі-Ведаеце-Каго. То бок, ён жа быў немаўлём калі ўсё гэта здарылася. Ад яго нават аскепкаў не павінна было застацца. Толькі сапраўды магутны чорны вядзьмак мог выжыць пасля падобнага праклёна,- ён загаварыў яшчэ цішэй, амаль шэптам.- Ці вы думаеце, ЧАМУ Самі-Ведаеце-Хто так жадаў яго забіць? Яму не патрэбен быў яшчэ адзін Цёмны Лорд. І мне цікава, якія яшчэ сілы тоіць у сабе Потэр?

Гары ня мог больш цярпець. Ён громка кашлянуў і выйшаў з-за кніжных паліц. Калі б ён не адчуваў сябе такім злым, відовішча, якое аб’явілася яго вачам, падалося б яму пацешным: здавалася хафлпафцы скамянелі толькі пры адным яго з’яўленні, а твар Эрні зрабіўся бялейшым за паперу.

- Прывітанне,- прамовіў Гары.- Я б хацеў пабачыцца з Джасцінам Фінч-Флечлі.

Здавалася, здзейсніліся самыя найгоршыя жахі хафлпаўцаў. Перапужаныя, яны павярнуліся да Эрні.

- Навошта ён табе?- дрыготкім голасам спытаўся той.

- Хацеў сказаць яму, што насамрэч здарылася на двубойным клубе,- адказаў Гары.

Эрні закусіў свае збялелыя вусны, а потым глыбока ўздыхнуўшы сказаў:

- Мы ўсе там былі. І мы добра ведаем, што здарылася.

- Тады, вы бачылі, што змяя адступіла, пасля таго, як я пагаварыў з ёй.- прамовіў Гары.

- Усё што бычыў я,- дрыготкім, але ўпартым голасам адказаў Эрні,- як ты размаўляў на парсельтонге, а змяя кінулася на Джасціна.

- Я не збіраўся яго атакаваць,- заявіў Гары, яго ўсяго калаціла ад гневу.- Змяя нават не КРАНУЛАСЯ яго!

- Аднак, супынілася вельмі блізка,- прамовіў Эрні.- А калі ў цябе з’явіліся яшчэ якія ідэі, - хутка дадаў ён,- магу расказаць табе мой радавод да дзевятага калена. Там адны чарадзеі і вядзьмаркі і мая кроў чыста, як у нікога, так што...

- Мне начхаць на чысціню тваёй крыві!- палка адказаў Гары.- Навошта мне атакаваць магланароджаных?

- Я чуў ты ненавідзіш маглаў з якімі жывеш?- імгненна заявіў Эрні.

- Жыць з Дурслі і не ненавідзець іх?- прамовіў Гары.- Хацеў бы бачыць, як гэта атрымалася б у цябе.

Ён развярнуўся на абсцасах і куляй выляцеў з бібліятэкі, заслужыўшы пры гэтым асуджальны погляд ад мадам Пінс, што паліравала залатую вокладку вялізнай кнігі замоваў.

Ён несся па калідоры і быў настолькі разлютаваны, што ледзь заўважаў куды ідзе. У выніку, ён хутка ўрэзаўся ў нешта вялізнае і шырачэзнае, ад чаго яго кінула на падлогу.

- А, здароўку, Хагрыд,- падняўшы вочы, сказаў ён.

Няхай твар палясоўшчыка і быў схаваны за пакрытай снегам ваўнянай балаклавай, але ані ніхто акрамя яго не мог запоўніць сабой і сваім кратовым шынэлкам большую частку калідору. У агромістай руцэ, апранутай ў пальчатку, ён нёс здохлага пеўня.

- Як майся, Гары?- сцісківаючы з сябе балаклаву, спытаўся волат.- Чго не на знятках?

- Адмянілі,- падымаючыся наногі адказаў Гары.- А ты тут што робіш?

Хагрыд падняў вышэй абмяклага пеўня.

- Жо другі са сьместр,- паведаміў брамнік.- Гэт альбо ліс справа, альбо страшыдлы-крыўсмока. Мне трэб дазвол дырэктра, каб скарстаць ахоную замову ўкол куратніка.

Ён уважлівей зірнуў на Гары з пад густых пакрытых снегам брывей і спытаўся:

- А з табой сё добр? Ты выгльдаеш збуджаным і знепкоеным?

Гары не змог паўтарыць уголас, тое, што казалі пра яго Эрні і астатнія хафлпафцы.

- Не, так, нічога,- адказаў ён.- Прабач, Хагрыд, мне трэба спяшацца. У мяне наступным урокам будут ператварэнні і мне трэба збегаць па падручнік.

Ён рушыў прэч, а ў яго галаве ўсё яшчэ лунալі словы, якія Эрні сказаў пра яго:

«Джасцін чакаў раней ці пазней чагосьці падобнага, ажно з тых часоў, калі выдаў Потэру, што ён магланароджаны...»

Гары патупаў уверх па лесвіцы і павярнуў у даволі цёмны калідор. Усе паходні ў ім былі затушаны ільдзяным ветрам, які прабіваўся скрозь дзіру ў аконным шкле. Гары быў ужо пасярэдзіне калідора, калі неабачліва спатыкнуўся аб нешта ляжалае на падлозе.

Ён азірнуўся і адчуў, як у яго супынілася сэрца.

На падлозе ляжаў халодны, зцвярдзелы, з застылым на твары выразам шоку, Джасцін Фінч-Флечлі. Побач з ім была яшчэ адна фігура і Гары ані ніколі ў жыцці не бачыў чагосьці падобнага.

У шасці цалях ад падлогі ў паветры ляжаў Амаль Безгаловы Нік, не жамчужным і празрыстым, як звычайна, а чорны і нейкі дымлівы. Нікава галава на палову звісала асобна ад шыі, а на твары быў гэткі ж, як у Джасціна шакаваны выраз.

Хутка дыхаючы, Гары падняўся на ногі, яго сэрца выстуквала дроб на рэбрах. Дзікавата ён азірнуў калідор і ўбачыў, як ад целаў з неверагоднай хуткасцю адпаўзаў павучыны шэраг. З класаў уздоўж калідора адчуваліся прыглушаныя галасы настаўнікаў.

Гары мог папросту збегчы і ніхто б ня ведаў, што ён тут быў. Аднак, ён не мог пакінуць іх вось так ляжаць на падлозе... ён павінен кагосьці паклікаць на дапамогу. Ці павераць яму, што ён не мае да выпадку ані ніякага дачынення?

Хлопчык перапалохана стаяў пасярод калідору і тут дзеры з правага ад яго боку з моцным грукатам адчыніліся і з класы вылецеў полтэргейс Піўз.

- Ды гэта ж наш маненецкі дурненецкі Потэр!- засюсюкаў ён і праляцеўшы міма хлопчыка, збіў набок яго акуляры.- А што наш Потэр задумаў? Чаму стаіўся..?

Піўз рабіў у паветры сальта, але супыніўся на поўдарогі, бо убачыў на падлозе целы Джасціна і Амаль Безгаловага Ніка. Ён выпрастаўся, набраў ў лёгкія паветра, і перш чым Гары паспеў яго супыніць, загаласіў:

- НАПАД! НАПАД! ЧАРГОВЫ НАПАД! У НЕБЯСПЕЦЫ І СМЯРОТНЫЯ, І ПРЫВІДЫ! РАТУЙЦЕСЯ ХТО МОЖА! НАПАААД!

Стук – стук – стук. Дзверы ўсіх класаў расчыніліся і калідор запоўніўся навучэнцамі. Колькі доўгіх хвілінаў у калідоры панавала такое безладдзе, што Джасцін рызыкаваў быць растаптаным, а сёй-той з вучняў увесь час супыняўся ўсярэдзіне Амаль Безгаловага Ніка. Гары быў прыціснуты да сцяны. Настаўнікі ўвесь час крыкам намагаліся заклікаць вучняў да цішыні. Нарэшце, на месца злачынства прыбегла прафесарка МакГонагал, якую суправаджалі вучні з яе класа (у аднаго з іх па ранейшаму валасы былі ў чорна-белую палоску). З кончыка сваёй палачкі яна бахнула ў паветра і, калі ў калідоры, нарэшце, запанавала цішыня, загадала ўсім навучэнцам вярнуцца да заняткаў. Не паспелі апошнія вучні разыйсціся па класах, як, цяжка дыхаючы, у калідоры аб’явіўся Эрні з Хафлпафа.

- ЗЛОЎЛЕНЫ Ў ХАПКУ!- з дашчэну збялелым тварам, кажучы на Гары пальцам, загаласіў Эрні.

- Годзе, Макмілан!- рэзка прамовіла прафесарка МакГонагал.

Панад іх галовамі танчыў Піўз, назіраючы за тым што адбывалася і хітравата ўсміхаўся, бо надта любіў бязладдзе. Настаўнікі схіліўшыся над Джасцінам і Ніка, прыняліся іх разглядаць, а полтэргейст грымнуў песняй:

*«Потэр-брыдотэр, што ты вытвараеш?*
*Дзеля забавы, вучняў забіваеш...»*

- До ўжо, Піўз!- гыркнула прафесарка і полтэргейст, паказаўшы Гары языка, адляцеў прэчкі.

Прафесар Флітвік і прафесарка Сіністра з аддзела астраноміі панеслі Джасціна ў шпітальнае крыло, аднак ніхто ня ведаў, як быць з Амаль Безгаловым Нікам. Нарэшце, прафесарка МакГонагал выклікала з паветра агромісты веер і дала Эрні інструкцыю, як падняць прывіда ўверх па сходах. Падганяючы Ніка, як ціхі чорны паветраны шар, хафлпафец сыйшоў. У калідоры засталіся толькі МакГонагал і Гары.

- Хадзіце за мной, Потэр,- загадала прафесарка.

- Мадам прафесар,- прамовіў Гары.- Клянуся, я...

- Не мне гэта вырашаць, Потэр,- адрэзала яна.

Не размаўляючы, яны завярнулі за вугал і супыніліся ля агромістай і вельмі брыдкай каменнай гаргулы.

- Шэрбетавыя цытрынкі!- прамовіла яна. Напэўна, гэта было паролем, бо гаргулья ад’ехала ўбок, а сцяна за ёй расчынілася. Нават цяпер, калі ён быў перапоўнены жахам аб тым, што з ім цяпер будзе, хлопчык не мог не здзіўляцца. У адтуліне за сцяной ён ўбачыў вінтавыя сходы, што плаўна, быццам лесвіца эскалатара, рухаліся ўгору. Як толькі ён і прафесарка МакГонагал ўсталі на лесвіцу, сцяна, як мог чуць Гары, зноўку зачынілася. Яны падымаліся ўсё вышэй і вышэй, нарэшце, калі ў Гары ўжо пачала круціцца галава,

яны супыніліся і хлопчык ўбачыў перад сабой бліскучыя дубовыя дзверы з медным малатком у выглядзе грыфона.

Гары здагадаўся, куды яны прыйшлі. Хутчэй за ўсё, менавіта тут жыў Дамблдор.

## — РАЗДЗЕЛ XII —

### *Шматыстотнае зелле*

Яны сыйшлі з лесвіцы і прафесарка пастукала ў дзверы. Тыя бязгучна адчыніліся. МакГонагал і Гары ўвайшлі ў пакой. Прафесарка загадала яму чакаць тут і сыйшла, пакінуўшы хлопчыка ў адзіноце.

Гары азірнуўся. З усіх кабінетаў настаўнікаў у якіх Гары давялося пабываць у гэтым годзе, Дамблдораў быў найбольш цікавым. І калі б ён не баяўся таго, што прыйшоў сюды, каб быць выкінутым са школы, Гары быў бы шчаслівы, што апынуўся тут.

Гэта было круглае, агромістае і прыгожае памяшканне, запоўненнае разнастайнымі дзівоснымі гукамі. Колькі срэбных прыладаў, стаялых на доўганогім століку гудзелі і выпускалі невялічкія клубкі дыму. Сцены былі завешаны партрэтамі былых дырэктараў і дырэктарак, што ціхінька драмалі ў сваіх рамах. Пасярод пакоя стаяў вялізарны стол з нагамі ў выглядзе кіпцюроў, а на паліцы за ім ляжаў стары і зацыраваны вядзьмацкі капялюш – САРТАВАЛЬНЫ КАПЯЛЮШ.

Гары хістаўся. Ён паглядзеў на вядзьмарак і чарадзеяў, што спалі на партрэтах уздоўж сцен. Безумоўна не будзе ані нічога дрэннага, калі ён зноўку паспрабуе яго апрануць. Толькі каб паглядзець... Каб быць упэўненым, ШТО капялюш накіраваў яго у той Дом.

Хлопчык ціхінька абыйшоў стол, зняў капялюш з паліцы і павольна начапіў сабе на галаву. Той быў завялікі і саслізнуў яму на вочы, гэдак жа, як і тады, калі Гары апрануў яго ў першы раз. Гары ўтаропіўся ў чорную падшэўку капелюша і чакаў. І тут ціхі голас прамовіў яму ў самае вуха.

- Цябе штосьць непакоіць, Гары Потэр?

- Эээ, так,- прамармытаў хлопчык.- Прабачце, што турбую... Я толькі хацеў спытацца...

- Ты хочаш ведаць, ці ў правільны Дом, я цябе накіраваў,- бойка сказаў капялюш.- Так... твой выпадак быў нечым асабліва цяжкім. І я па ранейшаму лічу, што лепш за ўсё...- Гарына сэрца шалена загрукатала ў грудзях...- ЦЯБЕ было б у Слізэрыне.

У Гары зайшлася душа. Ён рыўком сцягнуў з сябе капялюш. Неахайны і паліняглы той павіс у яго руцэ. Гары муціла, ён зноўку паклаў капялюш на паліцу.

- Вы памыляецеся,- заявіў ён сціхламу капелюшу. Той не варухнуўся. Па ранейшаму гледзячы на яго, хлопчык адступіў. Тут нейкі дзіўны і млосны шум прымусіў хлопчыка рэзка развярнуцца.

Ён быў не самотны. Ля дзвярэй, на залатой жэрдачцы сідзела вельмі старая птушка, нагадваючая напаўабскубанага індыка. Гары зірнуў на яе, а птушка злавесна глядзела на яго. Гары падалося, што птушка моцна хварэе, бо пакуль ён назіраў за ёй, колькі пер’яў выпала з птушынага хваста.

Толькі Гары вырашыў, што яму не хапала, каб хатні ўлюбёнец Дамблдора памёр, пакуль яны былі сам-насам, як птушка запалала.

Гары енкнуў і пабег да стала. Ён ліхаманкава пачаў азірацца шукаючы будзь якую шклянку з вадой, але не знайшоў анічога. Тым часам птушка ператварылася на вогнены шар, выдала апошні галас і праз імгненне ад яе засталася толькі цмеючая грудка попелу на падлозе.

Тут дзверы кабінэта адчыніліся і туды завітаў, змрочна выглядаючы Дамблдор.

- Прафесар,- цяжка дыхаючы, прамовіў Гары,- ваша птушка... я нічога не мог зрабіць... яна папросту згарэла...

Да здзіўлення Гары, Дамблдор у адказ усміхнуўся.

- Даўно час,- сказаў ён.- Апошнія колькі дзён ён выглядаў моцна хворым і я казаў яму, што трэба ўжо гэта зрабіць.

Дырэктар усміхнуўся ашаломленаму твару хлопчыка.

- Гары, Фоўкс – фенікс. Феніксы спальваюць сябе, калі прыходзіць час іхнай смерці, а потым адраджаюцца з попелу. Вось, глядзі...

Гары зірнуў на падлогу, з грудкі попелу падняло галаву маленечкае, зморшчанае, нованароджанае птушаня, гэдкае ж брыдкае, які дарослая птушка.

- Як дрэнна што ты бачыў яго ў дзень спалення,- сядаючы за стол, заўважыў прафесар.- Большасць часу ён сапраўды прыгожы, з пышным чырвоным і залатым пер’ем. Захапляльныя істоты гэтыя феніксы. Яны могуць несці грузы значна большыя за іх уласную вагу, іхныя слёзы маюць моцныя гаючыя сілы, да таго ж яны вельмі ВЕРНЫЯ жывёлы.

Сшакаваны Фоўксавым самаспаленнем, Гары забыўся аб тым, чаму тут апынуўся, але адразу ўсё прыпомніў, як толькі дырэктар апынуўся ў сваім фатэлі з высачэзнай спінкай і ўтаропіў на хлопчыка свае пранікліўыя светла-блакітныя вочы.

Аднак, перш чым Дамблдор паспеў сказаць хоць слова, дзверы з грукатам адчыніліся і ў кабінэт нечакана ўварваўся Хагрыд. З адзічэлымі вачыма, балаклаве здзвінутай на калматыя чорныя валасы, брамнік па ранейшаму трымаў у руцэ здохлага пеўня.

- Гэт не Гары, прафес Дамблдор!- адразу ж заявіў ён.- За кольк секунд да тго, як знашлі хлопчка мы з Гары размлялі, у йго, сэр, папрост не бло часу...

Дамблдор спрабаваў штосьці адказаць, але Хагрыд не даў яму прамовіць ані слова. Ён працягваў енчыць, махаючы пеўнем быццам паходняй і раскідваючы паўсюль ягоныя пёры.

- Гэт не ён... клі прыдзецца я гтовы прысьгнуць за Гары перад міньстэрствам магіі...

- Хагрыд, я...

-... вы думаце не на тго, хлочыка, сэр, я ВЕДАЮ, Гары аніколь...

- ХАГРЫД!- гучна ўскрыкнуў Дамблдор.- Я НЕ вінавачу Гары ў гэтых нападах.

- А, спраўды?- прамовіў брамнік і певень зноўку вяла павіс у яго руцэ. Ну, я тады пачкаю, дырэктар, сэр.

Збянтэжана, Хагрыд патупаў прэчкі.

- Дык вы не думаеце на мяне, прафесар?- з надзеяй спытаўся Гары, назіраючы, як Дамблдор страсае са стала пеўневае пер’е.

- Ані, Гары, не думаю,- адказаў дырэктар, аднак, яго твар зноўку зрабіўся змрочным.- Але, усё яшчэ хачу з табой паразмаўляць.

Гары прыняўся занепакоена чакаць, пакуль Дамблдор разглядаў яго, склаўшы разам кончыкі сваіх доўгіх пальцаў.

- Я хачу спытаць цябе, Гары,- мягка прамовіў ён,- ці ёсць штосць аб чым ты хацеў бы мне расказаць. Усё што заўгодна.

Гары нават ня ведаў, што яму сказаць. Яму прыпомніўся Малфоеў крык: «Наступнымі будзеце вы, глеекроўкі!», прыпомніў аб шматыстотнам зеллі, што кіпела зараз у прыбіральні Мармытухі Міртлы. Таксама ён прыпомніў двойчы пачуты бесцялесны голас, але таксама да галавы яму прыйшлі Ронавы словы: «Чуць галасы, якія не чуюць астатнія, благі знак, нат у чарадзейскім свеце.» Таксама ён прыпомніў усё тое, што казалі пра яго іншыя навучэнцы і свой усёўзрастаючы страх наконт таго, што ён можа неяк быць павязаным з Салазарам Слізэрынам...

- Ані,- нарэшце прамовіў ён,- нічога, прафесар, сэр.

*

Падвойнага нападу на Джасціна і Амаль Безгаловага Ніка хапіла, каб усеагульная занепакоенасць ператварылася на сапраўдную паніку. І што цікава, лёс Ніка турбаваў значна большую колькасць людзей. Сям-там людзі пыталіся адзін у аднаго, якая сіла магла нанесці шкоду прывіду, які і так ужо з’яўляецца мерцвяком. У паніцы навучэнцы кінуліся браніяваць месцы ў Хогвартс экспрэсе, каб на калядныя вакацыі трапіць дадому.

- То бок, мы будзем адзінымі, хто застанецца падчас вакацыяў у школе,- паведаміў Гары і Герміёне Рон.- Мы, Малфой, Крэйб і Гойл. Весяленкія ж нас чакаюць святы.

Як і заўжды, Крэйб з Гойлам зрабілі тое ж самае, што і Малфой. Аднак, Гары быў рады таму, што з’язджае большасць народу. Ён моцна стаміўся ад таго, што людзі сустрэўшы яго ў калідоры агіналі яго так, быццам у яго зараз вырастуць іклы і ён пачне плявацца атрутай. Стаміўся ад усеагульнага мармытання, сыкання за яго спіной і накіраваных у яго бок пальцаў.

Фрэд і Джордж, аднак, знаходзілі падобнае становішча вельмі пацешным. Яны паўсюль хадзілі па калідорах наперадзе Гары і галасілі:

- Дарогу, нашчадку Слізэрына, самаму злому ведзьмаку ў свеце...

Аднак, Персі не надта былі да спадобы падобныя паводзіны.

- З гэтым НЕЛЬГА жартаваць,- халодна заявіў ён блізнятам.

- Прэч з дарогі,- адказаў яму Фрэд,- Гары спяшаецца.

- Так,- загігікаў Джордж.- Ён ідзе ў патаемную залу, каб выпіць кубачак гарбаты са сваім ікластым лёкаем.

Джыні таксама не бачыла ў гэтым анічога пацешнага.

- Ёйку, НЕ, - стагнала яна штораз, калі Фрэд пытаўся ў Гары, на каго ён плануе напасці ў наступны раз, ці, калі Джордж, сустрэўшы Гары па-блазнерску абараняўся ад яго зубком часныка.

Гары ані ніяк не супраціўляўся. Наадварот, ён адчуваў сябе значна лепей, пры думцы, што блізняты лічаць за дуроту чуткі пра то, што ён слізэрынскі спадкаемца. Да таго ж іх выхадкі значна раздражнялі Малфоя, як рабіўся ўсё больш незадаволеным, штораз калі сустракаў іх у калідоры.

- Усё таму, што Малфою КАРЦІЦЬ сказаць усім, што сапраўдны спадкаемца – ён,- з разуменнем справы сцвярджаў Рон.- Вы ж ведаеце, як ён ненавідзіць, калі хтосьці апярэджвае яго хоць у нечым, а тут камусь іншаму прыпісваюць вынікі яго ўласнай бруднай працы.

- Ужо нядоўга засталося,- з задавальненнем у голасе паведаміла Герміёна.- Шматыстотнае зелле амаль гатова. Мы ў любы момант атрымаем адказы на нашы пытанні.

*

Сэместр скончыўся і ў замку запанавала цішыня, глыбокая, як сумёты за вокнамі. Але Гары знаходзіў падобнае становішча ані не змрочным. Наадварот ён атрымліваў задавальненне ад надыйшоўшай цішыні і ад таго, што цяпер яны разам з Герміёнаю ды сям'ёй Візлі, панавалі ў грыфіндорскай вежы і маглі не турбуючы анікога гуляць выбухаючымі картамі ў снэп, ці практыкавацца адно з адным у двубоях. Фрэд, Джордж і Джыні таксама вырашылі застацца на вакацыі ў школе, а не ехаць разам з бацькамі ў Ягіпет да іх старэйшага брата Біла. Персі не ўхваляў падобных паводзінаў, называў іх дзіцячымі і намагаўся, як мага менш часу праводзіць у грыфіндорскай вежы. Астатнім ён паведаміў, што застаўся ў школе на Каляды ТОЛЬКІ ТАМУ, што падтрымка настаўнікаў у гэткі цяжкі час яго прамы абавязак, як прэфекта.

Калядны ранак выдаўся халодным і празрыстым. Гары і Рон, застаўшыеся адны ў сваёй спальне, былі ранютка пабуджаны Герміёнаю, якая ўварвалася да іх у пакой цалкам апранутай і несучы падарункі для абодвух хлопчыкаў.

Падымайцеся,- адсоўваючы з вокан фіранкі, гучна прамовіла яна.

- Герміёна,- закрываючы вочы ад святла, сказаў Рон.- Табе сюды нельга.

- Цябе таксама з Божым Нараджэннем,- адказала, кідаючы яму падарунак, Герміёна.- Я ўжо гадзіну, як на нагах. Я дадала ў зелле яшчэ сеткакрылак. Яно гатова.

Раптам прачнуўшыся, Гары сеў у ложку.

- Ты ў гэтым упэўнена?

- А то,- скінуўшы з Гарынага ложка Скаберса і сама прысеўшы на крайчык, сказала дзяўчынка.- І кажу вам, калі мы збіраемся штось рабіць, мы павінны зрабіць гэта сёння.

У той жа момант у спальню заляцела Хэдвіг, трымаючы ў дзюбе невялічкі пакуначак.

- Здароўку,- шчасліва прамовіў Гары, калі сава прызямлілася на яго ложку.- Ты зноў размаўляеш са мной?

Сава ласкава падзюбала яго па вуху і гэта было лепшым падарункам за той, што даслалі яму Дурслі. У пакунку была зубачыстка і паштоўка, у якой дзядзька з цёткай пыталіся ў Гары, ці не мог бы ён застацца ў школе і на летнія вакацыі.

Іншыя падарункі былі больш цікавымі. Хагрыд даслаў яму агромістую бляшанку патачнай памадкі, якую Гары вырашыў размягчыць, разагрэўшы ля коміна; Рон падараваў яму кнігу «Палёт з Гарматамі», дзе апісваліся самыя цікавыя факты аб ўлюбёнай Ронавай квідытчнай камандзе, а Герміёна адаравала яго шыкоўшым арліным пяром. Апошнім, Гары адчыніў падарунак ад місіс Візлі. Там ён знайшоў новы швэдар ручной вязкі і кекс з разынкамі. Ён ўзяў у рукі віншавальную картку, адчуваючы новы ўсплёск віны, і за машыну містэра Візлі, якую ніхто не бачыў ажно з тых часоў, як яны з Ронам сутыкнуліся на ёй з Лупцуючай Вярбой і пра той шэраг парушэнняў, якія яны надумалі зрабіць.

*

Ані нішто, нават боязь пры ўспаміне аб маючым адбыцца прыняцці шматыстотнага зелля не магло сапсаваць дзецям каляднай хогвартскай вячэры.

Галоўная зала выглядала сапраўды пышна. Тут быў і тузін пакрытых шаццю елак і аплёўшае столю паўночнае ззяне з падубу і амелы, а зверху на прысутных падаў зачараваны снег, сухі і цёплы. Дамблдор праспяваў колькі сваіх улюбёных калядак. Хагрыд басіў ўсё гучней з кожным наступным кубкам эгнога. Персі не разумеў, чаму над ім смяюцца, бо не заўважыў, як Фрэд зачараваў яго прэфектскі значык, так што цяпер надпіс на ім чытаўся, як «Ёлупрэфект». Гары нат не звяртаў ўвагі на гучныя, яхідныя каментары Малфоя са слізэрынскага стала ў бок яго новага швэдара. Калі ім пашанцуе, праз колькі гадзін Малфой з лішкам за ўсё адплаціць.

Толькі Гары і Рон, паспелі з’есці па трэцяй порцыі каляднага пудзінгу, як Герміёна паклікала іх з залы, каб распавесці ім свае планы на вечар.

- Усё што нам цяпер трэба - кавалачак ад людзей у якіх мы жадаем пераварацца,- як нічога ніякага, быццам адпраўляла іх у супэрмаркет за пральным парашком, заявіла Герміёна.- І, канечне, лепш за ўсё, калі мы атрымаем кавалачкі ад Крэйба і Гойла, яны лепшыя сябры Малфоя і ім ён можа хоць нешта сказаць. А яшчэ, мы, зразумела, павінны быць упэўнены, што сапраўдныя Крэйб з Гойлам не ўварвуцца ў пакой, пакуль мы будзем дапытваць Малфоя.

- Я сёе-тое дзеля гэтага зрабіла,- ігнаруючы ніякаватыя твары Гары і Рона, працягвала дзяўчынка. Яна працягнула ім два шакаладных кекса.- Я начыніла іх простай соннай настойкай. Цяпер, нам проста трэба пераканацца, што Крэйб з Гойлам іх знойдуць. Вы ж ведаеце якія яны ненажэры, калі яны ўбачаць гэтыя кексы, яны абавязкова іх з’ядуць. А калі яна паснуць, мы вырвем ў іх колькі валаскоў, а саміх схаваем у каморы для мёцел.

Гары і Рон з недаверам перазірнуліся.

- Герміёна, я не думаю...

- Мы можам ў нечым сур’ёзна памыліцца...

Але Герміёна зірнула на іх са сталёвым бляскам ў вачах, які хлопцам прыходзілася бачыць, толькі на твары прафесаркі МакГонагал.

- Без валасоў Крэйба і Гойла зелле будзе бескарысным, сурова сказала яна.- Вы ж ЖАДАЕЦЕ дапытаць Малфоя?

- Ну, добра, добра,- адказаў Гары.- А што наконт цябе. Чые валасы вырвеш ты?

- Дзеля сябе я ўжо маю!- жвава прамовіла дзяўчынка і дастала з кішэні бурбалачку з адным валаскам.- Памятаеце на двубойным клубе, мы счапіліся з Мілісэнтай Бульстрод? Калі яна спрабавала задушыць мяне, яна пакінула на маёй мантыі вось гэта! Яна на Каляды паехала дамоў, але я папросту скажу, што пажадала вярнуцца ў школу.

Герміёна ў чарговы раз кінулася правяраць гатовасць шматыстотнага зелля. Рон з няўцешнасцю на твары азірнуўся на Гары.

- Ты калі-небудзь чуў аб плане, у якім большасць з пунктаў могуць пайсці ня так?

*

Аднак да вялікага здзіўлення хлопцаў, першы этап аперацыі прайшоў, як і казала раней Герміёна, на здзіўленне лёгка. Пасля каляднага чаявання, яны схаваліся ў вестыбюле і прыняліся чакаць Крэйба з Гойлам, якія засталіся ў самоце сядзець за слізэрынскім сталом, каб запхаць у сябе па чацвёртай порцыі бісквітаў. Кексы Гары паклаў на пачатку лесвічных парэнчаў. Як толькі яны заўважылі, як Крэйб з Гойлам, нарэшце, пакінулі

галоўную залу, Гары з Ронам хуценька схаваліся за нейкімі даспехамі ля уваходных дзвярэй.

- Колькі ж яны могуць зжэрці?- у захапленні прашапатаў Рон, калі, убачыўшы кексы, Крэйб з радасцю на твары паказаў на іх Гойлу. Падыйдзя да парэнчаў, яны, бязглузда ўсміхаючыся, цалкам запхалі кексы ў свае рты і з пераможнасцю на тварах, сквапна іх зжавалі, пасля чаго, нават не змяніўшы выразу на тварах, слізэрынцы паваліліся на падлогу.

Нашмат цяжэй было, перацягваць іх праз увесь вестыбюль да каморы. Як толькі слізэрынцы былі надзейна запханы між вёдзер і швабр, Гары вырваў пук з шчаціння якое атачала карак Гойла, а Рон колькі валасінак з галавы Гойла. Яшчэ яны сцягнулі ў Крэйба з Гойлам чаравікі, бо іх уласныя былі замалымі для ног слізэрынцаў. Усё яшчэ ўражаныя тым што зрабілі, Гары і Рон кінуліся да міртлавай прыбіральні.

У прыбіральне, з-за густога чорнага дыма, які валіў з кабінкі дзе Герміёна гатавала зелле ані нічога не было бачна. Таму, перш чым пастукацца, Гары з Ронам заціснулі насы краечкамі сваіх мантый.

- Герміёна?

Шчоўкнуў замок і перад іх вачыма з’явілася ўзапрэлая і ўсхваляваная Герміёна. З-за яе спіной чуўся булькат густога, як патака шматыстотнага зелля, а на накрыўке ўнітаза стаяла тры загадзя падрыхтаваныя шклянкі.

- Вы іх здабылі?- цяжка дыхаючы, спыталася дзяўчынка.

У адказ, Гары паказаў ёй пук Гойлавала шчаціння.

- Супэр. А я сцягнула з пральні вось гэтыя запасныя мантыі,- прамовіла Герміёна і паказала ім невялічкую торбу.- Як толькі вы пераварацііцеся на Крэйба з Гойлам, вам спатрэбіцца вопрадка значна большага памеру.

Уся тройца вытарапілася на кацёл. Зелле ў ім нагадвала млява булькочучы чорны бруд.

- Упэўнена, што зрабіла ўсё, як трэба,- занепакоена перачытваючы пакрытую плямамі старонку «Найпатэжных зелляў», сказала Герміёна.- І выглядае яно, так як апісана у кнізе... Так, пасля таго, як мы скаштуем зелле, мы будзем мець толькі адну гадзіну, перш чым зноўку пераварацімся на сябе саміх.

- І што цяпер?- шэптам, спытаўся Рон.

- Цяпер, мы разальем зелле ў тры шклянцы і дададзім да іх валасы.

Герміёна плюхнула ў кожную з шклянак па вялізнай порцыі зелля. Потым адкаркавала бурбаку і стрэсла мілісэнцін валасок ў першую з трох.

Зелле імгенна зашыпела, як кіпячы імбрык, шалёна ўспенілася і праз секунду-другую змяніла колер на хваравіта жоўты.

- Бе...- сапраўдная Мілісэнта Бульстрод,- заявіў з гідкасцю на твары, Рон.- Закладаюся, на смак яна такая ж брыдотная.

- Цяпер ваша чарга,- прамовіла дзяўчынка.

Гары кінуў у сваю шклянку валасы Гойла, Рон зрабіў тое ж самае з валоссем Крэйба. Іхныя шклянкі таксама засыкалі і ўспеніліся. Гойл зрабіўся балотна-зялёным, а Крэйб цёмна карычневым.

- Чакайце!- прамовіў Гары, калі Рон з Герміёнаю схапілі свае шклянкі.- Нам лепей не піць іх тут. Як толькі мы пераварацімся на Крэйба з Гойлам, нам тут будзе замала месца. А Мілісэнта таксама памерам ані не піксі.

- Маеш рацыю,- адчыняючы дзверы, згадзіўся Рон.- Разыходзімся па асобных кабінках.

Асцярожна, каб не праліць ані кроплі, Гары праслізнуў у суседнюю кабінку.

- Гатовы?- спытаўся ён.

- Гатовы,- адказалі яму галасы Рона і Герміёны.

- Раз... два... тры...

Заціснуўшы носа, Гары ў два вялізных глытка выпіў сваё зелле, якое на смак нагадвала, пераварануую капусту.

Яго вантробы адразу ж пачало круціць, як быццам ён праглынуў колькі жывых змеяў... яго сагнула напалам і склалася адчуванне, нібы зараз яго званітуе... Хутка гэта палаючае адчуванне распаўсюдзілася ад жывата ажно да кончыкаў пальцаў. Потым, цяжка дыхаючы, Гары паваліўся на карачкі, яму здавалася, што яго цела плавіцца, а скура кіпіць, як той гарачы воск. На яго вачах, яго рукі пачалі расці, пальцы зрабіліся таўсцейшымі, а суставы зрабіліся падобнымі на балты. Яго плечы балюча пашырыліся, паколванне на ілбе паказала, што валоссе ў яго цяпер расце адразу ж пасля брывей. Вопрадка яго разарвалася пад націскам грудзей, як у бочкі, што ламае свае абручы; а ногі пачалі балець з-за абутку на чатыры памеры меншай, чым патрэбна...

Усё скончылася гэдак жа нечакана, як і пачалося. Гары ляжаў, прыціснуўшыся тварам, да халоднай каменнай падлогі і слухаў панурае булькатанне Мармытухі Міртлы з яе кабінкі. Хлопчык з цяжкасцю скінуў з сябе чаравікі і выпрастаўся. Як жа дзіўна было адчуваць сябе Гойлам. Сваімі дрыготкімі вялізнымі рукамі, Гары сцягнуў з сябе сваю старую мантыю, якая цяпер дасягала яму толькі ладыжак, начапіў больш вялікую і зашнураваў чаравікі так, як гэта рабіў сам Гойл. Ён пацягнуўся, каб адштурхнуць валасы з вачэй, але яго рука сустрэлася толькі з кароткім шчаціннем. Тут ён адчуў, што яму перашкаджаюць акуляры, бо Гойл, зразумела ж, іх не насіў. Схаваўшы акуляры ў кішэню ён клікнуў:

- Гэй, з вамі двума ўсё добра?- спытаўся ён нізкім скрыгочучым Гойлавым голасам.

- Так,- пачулася глыбокае буркатанне Крэйба з правага боку.

Штурхнуўшы дзверы, Гары пакінуў кабінку і падыйшоў да трэснуўшага люстэрка. Адтуль, дурнаватымі, глыбока пасаджанымі вачыма на яго глядзеў Гойл. Гары пачухаў за вухам, Гойл у люстэрцы зрабіў тое ж самае.

Дзверы ў Ронаву кабінку адчыніліся. Хлопцы вытарапіліся адно на аднаго. Рон, акрамя таго, што быў збляднелым і ўзрушаным, меў гэткую ж як Крэйб фрэзуру пад гаршок і гэткія ж доўгія бы ў гарылы рукі.

- Гэта нешта неверагоднае,- прамовіў Рон і падыйдзя да люстэрка пастукаў пальцам па плоскім Крэйбавым носе.- НЕВЕРАГОДНА.

- Нам лепей спяшацца,- заявіў Гары, зірнуўшы на гадзіннік, які шчыльна сціснуў тоўстае Гойлаўскае запясце.- Нам яшчэ трэба высветліць, дзе слізэрынская гасцёўня, але я спадзяюся, мы зможам знайсці таго, хто нам яе пакажа...

- Ты не паверыш,- усё яшчэ ўважліва гледзячы на Гары, заўважыў Рон,- як гэта дзіўна бачыць Гойла, які РАЗВАЖАЕ.- ён пастукаўся ў кабінку Герміёны.- Гэй, давай, нам трэба спяшацца...

- Я,- пачуўся ў адказ высокі голас.- Я, напэўна, нікуды не пайду. Хадзіце адны.

- Герміёна, мы ведаем, што Бульстрод вырода, але ж ніхто не будзе ведаць, што гэта ты.

- Не... сапраўды... лічу, што мне не трэба ісці. А вы спяшайце, не марнуйце на мяне час.

Ані нічога не разумеючы, Гары азірнуўся на Рона.

- ЦЯПЕР ты больш падобны на Гойла.- заўважыў Рон.- Ён так выглядае ўсялякі раз, калі настаўнікі задаюць яму якое-небудзь пытанне.

- Герміёна, з табой усё добра?- праз дзверы кабінкі спытаўся Гары.

- Так... усё файна... са мной ўсё добра... Ідзіце...

Гары зноўку зірнуў на гадзіннік. Пяць з шасцідзесяці каштоўных хвілінаў прайшлі.

- Сустрэнемся тут, добра?- крыкнуў ён Герміёне.

Асцярожна, праверыўшы, што вакол нікога няма, хлопцы выйшлі ў калідор.

- Не машы рукамі.- прамармытаў Гары Рону.

- А?

- У Крэйба яны акасцянела вісяць па баках...

- Недзе так?

- Во, так значна лепей.

Мармуровымі сходамі яны спусціліся ў вестыбюль. Усё што хлопцам цяпер было патрэбна – знайсці слізэрынца, які праводзіў бы іх да іхнай гасцёўні, аднак, паблізу ані нікога не было бачна.

- Ёсць ідэі?- прабурчэў Гары.

- Слізэрынцы прыходзяць на абед вось адтуль,- кажучы на ўваход ў падзямеллі, сказаў Рон. Не паспеў ён прамовіць апошняе слова, як з падзямелля выйшла нейкая дзяўчынка з доўгімі павойнымі валасамі.

- Прабач,- кінуўшыся да яе, спытаўся Рон.- мы забылі, як ісці да нашай гасцёўні.

- Пардон канечне,- чапурыста адказала тая.- Якая НАША гасцёўня? Я з Рэйвенкло.

Дзяўчынка пайшла прэчкі, падазрона азіраючыся на іх.

Гары і Рон пабеглі па прыступках уніз. Тупат вялізарных ног Крэйба і Гойла гулкім рэхам разносіўся па праходзе. Здавалася, усё будзе значна цяжэй, чым яны на то спадзяваліся.

Заблытаныя калідоры падзямелляў былі пустымі. Хлопцы ўсё ніжэй і ніжэй апускаліся пад школу, штохвіліны правяраючы, колькі ў іх засталося часу. Мінула чвэрць гадзіны, калі ўпаўшы ў роспач Гары і Рон пачулі наперадзе нечыя рэзкія крокі.

- Ага!- усхвалявана прамовіў Рон.- Ну цяпер, гэта хтосьці з іх!

З аднаго з бакавых пакояў выйшла нечая постаць. Хлопцы падбеглі бліжэй і ў іх абарваліся сэрцы. Гэта быў не слізэрынец, перад імі стаяў Персі.

- А ты што тут робіш?- у здзіўленні спытаўся Рон.

Персі абражана паглядзеў на яго.

- Што?- чапурыста спытаўся ён.- А табе ёсць да гэтага справа? Цябе ж Крэйб клічуць?

- Ш... эээ, так,- адказаў Рон.

- Балазе, ідзіце ў сваю гасцёўню,- сурова загадаў Персі,- цяпер, не надта бяспечна блукаць па цёмных калідорах.

- ТЫ,- кажучы на яго пальцам, сказаў Рон.

- Я,- выцягнуўшыся, прамовіў Персі,- прэфект. На МЯНЕ аніхто не адважыцца напасці.

Раптам, за спінамі Гары і Рона адчуўся нечый голас. У іх бок крочыў Драко Малфой і, першы раз у жыцці, Гары быў рад яго бачыць.

- Вось вы дзе,- як заўжды нараспеў, прамовіў Драко.- Вы што, зноў увесь час абжыраліся ў галоўнай зале. Хадзіце за мной, я хачу паказаць вам нешта пацешнае.

Ён спапяляльна паглядзеў на Персі.

- А ты, Візлі, што тут робіш?- здзекліва пасміхаючыся, спытаўся Малфой.

Персі быў у лютасці.

- Мне не да спадобы гэткае стаўленне.- адказаў ён.- Школьнаму прэфекту трэба рабіць больш павагі.

Малфой зноў пасміхнуўся і знакам загадаў Гары і Рону ісці следам. Гары ледзь не папрасіў у Персі прабачэння, але сваечасова супыніў сябе. Разам з Ронам ён паспяшаў следам за Драко.

- Гэты Пітэр Візлі...- прамовіў Малфой, як толькі яны завярнулі за вугал.

- Персі,- міжволі паправіў яго Рон.

- Не істотна,- заявіў Драко.- Я заўважыў, што апошнія часы, ён зачаста валэндаецца тут. Упэўнены, што ведаю, чаго ён хоча. Ён намысліў схапіць за руку спадкаемцу Слізэрына.

Малфой каротка ўсміхнуўся. Гары і Рон занепакоенна пераззірнуліся.

Драко супыніўся ля голага адрэзка, вільготнай каменнай сцяны.

- Як там ў нас новы пароль?- павярнуўшыся да Гары спытаўся ён.

- Ээмм...- прамовіў той у адказ.

- А... канечне... «Чыстая кроў»!- прамовіў Малфой, не слухаючы Гарынага адказу. Дзверы схаваныя ў каменнай сцяне адчыніліся. Малфой прайшоў у адтуліну, а Гары і Рон паспяшаліся следам.

Слізэрынская гасцёўня ўяўляла сабой нізенькую падземную залу з груба апрацаванымі каменнымі сценамі і звісаючымі са столі на ланцугах колькімі круглымі зеленаватымі лямпамі. Ля камінаў па-майстэрску ўпрыгожаных разьбой на гэткіх жа разбяных крэслах сядзела колькі слізэрынцаў.

- Пачакайце тут,- паказаўшы Гары і Рону на два вольных крэсла паблізу ад каміна, загадаў Малфой.- Зараз прынясу... Я атрымаў гэта сёння ад свайго бацькі...

Зацікаўленыя тым, што ж збіраецца паказаць ім Малфой, Гары і Рон селі з усяе сілы намагаючыся, адчуваць сябе як дома.

Праз хвіліну, Малфой вярнуўся ў гасцёўню з нечым, што нагадвала газэтную выразку, якую той сунуў пад нос Рону.

- Бярыце, парагачыце!- прамовіў Малфой.

Гары заўважыў, як Ронавы вочы пашырыліся ад абурэння. Ён хутка праглядзеў выразку, з вялікай натугаю усміхнуўся і працягнуў яе Гары.

Гэта была старонка са Штодзённага Вяшчуна на якой быў змешчаны артыкул.

*Артур Візлі – галава камітэту па барацьбе са злаўжываннем маглаўскімі артэфактамі, атрымаў сёння штаф у пяцьдзесят галеёнаў за зачараванне маглаўскага аўтамабіля.*

*Містэр Люцыюс Малфой, сябра ўправы хогвартскай школы чарадзейства і вядзьмарства на тэрыторыі, якой машына пацярпела аварыю на пачатку вучэбнага году, заклікаў да адстаўкі містэра Візлі.*

*- Візлі нанес шкоды рэпутацыі міністэрства,- распавёў містэр Малфой нашаму карэспандэнту.- Відавочна, ён не прыдатны складаць нашыя законы. Больш таго, трэба неадкладна скасаваць яго недарэчны Акт аб абароне маглаў.*

*Атрымаць якія-небудзь каментары ад самога містэра Візлі не атрымалася, а яго жонка заявіла нашым карэспандэнтам, што калі яны не вымятуцца з іх хаты, яна нацкуе на іх сямейнага гуля.*

- Ну?- у нецярплівасці спытаўся Малфой, калі Гары вярнуў яму выразку.- Хіба ж гэта не смешна?

- Гы гы,- выдушыў з сябе Гары.

- Артур Візлі, настолькі моцна любіць сваех маглаў,- з пагардай заявіў Малфой,- што яму пэўна трэба паламаць сваю палачку і далучыцца да іх. Па паводзінах гэтых Візлі ніколі не здагадаешся, что яны чыстакроўцы.

Ронаў... ці калі дакладней Крэйбаў твар скрывіўся са злосці.

- Што з табой, Крэйб? - гыркнуў Малфой.

- Жывот баліць, - рохкнуў той у адказ.

- Ну, тады ідзі да шпітальнага крыла,- загігікаў Малой.- І можаш за мяне выдаць глеекроўкам, што там ляжаць. Здзіўляюся, чаму пра гэтыя напады дагэтуль не паведамілі ў Штодзённым Вяшчуне.- у задумлівасці працягваў ён.- Мяркую, Дамблдор спрабуе замяць гэтую справу. А калі напады ў хуткім часе не прыпыняцца, ён рызыкуе згубіць сваю пасаду. Мой бацька ўвогуле лічыць, што Дамблдор, горшае, што магло здарыцца са школай. Ён любіць усіх магланароджанных. Калі б у школе быў годны дырэктар, сюды ніколі б не трапіла такая дрэнь, як гэты Крыві.

Малфой зрабіў выгляд, што фатаграфуе нябачнай камерай і бязлітасна, але цалкам дакладна капіюючы Крыві прапішчаў:

- Потэр, я магу цябе сфатаграфаваць, Потэр? А магу атрымаць твой аўтограф? А магу лізнуць твае чаравікі, Потэр? Ну, калі ласка!

Драко апусціў рукі і вытарапіўся на Гары з Ронам.

- Да ШТО з вамі двума сёння тварыцца?

Запозна схамянуўшыся, Гары і Рон прымусілі сябе рассмяяцца, але Малфой здавалася быў задаволены падобнай рэакцыям, магчыма сапраўдныя Крэйб з Гойлам заўжды цямілі занадта павольна.

- Святы Потэр – сябра глеекровак,- прамовіў Малфой на распеў.- Вось хто яшчэ не захоўвае чарадзейскай прыстойнасці, інакш бы не важдаўся з такімі як тая глеекроўка Грэйнджэр. А іншыя яшчэ сцвярджаюць быццам ЁН нашчадак Слізэрына!

Нямогучы дыхаць, Гары і Рон чакалі, што Малфой прызнаецца, што нашчадак ён. Але...

- Як бы я ЖАДАЎ ведаць хто ЁН,- у раздражненні прамовіў Малфой.- Я б яму дапамог.

Рон настолькі моцна адчыніў рота, што Крэйб пачаў выглядаць дурнейшым, чым звычайна. На шчасце Драко гэтага не заўважыў, а Гары, хутка паразважаўшы спытаў:

- А ты маеш якія-небудзь думкі наконт таго, хто гэта можа быць..?

- Колькі разоў казаць табе, Гойл, што я ня ведаю?- гыркнуў Малфой.- І бацька мне не кажа НІЧОГА аб тым, хто адчыняў патаемную залу мінулым разам. Ведаю толькі, што гэта адбывалася пяцьдзесят год таму, задоўга да таго, як ён пачаў там вучыцца, але ён ведае ўсё пра гэтую гісторыю. Ён кажа, што вымушаны маўчаць, бо калі я зашмат буду ведаць пра яе абставіны, гэта будзе выглядаць западазрона. Адзінае што я ведаю, калі залу адчынялі ў мінулы раз, ЗАГІНУЛА нейкая глеекроўка. Так што толькі пытанне часу, каб нешта падобнае адбылося чарговы раз...- І я спадзяюся,- з асалодаю дадаў ён,- што гэтай глеекроўкай будзе Грэйнджэр.

Рон сціснуў агромістыя Гойлаўскія кулакі. Адчуваючы, што калі той адлупцуе Малфоя, гэта цалкам іх раскрые, Гары папераджальна паглядзеў на сябра, а потым спытаўся:

- А ці ня ведаеш, ці спаймалі таго, хто ў мінулы раз адчыняў патаемную залу?

- А ну так... таго хто гэта зрабіў выключылі са школы,- адказаў Малфой.- Ён напэўна дагэтуль сядзіць у Азкабане.

- У Азкабане?- збянтэжана, спытаўся Гары.

- Азкабан... ЧАРАДЗЕЙСКАЯ ТУРМА, Гойл.- з недаверам патлумачыў Малфой.- Шляхетна кажучы, ты сёння цяміш, як ніколі раней цяжка.

Ён занепакоена пакруціўся на сваім крэсле.

- Бацька кажа, каб я не вязаўся на вочы, што спадкаемца сам ўсё зробіць. Ён сцвярджае, што школу трэба ачысціць ад глеекроўскага бруду, але просіць не мяшацца ў гэтую справу. Тым больш, што ў яго зараз у самога кепскія справы. Вы ж ведаеце, што на мінулым тыдні міністэрства абшукала наш маёнтак?

Гары паспрабаваў нацягнуць на дурны Гойлаў твар, выраз заклапочанасці.

- Так...- працягваў Малфой.- на шчасце шмат яны не знайшлі. А ў бацькі ёсць колькі ВЕЛЬМІ каштоўных цёмных артэфактаў. Аднак , добра, што ў нас пад падлогаю ў гасцёўне таксама маецца свая ўласная патаемная залка...

- Гы!- пасміхнуўся Рон.

Малфой азірнуўся на яго. Тое ж сама зрабіў і Гары. Рон пачырванеў. Нават яго валасы зрабіліся рудымі, а нос пачаў даўжэць... іх гадзіна скончылася. Рон зноўку пераварочваўся на сябе самога, а па жахлівым выразе на яго твары, Гары зразумеў, што нешта падобнае тварыцца і з ім самім.

Яны абодва ўскочылі на ногі.

- Мы пабеглі лекаваць жываты,- гыркнуў Рон і разам з Гары яны кінуліся да дзвярэй ў каменнай сцяне, а адтуль у калідор, спадзяючыся, што Малфой ані нічога не заўважыў. Гары адчуваў, што яго ногі боўтаюцца ў вялізных Гойлавых чаравіках, а крысы мантыі прыходзіцца прыпадымаць, бо яго рост зноўку паменшыўся. Яны пабеглі ўверх па лесвіцы ў цёмны вестыбюль, дзе з каморы да мёцел ужо чуўся прыглушаны грукат сядзелых там Крэйба і Гойла. Пакінуўшы чаравікі ля каморы, Рон і Гары ў адных шкарпэтках пасьпашаліся да прыбіральні Мармытухі Міртлы.

- Ну, у любым выпадку, гэта не было дарэмным марнаваннем часу,- цяжка дыхаючы, заявіў Рон, зачыняючы за сабой дзверы прыбіральні.- Мы канечне не высветлілі, хто ажыцяўляе напады, але я заўтра ж напішу тату, каб ён праверыў падлогу ў Малфоеўскай гасцёўне.

Гары паглядзеў на сваё адлюстраванне ў трэснутым люстэрку. Ён зноўку зрабіўся нармальным. Хлопчык начапіў на нос акуляры, а Рон тым часам пастукаў у дзверы Герміёнінай кабінцы.

- Герміёна, выходзь, мы шмат чаго маем табе распавесці...

- Сыходзце!- піскнула ў адказ дзяўчынка.

Гары і Рон вытарапіліся адно на аднаго.

- Што здарылася?- спытаўся Рон.- Ты ўжо павінна зноўку пераварацiцца на саму сябе, як і мы...

Тут скрозь дзверы кабінкі нечакана праслізнула Міртла і Гары ніколі раней не бачыў, каб яна выглядала настолькі шчаслівай.

- Вууууух, што вы зараз убачыце,- заявіла яна.- Гэта сапраўдны ЖАХ!

Хлопцы пачулі, як пстрыкнуў замок, з кабінкі, рыдаючы і закрываючы мантыяй галаву выйшла Герміёна.

- Што там у цябе?- нясмела спытаўся Рон.- У цябе што застаўся мілісэнцін нос ці яшчэ што?

Дзяўчынка адняла мантыю ад твара. Ад здзіўлення Рон, падаўшыся назад, сеў у ракавіну.

Герміёнін тварык пакрывала густая чорная поўсць, вочы зрабіліся жоўтымі, а з пад валасоў на патыліцы тырчэлі завостранныя вушы.

- Гэта б-быў каціны волас!- ўзенчыла яна.- Напэўна ў М-Мілісэнты ёсць к-котка! А з-зелле нельга выкарыстоўваць дзеля пераварочвання на жывёлаў!

- Аёй,- толькі і мог прамовіць Рон.

- Цяпер, цябе дадуць, якую-небудзь ЖУДАСНУЮ мянушку,- у захапленні прамовіла Міртла.

- Усё будзе добра, Герміёна.- хутка заявіў Гары.- Мы адвядзем цябе ў шпітальнае крыло. Мадам Помфры аніколі не задае шмат пытанняў...

Хлопцам спатрэбілася шмат часу, каб пераканаць Герміёну выйсці з прыбіральні. А вокол з шчаслівым рогатам гойсала Мармытуха Міртла.

- Вось, чакай, чакай, хутка ўсе будуць ведаць, што ты і ХВОСТ маеш!

## — РАЗДЗЕЛ XIII —

### *Звышсакрэтны дзённік*

Герміёна заставалася ў шпітальным крыле колькі тыдняў. Вярнуўшыеся з калядных вакацыяў вучні, імгненна разнеслі па школе безліч плётак аб прычынах яе знікнення, бо вырашылі, што на яе таксама быў ажыцяўлён напад. Таму шмат хто з навучэнцаў, прамінаючы шпітальнае крыло ўвесь час імкнуўся зазірнуць у палату і паглядзець на тое, што здарылася з дзяўчынкай. Аднак, мадам Помфры, што раз закрывала яе ложак завесаю, каб аніхто раптам не заўважыў яе пакрыты поўсцю твар і такім чынам пазбавіць Герміёну ад немінучай ганьбы.

Штовечар, дзяўчынку наведвалі Гары і Рон. Распачаўся новы сэместр, таму хлопцы прыносілі ёй заданні на хатнюю работу.

- Калі б у мяне вусы выраслі,- аднаго вечара, перакульваючы на Герміёніну тумбачку стос кніжак, заявіў Рон,- я б адпачыў ад заняткаў.

- Не шый з сябе дурня, Рон, мне нельга адставаць ад праграмы,- імгнення прамовіла Герміёна. Апошнім часам яна значна акрыяла, бо поўсць з яе твара ўжо сыйшла, хаця вочы па ранейшаму не спяшаліся зноўку рабіцца карымі. Яна паднялася на ложку і ціхінька, каб не пачула мадам Помфры дадала.- І закладаюся ў вас не з’явілася новых версіяў, наконт спадкаемцы.

- Ані,- змрочна адказаў Гары.

- Я быў больш чым УПЭУНЕНЫ,- у соты раз запар, сказаў Рон,- што гэта ўсё Малфой.

- А там у цябе што?- спытаўся Гары, кажучы на нейкі залаты прадмет, што тырчэў з пад Герміёнінай падушкі.

- Усяго толькі картка з пажаданнямі ачуньвання.- хутка адказала Герміёна і паспрабавала запхнуць картку далей пад падушку. Аднак Рон быў хутчэйшым за яе. Ён выхапіў картку і ўголас прачытаў.

«Мая даражэнькая міс Грэйнджэр, жадаю вам як мага хутчэй ачуняць! Ваш усхваляваны настаўнік, прафесар Гільдэрой Локхарт, кавалер Ордэна Мерліна трэцяй ступені, ганаровы сябра Лігі Абароны ад Цёмных мастацтваў і пяціразовы прызёр прэміі «Вядзьмарскага тыднёвіка» за самую ачаравальную ўсмешку.

Рон зірнуў на Герміёну з агідай на твары.

- Ты што, спіш трымаючы гэта пад ПАДУШКАЙ?- спытаўся ён.

Аднак, ад неабходнасці адказу Герміёну пазбавіла, прымчаўшаяся з вечароваю дозаю лекаў, мадам Помфры.

- Ці ты колісь бачыў большага падлізу, за гэтага Локхарта?- спытаўся ў Гары Рон, калі пакінуўшы палату, яны пайшлі да грыфіндорскай вежы. Снэйп задаў ім столькі хатняй работы, што Гары быў упэўнены, што скончыць яе толькі на шостым годзе навучання. А Рон шкадаваў, што забыўся спытацца ў Герміёны, колькі пацучыных хвастоў трэба дадаваць у дыбкавалосае зелле. І тут з паверха над імі пачуўся нечый раззлаваны енк.

- Гэта Філч,- прамармытаў Гары і хлопцы кінуліся наверх. Схаваўшыся, каб наглядчык іх не заўважыў, яны прыслухаліся.

- Спадзяюся, гэта не чарговы напад?- занепакоена прамовіў Рон.

Яны скіравалі свой слых у бок Філча, які прабываў у даволі моцнай гістэрыке.

«... зноў мне дадатковая праца! Зноў выціраць падлогу ўсю ноч, быццам мне няма больш чаго рабіць! Не, гэта апошняя кропля, я іду да Дамблдора...»

Яго крокі пачалі аддаляцца, хутка недзе ў далечыні грукнулі дзверы.

Гары і Рон высунулі галовы з-за вугла. Філч, відавочна, зноўку быў на сваім назіральным посце, бо менавіта тут напалі на Місіс Норыс. Таксама яны ўбачылі прычыну Філчавай гістэрыкі, больш чым на палову калідор пакрывала агромістая лужына і, здавалася вада ўсё яшчэ прабывала з-пад дзвярэй прыбіральні Мармытухі Міртлы. Цяпер, калі наглядчык больш не крычаў, зрабілася мажлівым пачуць міртліны енкі з-за дзвярэй прыбіральні.

- ШТО з ёй зноўку здарылася?- пацікавіўся Рон.

- Давай пойдзем і самі ўсё высветлім,- прапанаваў Гары. Падняўшы мантыі на ўзровень шчыкалатак і праз плынь, як заўжды праігнараваўшы шыльду «Прыбіральня не працуе», яны адчынілі дзверы і ўвайшлі ўсярэдзіну.

Здаецца, гэта немагчыма, але Мармытуха Міртла, схаваўшыся ў сваім улюбёным унітазе, енчыла мацней, чым калі-небудзь раней. У самой прыбіральне было цёмна, бо Міртла прымудрылася затапіць ня толькі падлогу, але яшчэ і сцены, загасіўшы пры гэтым ўсе свечкі, што яе асвятлялі.

- Што здарылася, Міртла?- спытаўся Гары.

- Хто тут?- жаласліва прабулькатала яна.- Зноўку прыйшлі шпульнуць у мяне нечым?

- Навошта мне шпуляцца ў цябе?- прабраўшыся да яе кабінкі, спытаўся Гары.

- Не мяне пытай,- ускрыкнула прывідка і выпусціла на і без таго мокрую падлогу новую хвалю вады.- Я тут сяджу, займаюся сваімі справамі, а нехта лічыць пацешным, кінуць у мяне кніжкай...

- Яна ж усёроўна ня можа ані нічым цябе пашкодзіць,- разважліва прамовіў Гары.- То бок, кніжка ўсё розна праляціць скрозь цябе, так?

Здаецца ён сказаў ня тое што трэба, бо Міртла павялічылася ў памерах і закрычала:

- Ну, давайце кідаць ў Міртлу кнігамі, калі ЯНА ня можа гэтага адчуць! Дзесяць балаў, калі трапіце ў жывот! Пяцьдзесяцт калі ў галаву! Так, га-га-га! Якая выдатная гульня, аднак, я ТАК не думаю!

- Але, хто кінуў ў цябе кнігай?- спытаўся Гары.

- Я ня ведаю... Я сабе сядзела ў трубе, разважала аб смерці і тут яна звалілася мне на патыліцу,- пазіраючы на хлопцаў, адказала Міртла.- Вунь, там яна, яе выкінула вадой.

Гары і Рон зірнулі пад ракавіну, на якую паказвала прывідка. Там ляжала невялічкая і танюткая кніжка. Яна мела падрапаную чорную вокладку і была гэткай жа мокрай, як і ўсё ў прыбіральне. Гары збіраўся ўжо нахіліцца і падняць яе, але Рон супыніў яго рукой.

- Што здарылася?- спытаўся Гары.

- Ці ты не сшалеў?- адказаў Рон.- Гэта можа быць небяспечным?

- НЕБЯСПЕЧНЫМ?- спытаўся Гары.- Кінь дурное, што ў ёй можа быць небяспечным?

- Ты здзівішся,- працягваючы з асцярогай пазіраць на кнігу, заявіў Рон,- колькі кніг канфіскавала міністэрства. Тата распавядаў мне пра адну... якая спальвала вочы, таму хто яе адчыняў. А той, хто чытаў «Чытанку Чарадзея» ўсё далейшае жыццё размаўляў лімерыкамі. А ў старой вядзьмачкі з Бата была кніга, якую НЕМАГЧЫМА БЫЛО

ПРЫПЫНІЦЬ ЧЫТАЦЬ! Усе астатняе жыццё ты б правёў уткнуўшыся ў яе носам і спрабуючы рабіць усё астатняе адной рукой. А...

- Добра, добра,- адказаў Гары,- я ўсё зразумеў.

Кніжачка, несамавітая і мокрая, працягвала ляжаць на падлозе.

- Аднак, мы ані пра што не даведаемся, пакуль яе не паглядзім,- прамовіў Гары, абыйшоўшы Рона, ён нахіліўся і падняў кніжачку з падлогі.

Гары адразу зразумеў, што трымае ў руках нечый дзённік і калі верыць даце на вокладцы, яму было ўжо пяцьдзесят год. Гары з нецярплівасцю адчыніў дзённік. На першай старонцы было толькі імя «Т.В. Рэдл» і колькі чарнільных плямаў.

- Чакай,- з асцярогай спазіраючы на дзённік з-за Гарынага пляча, прамовіў Рон. Т.В. Рэдл... я ведаю гэта імя. Пяцьдзесят год таму, ён атрымаў узнагароду за асаблівыя заслугі перад школай.

- Адкуль ты пра гэта ведаеш?- у здзіўленні спытаўся Гары.

- Таму, што Філч прымусіў мяне паліраваць гэтую ўзнагароду разоў пяцьдзесят,- з крыўдаю ў голасе, адказаў Рон.- Гэта было, падчас нашага пакарання. Я заваніціў яе смоўжамі. А ці ты б забыўся аб немым імі, калі б адціраў яго ад слізі на працягу гадзіны?

Гары пралістаў вадкі дзённік, але ўсе яго старонкі былі пустымі. Не было нават і сляда якіх-небудзь надпісаў, нават такіх як «Дзень народзінаў цёткі Мэйбл» ці «Да дантыста, а палове на чацвёртую».

- Ён ані нічога тут не запісаў,- з расчараваннем сказаў Гары.

- А мне цікава, хто ж пажадаў ад яго пазбавіцца?- з інтарэсам прамовіў Рон.

Гары паглядзеў вокладку з іншага боку. Там была выдрукавана адрэса газэтнага шапіка на Воксхал Роўд у Лондане.

- Калі дзённік ён набыў на Воксхал Роўд,- у задумлівасці сказаў Гары,- ён хутчэй за ўсё быў магланароджаным...

- Ну, у любым выпадку, ад гэтага нам мала карысці,- адказаў Рон, а потым прашапатаў.- Ну, што: Пяцьдзесят балаў таму, хто кіне яго праз міртлін нос.

Аднак, Гары схаваў дзённік ў кішэню.

*

Герміёна, без вусоў, хваста і поўсці на твары, пакінула шпітальнае крыло на пачатку лютага. У першы ж дзень яе вяртання ў грэфіндорскую гасцёўню, Гары, паказаў ёй дзённік Т. В. Рэдла і расказаў гісторыю яго знаходкі.

- Оооо,- з энтузіязмам ўзяўшы дзённік у рукі і ўважліва яго разглядаючы, прамовіла Герміёна.- У ім могуць захоўвацца патаемныя сілы.

- Калі і хаваюцца, то вельмі добра,- заявіў Рон.- Можа саромеюцца? Я ўвогуле ня ведаю, чаму, Гары, ты не пакінуў яго там, у прыбіральні.

- А я жадаю ведаць, ЧАМУ, нехта вырашыў ад яго пазбавіцца,- адказаў Гары.- І за якія асабістыя заслугі Рэдл атрымаў сваю ўзнагароду.

- За што заўгодна.- прамовіў Рон.- Можа атрымаў трыццаць Т.А.Р.Ч.А.ў, ці вырataваў якога-небудзь настаўніка з шчупальцаў гіганцкага кальмара. А можа забіў Міртлу, чым зрабіў усім велічэзную паслугу...

Аднак, гледзячы на пазіраючыя ў адну кропку Герміёніны вочы, Гары зразумеў, што яна думае пра тое ж, што і ён сам.

- Што такое?- вытарапіўшыся на сяброў, спытаўся Рон.

- Глядзі,- адказаў яму Гары.- Патаемная зала была адчынена пяцьдзесят год таму, так? Менаваіта пра гэта расказаў нам Малфой.

- Ну...- паволі прамовіў Рон.

- І ДЗЁННІКУ каля пяцідзесяці год,- адказала замест Гары, узбуджаная Герміёна.

- Дык і што?

- Рон, хіба ты спіш?- гыркнула дзяўчынка.- Мы ведаем, што той хто адчыняў залу ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГОД ТАМУ, быў выключаны са школы. І мы ведаем, што ў ТОЙ ЖА САМЫ ЧАС, Т. В. Рэдл атрымаў сваю ўзнагароду. А што калі Рэдла ўзнагародзілі, за тое, што ён схапіў СПАДКАЕМЦУ СЛІЗЭРЫНА? І ў яго дзённіку, напэўна, пра ўсё пра гэта напісана: дзе знаходзіцца патаемная зала, як яе адчыніць і што за істота ў ёй хаваецца. І таму, хто стаіць за нападамі ў гэты раз наўрацці хацелася б, каб дзённік быў ува ўсіх на вачах.

- ШЫКОЎНАЯ тэорыя, Герміёна,- адказаў ёй Рон.- Але ў ёй маецца адзін маленечкі недахоп. У ДЗЁННІКУ АНІ НІЧОГА НЕ НАПІСАНА.

Аднак Герміёна ўжо палезла ў сваю торбу па чароўную палачку.

- Хутчэй за ўсё ён пісаў нябачнымі чарніламі!- прашапатала дзяўчынка.

- АПАРЭЦЫЮМ!- тры разы стукнуўшы па дзённіку палачкай вымавіла яна.

Аднак, ані нічога не адбылося. Не разгубіўшыся, Герміёна зноўку сунула руку ў торбу і выцягнула адтуль нешта, нагадваючае бліскучую чырвоную гумку.

- Гэта адкрывацель, - растлумачыла яна,- я набыла яго на Дыягон алее.

Герміёна моцна пацёрла старонку за першага студзеня. Зноўку ані нічога не адбылося.

- А я вам кажу, што вы там нічога не знойдзіце,- заявіў Рон.- Закладаюся, Рэдл атрымаў гэты дзённік у падарунак на Каляды і не надта непакоіўся яго запаўняць.

*

Нават самому сабе, Гары не мог растлумачыць, чаму папросту не выкінуў Рэдлаў дзённік. Больш таго, дакладна ведаючы, што ў дзённіке ані нічога не напісана, Гары ад часу гартаў яго пустыя старонкі, быццам спадзяваўся знайсці там заканчэнне гісторыі, якую не паспеў дачытаць. Хлопчык быў упэўнены што раней яму ніколі не сустракалася імя Т. В. Рэдл, тым ня менш яму здавалася, што гэта імя вельмі шмат для яго значыць, быццам Рэдл быў яго паўзабытым сябрам у часы Гарынага маленства. Аднак гэта было нечым абсурдным. Да Хогвартса Гары ніколі ня меў сяброў, Дадлі рабіў усё магчымае, каб гэтага не дапусціць.

Тым ня менш, поўны рашучасці ведаць аб Рэдле як мага больш, Гары, наступнага дня накіраваўся дзеля вывучэння Рэдлавай ўзнагароды ў трафейню. Разам з ім глядзець на ўзнагароду пайшлі ўшчэнт зацікаўленая Герміёна і Рон, цалкам упэўнены, што на ўсё жыццё ўжо наглядзеўся на тыя ўзнагароды.

Рэдлаў бліскучы залаты шчыт стаяў у самым кутку трафейні. Але на шчыце не было ані ніякіх паясненняў за што яго далі.

- І гэта добра,- заявіў Рон,- інакш бы ён быў бы значна большым і я паліраваў бы яго па сённяшні дзень.

Аднак імя Рэдла было таксама знойдзена на старым медалю За магічныя заслугі і ў спісе папярэдніх школьных старастаў.

- Ён як той Персі,- з агідаю зморшчачы носа, прамовіў Рон.- Прэфект, Стараста школы... можа ён яшчэ і выдатнікам па ўсіх прадметах быў?

- Ты кажаш так, быццам гэта нешта дрэннае,- сказала Герміёна з лёгкай крыўдаю.

*

Пакрысе, сонца зноў пачало слаба свяціць па над Хогвартсам. І ў замку запанаваў абнадзейлівы настрой. Пасля здарэння з Джасцінам і Амаль Безгаловым Нікам, больш нападаў не было, а мадам Помфры з задавальненнем паведаміла, што ў мандрагораў пачаліся капрызы ды сакрэты і гэта значыць, што іх дзяцінства хутка скончыцца.

- Трэба пачакаць пакуль мандрагоры пазбаяцца вугроў,- аднаго разу пачуў Гары, як лекарка распавядала пра гэта Філчу,- а тады яшчэ раз перасадзіць. А там ўжо нядоўга застанецца да таго моманту, як мы іх парэжам і прыгатуем зелле. І апасля гэтага вы нарэшце атрымаеце назад сваю Місіс Норыс.

Можа спадкаемца (ці спадкаемка) Слізэрына страціў сваю вытрымку. А можа яму змяніў азарт і ён не рызыкаваў адчыняць патаемную залу, калі ўся школа прабывала ў пільным і недаверлівым настроі. А можа яго пачвара зноўку запала ў спячку яшчэ на пяцьдзесят год...

Аднак Эрні Макмілан з Хафлпафу не знаходзіў у гэтым суцехі. Ён па-ранейшаму лічыў, што за нападамі стаіць Гары і што той «выдаў сябе» на двубойным клубе. Ды яшчэ і Піўз падсыпаў жару, увесь час аб’яўляючыся ў перапоўненых людзьмі калідорах, каб праспяваць сваю песеньку аб Потэры-брыдотэры, да якой цяпер стварыў нешта накшталт танца.

Здавалася, што Гільдэрой Локхарт вырашыў, што напады супыніў менавіта ён. Гары, які стаяў сярод іншых ля дзвярэй кабінета ператварэнняў, чуў іх размову з прафесаркай МакГонагал:

- Я лічу, што нападаў больш ня будзе, Мінерва,- заявіў, спрытна пастукваючы сябе па носе і падміргіваючы, Локхарт.- На гэты раз патаемная зала была добра зачынена. Злачынца павінен быў здагадацца, што будзе толькі пытаннем часу, перш чым я яго спаймаю. І самым для яго разумным будзе спыніцца зараз.

- І ведаеш,- працягваў ён,- я лічу, што школе неабходны нейкі сродак дзеля ўзняцця маральнага духу. Каб вучні пазбавіліся ад цяжкіх успамінаў таго, што адбылося ў мінулым сэместры! Я ведаю што гэта можа быць, але пакуль ані аб чым не скажу...

Локхарт зноўку пастукаў сябе па носе і адыйшоў.

То што ён меў на ўвазе вучні зразумелі падчас сняданку чатырнаццатага лютага. Напярэдадні ў Гары адбылася чарговая квідытчная трэніроўка і ён ня меў магчымасці добра выспацца ўвечары, таму трапіў ў галоўную залу запозна. А трапіўшы туды, спачатку вырашыў, што памыліўся дзвярмі.

Сцены залы былі схаваны пад агромістымі агніста-ружовымі кветкамі. І што яшчэ горш з бледна-блакітнай столі сыпалася залева з канфеці ў выглядзе сэрцайкаў. Ён прайшоў да грыфіндорскага стала і як заўжды сеў між гатовым званітаваць Ронам і смяшліваю Герміёнай.

- Што тут адбываецца?- спытаўся Гары, сядаючы за стол і страсаючы канфеці з бэкона?

Рон, загідка сябе адчуваючы, каб нешта гаворыць, у адказ моўчкі паказаў на стол настаўнікаў. Там, сядзеў апрануты ў гэткую ж агніста-ружовую, як і ўпрыгожванні на

сценах мантыю, Локхарт, паабапал ад якога з каменнымі тварамі месціліся астатнія настаўнікі. З таго месца дзе сядзеў хлопчык было бачна, як рухаюцца жолвы на твары ў прафесаркі МакГонагал, а Снэйп выглядае так, быццам яго толькі што прымусілі асушыць вялізную шклянку скелегро. Махам рук, Локхарт заклікаў усіх да цішыні.

- З Валянцінавым днём усіх вас!- крыкнуў ён.- І найперш, хацелася б падзякваць тым сарака шасці асобам, што даслалі мне віншавальныя карткі! Так, а яшчэ я ўзяў на сябе смеласць і арганізаваў дзеля ўсіх адзін невялічкі сурпрыз... і гэта яшчэ не ўсё!

Локхарт пляснуў ў далоні і з вестыбюля ў галоўную залу ўварваўся тузін панура выглядаючых недарослікаў. Але гэта было яшчэ не ўсё, кожны з недарослікаў меў за плячыма залатыя крылцы і трымаў ў руках арфу.

- Гэта,- бліснуўшы белазубай ўсмешкаю, заявіў Локхарт,- мае прыязныя купідоны-картканошы і сёння ўвесь дзень, яны будуць хадзіць па школе і прыносіць вам валянцінкі ад вашых каханых! Але на гэтым святкаванне ня скончваецца! Я ўпэўнены, што мае калегі-настаўнікі далучацца да мяне! Напрыклад, вы можаце папрасіць прафесара Снэйпа навучыць вас, як па хуткаму прыгатаваць любоўнае зелле! А прафесар Флітвік, гэты стары хітры ліс ведае больш зачаравальных замоваў, чым кожны чарадзей, якога я калісь сустракаў!

Флітвік зацісну ў далонямі ўшчэнт счырванелы твар, а Снэйп усім сваім выглядам паказаў, што першая ж асоба што звярнецца да яго па любоўнае зелле будзе гвалтоўна накормлена атрутаю.

- Герміёна, калі ласка, скажы, што цябе не было сярод тых сарака шасці асобаў,- спытаўся Рон, калі тройца пакінула галоўную залу, накіроўваючыся на першы ўрок. Але дзяўчынка зрабіла выгляд, што шукае ў торбе графік заняткаў і анічога не адказала.

На працягу дня недарослікі, да моцнага абурэння настаўнікаў няўклюдна урываліся на заняткі, каб даставіць камусьці з вучняў іхную валянцінку. А па апоўдні, калі грыфіндорцы падымаліся па сходах, накіроўваючыся на ўрок замоваў, адзін з іх напаткаў Гары.

- Гэй ты! Ары Потэр!- загаласіў, прадзіраючыся лакцямі праз натоўп вучняў, асабліва змрочна выглядаючы «купідон».

Палаючы ад сораму, пры думцы, што атрымае валянцінку на вачах у першагодак, сярод якіх была і Джыні, Гары паспрабаваў схавацца. Аднак, недараслік, штурхаючы вучняў лакцямі ў галёнкі, прарэзаўся да хлопчыка хутчэй, чым той паспеў зрабіць хаця два крокі.

- Я павінен даставіць Ары Потэру музыкальную паштоўку,- з самым пагрозлівым выглядам дрыкнуўшы па струнах сваёй арфы, паведаміў «купідон".

- ТОЛЬКІ НЯ ТУТ,- спрабуючы вырвацца, прашапатаў Гары.

- Стой ЦІХА,- ухапіўшыся за Гарыну торбу, гыркнуў недараслік.

- Пусці мяне,- гыркнуў у адказ Гары і тузануў торбу на сябе.

Адчуўся гучны трэск і торба разарвалася напалам. На падлогу пасыпаліся пёры, пергамент, падручкікі і палачка Гары, а чарніліца стукнуўшыся аб падлогу разбілася на безліч аскепкаў.

Гары мітусіўся па падлогі, спрабуючы падняць свае рэчы, да таго як недараслік пачне спяваць, а тым часам у калідоры ўтварылася нешта накшталт затору.

- Што тут адбываецца?- праспяваў халодны голас Драко Малфоя. Гары ліхаманкава пачаў запіхваць рэчы ў разарваную торбу, адчайна спрабуючы збегчы, раней чым Малфой пачуе яго музычную  валянцінку.

- Што за гармідар?- пралуцнаў іншы знаёмы голас, на месца здарэння прыбыў Персі.

Гары ў разгубе паспрабаваў уцячы, але недаростлік схапіў яго за калені і паваліў на падлогу.

- Ну вось і добра,- ускараскаўшыся на Гарыны ладыжкі прамовіў ён.- А цяпер слухай:

«Яго вочы, як скквашаных жабак клубок,
Валасы, бы згарэлы дубок.
Ах, назваў бы сваёй, мяне светлы герой,
Той, што Цёмнага Лорда спрамог.»

Гары аддаў бы ўсё золата Грынгатса за магчымасць развеяцца ў пару. Мужна спрабуючы смяяцца разам з усімі астатнім, ён падняўся на, знямелыя ад недарослікавай вагі, ногі. А Персі тым часам спрабаваў разагнаць натоўп, сёй-той з якога плакаў са смеху.

- Разыходзцеся, разыходзцеся, праз пяць хвілінаў будзе звон на ўрок,- разганяючы навучэнцаў, усклікаў ён.- І ТЫ таксама Малфой.

Крайком вока, Гары ўбачыў як той нахіліўся, падняў нешта з падлогі і паказаў Крэйбу і Гойлу. Хлопчык зразумеў, што ў руках Малфоя дзённік Рэдла.

- А ну, аддай,- ціха прамовіў Гары.

- Цікава, аб чым тут піша Потэр?- спытаўся Малой, дрэнна разглядзеўшы вокладку і вырашыўшы, што гэта асабісты дзённік Гары. Запанавала цішыня. Джыні з жахам ў вачах глядзела то на Гары, то на дзённік.

- Вярні дзённік, Малфой,- сурова загадаў Персі.

- Я спачатку пагляджу,- насмешліва гледзячы на Гары і махаючы дзённікам, сказаў той.

- Як школьны прэфект...- пачаў Персі, але Гары ўжо страціў цярпенне. Ён выхапіў палачку ды ўсклікнуў «Экспеліярмус», скарыстаўшыся замовай, якой Снэйп некалі раззброіў Локхарта. Дзённік выскочыў з Малфоевых рук, узняўся ў паветра і апусціўся ў рукі шырока ўсміхаючымуся Рону.

- Гары!- ускрыкнуў Персі.- Чараваць у калідорах забаронена. Я павінен аб усім распавесці дырэктару!

Але Гары гэта замала непакоіла. Ён абдурыў Малфоя, а гэта каштавала даражэй за пяць страчаных Грыфіндорам балаў. Малфой з лютасцю ў вачах паглядзеў на то, як Джыні ўваходзіла у класу і крыкнуў ёй ў спіну:

- Не думаю, што Потэру надта спадабалася твая валянцінка!

Закрыўшы рукамі тварык, Джыні забегла ў кабінэт. Гыркнуўшы, Рон дастаў з кішэні палачку, аднак Гары супыніў яго, яму не надта хацелася, каб Рон сапсаваў урок замоваў смоўжавымі ванітамі.

Калі яны трапілі на заняткі да прафесара Флітвіка, Гары заўважыў нешта незвычайнае. Усе яго падручнікі былі залітыя пунсовымі чарніламі, аднак дзённік Рэдла заставаўся чыстым, быццам і не трапляў у чарнільную лужыну. Ён паспрабаваў распавесці аб гэтым

Рону, але ў таго зноўку ўзніклі праблемы з палачкай. З яе кончыка ўвесь час вылятали вялізныя пурпуровыя бурбалкі і не аб чым іншым ён думаць больш не мог.

*

Гэтым вечарам, Гары пайшоў у спальню раней за кагось іншага ў грыфіндорскай гасцёўне. Найперш таму, што не мог болей слухаць, як Фрэд з Джорджам чарговы раз спявалі: «Яго вочы, як сквашаных жабак клубок...». Да таго ж яму хацелася яшчэ раз паспрабаваць вывучыць Рэдлаў дзённік, хаця Рон і лічыў, што Гары дарма марнуе час.

Седзячы пад балдахінам, Гары гартаў пустыя старонкі, ані адна з якіх ня мела нават сляда ад пралітых на яе чарніл. Хлопчык выцяг са сваёй тумбачкі новую чарніліцу, макнуў пяро і пасадзіў на першай старонцы кляксу.

Клякса расцяклася на паперы дзе зяўрала секунду-другую, а потым як быццам яе ўцягнула ў старонку. Гары, зноўку ўсхвалявана макнуў пяро ў чарнілы і напісаў:

*«Мяне клічуць Гары Потэр»*.

Праз секунду-другую словы, як і раней клякса зніклі. А потым адбылося нешта дзіўнае.

У тым месцы дзе ён толькі што пісаў сам, быццам праз старонку працёк надпіс:

*«Прывітанне, Гары Потэр. Маё імя Том Рэдл. Як да цябе трапіў мой дзённік?»*

Надпіс таксама знік, але не раней чым Гары зноўку макнуў пяро ў чарніліцу і вывеў:

*«Нехта паспрабаваў спусціць яго ва ўнітаз»*.

Ён з занепакоенасцю прыняўся чакаць адказу Рэдла.

*«Як добра, што я пісаў свой дзённік нечым больш устойлівым за чарнілы. Аднак, я заўсёды ведаў, што знойдуцца людзі, якія б не хацелі, каб хтосьці яго прачытаў.»*

*«Што ты маеш на ўвазе?»*- надрапаў Гары, ва ўсхваляванні панарабіўшы кляксаў.

*«У маім дзённіку ўспаміны аб жахлівых здарэннях. Здарэннях, памяць аб якіх надзейна ўкрыта. Здарэннях, што адбыліся некалі ў хогвартскай школе чарадзейства і вядзьмарства.»*

*«Я зараз таксама тут»*,- хутка напісаў Гары: *«Я ў Хогвартсе і тут зноўку адбываюцца жахлівыя рэчы. Ты што-небудзь ведаеш аб патаемнай зале?»*

Гарына сэрца шалёна загрукатала. Рэдл адказаў даволі хутка. Яго почарк зрабіўся неахайным, быццам ён занадта спяшаўся распавесці аб усім, што ведае.

*«А то ж я ня ведаю аб патаемнай зале. Нам, калі я вучыўсчя тут, у школе, заявілі, што яна толькі лягенда і што насамрэч яе не існуе. Але гэта была хлусня. Калі я вучыўся тут пяты год, залу адчынілі і пачвара напала на колькіх вучняў і адзін з іх урэшце рэшт загінуў. Я злавіў таго, хто адчыніў пакой і яго выключылі са школы. Аднак дырэктар, прафесар Дзіпет, прабываючы ў сораме па тым, што адбылося, забараніў мне расказваць праўды. А гісторыю падалі так, быццам дзяўчынка загінула ў выніку няшчаснага выпадку. За сваю працу я атрымаў выдатную, бліскучую узнагароду з гравіроўкай і папярэджаннем, каб я трымаў рот на замку. Аднак пачвара засталася жыць і той, хто меў уладу зноўку яе выклікаць не трапіў у турму.»*

Ад хвалявання, Гары ледзь не перакуліў чарніліцу, ён макнуў пяро і напісаў:

*«Цяпер адбываецца тое ж самае. Адбылося ўжо тры напады і да гэтуль не было высветлена, хто за імі стаіць. А хто адчыніў патаемную залу ў мінулы раз?»*

*«Ты не павінен верыць мне на слова»*,- напісаў у адказ Рэдл: *«Аднак, калі жадаеш, я магу паказаць табе. Паказаць свае ўспаміны пра тую ноч, калі я яго злавіў.»*

Гары вагаўся, падняўшы пяро над старонкай. Аб чым кажа Рэдл? Як можна правесці каго-небудзь у чужыя ўспаміны? Занепакоенна ён паглядзеў на дзверы ў гасцёўню, за якімі пачало цямнець. Потым зноў перавёў вочы на старонку дзённіка, праз якую працякалі новыя словы.

*«Ну дык, як, паказаць?»*

Гары разважаў толькі секунду, а потым вевеў на паперы толькі тры літары.

«*Так.*»

Старонкі пачалі самі сабой гартацца, быццам на іх падзьмуў вецер і супыніліся на сярэдзіне чэрвеня. Адкрыўшы рота, Гары ўбачыў, як на старонцы за трынаццатага чэрвеня аб'явіўся маленькі прамавугольнічак, што нагадваў невялічкі экран тэлевізара. Дрыготкімі рукамі Гары паднёс старонку бліжэй да твару, утаропіўся у экранчык і перш чым паспеў нешта зразумець, той пашырыўся, Гары нахіліла наперад. Ён адчуў, як быццам яго падняло з ложка і, праз вір каляровых плямаў і ценяў, кінула ўсярэдзіну дзённіка.

Хлопчык адчуў, як яго ногі крануліся чагосьці цвёрдага, а няясная карцінка навокал зрабілася рэзкай.

Гары адразу ж пазнаў пакой, куды патрапіў. Круглая зала са спячымі на партрэтах людзьмі была кабінэтам Дамблдора... аднак за сталом сядзеў ані не ён. Маршчыністы, хваравіты з выгляду і, за выключэннем колькіх пукоў сівога валосся, лысы чараўнік, якога Гары раней ніколі не бачыў, пры свеце свечкі чытаў нечый ліст.

- Прабачце,- дрыготкім голасам ппрамовіў хлопчык,- я не хацеў перашкаджаць вам...

Аднак чараўнік нават не зірнуў на яго. Злёгку хмурачыся ён працягваў чытаць.

- Эээ... мо, я тады пайду?- наблізіўшыся да дырэктарскага стала, спытаўся Гары.

Але той працягваў ігнараваць хлопца. Здавалася, што ён нават не пачуў Гарыных словаў. Вырашыўшы, што чараўнік глухі, хлопчык вырашыў казаць грамчэй.

- Прабачце, што патурбаваў вас,- амаль што пракрычаў Гары.- Я мабыць пайду?

Чараўнік склаў ліста, выпрастаўся і, нават не паглядзеўшы на Гары, прайшоў да вакна і адсунуў фіранкі.

Неба знадворку было лалава-чырвоным, як быццам сонца ўжо напалову зайшло. Чараўнік вярнуўся да стала і, сеўшы пакруціў пальцамі, вытарапіўшыся на дзверы.

Гары агледзеў кабінэт. Тут не было ані фенікса Фоўкса, ані гудкіх срэбных прыладаў. Гэта быў Хогвартс, якім яго памятаў Рэдл, а невядомы чараўнік, быў дырэктарам, замест Дамблдора. А сам Гары, быў усяго толькі нечым накшталт фантома, для тых, хто жыў тут пяцьдзесят год таму.

Тут у дзверы кабінэта нехта пастукаў.

- Уваходзце,- знямоглым голасам прамовіў стары чараўнік.

Здымаючы востраканцовы капялюш, у кабінэт завітаў хлопчык гадоў гэдак шастнаццаці. На грудзях хлопчыка зіхацеў значык прэфекта, ён быў значна вышэй за Гары, але меў гэткае ж смалява чорнае валоссе.

- А, гэта вы Рэдл,- прамовіў дырэктар.

- Вы жадалі мяне бачыць, прафесар Дзіпет?- спытаўся, занепакоенны з выгляду, Рэдл.

- Сядайце,- запрасіў яго Дзіпет.- Я толькі што прачытаў ваш ліст.

- Ага,- адказаў Рэдл. Ён прысеў моцна абхапіўшы сябе рукамі.

- Мой любы хлопчык,- ласкава прамовіў Дзіпет,- я не магу дазволіць вам застацца ў школе на лета. Тым больш, што вам вядома захочацца паехаць на вакацыі дадому.

- Ані,- імгненна адказаў Рэдл.- Лепей заставацца ў Хогвартсе, чым вяртацца да... да...

- Вы ж на вакацыях жывёце у маглаўскім прыталку, так?- зацікаўлена спытаўся Дзіпет.

- Так, сэр,- крыху пачырванеўшы, адказаў хлопец.

- Вы магланароджаны?

- Я паўкроўка, сэр,- растлумачыў Рэдл.- Бацька – магл, маці – вядзьмарка.

- А кім былі вашы бацькі..?

- Мая маці памёрла амаль адразу ж пасля майго нараджэння. У прытулку мне сказалі, што яна паспела толькі даць мне імя. Том - на гонар бацькі і Вальдор – на гонар дзядулі.

Дзіпет толькі спачувальна пацокаў языком.

- Справа ў тым, Том,- прамовіў ён,- што мы канечне маглі б зрабіць для вас асаблівыя ўмовы, але ў цяперашніх абставінах...

- Вы кажыце аб нападах, сэр?- спытаўся Рэдл. У Гары пачало шалёна грукатаць сэрца, ён наблізіўся бліжэй да субяседнікаў, каб не прапусціць ані не слова.

- Вядома,- адказаў дырэктар.- Мой хлопча, вы павінны зразумець, як неразумна я зраблю, калі дазволю вам застацца ў школе пасля заканчэння семестра. Асабліва ў святле недаўней трагедыі... смерці той беднай дзяўчынкі... Вам будзе нашмат бяспечней у вашым прытулку. Тым больш, што ў міністэрстве ўжо разглядаюць пытанне аб закрыцці школы. Бо мы дагэтуль не высветлілі... эээ... крыніцу ўсіх нашых непрыемнасцяў...

Рэдлавы вочы зрабіліся шырокімі як у савы.

- Сэр... а калі гэтага чалавека спаймаюць... калі напады прыпыняцца..?

- Пра што гэта вы?- піскучым голасам спытаўся Дзіпет, зноўку сядаючы ў фатэль.- Рэдл, вы што, нешта ведаеце аб тым, хто ажыцяўляе гэтыя напады?

- Не, сэр,- выпаліў Рэдл.

Аднак, Гары быў упэўнены, што гэта было такое ж «не», якім ён сам карыстаўся падчас размоваў з Дамблдорам.

Дзіпет адкінуўся на спінку фатэля з лёгкім расчараваннем у вачах.

- Вы можаце ісці, Том...

Рэдл сазлізнуў з крэсла і пакінуў кабінэт. Гары кінуўся ўслед за ім.

Па вінтавой лесвіцы яны спусціліся ўніз і праз адтуліну за гаргульяй выйшлі ва ўхутаны цемрай калідор. Тут Рэдл супыніўся, тое ж самае зрабіў Гары. Ён мог сказаць, што Рэдл аб нечым глыбока задумаўся, ён кусаў губы і моршчыў лоб.

Потым, быццам раптоўна нешта вырашыўшы, Рэдл паспяшаў у вестыбюль, Гары кінуўся следам за ім. Яны амаль што спусціліся да ўвахода, калі нечакана заўважылі, раней нябачнага высокага чараўніка з даўжэзнымі залаціста-каштанавымі барадой і фрэзурай. Чарадзей таксама заўважыў Рэдла і паклікаў яго.

- Чаму ты так позна блукаеш па школе, Том?

Гары вытарапіўся на чараўніка. Гэта быў маладзейшы на пяцьдзесят год Дамблдор.

- Мне трэба было пабачыцца з дырэктарам, сэр,- адказаў Рэдл.

- Добра, а цяпер спяшайся ў ложак,- прамовіў Дамблдор, абдаўшы Рэдла, тым добра знаёмым Гары, пранізлівым позіркам.- Цяпер не надта бяспечна блукаць па калідорах. Асабліва пасля таго...

Ён цяжка ўздыхнуў, пажадаў Рэдлу добрай ночы і адыйшоў. Хлопец дачакаўся пакуль прафесар ня знікне з вачэй, пасля чаго па каменных прыступках кінуўся ў падзямелле. Гары паспяшаў следам.

Але да вялізнага расчаравання Гары, яны ішлі не ў нейкі сакрэтны праход, ці схаваны ад усіх калідор, а накіраваліся ў тое самае знаёмае Гары падзямелле, дзе ў іх праходзілі заняткі па зеллеварстве. Яно не было асветлена паходнямі, таму, калі Рэдл амаль што зачыніў дзверы, яны апынуліся ў поўнай цемры. Гары мог бачыць толькі хлопца, які нерухома стаяў ля дзвярэй і назіраў за калідорам звонку.

Хлопчыку падалося, што яны правялі так ня менш за гадзіну. Рэдл усё працягваў стаяць быццам статуя і назіраць за калідорам праз вузкую шчыліну ў дзвярах. І калі Гары ўжо стаміўся чакаць, страціў адчуванне часу і больш за ўсё жадаў вярнуцца ў свой ложак за дзвярыма пачулася нейкая мітусьня.

Нехта крадком рушыў па калідоры. Хлопчык пачуў, як невядомы прамінуў пакой дзе хаваліся яны з Рэдлам. Той быццам цень выслізнуў праз дзверы, а следам за Рэдлам на дыбачках, забыўшыся, што яго немагчыма пачуць ці пабачыў, паспяшаў Гары.

Так яны ішлі хвілінаў пяць, пакуль Рэдл раптам не супыніўся і не прыслухаўся, схіліўшы на бок галаву, да новых гукаў. Гары пачуў як недзе скрыпнулі дзверы і нехта прамовіў хрыплым шэптам:

- Двай... я вінен днесці це адсюль... ну двай... лезь у скынь...

Гары падалося, што ў гэтым голасе было нешта знаёмае.

У адзін скок Рэдл завярнуў за вугал. Гары рушыў ўслед за ім. Перад цёмнымі дзвярыма ён убачыў постаць агромістага хлопчыка ў нагах якога на падлозе стаяла вялізная скрыня.

- Вечар добры, Рубеюс?- рэзка прамовіў Рэдл.

Хлопчык зачыніў дзверы і знерухомеў.

- Што т робш у падзьмеллі, Том?

Рэдл падыйшоў бліжэй.

- Гэта канец, Рубеюс.- прамовіў ён.- я прыйшоў, каб выдаць цябе. Кажуць, калі напады не прыпыняцца, Хогвартс зачыняць.

- Што т...

- Я ня думаю, што ты хацеў, каб нехта загінуў. Аднак з пачвары не зробіш ласкавага гадаванца. Мяркую, ты папросту пусціў яго расцерці ногі і...

- Ён ніког не збіваў!- гыркнуў агромісты хлопчык і прыціснуўся спіной да зачыненых дзвярэй, за якімі чуліся дзіўнае шорганне і стукі.

- Не кажы ерунды, Рубеюс,- зрабіўшы яшчэ адзін крок наперад, прамовіў Рэдл.- Заўтра сюды прыедуць бацькі забітай дзяўчынкі. І самае меншае, што Хогвартс можа зрабіць дзеля іх, знішчыць істоту, якая забіла іх дачку...

- Гэт не ён!- загаласіў хлопчык, а яго голас рэхам разносіўся па цёмных падзямеллях.- Ён не здольн на такой! Ніколь!

- Адсунься!- выцягваючы палачку, загадаў Рэдл.

Яго замова палаючым струменем пранеслася праз калідор. Дзверы за спіной агромістага хлопчыка адчыніліся з такой сілаю, што яго адкінула ў процілеглую сцяну. З-за дзвярэй выбегла істота, адзін выгляд якой прымусіў Гары выдаць пранізлівы крык, які здавалася, аніхто акрамя самога хлопчыка не пачуў.

Пачвара мела вялізарнае, валасатае, прысадзістае цела з клубком чорных ног, мноствам бліскучых вачэй і парай вострых бы ляза клюшняў... Рэдл зноў падняў палачку, але спазніўся. Істота збіла яго з ног і прадзіраючыся праз калідор, уцякла, пакрысе хаваючыся з вачэй. Рэдл, гледзячы ёй ўслед, падняўся на ногі, падняў палачку, але агромісты хлопчык паваліў яго на падлогу, выхапіў сваю палачку і накіраваўшы яе на Рэдла пралямантаваў:

- НЕЕЕЕЕЕЕ!

Вакол Гары ўсё закруцілася, зрабілася цёмна, як у коміне, хлопчык пачуў як ён кудысьці падае і праз імгненне, ён з грукатам распасцёрся ўва ўласным ложку пад балдахінам у грыфіндорсккай спальне, а раскрыты Рэдлаў дзённік ляжаў на яго жываце.

І перш чым Гары зноў змог нармалёва дыхаць, дзверы ў спальню адчыніліся і туды завітаў Рон.

- Ты тут?- спытаўся ён.

Гары сеў. Ён быў мокры ад пота і яго ўсяго калаціла.

- Што з табой?- занепакоена паглядаючы на сябра, спытаўся Рон.

- Гэта быў Хагрыд, Рон. Гэта ён адчыніў патаемную залу пяцьдзесят год таму.

## — РАЗДЗЕЛ XIV —

### *Карнэліюс Фадж*

Гары, Рон і Герміёна заўсёды ведалі, што Хагрыд меў нездаровую прыязнасць да вялізных, пачварных істотаў. Падчас іх першага году навучання ў Хогвартсе, ён спрабаваў выгадаваць дракона у сваёй драўлянай халупцы і яны яшчэ доўга не забудуць велічэзнага, трохгаловага сабаку, якога брамнік ахрысціў Флуфі. Гары быў упэўнены, што калі б быўшы хлопчыкам Хагрыд, даведаўся, што недзе ў замку пад замком нудзіцца пачвара, ён пайшоў бы на ўсё, каб толькі зірнуць на яе адным вокам. І ён, зразумела ж, палічыў бы існым сорамам, што істота так доўга сядзіць пад замком і вырашыў бы даць пачвары шанец расцерці свае шматлікія ногі. Гары добра мог сабе ўявіць, як трынаццацігадовы Хагрыд спрабуе апрануць на пачвару аброжак з ланцужком. Аднак, Гары таксама добра ведаў, што Хагрыд ані не мог бы нікога забіць.

Гары ўжо напалову шкадаваў, што даведаўся, як пранікнуць у таямніцы дзённіка. Зноў і зноў Рон з Герміёнаю прымушалі яго распавесці ўсё, што ён бачыў, пакуль нарэшце, Гары шляхетна ім не заявіў, што яго хутка званітуе ад бясконцых паўтарэнняў.

- Рэдл МОГ і памыліцца,- заявіла Герміёна.- Можа нейкая іншая пачвара нападала на навучэнцаў...

- А ці не занадта будзе пачвараў на адзін замак?- глуха спытаўся Рон.

- Мы заўсёды ведалі,- сумна прамовіў Гары,- што Хагрыда выкінулі з Хогвартса. І што пасля гэтага напады прыпыніліся. Калі было б не так, Рэдл не атрымаў бы ўзнагароды.

Рон паспрабаваў падыйсці да пытання з іншага боку.

- Гэты Рэдл, ён НІБЫ Персі... хто прасіў яго выдаваць Хагрыда?

- Але ж пачвара кагосьці ЗАБІЛА, Рон,- нагадала Герміёна.

- А Рэдл, калі б Хогвартс зачыніўся, апынуўся назаўжды ў маглаўскім сіротскім прытулку,- дадаў Гары.- І я ані не вінавачу яго за жаданне застацца ў школе...

Рон закусіў губы, пасля чаго няўпэўнена спытаўся:

- Ты кажаш, Гары, што сустрэў Хагрыда на Цемраш Алее?

- Ён набываў атруту супраць драпежных смоўжаў,- імгненна адказаў Гары.

Усе трое змоўклі.

- Вы думаеце,- пасля паўзы, няўпэўненым голасам, выказала зацяжкое пытанне Герміёна,- нам трэба пайсці і спытаць аб усім самога Хагрыда?

- Цікавы ж атрымаецца візіт,- заявіў Рон,- «Здароўку, Хагрыд, ці ты апошнім часам не выпускаў паблукаць па замку анічога шалёнага і калматага?»

Нарэшце, яны пагадзіліся не пытацца ў Хагрыда ані аб чым, калі ня будзе новых нападаў. Мінула шмат дзён, Гары болей ня чуў бесцялеснага голасу і сябры ўжо пачалі спадзявацца, што аніколі не пайдуць абмяркоўваць з Хагрыдам, яго выключэнне са школы. Вось ўжо чатыры месяцы прайшло з моманту, калі адбыўся напад на Джасціна і Амаль Безгаловага Ніка і ўсім падалося, што злаўмыснік нарэшце супакоіўся. Піўзу надакучыла співаць аб Потэры-брыдотэры, а Эрні Макмілан на адным з заняткаў па зёлазнаўстве, даволі ветліва папрасіў у Гары, перадаць яму вядзёрка з са скокаючымі

паганкамі. Напрыканцы сакавіка колькі мандрагораў зладзілі ў трэцім парніку гучную вечарыну і гэтая навіна прымусіла прафесарку Спроўт адчуваць сябе сапраўды шчаслівай.

- Калі яны пачнуць спрабаваць цягацца адно да аднаго ў горшчыкі,- растлумачыла яна Гары,- мы зразумеем, што яны цалкам саспелі. І мы зможам адрадзіць усіх тых няшчасных, што ляжаць у шпітальным крыле.

*

Напярэдадні велікодных вакацыяў другагодкам дадаўся новы клопат. Надыйшоў час абраць навукі, якім будзеш навучацца з трэццяга году: справа, да якой па словах Герміёны трэба было падыйсці з усёй сур’ёзнасцю.

- Ваш цяперашні выбар, можа паўплываць на вашу будучыню,- заявіла яна, Гары і Рону што скурчыўшыся над сваімі спісамі, выдзялялі заняткі птушкамі.

- Я б хацеў пазбавіцца зеллеварства,- сказаў Гары.

- Не, нельга,- змрочна заўважыў Рон.- Усе нашы старыя навукі застаюцца, ці то б я са здавальненнем адмовіўся ад абароны ад цёмных мастацтваў.

- Але ж яна вельмі важлівая!- прамовіла сшакаваная Герміёна.

- Не з такім настаўнікам, як Локхарт,- адказаў ёй Рон.- За ўвесь год я навучыўся ад яго толькі таму, што нельга выпускаць піксі з клеткі.

Шматлікія сваякі Нэвіла Лонгботама папросту закідалі яго лістамі з парадамі, наконт таго, якія яму абраць заняткі. Збянтэжаны і занепакоенный, высунуўшы языка, ён перачытваў спіс, пытаючыся ў іншых, што на іх думку цяжэй вывучаць, нумералогію ці старажытныя руны. Дын Томас, што як і сам Гары вырас у маглаўскім асяроддзі, навослеп тыцаў чароўнай палачкай па спісе і абіраў прадметы на якія тая трапляла. А Герміёна, не слухаючы ані не чыіх парадаў, папросту запісалася на ўсё.

Гары змрочна ўсміхнуўся, уявіўшы сабе, што было б, калі ён паспрабаваў абмеркаваць сваю далейшую чарадзейскую кар’еру з дзядзькам Вернанам і цёткай Пятуньей. Не, хлопчык ані не застаўся без падтрымкі – Персі Візлі з задавальненнем падзяліўся з ім сваім вопытам.

- Усё залежыць ад таго, у які бок цябе цягне,- сказаў ён.- Аднак, ніколі ня шкодна ведаць сваю будучыню, таму, я бы абавязкова абраў вяшчунства. Шмат хто кажа, што маглазнаўства самая лёгкая з навукаў, але што да мяне, я мяркую чараўнік павінен добра разумець немагічную супольнасць... вазьмі напрыклад нашага тату, ён увесь час вымушаны мець справу з магламі. З іншага боку, майго брата Чарлі заўсёды цягнула бліжэй да прыроды, таму ён абраў догляд за чарадзейнымі істотамі. Шукай, у чым ты мацней, Гары.

Аднак, адзіную схільнасць якую Гары ў сабе адчуваў была схільнасць да квідытча. Нарэшце, ён абраў тыя ж самыя навукі, што Рон, разважаючы так, нават калі яму не надта будуць давацца новыя заняткі, на іх хаця б будзе сябра на якога можна абапярэцца.

*

Наступнай гульнёй грыфіндорскай каманды быў матч супраць Хафлпафа. Вуд настойваў, каб яны трэніяваліся штовечара пасля вячэры, таму ў Гары не было часу ані на што акрамя квідытчу і хатняй работы. Тым ня менш, ці то з-за таго, што гулялі яны значна лепей, ці то з-за таго, што на вуліцы не было дажджоў, але вярнуўшыся напярэдадні

суботняга матчу ў спальню, каб пакінуць там сваю мятлу, Гары адчуваў, што Грыфіндор мае як ніколі добрыя шанцы на атрыманне Кубка школы.

Аднак, хлопчык ані не доўга быў у добрым настроі. Падымаючыся па лесеньке на самым версе, ён ўбачыў ашалелага Нэвіла.

- Гары... ня ведаю хто гэта зрабіў. Я зайшоў...

Спалохана паглядаючы на Гары, Нэвіл адчыніў дзверы.

Змесціва Гарынай валізы было раскідана па ўсёй падлозе, побач з разарванай мантыяй. З ложка была сцягнута пасцельная бялізна, а на матрац вытрахнута змесціва камоднай скрыні.

Адкрыўшы рота, Гары падскочыў да ложка, наступаючы на вырваныя з «Трывання з тролямі» старонкі.

Як толькі з дапамогаю Нэвіла, Гары зноўку паклаў пасцельную бялізну на ложак у спальню завіталі Рон, Дын і Шымас. Убачыўшы тое, што тварылася ў пакоі, Дын гучна вылаяўся.

- Што тут здарылася?

- Сам не разумею,- адказаў Гары. Тут, Рон падняў з падлогі Гарыну мантыю. Усе кішэні былі адарваны.

- Тут хтосьці нешта шукаў,- заявіў ён.- Правер, можа штось знікла?

Гары пачаў збіраць з падлогі свае рэчы і кідаць іх назад у валізу. І толькі калі туды былі пакладзены апошнія колькі кніг Локхарта, хлопчык зразумеў чаго не хапае.

- Дзённік Рэдла, яго няма,- напаўголаса сказаў ён Рону.

- ШТО?

Гары кінуўся да дзвярэй спальні, Рон паспяшаў следам. Разам, хлопцы спусціліся ў напалову пустую гасцёўню, каб далучыцца да Герміёны, што ў самоце чытала кнігу «Старажытныя руны без праблем».

Дзяўчынку напалохала навіна.

- Той хто яго скраў... мог быць толькі грыфіндорцам... іншыя наш пароль ня ведаюць...

- Менавіта так,- пагадзіўся Гары.

*

Калі наступнай раніцай яны прачнуліся, свяціла сонца і дзьмуў лёгкі, свежы ветрык.

- Ідэальнае надвор’е для квідытча!- з энтузіязмам заявіў за грыфіндорскім сталом Вуд, раскладваючы па талеркам гульцоў сваёй каманды яечню.- Гары, давай варушыся, ты павінен добра пад’есці.

Гары між тым азіраў усіх прысутных за сталом, яму было цікава, хто ж з тых, каго ён тут бачыў, быў новым уладаром Рэдлаўскага дзённіка. Герміёна пераконвала яго заявіць аб крадзяжы, аднак хлопчыку не падабалася гэтая ідэя. Прыйшлося б распавядаць настаўнікам пра дзённік, а як шмат сярод іх ведае за што Хагрыда выкінулі са школы пяцьдзесят год таму? Больш таго, Гары ня вельмі хацелася зноў варушыць гэтую справу.

Толькі яны разам з Ронам і Герміёнаю выйшлі з галоўнай залы, каб падняцца наверх і сабраць усе неабходныя для квідытчнага матчу рэчы, як да спісу Гарыных турботаў дадалась яшчэ адна. Ледзь паставіўшы адну ногу на мармуровыя сходы, Гары зноў пачуў:

«Прыйшоў час забіваць... дай мне ўсадзіць... дай разарваць...»

Гары ўскрыкнуў настолькі гучна, што Рон і Герміёна занепакоена адскочылі ўбок.

- Голас!- прамовіў ён, азіраючыся на сяброў праз плячо.- Толькі што я зноўку яго пачуў... а вы?

Вылупіўшы вочы, Рон патрос галавой. А Герміёна нечакана ляпнула сябе па лобе.

- Гары... мне здаецца, што я сёе-тое зразумела! Мне трэба збегаць ў бібліятэку!

Куляю яна кінулася наверх.

- ШТО, яна зразумела?- рассеяна спытаўся Гары, ён азірнуўся, спрабуючы здагадацца адкуль ішоў голас.

- Нашмат больш чым я,- адказаў Рон і зноў пахістаў галавой.

- Але навошта ёй спатрэбілася бегчы ў бібліятэку?

- Ты ж ведаеш нашу Герміёну,- паціснуўшы плячыма адказаў Рон.- Калі яна ў нечым сумняваецца, адразу ж бяжыць да бібліятэкі.

Гары нерухома стаяў, спрабуючы яшчэ раз пачуць голас, аднак з галоўнай залы пачалі выходзіць людзі. Усе яны, громка размаўляючы, спяшалі да дзвярэй на вуліцу, каб трапіць на квідытчны стадыён.

- Цябе лепш паспяшацца,- заўважыў Рон.- Хутка ўжо адзінаццатая... пачатак матча.

Гары кінуўся да грыфіндорскай вежы, забраў са спальні свой Німбус 2000 і хутка далучыўся да грамады, што па траўніку спяшала на поле. Аднак яго думкі заставаліся ў замку, разам з тым бесцялесным голасам. Пакуль ён пераапранаўся ў сваю пунсовую спартыўную вопрадку, адзіным суцяшэннем для яго было тое, што ўся школа цяпер тут на стадыёне.

Пад бурнае апладыяванне каманды выйшлі на поле. Вуд дзеля размінкі абляцеў вакол стадыёна. Мадам Хуч выпусціла мячы. А апранутыя ў канарэечна-жоўтыя мантыі гульцы хафлпафскай каманды згрудзіўшыся разам і пакуль на гэта быў час, абмяркоўвалі тактыку сваёй гульні.

Гары ўжо сядаў на мятлу, калі на поле амаль што выбегла прафесарка МакГонагал з пурпуровым мегафонам у руках.

У хлопчыка сэрца абвалілася з хуткасцю каменя.

- Матч адмяняецца,- прамовіла ўсем прысутным на стадыёне прафесарка. З трыбунаў адчуўся незадаволены гуд і ўскрыкі. Апанураны Олівер Вуд, імгненна прызямліўшыся падбег да настаўніцы.

- Але, мадам прафесар!- закрычаў ён.- Мы павінны гуляць... Кубак... ГРЫФІНДОР...

Не звяртаючы на яго словы ўвагі, прафесарка працягвала:

- Усім навучэнцам, як мага хутчэй, трэба рушыць да сваіх гасцёўняў, дзе галовы іхных Дамоў паведамяць ім ўсю дадатковую інфармацыю. Калі ласка, паспяшайце!

Апусціўшы мегкафон, яна паклікала да сябе Гары.

- Потэр, думаю вам лепей ісці са мной...

Жадаючы ведаць у чым яго падазраюць на раз, Гары паспяшаў услед за прафесаркай, крайком вока заўважыўшы, як з незадаволенага натоўпу выдзерся Рон і пабег ў іх бок. На Гарына здзіўленне, МакГонагал ані гэтаму не супрацівілася.

- Так, вам магчыма таксама лепей ісці з намі, Візлі.

Сёй-той з навучэнцаў паабапал іх скардзіўся на адмену гульні, іншыя ж выглядалі занепакоеннымі. Услед за прафесаркай, Гары і Рон ўвайшлі ў замак і падняліся па мармуровых сходах, але на гэты раз яны не накіраваліся ані ў чый кабінэт.

- Дзеля вас гэта будзе сапраўдным шокам,- на дзіва далікатным голасам, сказала настаўніца, калі яны наблізіліся да шпітальнага крыла.- Адбыўся новы напад... падвойны...

Ува ўлонні Гары, ад жаху ўсё перакруцілася. МакГонагал штурхнула дзверы і яны ўвайшлі ў палату.

Мадам Помфры схілілася над ложкам на якім ляжала нейкая шасцігодка з доўгім павойным валоссем. Гары адразу пазнаў яе, гэта была та самая дзяўчына з Рэйвенкло, якую ён выпадкова спытаў, як прайсці ў слізэрынскую гасцёўню. А на суседнім ложку ляжала...

- ГЕРМІЁНА!- пралямантаваў Рон.

Расплюшчыўшы шкляныя вочы, Герміёна ляжала нерухома, як статуя.

- Іх знайшлі ля бібліятэкі.- растлумачыла МакГонагал.- Мяркую вы ня можаце растлумачыць чаму? А вось што знайшлі побач з імі...

Прафесарка паказала хлопцам маленечкае круглае люстэрка.

Вытарапіўшыся на Герміёну, Гары і Рон пакруцілі галовамі.

- Я праводжу вас да грыфіндорскай вежы,- цяжка вохнуўшы, прамовіла настаўніца.- Тым больш мне ўсё роўна трэба зрабіць перад навучэнцамі аб'яву.

*

- Усе вучні павінны вяртацца ў межы сваіх Дамоў да шостай гадзіны вечара і нікому з іх нельга аб'яўляцца па-за межамі дамовых гасцёўняў пазней гэтага часу. Ад аднаго да другога кабінэта вы будзеце хадзіць толькі ў суправаджэнні настаўнікаў. Без іх забаронена нават выходзіць у прыбіральню. Усе квідытчныя трэніроўкі і матчы, таксама як і ўсе іншыя вечаровыя мерапрыемствы будуць перанесены ці адменены.

Грыфіндорцы, знатоўпіўшыся ў гасцёўне ў цішыні слухалі галаву свайго Дому. Яна скруціла пергамент з якога чытала аб'явы і крыху прыглушаным голасам дадала:

- Наўрад камусь з вас трэба казаць, што я вельмі рэдка бываю настолькі прыгнечанай. Калі віноўны ня будзе злоўлены, цалкам верагодна, школа будзе зачынена. Таму, ўсе хто мае хоць якія думкі наконт таго хто стаіць за нападамі, прашу распавесці іх мне.

Крыху нязграбна, прафесарка вылезла праз адтуліну за партрэтам. Як толькі яна знікла грыфіндорцы імгненна пачалі пераказваць адно аднаму свае версіі.

- Мы страцілі ўжо двух грыфіндорцаў, гэта калі не лічыць грыфіндорскага прывіда,- загінаючы пальцы, зароў, сябра блізнятаў Візлі – Лі Джордан,- таксама па аднаму чалавеку страцілі Хафлпаф і Рэйвенкло. Цікава, чаму АНІХТО з настаўнікаў не заўважыў, што дагэтуль не пацярпеў ані адзін са слізэрынцаў? Хіба не відавочна, што ўсі беды ідуць праз Слізэрына? СПАДКАЕМЦА Слізэрына, ПАЧВАРА Слізэрына... чаму папросту не выкінуць са школы ўсіх слізэрынцаў?

У адказ на яго заяву адчуўся бурны пляск далоняў і ўсеагульнае ківанне галовамі.

За спіною ў Лі сядзеў Персі Візлі, але ён не спяшаўся падзяліцца з прысутнымі сваімі думкамі. Ён быў збляднелы і агаломшаны.

- Персі ў шоку,- ціха паведаміў Гары Джордж.- Та дзяўчына з Рэйвенкло... Пенелопа Клірвотар – яна таксама прэфект. Закладаюся, ён думаў што пачвара не адважыцца напасці на ПРЭФЕКТА.

Але Гары слухаў яго напаўвуха. У яго з галавы не выходзіла выява Герміёны, ляжалай у шпітальным крыле, быццам яна была выразанай з каменя. Калі вінаватага ў нападах не

знайдуць у бліжэйшы час, Гары прыйдзецца назаўжды вярнуцца жыць разам з Дурслі. Том Рэдл выдаў Хагрыда, бо баяўся, што пасля закрыцця школы ізноўку будзе жыць у маглаўскім прытулку. І цяпер Гары добра яго разумеў.

- І што цяпер рабіць?- ціхінька спытаў Рон у Гары.- Думаеш яны падазраюць Хагрыда?

- Мы павінны пайсці і пагаманіць з ім,- быццам нешта сабе вырашыўшы, адказаў Гары.- Я ня веру ў тое, што на гэты раз у нападах вінаваты ён, але калі ён выпускаў пачвару ў мінулы раз, ён ведае як трапіць у патаемную залу, для пачатку нам хопіць і гэтага.

- Але ж, МакГонагал сказала нам, што мы павінны заставацца тут, калі не вучымся...

- Думаю,- як мог ціха, сказаў Гары,- час скарыстацца старой бацькавай мантыяй.

*

У спадчыну ад свайго бацькі, Гары атрымаў толькі адну рэч – доўгую, срабрыстую мантыю-невідзімку. Употай ад усіх выйсці са школы і дабрацца да Хагрыда хлопчыкі маглі толькі скарыстаўшыся ёй. Спаць Гары і Рон паклаліся разам з усімі і, дачакаўшыся пакуль Нэвіл, Дын і Шымас скончылі абмяркоўваць патаемную залу і, нарэшце, паснулі, усталі, зноўку апрануліся і накінулі на сябе мантыю-невідзімку.

Падарожжа ў цемры па замкавых калідорах ані не было прыемным. Колькі разоў, Гары ўжо хадзіў тут ноччу, але ніводнага разу не бачыў у гэты час столькі народу. Настаўнікі, прэфекты і прывіды парамі блукалі па калідорах, азіраючыся пры кожнай старонней актыўнасці. Да таго ж мантыя ані не рабіла хлопчыкаў нячутнымі. У адзін асабліва напрыжаны момант, калі яны апынуліся ў колькіх ярдах ад месца, якое ахоўваў Снэйп, Рон стукнуўся аб нешта нагой. На шчасце, Снэйп чхнуў як раз той самы момант, калі хлопчык вылаяўся. І калі сябры дасягнулі дубовых дзвярэй уваходу, сапраўднай палёгкай для іх, было ўбачыць іх прыадчыненымі.

Знадворку была ясная, зорная ноч. Гары і Рон кінуліся да Хагрыдавай халупы, арыетуючыся на асветленныя вокны і знялі мантыю, толькі апынуўшыся ля дзвярэй..

Мінула колькіх секунд, пасля таго, як яны пастукаліся. Хагрыд адчыніў дзверы і хлопчыкі апынуліся перад нацэленым на іх арбалетам. За спіной у брамніка гучна брахаў агромісты дацкій дог – Фанг.

- Вох,- прамовіў Хагрыд, апускаючы зброю.- Што вы двой тут збыліся?

- Што гэта?- спытаўся, кажучы на арбалет Гары, калі яны ўтраіх зайшлі ўсярэдзіну.

- Нічог... нічог,- прамармытаў у адказ волат.- Чкаў тут... ну, не стотна... сьдайце... я габат зраблю...

Ён цяжка разумеў, што робіць. Калі Хагрыд ставіў на агонь імбрык, ён ледзь не затушыў комін, плюхнуўшы ў яго вадой, а нэрвова тузануўшы рукой, разбіў імбрычак

- Хагрыд, з табою ўсё добра?- спытаўся Гары.- Ты ўжо чуў аб Герміёне?

- А, так чу, сё добр,- адказаў брамнік крыху ломкім голасам.

Увесь час ён занепакоенна паглядаў на вокны. Потым наліў гасцям два вялізных кубка кіпня (забыўшы пакласці туды гарбаты ў пакуначках). А як толькі ён сабраўся паставіць на стол талерку з фруктовым кексам, у дзверы зноўку нехта загрукатаў.

Харыд выпусціў кекс з рук. Гары і Рон у паніцы зірнулі адно на аднаго і, накінуўшы на сябе мантыю, прыселі ў кутку. Хагрыд праверыў, ці надзейна яны схаваліся і, схапіўшы арбалета, зноўку адчыніў дзверы.

- Вечар добры, Хагрыд.

За дзвярыма стаяў Дамблдор. Ён выглядаў неверагодна сур’ёзным, а следам за ім рушыў яшчэ адзін, вельмі дзіўна выглядаючы чалавек.

Незнаёмец быў невялічкага росту, мажным мужчынам, з ускудлачанымі сівымі валасамі і выразам заклапочанасці на твары. Яго вопрадка ўяўляла сабой надзвычай дзіўную сумесь стылей – касцюм ў палоску, пунсовы гальштук, доўгая чорная мантыя і пурпуровыя боты. Падпахаю чалавек трымаў лаймава-зялёны кацялок.

- Гэта татаў бос!- прашапатаў Рон.- Карнэліюс Фадж – міністр па справах магіі!

Гары моцна пхнуў Рона локцем, каб той замаўчаў.

Хагрыд збляднеў і пакрыўся потам. Сеўшы ў адно з крэслаў ён пераводзіў погляд з Дамблдора на Фаджа, з Фаджа на Дамблдора.

- Дрэнныя справы, Хагрыд,- сказаў, вельмі невыразным голасам, міністр,- вельмі дрэнныя. Я не мог не прыехаць. Чатыры напада на магланароджанных. Справы зайшлі надта далёка. І міністэрства павінна нешта рабіць.

- Гэт не я,- з маленнем у вачах пазіраючы на дырэктара, заявіў волат.- Прафес Дамблдор, сэр, вы ж ведце, што я ніколь...

- Я магу падцвердзіць, Карнэліюс, што цалкам давяраю Хагрыду,- змрочна паглядаючы на Фаджа, прамовіў Дамблдор.

- Аднак, Альбус,- няёмка працягваў Фадж,- запіс у справе Хагрыда, кажа супраць яго. Міністэрства павінна штосьрабіць... з намі ўжо звязаліся прадстаўнікі школьнай управы.

- Я ў чарговы раз кажу табе, Карнэліюс, што затрыманне Хагрыда не дапаможа справе, ані ў найменшай ступені.- адказаў прафесар. У яго блакітных вачах запалаў агонь, які Гары раней ніколі не бачыў.

- А цяпер паглядзі на ўсё маімі вачыма,- занепакоена круцячы ў руках кацялок.- Я знаходжуся пад моцным ціскам. І трэба, каб было бачна, што я нешта раблю. Калі высветліцца, што гэта не Хагрыд, яго выпусцяць на волю і я больш не скажу ні слова. Але зараз я абавязан яго затрымаць. Адыйдзі. Не перашкаджай мне рабіць сваю працу...

- Затрмаць мне?- з дрожжу ўва ўсім целе спытаўся Хагрыд.- Дзе затрмаць?

- Не надоўга,- прамовіў міністр, ня гледзячы волату ў вочы.- Гэта нават не пакаранне, а так, мера засцярогі. А калі мы зловім іншага злачынцу, мы з прабачэннем выпусцім цябе...

- Толь не ў Азкабан?- зароў Хагрыд.

Аднак, перш чым Фадж паспеў штось адказаць у дзверы зноў пастукалі.

Дзверы адчыніў Дамблдор. На гэты раз была чарга Гары, атрымаць локця, за гучны вох.

Захутаны ў доўгую дарожную мантыю і халодна ды задаволена ўсміхаючыся ў хаціну завітаў містэр Люцыюс Малфой. Убачыўшы яго, Фанг пачаў рыкаць.

- Вы ўжо тут, Фадж,- ухвальна сказаў ён.- Добра, добра...

- Што т тут робш?- разлютавана зароў Хагрыд.- Прэч з маго дому!

- Мой ты чалавеча. Павер, яне атрымліваю асалоды, ад таго, што знаходжуся... у гэтым месцы... ты называеш гэта домам?- насмешліва прамовіў Малфой, азіраючы невялічкі пакойчык.- Я толькі завітаў у школу і мне сказалі, што дырэктар тут.

- І што ты хацеў ад мяне Люцыюс?- ветліва спытаў Дамблдор, аднак, у яго блакітных вачах па ранейшаму палаў вагонь.

- ЖАХЛІВЫЯ справы, Дамблдор,- ляніва прамовіў містэр Малфой, выцягваючы з кішэні доўгі скрутак пергаменту,- аднак, школьная ўправа лічыць, што для вас надыйшоў

час адыйсці. Вось загад аб звальненні... можаце праверыць, тут усе дванаццаць подпісаў. Баюся, мы палічылі, што вы згубілі былую хватку. Колькі ўжо нападаў адбылося? Яшчэ два па апоўдні? Калі так, хутка Хогвартс пакінуць усе магланароджанныя навучэнцы, а мы ведаем, якая гэта будзе ЖУДАСНАЯ страта для школы.

- Як,- устрывожана прамовіў Фадж.- Чакай, Люцыюс, Дамблдор звольнены... не, не... толькі не зараз...

- Зацверджанне... ці звальненне... дырэктара, справа ўправы, Фадж,- пасміхаючыся заявіў Малфой.- А паколькі Дамблдор, так і не змог прыпыніць гэтыя напады...

- Але глядзі, Люцыюс, калі ДАМБЛДОР ня зног прыпыніць напады...- прамовіў Фадж, на верхняй губе якога з’явіліся кропелькі поту,- хто тады ЗМОЖА?

- Мы яшчэ высветлім гэта,- з гідкай ўсмешкай сказаў Малфой.- Але, так прагаласавалі ўсе дванаццаць сябраў управы...

Хагрыд ускочыў на ногі, ледзь не стукнуўшыся аб столю калматай галавой.

- І кольк з іх ты мусіў гэт зрабіць пагрозмі і шатажом, а Малфой?- прароў ён.

- Мой ты чалавеча, твой нораў, калі-небудзь цябе загубіць,- сказаў містэр Малфой.- Раю цябе, Хагрыд, не раўці гэдак на ахоўнікаў Азкабану, ім гэта наўрацці будзе да спадобы.

- Ты ня мош скінуць Дамблдора,- волат лямантаваў так моцна, што Фанг ў сваім кошыку замуліўся і пачаў скуголіць.- Зробш гэта і ў маглнарожных вучняў не застнецца ань воднаг шанцу! Забоствы рацягнуцца!

- Супакойся, Хагрыд,- адрэзаў Дамблдор. Потым павярнуўся да Люцыюса Малфоя.

- Калі ўправа жадае мяне звольніць, Люцыюс, я вядома ж паслухаюся яе рашэння.

- Але...- пачаў заікацца міністр.

- НЕ!- зароў Хагрыд.

Дамблдор не адводзіў яскрава-блакітных вачэй ад халодна-шэрага позірку Малфоя.

- Аднак,- павольна і вельмі выразна прамовіў дырэктар, каб ніхто з прысутных не прапусціў ані слова,- пакуль у школе ёсць адданыя мне людзі, я ніколі САПРАЎДЫ не пакіну яе і вы гэта ўбачыце. Роўна як і тое што, калі хтосьці ў Хогвартсе папросіць аб дапамоге, ён заўжды яе атрымае.

Секунду-другую, Гары быў упэўнены, што Дамблдоравы вочы зірнулі ў куток, дзе сядзелі яны з Ронам.

- Раскошная прамова,- пакланіўшыся, заявіў Малфой. Мы ўсе будзем сумаваць па вашаму... эээ... звышіндывідуальнаму падыходу да сваёй справы, Альбус, і будзем спадзявацца што ваш пераемнік зробіць усё магчымае, каб прадухіліць, гэтыя... а... «ЗАБОЙСТВЫ»

Містэр Малфой падыйшоў да дзвярэй халупы, адчыніў іх і кіўком запрасіў Дамблдора на выхад. Фадж працягваў круціць кацялок, чакаючы пакуль выйдзе Хагрыд, але той не спяшаўся. Ён глыбока ўздыхнуў і старанна прамовіў:

- Калі тосьці ждае НЕШТ высьтліць, няхай дзе за ПАВУКАМІ. Там ён знойць адказку! Я сё ксаў.

Міністр стаяў здзіўлена вытарапіўшыся на яго.

- Добр, добр, жо іду,- нацягваючы свой кратовы шынэлак, сказаў волат. Але, калі Фадж ўжо збіраўся выходзіць надворак, Хагрыд зноў супыніўся і гучна дадаў.- І камусьць прыйца карміць Фанга куль мне ня будзе.

Дзверы зачыніліся і Рон скінуў з сябе і Гары мантыю-невідзімку.

- Мы трапілі як гном у пастку,- прахрыпеў ён.- Дамблдора няма. Лепей бы яны сёння ж школу закрылі. Без Дамблдора напады будуць штодзённа.

Фанг заскуголіў, драпаючы закрытыя дзверы.

## — РАЗДЗЕЛ XV —

### *Арагог*

У наваколлях Хогвартса пакрысе пачаў адчувацца подых лета. Неба і вада ў возеры зрабіліся бэзава-блакітнымі, а ў аранжэрэях заквітнелі вялізныя, быццам капусныя качаны кветкі. Аднак, з замкавага вакна больш не было бачна Хагрыда, які хадзіў бы па наваколлі ў суправаджэнні свайго гіганцкага дога Фанга, таму Гары здавалася, што знадворку, што ўсярэдзіне замка ўсё скрайне няправільна.

Разам з Ронам ён хацеў наведаць Герміёну, але ў шпітальнае крыло іх не пусцілі.

- Мы больш ня можам вас пусціць,- строга заявіла ім мадам Помфры праз шчыліну ў дзвярах крыла.- Ёсць рызыка, што злачынца можа вярнуцца, каб дабіць гэтых небаракаў...

Пасля сыходу Дамблдора, жах, як ніколі ранней, распаўсюдзіўся па Хогвартсе. Нават сонца, што саграваліа сцены замка звонку, здавалася, не жадала пранікаць у ягоныя вокны. Ува ўсёй школе было цяжка знайсці твар, які б не выглядаў заклапочаным, а кожная спроба засмяяцца амаль адразу прыпынялася, бо смех здаваўся пранізлівым і ненатуральным.

Гары ўвесь час праўтараў пра сябе апошнія словы дырэктара: «Пакуль у школе ёсць адданыя мне людзі, я ніколі САПРАЎДЫ не пакіну яе»... «Калі хтосьці ў Хогвартсе папросіць аб дапамоге, ён заўжды яе атрымае...» Але ніяк не мог зразумець, якая з іх карысць. Да каго ім з Ронам трэба звярнуцца, калі ўшчэнт усе былі збянтэжанымі і напалоханымі?

Хагрыдаў намёк аб павуках было зразумець значна прасцей... аднак, справа была ў тым, што цяпер іх не было бачна. Куды б хлопчык не накіроўваўся ён, як і Рон, што рабіў гэта з вялікай неахвотай, шукалі павукоў, але тыя, здавалася, кудысьці зніклі. Да таго ж цяпер ім не дазвалялася хадзіць сам-насам, па школе Гары і Рон рушылі выключна ў кампаніі іншых грыфіндорцаў, што, вядома, ані не палягчала іхнай задачы. Большасць з яго аднагодак была задаволена тым, што з класы ў класу іх вядуць настаўнікі, але Гары гэта вельмі стамляла.

Аднак, складалася ўражанне, што адзін чалавек, атрымліваў ад пануючай у Хогвартсе атмасфэры жаха і падазронасці сапраўдную асалоду. Драко Малфой, напышліва рушыў па калідорах, быцца толькі што быў прызначаны на старасту. Гары ані ніяк не мог зразумець, чаму той весяліцца, пакуль, праз два тыдні пасля сыходу Дамблдора і Хагрыда, на чарговых занятках па зеллеварству не пачуў, іх зларадную размову з Крэйбам і Гойлам.

- Я заўсёды ведаў, што менавіта мой бацька будзе тым, хто пазбавіць Хогвартс ад Дамблдора,- нават не спрабуючы гаманіць цішэй, заявіў Драко.- Мой бацька лічыць, што горшага за Дамблдора дырэктара ані яшчэ не было. Хутка ў нас будзе новы, годны дырэктар. Дырэктар, які не пажадае, ЗАЧЫНЯЦЬ патаемную залу. А МакГонагал на гэтай пасадзе доўга не пратрымаецца. Яна займае яе часова...

Міма Гары, нават не зірнуўшы на пустое Герміёніна месца і яе кацёл, прайшоў Снэйп.

- Сэр,- гучна прамовіў Малофой,- чаму б вам не падаць заяву, на дырэктарскую пасаду?

- Ну-ну, Малфой,- адказаў Снэйп, ня ў сілах схаваць усмешкі на сваіх тонкіх вуснах.- Управа толькі часова звольніла Дамблдора з пасады. Магу цябе ўпэўніць, што вельмі хутка ён вернецца ў школу.

- Годзе вам,- з ухмылкай на вуснай працягваў Малфой.- Бацька абавязкова аддасць за вас свой голас, калі вы пажадаеце заняць гэту пасады. А Я скажу яму, што ня ведаю лепшага за вас настаўніка...

Снэйп працягваў усміхаючыся разгульваць па кабінэце і на шчасце не заўважыў, як Шымас зрабіў выгляд, бы яго званітавала ў кацёл.

- Я здзіўляюся, што глеекроўкі яшчэ не сабралі сваіх валізаў,- працягваў Малфой.- Закладаюся на пяць галеёнаў, што наступнага з іх заб’юць. І шкада, што не Грэйнджэр...

На шчасце, калі Рон, пачуўшы Малфоевы словы, ускочыў з крэсла, адчуўся звон з урока і праз мітусню збораў ані ніхто не заўважыў яго спробы дабрацца да слізэрынца.

- Пусціце,- вырываючыся з рук Гары і Дына, галасіў Рон.- Пусціце мяне. Не хвалюйцеся, мне не патрэбна палачка. Я голымі рукамі яго заб’ю...

- Варушыцеся,- зароў Снэйп па над галовамі вучняў.- Мне яшчэ трэба адвесці вас на зёлазнаўства.

Вужачкай, яны рушылі ўслед за настаўнікам. Ззаду ішлі Гары і Дын. Яны ўсё яшчэ трымалі за рукі Рона, што па ранейшаму спрабаваў вырвацца і пусцілі яго, толькі калі праз грады, крочылі ўбок аранжэрэяў.

Тыя хто займаўся зёлазнаўствам, выглядалі вельмі прыгнечанымі. Цяпер сярод іх не было ўжо двух чалавек – Джасціна і Герміёны.

Сёння, пад кіраўніцтвам прафесаркі Спроўт, яны абразалі абісінскія шрывельфігі. Гары панёс ахапак сухога галля на кампостную кучу, дзе сам-насам сутыкнуўся з Эрні Макміланам. Хафлпафавец глыбока ўздыхнуў і вельмі афіцыйна прамовіў:

- Гары, я хачу сказаць, мне вельмі шкада за тое, што я цябе падазраваў. Я ведаю, ты ніколі не напаў бы на Грэйнджэр, таму, я прашу ў цябе прабачэнне за свае папярэднія словы. Цяпер мы ў адным чоўне і...

Ён працягнуў Гары сваю пухлую руку.

Да канца занятка Эрні і яго сяброўка Ханна, дапамагалі ў абрэзцы Гары і Рону.

- Гэты Драко Малфой,- ламаючы сухія галінкі, прамовіў Эрні,- ён яшчэ той фрукт. Здаецца, яму да спадобы, усё што тут дзеецца. Ведаеце, мне здаецца, што спадкаемцам Слізэрына можа быць менавіта ЁН.

- Як глыбакадумна з твайго боку,- адказаў Рон, які прабачаў не так лёгка, як Гары.

- Гары, а ТЫ думаеш гэта Малфой?- спытаўся Эрні.

- Не,- адказаў той, настолькі рашуча, што Эрні з Ханнай здзіўлена вытарапіліся на яго.

У наступнае імгненне, Гары заўважыў нешта, што прымусіла яго стукнуць нажніцамі для абрэзкі Ронаву руку.

- АЙ! Ты чаго..?

Гары паказаў яму на земляную падлогу. Праз яе адно за адным беглі колькі павукоў.

- А!- сказаў Рон, няўдала прыдураючыся, што рад.- Але мы ня можам ісці за імі цяпер...

Эрні і Ханна, здзіўлена слухалі іхную размову.

Гары прасачыў, куды яны беглі.

- Яны накіроўваюцца ў Забаронены лес...- прамовіў ён.

Выраз на Ронавым твары зрабіўся яшчэ больш няшчасным.

Скончыўшы свой урок, прафесарка Спроўт праводзіла грыфіндорцаў на абарону ад цёмных мастацтваў. Гары і Рон крыху адсталі ад астатніх, каб паразмаўляць сам-насам.

- Трэба зноў скарыстацца мантыяй-невідзімкай,- прапанаваў Гары,- і возьмем з сабой Фанга. Ён прызвычаўся хадзіць па Лесе разам з Хагрыдам, таму, можа дапамагчы нам.

- Ну, добра,- адказаў яму Рон, знервавана круцячы ў руках палачку.- Толькі... хіба там не... хіба з Лесе не павінны быць ваўкалакі?- дадаў ён, калі разам з Гары яны сядалі на свае звычайныя месцы на задняй парце.

Гары, палічыў за лепшае не рэагаваць на сябравы словы.

- У Лесе жывуць не толькі яны,- заявіў ён.- Там файна жывецца кентаўрам і аднарогам.

Рон ня быў у Забароненым лесе аніколі, а Гары быў там толькі адзін раз і яму не надта хацелася туды вяртацца.

Калі ў кабінэт уварваўся Локхарт, усе навучэнцы здзіўлена вытарапіліся на яго. Іншыя настаўнікі выглядалі неверагодна пахмурнымі, але ж Локхарт струмяніўся весялосцю.

- Ну,- зззяючы усклікнуў ён,- Чаму вы такія панурыя?

Навучэнцы абмяняліся злымі поглядамі, аднак ніхто ані слова не сказаў.

- Хіба вы яшчэ не зразумелі?- павольна, быццам размаўляў з дурнямі, спытаўся Локхарт.- Небяспекі больш няма! Вінаваты быў затрыманы.

- Хто вам гэта сказаў?- громка спытаўся ў адказ Дын Томас.

- Мой юны сябра,- заявіў Локхарт, так, бы сцвярджаў што адзін да адзін будзе два,- калі б міністр Фадж ня быў на сто адсоткаў упэўнены ў віне Хагрыда, яго б не арыштавалі.

- Ага, быў ён,- яшчэ гучней за Дына, заўважыў Рон.

- Суцяшаю сябе надзеяю, містэр Візлі,- самазадаволена прамовіў прафесар,- што ведаю аб арышце Хагрыда КРЫХУ больш за цябе.

Рон збіраўся было сказаць, што Локхарт памыляецца, але супыніўся на поўслове, калі Гары пад сталом балюча стукнуў сябра па назе.

- Хіба ты забыўся, нас там не было?- прамармытаў ён.

Брыдкая весялось Локхарта і яго сцверджанні, бы ён даўно ведаў, што Хагрыд той яшчэ мярзотнік, злавалі Гары настолькі моцна, што ён быў гатовы шпульнуць у дурную галаву прафесара «Гульнямі з гулямі». Але, нарэшце ён задаволіўся тым, што нашкрабаў Рону цыдулку: «Сёння ўвечары.»

Прачытаўшы цыдулку, Рон пакасіўся на пустое крэсла, якое звычайна займала Герміёна. Гэта здаецца ўзмоцніла яго рашучасць і ён згодна кіўнуў у адказ.

*

Апошнім часам грыфіндорская гасцёўня была перапоўнена народам, бо пачынаючы ад шостай гадзіны вечара ніхто нікуды з яе не выходзіў. Больш таго, у вучняў заўжды знаходзілася тэма для размоваў, таму адчасу гасцёўня не пусцела, нават пасля апоўначы.

Адразу пасля вячэры, Гары выцягнуў з валізы мантыю-невідзімку і цяпер наупрост сядзеў на ёй ў гасцеўне, чакаючы пакуль тая спусцее. Фрэд і Джордж паклікалі іх з Ронам згуляць колькі партыяў у выбухаючы снэп, а Джыні, заняўшы звычайны фатэль Герміёны, сядзела і назірала за гульнёй. Гары з Ронам, наўмысна паддаваліся, спрабуючы скончыць гульню як мага хутчэй. Аднак, Фрэд, Джордж і Джыні пайшлі спаць далёка пасля апоўначы.

Гары і Рон дачакаліся пакуль хлопнуць дзверы ў двух спальнях, накінулі на сябе мантыю і праз адтуліну за партрэтам пакінулі грыфіндорскую вежу.

Зноў, яны з цяжкасцю, пазбягаючы сустрэчы з настаўнікамі, пайшлі па сходах і калідорах. Нарэшце, яны дабраліся да вестыбюля, адсунулі засаўку на дубовых дзвярах уваходу і праз шчыліну, намагаючыся, каб дзверы не зарыпелі, выбраліся ў ноч.

- Слухай,- раптам прамовіў Рон, калі хлопцы ішлі скрозь пакрыты цемраю траўнік,- мы можам пайсці ў Забаронены лес і анічога там не знайсці. Можа тыя павукі ішлі ня ў тое месца. Я, вядома ж, бачыў, што яны прытрымліваліся адзінага шляху, але...

У яго голасе чулася і пакрысе сціхала апошняя надзея.

Хлопцы дабраліся да сумна і змрочна выглядаючай халупы Хагрыда, якая сустрэла іх цёмнымі вокнамі. Гары адчыніў дзверы. Калі Фанг убачыў хлопцаў, ён звар'яцеў ад радасці. Занепакоенныя, што гучны і глыбокі  сабакаў брэх можа абудзіць усіх у замку, сябры паспяшалі даць яму патачных ірысак, ад якіх зліпаліся зубы.

Гары скінуў мантыю-невідзімку і паклаў яе на Хагрыдаў стол. У непрагляднай цемры Леса ў ёй не было патрэбы.

- Хадзем, Фанг, хадзем. Гуляць,- усклікнуў Гары, ляпаючы сябе па назе. Прасядзеўшы доўгі час у хаце, Фанг радасна кінуўся за імі надворак. Ён куляй кінуўся да ўскрайку Леса і падняў нагу перад вялізным яварам.

Гары выцягнуў з кішэні палачку, прамармытаў: «Люмас» і на яе кончыку з'явіўся невялічкі агенчык, якога як раз хапала на тое, каб адшукаць на зямлі сляды павукоў.

- Добра прыдумаў,- пахваліў яго Рон,- я б і сваю палачку дастаў бы, але сам ведаеш, яна хутчэй выбухнула бы ці яшчэ чаго горш...

Гары пастукаў сябра па плячы і паказаў на траву. Там у цені дрэў хаваліся ад палачкавага святла два самотных павучка.

- Добра,- скарыўшыся перад непазбежным, прамовіў Рон.- Я гатовы. Хадзем.

Разам з Фангам, які бегаў вакол хлопцаў, нюхаючы карані дрэў і апалую лістоту, сябры ўвайшлі ў Лес. Асвятляючы траву Гарынай палачкай, яны шукалі ў ёй павучыныя шэрагі. Так яны ішлі каля дваццаці хвілінаў, прыслухоўваючыся да кожнага шуму, грамчэйшага за варушэнне галінак і шоргат лісця. Нарэшце, дрэвы зрабіліся таўшчэйшымі і з-за іх кронаў не было бачна зорак. Цяпер адзінай крыніцай святла сярод непрагляднай цемры засталася толькі палачка Гары. І тут хлопцы ўбачылі, што павукі некуды зніклі.

Гары супыніўся і паспрабаваў прыпомніць, дзе ён апошні раз іх бачыў, але па-за межамі колца святла ад ягонай палачкі ўсё было ахутана густой цемрай. Ён ніколі не заходзіў настолькі далёка ў Лес. Больш таго, Гары добра памятаў наказ Хагрыда, не пакідаць шляху па якім ішоў. Аднак, цяпер Хагрыд быў ў колькіх мілях адсюль у сваёй азкабанскай камеры і гэта ён сказаў хлопцам ісці за павукамі.

Нечакана нешта мокрае дакранулася да Гарынай рукі, ён адскочыў назад, аддавіўшы Рону нагу. Але гэта быў усяго толькі фангаў нос.

- Ну што?- спытаў Гары ў сябра, у святле палачкі ён мог бачыць толькі Ронавыя вочы.

- Мы ўжо так далёка зайшлі,- адказаў яму Рон.

І хлопчыкі рушылі далей, выглядаючы на зямлі імклівыя павучыныя цені. Цяпер, калі з непрагляднай цемры ім пад ногі ўвесь час трапляліся карані дрэў і пні, Гары і Рон не маглі

рухацца захутка. Гары адчуваў на сваёй руцэ гарачае дыханне Фанга. Ім колькі раз прыходзілася супыняцца, каб Гары, прысеўшы змог разгледзець куды ідуць павукі.

Так яны крочылі не менш за поўгадзіны. Іх мантыі ўвесь час чапляліся за ніжнія галінкі дрэў і калючыя кусты. Праз некаторы час хлопцам падалося, што зямля пайшла пад ухіл, а дрэвы зрабіліся як ніколі таўшчэзнымі.

Раптам Фанг выдаў гучны і гулкі брэх, ад якога ў хлопцаў затрасліся душы.

- Што?- гучна спытаўся Рон, азіраючыся ў апраметнай цемры. Ён балюча стукнуў Гары сваім локцем.

- Там нехта рухаецца,- прашапатаў Гары.- Прыслухайся... Нешта даволі вялікае.

Хлопцы прыслухаліся. Праваруч іх, нешта вялізнае храбусцела галлём, быццам прадзіраючыся праз зарасці дрэў.

- Вой не...- загаласіў Рон.- Вой, не не не не...

- Сціхні ты,- у адчаі прамовіў Гары,- яно пачуе цябе.

- МЯНЕ?- ненатуральна высокім голасам адказаў Рон.- Яно ўжо пачула Фанга!

Цемра, здвалася, націскала ім на вочы, калі яны перапужана стаялі, чакаючы што будзе далей. Яны пачулі дзіўны грукатлівы шум, а потым зноў настала цішыня.

- Як думаеш, што яно збіраецца рабіць?- спытаўся Гары.

- Верагодна рыхтуецца да атакі,- выказаў Рон здагадку.

Дрыжучы ад жаху, яны чакалі ня смеючы паварушыцца.

- Думаеш, яно сыйшло?- прашапатаў Гары.

- Ня маю паняцця...

Раптам, праваруч іх, прарэзаўшы цемру, спалыхнула яскравае святло. Каб абараніць свае вочы, хлопцы паднялі перад тварамі рукі. Фанг заскуголіў і паспрабаваў збегчы, але трапіў у церновы куст ад чаго гучна завыў.

- Гары!- з палёгкаю ў голасе, ускрыкнуў Рон.- Глядзі, гэта ж наша машына!

- ЧАГО?

- Ды паглядзі ж ты!

Навобмацак, спатыкаючыся аб карані дрэваў, Гары рушыў услед за Ронам у напрамку святла. Праз хвіліну яны выйшлі на шырокую паляну.

У самым цэнтры, акружанай вялізнымі дрэвамі з густым галлём паляны, свецячы фарамі, стаяў пусты аўтамабіль містэра Візлі. Калі Рон, адкрыўшы рота, зрабіў крок наперад, форд паехаў яму насустрач, нібы вялізны бірузовы сабака, што выраўшыў павітаць свайго гаспадара.

- Ён увесь гэты час быў тут!- ашаломлена прамовіў Рон, рушачы да машыны.- Паглядзі. Ён зусім тут здзічэў...

Крылы форда, былі падрапаны і перапэцканы брудам. Магчыма, ён ужо прызвычаўся перасоўвацца лесам. Адзін толькі Фанг ня быў у захапленні ад гэта гледзішча. Гары адчуваў, як той дрыжыць, прыціснуўшыся да яго нагі. Супакоіўшыся, Гары сунуў палачку ў кішэню.

- А мы вырашылі, што ён хоча на нас напасці!- усміхнуўся Рон, паклаўшы руку на дах форда, другой, хлопчык пяшчотна паляпаў машыну па баку.- А я ўвесь час думаў, дзе ён зараз!

Прыжмурыўшыся, Гары азірнуўся шукаючы павукоў. Але тыя, здавалася ўцяклі ад яскравага святла фар.

- Мы згубілі павучыны след,- сказаў ён Рону.- Хадзем, мы павінны зноў яго адшукаць.

Рон не адказаў. Ён нерухома стаяў, утаропіўшы вочы на штосьці ў дзесяці футах над зямлёй, адразу за Гарынай спіной, а яго твар збляднеў ад жаху.

Гары, нават, не паспеў азірнуцца. Ён пачуў пстрычок, потым нешта валасатае схапіла яго пасярэдзіне і падняло па над зямлёй, дагары нагамі. Збянтэжаны, ён пачаў вырывацца, калі пачуў чарговы пстрычок і ўбачыў, як пакідаюць зямлю Ронавы ногі. Недзе паблізу заскуголіў Фанг... і праз імгненне другое таксама завіс у паветры.

Завіснуўшы дагары нагамі, Гары бачыў, што істота якая яго трымала, перасоўваецца на шасці нагах трымаючы яго дзвумя пярэднімі ля бліскучых чорных клюшняў. Істота што рухалася следам без сумневу трымала Рона. Пачвары неслі іх у самае сэрца Забароненага леса. Гары чуў, як Фанг скуголячы змагаецца з трэцяй істотай. Аднак, сам Гары, нават моцна пажадаўшы закрычаць не змог бы гэтага зрабіць. Здавалася яго голас застаўся там, на паляне, разам з машынай.

Хлопчык ня ведаў як доўга яго неслі, але заўважыў, што цемра вакол іх развеялася настолькі, каб убачыць, што ўкрытая лістотай зямля пад імі кішэла павукамі. Схіліўшы набок галаву, Гары зразумеў, што яны апынуліся ў ачышчанай ад дрэў лагчыне. На небе яскрава свяцілі зоркі ад чаго хлопчык колькі часу клыпаў вачыма. Як толькі ён зноўку мог вольна бачыць, перад Гарынымі вачыма паўстала найжахлівейшае ў яго жыцці гледзішча.

Павукі. Ня тыя маленечкія, што хаваліся ад яго ў лістоце. Не, гэтыя былі вялічынёй з добрага ламавіка – васьмівокія, васьміногія, чорныя, валасатыя і агромістыя. Волат, што цягнуў у сваіх нагах Гары, па крутым схіле рушыў да волкага павуціння ў самым цэнтры лагчыны. Астатнія павукі імгненна акружылі свайго сябрука ў захапленні пазіраючы на ягоную здабычу.

Павук выпусціў Гары і той, устаўшы на карачкі, апынуўся на зямлі. Побач з ім паваліліся Рон з Фангам. Сабака больш не скуголіў, ён моўчкі сядзеў ўцягнуўшы галаву ў плечы; а Рон пэўна выглядаў гэтак жа, як і сам Гары ў гэты момант. Яго рот быў адчынены ў нямым крыку, а вочы павылазілі на лоб.

Раптам, Гары зразумеў, што павук, які прыцягнуў яго сюды, нешта кажа. Што даклада зразумець было цяжка, бо пры кожным слове пачвара громка пстрыкала клюшнямі.

- Арагог!- клікаў павук.- Арагог!

У цэнтр валогага павуціння, павольна выпаўзла пачвара памерам з невялічкага слана. Валасы на яго чорным целе былі пакрыты сівізной, а вочы па над клюшнямі былі малочна белымі. Павук быў сляпым.

- Што там у вас?- хутка пстрыкаючы клюшнямі, спытаўся гігант.

- Людзі,- пстрыкнуў той, што прынёс Гары.

- Хагрыд?- паводзячы сюды-туды сваімі сляпымі вачыма, спытаўся Арагог.

- Незнаёмцы,- адказаў той, што прывалок Рона.

- Тады забіце іх,- з раздражненнем загадаў Арагог,- а я пайду спаць далей...

- Мы сябры Хагрыда,- закрычаў Гары. Здавалася сэрца з грудзей перасунулася яму ў горла.

Пстрык, пстрык, пстрык, адчулася па ўсёй лагчыне.

Арагог супыніўся.

- Хагрыд ніколі раней не дасылаў людзей у нашую лагчыну,- прамовіў ён павольна.

- Хагрыд трапіў у бяду,- хутка дыхаючы заявіў Гары.- Вось чаму мы прыйшлі да вас.

- У бяду?- спытаўся стары павук і хлопчык пачуў ў клацанні яго клюшняў некаторую заклапочанасць.- Але чаму ён прыслаў сюды вас?

Спачатку хлопчык вырашыў падняцца на ногі, але потым перадумаў, бо вырашыў, што наўрацці зможа трымацца на іх. Як толькі мог спакойна, ён крыкнуў з зямлі.

- У школе вырашылі, што Хагрыд нацкаваў... эээ... нешта на вучняў. І яго кінулі ў Азкабан.

Арагог люта пстрыкнуў клюшнямі і быццам рэха тое ж самае зрабілі павукі па ўсёй лагчыне. Знешне гэта было падобна да апладысментаў, аднак раней Гары ані ніколі не муціла пры гэтым ад жаху.

- Гэта ж было шмат год таму,- у раздражненні прамовіў Арагог.- Гады, дзесяцігоддзі таму. Я добра памятаю тое здарэнне. З-за яго Хагрыда тады выключылі са школы. Нехта тады палічыў, што Я – пачвара, якая жыла ў месцы, якое яны называлі патаемнай залай. Палічылі, што Хагрыд адчыніў залу і выпусціў мяне адтуль.

- Дык гэта... дык гэта не вы былі ў патаемнай зале?- спытаўся Гары, адчуваючы як на яго ілбе выступіў халодны пот.

- Я?- люта пстрыкаючы, прамовіў Арагог.- Я нарадзіўся не ў замку. Я паходжу з адной вельмі далёкай краіны. Хагрыду, мяне падараваў адзін вандроўнік, калі я быў яшчэ яйкам. Хагрыд тады быў яшчэ зусім хлопчыкам, але ён клапаціўся пра мяне. Ён пасяліў мяне ў каморы, карміў недаедкамі. Хагрыд быў і застаецца маім добрым сябрам і добрым чалавекам. Калі мяне знайшлі і абвінавацілі ў смерці той дзяўчынкі, Хагрыд абараняў мяне. З таго часу я жыву ў лесе, а Хагрыд працягвае мяне наведваць. Ён знайшоў мне Мосаг, маю жонку, бачыце якая ў нас вялікая сям’я. І ўсё дзякуючы Хагрыду...

Гары сабраў апошнія аскепкі мужнасці.

- Дык вы ніколі... ніколі ані на каго не нападалі?

- Ніколі,- прахрыпеў стары.- Гэта ў маёй прыродзе, але з павагі да Хагрыда, я ніколі не нападаў на людзей. Цела той дзяўчынкі знайшлі ў прыбіральне. У замку я ніколі не адыходзіў далёка ад сваёй каморы. Мы павукі любім цемру і цішыню...

- Але ж... вы напэўна ведаеце ТАГО, хто забіў дзяўчынку?- спытаўся Гары.- Справа ў тым, што ён вярнуўся і зноў нападае на людзей...

Яго словы патанулі ў выбухе пстрыкання і разззлаваным шоргаце безлічы доўгіх ног. З ўсіх бакоў іх атачылі агромістыя чорныя постаці.

- Ён жыве ў замку,- адказаў Арагог.- Гэта вельмі старажытная істота і мы павукі баімся яе больш за ўсё ў гэтым свеце. Я добра памятаю, як маліў Хагрыда пусціць мяне, штораз, калі чуў як тая пачвара перасоўваецца па школе.

- Але што ён такое?- нецярпліва спытаў хлопчык.

Пстрыкане зрабілася мацней, шоргат ног злавесней, а павучыныя постаці бліжэй.

- Мы не кажам пра яго!- злосна прамовіў Арагог.- І не вымаўляем ягонага імя! Як Хагрыд не прасіў мяне ад гэтым, нават яму я не сказаў анічога, настолькі моцна баяўся.

Гары не хацеў настойваць, тым больш цяпер, калі з усіх бакоў яго атачылі павукі. Сам жа Арагог, здавалася стаміўся размаўляць. Павольна ён пашкандыбаў назад у сваё павуцінне, а яго супляменнікі тым часам збіраліся вакол Гары і Рона.

- Мы тады пойдзем,- у адчаі крыкнуў Гары Арагогу, ён ужо чуў шоргат лісця за спіной.

- Пойдзеце?- павольна спытаўся Арагог.- Я так не думаю...

- Але ж... але...

- Мае сыны і дочкі ніколі не нападаюць на Хагрыда, бо я ім так загадаў. Аднак, я не магу адмовіць ім у свежым мясе, што само да прыйшло нас. Бывай, сябра Хагрыда.

Гары развярнуўся. У фуце над ім ўзвышалася суцэльная сцяна павукоў. Яны пстрыкалі клюшнямі, вылупіўшы на хлопцаў незлічоныя вочы на выродлівых галовах...

Разумеючы, як мала з гэтага карысці, Гары пацягнуўся за палачкай. Ён ужо спрабаваў падняцца на ногі, каб памерці ў змаганні, але тут пачуўся доўгі, моцны гуд і лагчына залілася яскравым святлом.

Грукочучы, свецячы фарамі, гудзя і раскідваючы ў бакі павукоў, па схіле спускаўся аўтамабіль містэра Візлі. Колькі павукоў, дрыгаючы ў паветры доўгімі нагамі, ляжала на спінах. Віскнуўшы тармазамі, форд супыніўся ля Гары з Ронам і адчыніў дзверы.

- Забяры Фанга!- сядаючы наперад, крыкнуў Гары. Рон схапіў скуголячага сабаку і кінуў на заднюю сядушку. Дзверы зачыніліся. Рон не паспеў нават націснуць на газ, але машына ня мела ў гэтым патрэбы. Рухавік форда зароў. Давячы безліч апынуўшыхся на іх шляху павукоў, яны, падняўшыся па схіле, паймчаліся прэч з лагчыны. Неўзабаве, яны ляскаючы паехалі па Лесе, галлё сцябала па вокнах, аднак форд, спрытна ляцеў праз шырокія прасекі, шляхам, які відавочна добра вывучыў.

Гары зірнуў на Рона. Яго рот, як і ранней быў раскрыты у нямым крыку, але вочы ён ужо не вылупляў.

- Ты як?- спытаўся Гары

Але Рон, ня быў у стане вымавіць ані слова, толькі глядзеў перад сабою.

Яны пакацілі праз пралесак, на задняй сядушцы гучна выў Фанг. Гары ўбачыў, як праціскаючыся міма вялізнага дуба, форд абламаў бакавое люстэрка. Хвілінаў праз дзесяць грукату і камяністых горак, лес парадзеў і хлопчык зноўку змог бачыць кавалачкі неба над галавой.

Машына затармазіла так рэзка, што сяброў ледзь не кінула ў лабавое шкло. Яны стаялі на ўскрайку Забароненага леса. Моцна жадаючы выйці, Фанг кінуўся на вакно і ледзь Гары паспеў адчыніць дзверы, як той куляй, падцяўшы хваста, кінуўся да Хагрыдавай халупы. Гары выйшаў вонкі, а праз хвіліну другую да яго далучыўся Рон. Ён здавалася зноўку мог вольна рухаць рукамі нагамі, але дагэтуль быў ня ў стане круціць галавой і мыргаць.

Гары завітаў у хаціну, каб забраць мантыю-невідзімку. У сваім кошыку пад коўдрай дрыжаў Фанг. Калі хлопчык вярнуўся надворак, ён убачыў, як Рона ванітуе ў гарбузы.

- Ідзіце за павукамі,- выціраючы рот рукавом, прамовіў Рон.- Я ніколі Хагрыду не дарую гэтага. Мы ледзь засталіся жывымі.

- Пэўна ён вырашыў, што Арагог ня будзе рабіць шкоды ягоным сябрам.- адказаў Гары.

- У гэтым яго галоўная праблема!- заявіў Рон, стукнуўшы рукой па сцяне халупы.- Ён заўсёды лічыў, што пачвары ані не такія дрэнныя, як пра іх думаюць іншыя! І дзе ён

цяпер? Сядзіць ў Азкабане!- Рона пачало нястрымна калаціць.- Які быў сэнс дасылаць нас туды? Што мы там такога высветлілі?

- Што Хагрыд не адчыняў патаемнай залы,- накінуўшы на іх мантыю і штурхануўшы Рона, каб прымусіць таго рухацца, прамовіў Гары.- Ён ані не вінаваты.

Рон гучна пырхнуў. Відавочна з яго пункту гледжання, гадаванне Арагога ў каморы, не было чымсьці нявінным.

Калі замак быў ужо блізка, Гары патузаў мантыю, каб пераканацца, што іхныя ногі надзейна схаваныя пад ёй. Праз шчыліну ў рыпучых дзвярах яны праціснуліся ўсярэдзіну. Хлопцы асцярожна прамінулі вестыбюль і падняліся па мармуровых сходах, намагаючыся ня дыхаць, калі на іх шляху трапляліся пільнуючыя калідоры вартаўнікі. Нарэшце, яны апынуліся ў бяспечнай грыфіндорскай гасцёўне, вогнішча ў коміне ператварылася на цмяную грудку попелу. Скінуўшы мантыю, сябры па вінтавой лесвіцы падняліся да сваёй спальні.

Нават не распранаючыся, Рон паваліўся на ложык. А вось Гары ані не мог заснуць. Седзячы на ўскрайку свайго ложка пад балдахінам, ён разважаў аб усім што пачуў ад Арагога.

Істота, што хавалася ў замку была нечым накшталт Вальдэморта, і нават іншыя пачвары не жадалі вымаўляць яе імя. Аднак яны з Ронам ані не наблізіліся да разгадкі, што гэта была за істота і як яна скамяняе сваіх ахвяраў. І нават Хагрыд нічога ня ведаў пра тое, што хавалася ў патаемнай зале.

Гары лёг, падняў ногі на ложак і адкінуўся на падушку, назіраючы за святлом месяца, што праточвалася ў вакно вежы.

Ён ня ведаў што рабіць далей. Яны чарговы раз трапілі ў тупік. Рэдл выдаў не таго чалавека, а сапраўдны спадкаемца Слізэрына пазбег пакарання. І невядома было, ці ён адчыніў патаемную залу цяпер. У Гары было безліч пытанняў ня маючых адказу. Гары лёг, усё яшчэ працягваючы разважаць над словамі Арагога.

Яго пакрысе хіліла ў сон і тут яму ў галаву прыйшла думка, якая здавалася была іх апошняй надзеяй. Гары выпрастаўся.

- Рон,- скрозь цемру, прасыкаў ён.- Рон!

Той прачнуўся, заскуголіў бы Фанг, з ашалелымі вачамі развярнуўся і ўбачыў Гары.

- Рон... памятаеш пра памерлую дзяўчынку. Арагог сказаў, што яе знайшлі ў прыбіральне,- ігнаруючы хроп Нэвіла, спытаўся Гары.- А што калі яна больш не пакідала прыбіральні? Што калі яна і цяпер там?

Рон пацёр вочы, жмурачыся ад месячнага святла. І тут зразумеў аб чым кажа яму Гары.

- Ты ж не думаеш..?- прамовіў ён.- Не... толькі не Мармытуха Міртла.

## — РАЗДЗЕЛ XVI —

### *Патаемная зала*

- Анішто сабе... увесь гэты час яна сядзела ў прыбіральне праз тры кабінцы ад нас,- наступнай раніцай, падчас сняданку заўважыў Рон,- мы аб усім маглі спытаць яе. І вось...

Як не цяжка было трапіць да павукоў, аднак трапіць ў дзявочую прыбіральню, тую самую прыбіральню ля якой адбыўся першы напад, пазбягаючы сустрэчы з настаўнікамі, было практычна немажлівай справай.

Падчас чарговых заняткаў па ператварэннях адбылося нешта, што ў першыню за колькі тыдняў, прымусіла ўсіх забыцца аб патаемнай зале. Праз дзесяць хвілінаў пасля ўваходу ў свой кабінэт, прафесарка МакГонагал паведаміла, што праз тыдзень, у першых чыслах чэрвеня ў іх адбудуцца іспыты.

- ІСПЫТЫ?- прастагнаў Шымас Фініган.- Няўжо ў нас яшчэ і ІСПЫТЫ будуць?

За Гарынай спіной пачуўся гучны бабах, бо Нэвіл выпусціў з рук палачку і яна знішчыла адну з ножак яго парты. Махам сваёй палачкі, прафесарка аднавіла ножку і пахмурліва зірнула на Шымаса.

- Школа ўсё яшчэ адкрыта толькі дзеля таго, каб вы маглі атрымаць адукацыю,- сурова сказала яна.- Іспыты адбудуцца як і звычайна. І я спадзяюся, што вы ўжо рупліва паўтараеце ўсё што вывучылі за год.

Рупліва паўтараеце? Гары і да галавы не прыходзіла думка, што ў час калі замак знаходзіцца ў падобным становішчы, тут яшчэ могуць праходзіць іспыты. Па класе пранеслася непакорная хваля наракканняў. Прафесарка зрабілася яшчэ больш суровай.

- Я маю інструкцыю ад прафесара Дамблдора,- заявіла яна.- Праца ў школе, па магчымасці, павінна трымацца звычайнага рытму. А што можа быць лепшым доказам гэтаму, як не праверка ўсяго, што вы вывучылі за год.

Гары зірнуў на пару белых трусікаў, якіх павінен быў перавараціць на тапкі. Пра што ён даведаўся ў гэтым годзе? Ён аніяк не мог прыпомніць нічога, што мела б карысць на іспытах.

Рон выглядаў так, нібы яму паведамілі, што цяпер ён будзе жыць у Забароненым лесе.

- Ты можаш уявіць, як мне здаваць іспыты з гэтым?- спытаўся ён у Гары, кажучы на сваю палачку, якая цяпер пачала гучна свісцець.

*

За тры дні да першага іспыту, прафесарка МакГонагал падчас сняданку зрабіла яшчэ адну аб’яву.

- Маю да вас добрую навіну,- прамовіла прафесарка і ў сціхлай зале падняўся гармідар.

- Дамблдор вяртаецца?!- ускрыкнула колькі чалавек адразу.

- Знайшлі спадкаемцу Слізэрына?!- узвіскнула дзяўчынка за рэйвенклоскім сталом

- Аднаўляецца квідытчны чэмпіянат?!- узбуджана зароў Олівер Вуд.

- Прафесарка Спроўт паведаміла мне,- дачакаўшыся пакуль сціхне шум, працягвала МакГонагал,- што мандрагоры паспелі і гатовы для апрацоўкі. Ужо ўвечары мы зможам адрадзіць усіх скамянелых. Наўрацці трэба нагадваць вам, што сёй-той з іх абавязкова

расказажа нам, хто ці што на іх напала. І спадзяюся гэты жудасны год скончыцца зловам злачынцы.

Галоўная зала выбухнула апладысментамі. Зірнуўшы на слізэрынскі стол, Гары ані не здзівіўся, што да апладыявання не далучыўся Драко Малфой. А вось Рон выглядаў зашмат шчаслівей, чым колькі апошніх дзён.

- Ну тады і не надта блага, што мы не распыталі Міртлу!- заявіў ён Гары.- Нам аб усім хутчэй за усё раскажа Герміёна, калі ачуняе! Але май на ўвазе, яна сшалее, калі даведаецца, што да пачатку іспытаў засталося тры дні. Яна ж так даўно ані нічога не пераглядала. Мажліва будзе лепш пакінуць яе скамянелай, пакуль іспыты ня скончацца.

Тут да грыфіндорскага стала падыйшла Джыні Візлі і села ля Рона. Яна выглядала ўзбуджанай і занепакоеннай і Гары заўважыў, як дзяўчынка круціла сабе рукі пад сталом.

- Што здарылася?- накладаючы сабе чарговую порцыю кашы, спытаўся ў сястры Рон.

Джыні нічога яму не адказала. Са спалохам у вачах яна азірала грыфіндорскі стол, і выразам на твары кагосьці нагадвала Гары, але ён так і не мог прыпомніць каго.

- Давай каліся,- падбухторваў яе Рон.

І тут Гары прыпомніў. Яна ківалася сюды-туды на крэсле гэдак жа, як Добі, калі быў на мяжы раскрыцця забароненай інфармацыі.

- Я павінна расказаць вам нешта,- ня гледзячы на Гары прамовіла яна.

- Што здарылася?- спытаўся Гары.

Здавалася, Джыні ані ніяк не магла падабраць патрэбных слоў.

- ШТО там у цябе?- не сунімаўся Рон.

Джыні адчыніла вусны, але адтуль не вымавілася ані гуку. Гары нахіліўся і ціхнінька, так каб яго чулі толькі Джыні і Рон, спытаў.

- Гэта тычыцца патаемнай залы? Ты кагось бачыла? Хтосьці дзіўна сябе паводзіў?

Джыні набрала ў грудзі паветра і тут да стала, стомлены і збляднелы падыйшоў Персі.

- Калі ты скончыла есці, Джыні, я займу тваё месца,- прамовіў ён.- Я толькі што з начнога дзяжурства і папросту паміраю з голаду.

Джыні ўскочыла, як быццам яе да яе крэсла падвялі ток. Абдараваўшы Персі, хуткім, напалоханым поглядам, яна шуганула прэчкі. Сеўшы на яе месца, Персі схапіў куфаль з цэнтра стала.

- Персі,- люта заявіў да яго Рон.- Яна толькі што хацела паведаміць нам нешта важнае!

Персі ледзь не падавіўся гарбатай.

- Наконт чаго?- закашляўшыся, спытаўся ён.

- Я спытаў яе, ці не бачыла яна чагосьці дзіўнага і яна ўжо збіралася адказаць...

- А... што... спадзяюся гэта не мае дачынення да патаемнай залы,- адразу ж сказаў Персі.

- А ты адкуль ведаеш?- ўзняўшы бровы, спытаўся Рон у адказ.

- Ну... ммм, калі хочаце ведаць, Джыні... ну, колькі дзён таму, яна сустрэла мяне, калі я... ну, гэта не істотна... карацей, яна бачыла, як я нешта раблю і, ну... я прасіў яе, анікому пра гэта не казаць. Увогуле, я насамрэч думаў, што яна стрымае сваё слова. Там нічога такога асаблівага, але...

Ніколі раней, Гары не бачыў, каб Персі адчуваў сябе так няёмка.

- А што ты такога рабіў,- усміхнуўшыся спытаўся Рон.- Скажы, мы ня будзем смяяцца.

Але усмешкі ў адказ не было.

- Перадай мне тых булачак, Гары,- папросіў Персі,- ці то я зараз памру з голаду.

*

Гары разумеў, што ўсё і без таго высветліцца заўтрашнім днём, тым ня менш не хацеў выпускаць шанца пагаманіць з Міртлай... і на шчасце такі шанец яму выдаўся, калі Гільдэрой Локхарт павёў іх пасля сваіх заняткаў на гісторыю магіі.

Локхарт ўвесь час запэўніваў усіх, што небяспека мінула, хаця амаль заўжды яго імгненна аспрэчвалі, больш таго, ён лічыў, што ані больш няма неабходнасці ў настаўніцкім суправаджэнні вучняў. Да таго ж яго валасы цяпер былі не надта добра ўкладзены, магчыма таму, што большую частку ночы ён правёў за патруляваннем калідору на пятым паверсе.

- Узгадайце мае словы,- калі яны завярнулі за вугал пачаў размову Локхарт.- Заўтра, калі пацярпелыя ачуняюць, іх першя словы будзуць: «Гэта быў Хагрыд». І я шчыра кажучы здзіўляюся, чаму прафесарка МакГонагал дагэтуль упэўнена ў неабходнасці ўсіх гэтых мераў перасцярогі.

- Цалкам згодзен з вамі, сэр,- заявіў Гары, ад здзіўлення ў Рона паваліліся з рук кнігі.

- Дзякуй, Гары,- паблажліва сказаў Локхарт, яны супыніліся, чакаючы пакуль пройдзе вялікі гурт хафлпафцаў.- Аб чым я: нам настаўнікаў і без таго хапае чым заняцца, акрамя праваджання навучэнцаў і начных патрулёў...

- Маеце рацыю, сэр,- зразумеўшы Гарыну думку, падхапіў Рон.- Чаму б вам не пакінуць нас тут, да кабінэта гісторыі застаўся адзін толькі калідор.

- Ведаеш, Візлі, пэўна так я і зраблю,- адказаў Локхарт.- Мне сапраўды трэба бегчы, рыхтавацца да наступных заняткаў.

Пакінуўшы вучняў, ён куляй кінуўся прэчкі.

- Рыхтавацца да заняткаў,- пасміхнуўся яму ўслед Рон.- Пабег кучэры ўкладваць.

Прапусціўшы наперад астатніх грыфіндорцаў, Гары і Рон бакавым калідорам кінуліся да прыбіральні Мармытухі Міртлы. Яны ўжо віншавалі адно аднаго з бліскуча зроблены аперацыяй і тут...

- Потэр! Візлі! Што вы тут робіце?

На сустрач ім ішла прафесарка МакГонагал, а яе вусны ўяўлялі сабой дзве тонкія рыскі.

- Мы... мы...- запінаючыся пачаў Рон...- мы толькі... толькі хацелі бачыць...

- Герміёну,- дадаў Гары. Рон і МакГонагал здзіўлена вытарапіліся на яго.

- Мы здаецца цэлы век яе не бачылі,- паспешліва ступіўшы Рону на нагу,- працягваў Гары.- Мы хацелі схадзіць у шпітальнае крыло і сказаць ёй, што мандрагоры ўжо саспелі, каб яна не турбавалася.

Прафесарка ўсё яшчэ насцярожана працягвала на яго глядзець і на імгненне другое, Гары вырашыў, што зараз яна выбухне гневам. Аднак анічога такога не здарылася.

- Канечне,- дзіўным хрыплым голасам прамовіла яна і Гары ўбачыў, як з яе вочак-пацерак паліліся слёзы,- Канечне, ідзіце. Я разумею, як цяжка было ўвесь гэты час сябрам тых хто... Я ўсё разумею. Так, Потэр, вы можаце наведаць міс Грэйнджэр. Я скажу прафесару Бінсу дзе вы. І скажыце мадам Помфры, што гэта я вам дазволіла.

Гары і Рон сыйшлі дагэтуль ня верачы таму, што пазбеглі пакарання. Завярнуўшы за вугал, яны ясна пачулі, як прафесарка МакГонагал гучна высмаркалася.

- Гэта была,- палка прамовіў Рон,- твая лепшая выдумка з тых якія я чуў.

Аднак цяпер ў іх ані не было выбару, як толькі пайсці ў шпітальнае крыло і сказаць мадам Помфры, што яны маюць дазвол ад прафесаркі МакГонагал на наведанне Герміёны.

Хай з неахвотай, мадам Помфры ўсё ткі прапусціла іх у палату.

- Не разумею, які СЭНС размаўляць аб нечым са скамянелым чалавекам,- заявіла яна. І сеўшы ля Герміёны сябры былі вымушаны прызнаць, што лекарка мела рацыю. З тым жа поспехам, сябры маглі суцяшаць і казаць каб не турбавалася Герміёнінай камодзе.

- А вось цікава, ці яна бачыла нападніка?- сумна паглядаючы на застылы твар сяброўкі, спытаўся Рон.- А што калі ён падкраўся да іх ззаду...

Аднак Гары не глядзеў на твар Герміёны. Значна цікававейшай для яго была правая рука дзяўчынкі, што сціснутая ў кулак ляжала па-над коўдрай. Нахіліўшыся бліжэй, Гары убачыў, што ў кулаке дзяўчынка сціскала невялічкі скрутак паперы.

Пераканаўшыся, што паблізу няма мадам Помфры, хлопчык паказаў на скрутак Рону.

- Паспрабуй яго выцягнуць,- прапанаваў той і сеў на крэсле так, каб лекарка не магла бачыць, што робіць Гары.

Гэта было ня лёгкай задачай. Герміёніна рука была сціснута зашчыльна і часам Гары здавалася, што ў яго хутчэй атрымаецца парваць скрутак, чым выцягнуць яго. Пакуль Рон слядзіў за мадам Помфры, Гары ўсё працягваў тузаць і круціць паперку і нарэшце, пасля доўгіх хвілінаў цяжкой працы, у хлопчыка атрымалася яе выцягнуць.

Скрутак уяўляў сабой старонку з даволі старой бібліятэчнай кнігі. Гары нецярпліва разгладзіў яе, а Рон нахіліўся, каб таксама мець магчымасць яе прачытаць:

*«З усіх звяроў і пачвараў, што блукаюць па нашае зямлі, няма больш дзіўнага і больш смяротнанебяспечнага стварэння, чым Базіліск, таксама вядомы, як Змяіны князь. Гэта змяя, што можа дасягаць гіганцкіх памераў і жыць шмат стагоддзяў нараджаецца на свет, вылупіўшыся з курынага яйка, якое выседжвала рапуха.*

*Самым дзівосным у базіліску ёсць метады з дапамогай якіх істота забівае сваіх ахвяраў. Акрамя шэрагу атрутных іклаў, базіліск мае смяротнаносны погляд. Кожны, хто паглядзіць базіліску ў вочы, вырачаны на імгненную смерць. Павукі ўцякаюць ад базіліскаў, лічачы яго смяротнанебяспечным ворагам. Сам жа базіліск пазбягае крыку пеўня, які аказвае на яго фатальнае дзеянне.»*

Унізе старонкі, Герміёнінай рукой было напісана толькі адно слова: «Трубы».

І тут у Гарынай галаве быццам бы нехта запаліў святло.

- Рон,- прашапатаў ён,- гэта ён. Вось каго мы шукаем. Вось хто пачвара з патаемнай залы – БАЗІЛІСК. Ён гіганцкая змяя. Вось чаму я і ніхто болей ня чуў ягоны голас. А ўсё таму, што я валодаю парсельтонгам...

Гары агледзеў ложкі, якія знаходзіліся ў палаце.

- Базіліск забівае людзей позіркам. Аднак ніхто не памёр... бо не глядзеў яму менавіта ў вочы. Колін убачыў яго праз фотаапарат – базіліск спаліў фотаплёнку, але сам Колін толькі скамянеў, як і Джасцін... што бачыў яго праз Амаль Безгаловага Ніка. Асноўны ўдар атрымаў Нік, але ён ня мог памерці ДРУГІ РАЗ... Што наконт Герміёны і той прэфекткі з Рэйвенкло... памятаеш, каля іх знайшлі люстэрка. Герміёна ўжо ведала, што

пачварай ёсць базіліск, яна ж і папярэдзіла тую дзяўчынку, што перш чым заходзіць за вугал, трэба спачатку паглядзець хто там ёсць у люстэрка. Яны так і зрабілі... і...

Ад здзіўленя ў Рона адвалілася сківіца.

- А Місіс Норыс?- прагна спытаўся ён.

Гары задумаўся. Ён паспрабаваў прыпомніць тое, што бачыў у той хэлоўінскі вечар.

- Вада...- павольна сказаў ён.- Міртла зрабіла патоп у сваёй прыбіральне. Закладаюся, Місіс Норыс бачыла толькі адлюстраванне базіліска ў лужыне...

Гары яшчэ і яшчэ раз праглядаў старонку. З кожнам разам лепей раскрываючы сэнс падзей, што адбыліся ў школе..

- Вось глядзі: «Базіліск пазбягае крыку пеўня, які аказвае на яго фатальнае дзеянне»,- прачытаў ён уголас.- Нехта пазабіваў усіх Хагрыдавых пеўняў! Слізэрынскі нашчадак не хацеў, каб яны былі паблізу ад замка і маглі перашкодзіць яму, калі зала будзе адкрыта! «Павукі ўцякаюць ад базіліскаў...» Ну так, усё сыйшлося!

- Але як той базіліск перасоўваецца па замку?- спытаўся Рон,- Гідкая агромістая змяя... яе абавязкова хто-небудзь убачыў бы...

У адказ, Гары паказаў сябру на слова ўласнаруч напісанае Герміёнаю ўнізе старонкі.

- Трубы, Рон,- сказаў ён.- Трубы... Ён поўз па каналізацыі. І я чуў яго голас у сценах.

Нечакана Рон схапіў Гары за руку.

- Уваход у патаемную залу..!- хрыпла прамовіў ён.- Што калі ён у прыбіральне? І гэта...

- ПРЫБІРАЛЬНЯ МАРМЫТУХІ МІРТЛЫ,- дадаў за яго Гары.

Хлопцы ўзбуджана пазіралі адно на аднаго. Яны з цяжкасцю верылі самі сабе.

- Гэта азначае,- падсумаваў Гары,- што я не адзіны парсельмовец у школе. Спадкаемца таксама ведае парсельтонг. Інакш, як ён можа кантраляваць васіліска.

- І што цяпер рабіць?- спытаўся Рон, яго вочы палалі агнём .- Бяжым да МакГонагал?

- Ідзем у настаўніцкую,- выпрастаўшыся скокам, адказаў Гары.- Яна будзе там праз дзесяць хвілінаў. Хутка будзе звон з урока.

Яны кінуліся уніз па сходах. Не жадаючы, каб іх знайшлі валэнаючыміся па калідорах, хлопцы наўпрост накіраваліся ў пустую настаўніцую. Гэта быў вялізны пакой, абшыты драўлянымі панэлямі, поўны высокіх крэслаў з чорнага дрэва. Гары і Рон хадзілі вакол іх, занадта ўсхваляваныя, каб сесці.

Але звона з урокаў усё не было.

Замест яго па калідорах рэхам пранесся магічным чынам ўзмоцнены голас МакГонагал:

- Усім навучэнцам неадкладна ісці да сваіх гасцёўняў. Усяму персаналу сабрацца ў настаўніцкай. Хутчэй, калі ласка.

Азірнуўшыся, Гары паглядзеў на Рона.

- Няўжо новы напад? Толькі не цяпер?

- А што нам рабіць?- спытаўся перапоўнены жахам Рон.- Вярнемся ў нашу гасцёўню?

- Не,- азіраючыся навокал, сказаў Гары. Злева ад іх, ён убачыў выродлівую шафу з запаснымі мантыямі настаўнікаў.- Давай сюды. Паслухаем, аб чым тут будуць казаць. А потым распавядзем ім, што самі высветлілі.

Схаваўшыся у шафе, хлопцы чулі, як дзверы настаўніцкай бесперапынна адчыняюцца, а сам пакой напаўняецца сотнямі людзей. Скрозь зморшкі сарых мантыяў, Гары і Рон

назіралі за паводзінамі настаўнікаў. У кагосьці з іх на твары было напісана здзіўленне, а нехта азіраўся вакол з жахам ў вачах. Нарэшце, у настаўніцкую завітала сама МакГонагал.

- Гэта здарылася,- паведаміла яна сціхлым калегам.- Пачвара забрала вучаніцу. І зацягнула яе ў залу.

Прафесар Флітвік ўзвіскнуў, прафесарка Спроўт заціснула вусны рукамі.

- Ці вы ўпэўнены ў гэтым?- моцна сціснуўшы спінку крэсла, спытаўся прафесар Снэйп.

- Так, гэта спадкаемца Слізэрына,- адказала ўшчэнт збляднелая МакГонагал.- Ён пакінуў паведамленне. Адразу пад першым. «Яе косткі назаўжды застануцца ў зале.»

З вачэй прафесара Флітвіка хлынулі слёзы.

- Каго?- спыталася мадам Хуч, знясілена падаючы на крэсла.- Каго з вучняў ён скраў.

- Джыні Візлі,- адказала прафесарка.

Гары адчуў, як Рон моўчкі спаўзае па сценцы шафы.

- Заўтра мы павінны адправіць усіх навучэнцаў па дамах,- працягвала МакГонагал.- Гэта канец Хогвартса. Дамблдор заўсёды казаў...

Тут дзверы настаўніцкай зноўку адчыніліся. Першы момант Гары думаў, што зараз у пакой увойдзе Дамблдор. Але гэта быў толькі ззяючы сваёй ўсмешкай Локхарт.

- Прашу прабачэння... задрамаў... я нешта прапусціў?

Здавалася ён не памеціў, што усе настаўнікі глядзяць на яго з выдатна заўважнай нянавісцю. Снэйп рушыў у яго бок.

- Вось хто нам патрэбен,- прамовіў ён.- Менавіта ён. Локхарт, пачвара схапіла дзяўчынку. І забрала з сабой у патаемную залу. Нарэшце, прыйшоў вас час дзейнічаць.

Локхарт зрабіўся белым.

- Усё так, Гільдэрой,- далучылася да размовы прафесарка Спроўт.- Тым больш, хіба не ты мінулай ноччу сказаў мне, што ўвесь час ведаў, дзе знаходзіцца ўваход у залу?

- Я... ну так, я...- залапатаў Локхарт.

- Так, а мне ты казаў, што ведаеш, якая пачвара там сядзіць,- дадаў прафесар Флітвік.

- Н-няўжо? Я не памятаю...

- А я памятаю, як ты казаў мне, што шкадуеш аб тым, што не забіў пачвару да таго, як быў арыштаваны Хагрыд,- прамовіў Снэйп.- А яшчэ я памятаю, як ты наракаў мне, што мы толькі псавалі ўсю справу і што цябе трэба было даць поўную волю з самога пачатку.

Локхарт пазіраў на каменныя твары сваіх калегаў.

- Я... насамрэч я ніколі... Пэўна вы не так мяне зразумелі...

- Больш мы не будзем перашкаджаць табе, Гільдэрой,- падсумавала прафесарка МакГонагал,- мы гарантуем гэта цябе. Сёння выдатны час паказаць на што ты здольны. Вырашай сам, што рабіць з пачвараю. Я даю табе поўную волю.

Локхарт ў адчаі аглядзеў усю настаўніцкую, але ніхто не паспяшаў яму на дапамогу. Ён больш не выглядаў такім ужо прыгожым. Яго вусны дрыжэлі, а без свайго звычайнага выскалення ён выглядаў худасочным чалавекам з бязвольным падбароддзем.

- Н-ну добра,- прамармытаў ён.- Мне трэба да сябе ў кабінэт, каб... каб падрыхтавацца.

Сказаўшы гэта, ён пакінуў настаўніцкую.

- Ну вось і добра,- прамовіла МакГонагал.- Нарэшце, ён прыбраўся з-пад нашых ног. А цяпер, няхай галовы Дамоў пайдуць і праінфармуюць навучэнцаў аб тым, што здарылася.

І скажыце ім, што заўтра іх адразу ж забярэ Хогвартс Экспрэс. І пераканайцеся, што аніводзін з вучняў не застаўся па-за межамі гасцёўняў.

Адзін за адным, настаўнікі падняліся са сваіх крэслаў і пакінулі пакой.

*

Верагодна, гэта быў найнайгоршы дзень у Гарыным жыцці. Разам з Ронам, Фрэдам і Джоржам, яны сядзелі ў грыфіндорскай гасцёўне ня ў сілах вымавіць ані не слова. Персі не было на месцы. Спачатку ён пайшоў, каб даслаць саву містэру і місіс Візлі, а вярнуўшыся запёрся ў сваёй спальне.

Аніколі дзень не цягнуўся настолькі доўга і аніколі не было так, каб грыфіндорская вежа была ўшчэнт запоўнена вучнямі, аднак ў ёй панавала цішыня. Перад самым заходам сонца Фрэд і Джордж, ня маючы больш сілаў сядзець у прыціхлай гасцёўне, пайшлі спаць.

- Яна нешта ведала, Гары,- упершыню з таго часу, як яны пакінулі настаўніцкую, сказаў Рон.- Вось чаму пачвара схапіла яе. І гэта тычылася не дурных справаў Персі. Джыні даведалася нешта аб патаемнай зале. Тым больш, што на яе не павінны былі нападаць,- ён пачаў шалёна цярэць вочы,- то бок, ну разумееш, яна ж чыстакроўка. Іншай прычыны яе знікнення я не ўяўляю.

Гары назіраў за тым, як крывава чырвонае сонца хаваецца за даляглядам. Ніколі ў жыцці ён не адчуваў сябе гэдак блага. Калі б толькі яны маглі што-небудзь зрабіць. Што заўгодна.

- Гары,- спытаўся Рон.- Думаеш ці ёсць яшчэ шанец, што яна яшчэ... ну, ты разумееш...

Гары ня ведаў што адказаць. Ён сам з цяжкасцю мог уявіць, што Джыні дагэтуль жыва.

- А ведаеш што?- прапанаваў Рон,- Давай пойдзем да Локхарта. Раскажам яму ўсё што ведам самі. Дзе мы думаем уваход у залу і пра базіліска таксама. Няхай ён паспрабуе туды прабіцца.

Гары не мог думаць ані ад чым іншым, як толькі аб нападзе на Джыні і, жадаючы зрабіць хто штосьці, пагадзіўся з Ронам. Іншыя сядзелыя ў гасцёўне грыфіндорцы былі настолькі няшчаснымі і так моцна шкадавалі ўсё сям'ю Візлі, таму ніхто з іх нават не паспрабаваў спыніць хлопцаў, калі яны падняліся з фатэляў і перасекшы гасцёўню, выйшлі праз адтуліну за партрэтам.

Калі яны падыйшлі да кабінэта Локхарта ў калідорах згусцілася цемра. За дзвярыма кабінэта чулася мітусьня. Хлопцы чулі гукі скрыгатання, глухія стукі і таропкія крокі.

Калі хлопцы пастукаліся, за дзвярыма нечакана запанавала цішыня. Потым у дзвярным праёме ўзнікла шчыліна ў якую хлопцы ўбачылі адно локхартава вока.

- А... Містэр Потэр... містэр Візлі,- прамовіў ён, крыху шырэй прыадчыняючы дзверы.- прабачце, але зараз я крыху заняты. Калі маеце што да мяне, давайце хуценька...

- Прафесар,- сказаў Гары,- мы маем некаторую інфармацыю. Думаю яна дапаможа вам.

- Э... ну... яна не надта...- адказаў Локхарт, той бок яго аблічча, які быў бачны хлопчыкам быў яўна ўстрывожанны.- То бок... ну... ай, добра.

Ён адчыніў дзверы і пусціў Гары і Рона ў пакой.

Кабінэт быў амаль што голым. На падлозе стаялі дзве вялізныя валізы. У першую былі паспешна складзены шматлікія мантыі – нефрытавыя, бэзавыя, цёмна-сінія; а у другой неахайнай грудаю былі скіданы локхартаўскія кнігі. У стаялыя на стале скрыні былі складзены фатакарткі, што яшчэ нядаўна ўпрыгожвалі сцены.

- Вы кудысьці ад’яжджаеце?- спытаўся Гары.

- Э, ну, так,- ададраўшы ад дзвярэй уласны постэр ў натуральную велічыню і скручваючы яго, адказаў Локхарт.- Тэрміновы выклік... неадкладны... трэба ехаць...

- А як жа мая сястра?- запінаючыся спытаўся Рон.

- Ну, што да яе... дзяўчынцы надта не пашанцавала,- ня гледзячы ім ў вочы, прамовіў прафесар, адкрыў скрыню стала і скінуў яе змесціва ў торбу.- І павер, ніхто не шкадуе яе так, як я... ‘

- Але ж вы – настаўнік па абароне ад цёмных мастацтваў?- заявіў Гары.- Як вы можаце пакінуць школу, калі тут адбываюцца настолькі цёмныя справы?!

- Ну, скажу вам... калі я наймаўся на гэту працу...- кідаючы шкарпэткі паверх мантыяў, сказаў Локхарт,- мне не казалі... што ў мае службовыя абавязкі будзе ўключана нешта падобнае...

- Вы хочаце сказаць, што папросту ЎЦЯКАЕЦЕ?- ня верачы ўласным вушам, спытаўся Гары.- І гэта пасля ўсяго таго, што вы апісалі ў сваіх кнігах?

- Кнігі могуць і ў зман увесці,- далікатна адказаў прафесар.

- Гэта вы іх напісалі!- загаласіў Гары.

- Мой ты любы хлопчык,- выпрастаўшыся і хмура пазіраючы ў Гарыны вочы, прамовіў Локхарт,- дзе твой цвярозы розум. Ці ты думаеш, я бы прадаў хаця б палову з маіх кніг, калі б чытачы не думалі, што Я апісваю ўласныя прыгоды? Хто б з іх чытаў аб старым брыдкім армянскім чарнакніжніку, нават калі б ён выратаваў ад ваўкалакаў цэлую вёску. І як бы пачварна ён выглядаў на вокладцы. І апранаўся ён безгустоўна. А вядзьмарка, якая перамагла банданскую бэншы? У яе на падбароддзі валасы растуць. Я цябе прашу...

- То бок, вы прыпісвалі сабе тое, што рабілі іншыя?- з недаверам спытаўся Гары.

- Гары, Гары,- раздражнённа хістаючы галавой, прамовіў Локхарт,- ня ўсё так проста, як табе здаецца. Я доўга і цяжка працаваў. Мне трэба было знайсці гэтых людзей, распытаць іх у падрабязнасцях, як яны ўсё гэта зрабілі. А потым накласці на іх забывальную замову, каб яны больш не памяталі аб усім, што адбылося . Я маю адзіную здольнасць, якой сапраўды ганаруся, уменне карыстацца забывальнай замовай. Не, Гары, гэта была бясспрэчна агромістая праца. Слава гэта ня толькі падпісванне аўтографаў на кнігах і фатакартках. Хочаш славы, будзь гатовы да цяжкай і стомнай працы.

Ляпнуўшы крышкамі, ён зачыніў сваі валізы.

- Так, паглядзім,- дадаў ён.- Мяркую што ўсё гатова. Так. Засталася яшчэ адна справа.

Настаўнік выцягнуў з кішэні і накіраваў сваю палачку на Гары і Рона.

- Шалена выбачаюся перад вамі хлопцы, але цяпер мне давядзецца накласці забывальную замову на вас саміх. Ці то вы раскажыце ўсім маю маленечкую таямніцу і я больш не буду ў стане прадаць аніводнай кнігі...

Аднак, Гары апярэдзіў яго. Локхарт яшчэ толькі ўзнімаў палачку, а хлопчык ужо крыкнуў:

- ЭКСПЕЛІЯРМУС!

Прафесара кінула назад і, зачапіўшыся аб адну са сваіх валізаў ён паваліўся на падлогу. Рон схапіў яго ўзняўшуюся ў паветра палачку і шпурнуў у адчыненае вакно.

- Вы не павінны былі дазволіць прафесару Снэйпу навучыць нас гэтай замове,- люта прамовіў Гары і пхнуў нагой локхартаўскую валізу. Ізноў страціўшы самаўпэўненасць

Локхарт з падлогі зірнуў на Гары. Той усё яшчэ працягваў трымаць яго пад прыцэлам палачкі.

- Што вы хочыце ад мяне?- бездапаможна вымавіў настаўнік.- Я ня ведаю дзе знаходзіцца патаемная зала. Я анічым не магу вам дапамагчы.

- Вам пашанцавала,- заявіў Гары. Тыкаючы ў яго палачкай, ён прымусіў Локхарта падняцца з падлогі,- МЫ магчыцма ведаем дзе знаходзіцца зала. І ШТО за пачвара сядзіць усярэдзіне. Хадземце!

Хлопчыкі вывелі Локхарта з яго кабінэта і спусціўшыся сходамі, трапілі ў той самы цёмны калідор, дзе на сцяне луналі паведамленні ад спадкаемцы. Разам, яны накіраваліся ў прыбіральню Мармытухі Міртлы.

Першым ў прыбіральню пусцілі Локхарта. Гары задаволенна назіраў, як той дрыжыць.

Міртла сядзела на бачку ўнітаза ў самым дальнім кутку прыбіральні.

- А, гэта ізноў ты?- заўважыўшы Гары прамовіла яна.- Што на гэты раз?

- Раскажы нам, як ты памерла,- папрасіў яе Гары.

Аблічча Міртлы імгненна змянілася. Быццам яе аніколі не пыталіся аб настолькі прыемных рэчах.

- Оооо, гэта было сапраўды жахліва,- з задавальненнем на твары адказала яна.- Гэта здарылася тут, у гэтай самай кабінцы. Я ТАК добра памятаю гэты дзень. Я хавалася тут, бо Алівія Хорнбі здзеквалася з маіх акуляраў. Дзверы былі замкнёныя. Я сядзела сабе і плакала. Тут нехта ўвайшоў і пачаў даволі пацешна размаўляць. Я думаю гэта была нейкая іншаземная мова. Адзінае, што я сапраўды зразумела – гаворыў ХЛОПЧЫК. Я адамкнула кабінку ды  хацела сказаць яму, каб ён ішоў да сваёй прыбіральні і тут...- міртлін твар заззяў, яна паднялася ў паветра,- я ПАМЕРЛА.

- Як?- спытаўся Гары.

- Ня ведаю,- таямніча прашапатала яна.- Памятаю толькі, што ўбачыла два агромістых жоўтых вока. Маё цела знерухоміла, а мяне саму панясло прэчкі...- Міртла замроена паглядзела на Гары.- А потым я вярнулася. Я была перапоўненна жаданнем пераследваць Алівію Хорнбі. Вох, яна сапраўды пашкадавала, што калісь здзеквалася з маіх акуляраў.

- А дзе дакладна ты бачыла тыя вочы?- задаў пытанне хлопчык.

- Недзе там,- няўпэўненна кажучы на ракавіны, адказала прывідка.

Гары і Рон кінуліся туды, а Локхарт з невымоўным жахам на твары ўстаў як мага падалей ад іх.

Ракавіны былі самымі звычайнамі. Хлопцы даследвалі кожную іх цалю, нават аглядзелі трубы, але нічога асаблівага не знайшлі. І тут Гары ўбачыў, што на бакавіне аднаго з медных кранаў была выгравіявана маленечкая змейка.

- Гэты кран ніколі не працаваў,- ззяючы заявіла Міртла, калі Гары паспрабаваў яго пакруціць.

- Гары,- прапанаваў Рон.- Скажы што-небудзь. Штось на парсельтонге.

- Але,- Гары супыніўся. У мінулыя разы, ён пачынаў казаць парсельтонгам, толькі сустрэўшыся з сапраўднымі змеямі. Ён пільна вытарапіўся на гравіроўку, спрабуючы ўявіць, што змяя на ёй жывая.

- Адчыніся,- прамовіў ён.

Гары азірнуўся на сябра, аднак той толькі патрос галавою.

- Ты казаў ангельскаю,- заявіў Рон.

Гары зноў вытарапіўся на змейку, спрабуючы ўявіць, што яна жывая. Ён варухнуў галавою і тут, пад мігцеючым святлом свечак, яму падалося, што тая пачала рухацца.

- Адчыніся,- зноўку прамовіў ён.

Гэтым разам, замест звычайных слоў з яго вуснаў адчулася дзіўнае сыканне. Кран імгненна засвяціўся яскрава-белым святлом і пачаў круціцца. Следам, ракавіна на якой знаходзіўся кран апусцілася ў падлогу, адкрыўшы вялізарную трубу, досыць шырокую, каб праз яе мог пралезці дарослы чалавек.

Гары пачуў як вохнуў Рон і падняўшы вочы, зірнуў на сябра. Той быў перапоўнены рашучасці.

- Я іду ўсярэдзіну,- прамовіў Гары.

Ён не мог не пайсці. Не цяпер, калі яны знайшлі ўваход у патаемную залу і ў яго з’явілася хаця і даволі зманлівая надзея выратаваць Джыні.

- Я з табою,- заявіў Рон.

На хвіліну запанавала цішыня.

- Ну цяпер,- з ценям былой сваёй усмешцы на твары, сказаў Локхарт,- вы здаецца больш не маеце ўва мне патрэбы. Я мабыць...

Ён ужо было ўзяўся за ручку дзвярэй, аднак хлопцы імгненна нацэлілі на яго палачкі.

- Вы пойдзеце першым,- гыркнуў Рон.

Са збялелым тварам і застаўшыся без палачкі, Локхарт наблізіўся да трубы.

- Хлопцы,- саслабелым голасам прамармытаў ён.- Хлопчыкі, нашто я вам там здаўся?

Гары тузануў яго палачкай ў спіну. Прафесар засунуў ў адтуліну ногі.

- Насамрэч, я не думаю,- пачаў ён, але Рон пхнуў яго ў спіну і той слізгануўшы па трубе, знік з вачэй. Гары рушыў следам. Павольна, ён апусціў ў трубу ногі і разжаўшы рукі панесся наперад.

Хлопчык быццам слізгаў з бясконцай, склізкай, цёмнай горцы. Сям-там на Гарыным шляху траплялiся адгалінаванні, аднак ані не адно з ніх не было дастаткова вялікім. Ягоная труба крута спускалася ўніз і Гары здагадаўся, што ён знаходзіцца значна ніжэй за школу і нават ніжэй за школьныя падзямеллі. За спіною хлопчык чуў, як па заваротах трубы глуха слізгае Рон.

Гары ўжо пачаў непакоіцца, што будзе, калі ён дасягне канца трубы. І тут яна гарызантальна выгнулася і хлопчык з мокрым стукам прызямліўся на вільготную падлогу цёмнага каменнага тунэля у цалі ад Локхарта. Той ужо выпрастаўся. Ён быў белы як здань і з ног да галавы пакрыты слiззю. Гары адкаціўся ў бок, з трубы са свістам вяляцеў Рон. Яны азірнуліся. Тунэль быў дастаткова вялікі, каб у ім мажліва было стаяць у поўны рост.

- Мы пэўна ў колькіх мілях пад школай,- прамовіў Гары, яго голас рэхам пранесся па цёмным тунэлі.

- Хутчэй за ўсё недзе пад возерам,- азіраючы склізкія сцены, выказаў здагадку Рон.

Усе троя ўтаропіліся ў цёмную прастору тунэля.

- Люмас!- прамармытаў Гары, запальваючы святло на кончыку палачкі.- Хадземце,- сказаў ён Рону і Локхарту. Утраіх пляскаючы па пакрытай вадой падлозе яны рушылі ўздоўж тунэлю.

Тут было настолькі цёмна, што бачыць яны маглі толькі на адлегласці ў колькі футаў. У святле палачкі, хлопчыкі і настаўнік адбівалі на вільготныя сцены тунэлю жахлівыя цені.

- Памятайце,- ціха загадаў Гары, асцярожна рухаючымся наперад спадарожнікам,- як толькі пачуеце штосьці нагадваючае рух, адразу ж заплюшчвайце вочы...

Аднак у тунэлю было ціха, бы ў магіле. Першым громкім гукам за ўвесь час іхнага тут прабывання было гучнае ХРАБУСЦЕННЕ, калі Рон ступіў на нешта. Гэта быў пацучыны чэрап. Апусціўшы палачку, Гары аглядзеў падлогу, уся яна была ўкрыта косткамі дробных жывёлаў. Гары з усяе моцы сіліўся не думаць аб тым, што Джыні, калі яны яе знойдуць можа выглядаць гэдак жа. Цёмны тунэль па якому Гары вёў сваіх спадарожнікаў выгнуўся ўбок.

- Гары, там нешта ёсць...- схапіўшы сябра за плячо, прамовіў Рон.

Знерухоміўшы, яны пачалі ўглядацца ў цемру. Гары мог бачыць толькі абрысы. Абрысы чагосьці вялізнага, што выгнуўшыся ляжала пасярод тунэлю. Істота не варушылася.

- Магчыма спіць,- прашапатаў Гары. Ён азірнуўся на спадарожнікаў. Локхарт стаяў заціснуўшы вочы рукамі. Хлопчык зноў павярнуў галаву да істоты. Яго сэрца білася так хутка, што пачалі балець грудзі.

Вельмі павольна, амаль што заплюшчыўшы вочы і высока ўзняўшы перад сабой палачку, Гары зрабіў колькі крокаў наперад.

Ягоная палачка асвяціла агромістую, бліскучую, атрутна зялёную змяіную скуру, што скруціўшыся ляжала пасярод тунэлю. Істота, што пакінула яе была ня менш за дваццаць футаў у даўжыню.

- Анішто сабе,- слабым голасам прамовіў Рон.

За ягонай спіной адчуўся рэзкі рух. Гэта на падкасіўшыхся нагах, паваліўся на падлогу Гільдэрой Локхарт.

- Падымайцеся,- гыркнуў Рон, скіраваўшы на настаўніка сваю палачку.

Локхарт выпрастаўся... і адразу ж кінуўся на Рона, паваліўшы таго на падлогу.

Гары скочыў наперад, але ўжо было запозна. Локхарт выпрастаўся, трымаючы ў руках Ронаву палачку і ззяючы сваёй знакамітай ўсмешкай.

- Канец прыгодам, хлопчыкі!- заявіў ён.- Я вазьму кавалак гэтай скуры ў школу і скажу, што спазніўся і не паспеў ыратаваць дзяўчынку, а вы двоя убачыўшы яе спакутаванае цела, ДА ЖАЛЮ, страцілі свой розум. Ну, скажы «бывай» сваёй памяці!

Ён узняў замотаную сэлатэйпам Ронаву палачку па над сваёй галавою і прагаласіў:

- АБЛІВІЯТЭ!

З сілай невялічкай бомбы, палачка выбухнула. Закрыўшы галаву рукамі, Гары слізгаючы па падлозе пабег ўздоўж змяінай скуры, прэчкі ад абсыпаючайся вялізнымі кавалкамі столі тунэлю. Абярнуўшыся праз колькі імгненняў, хлопчык ўбачыў перад сваім тварам глухую сцяну з бітага камення.

- Рон!- крыкнуў ён.- Ты там як? Рон!

- Тут я!- пачуўся з-за каменнай сцяны глухі Ронаў голас.- Са мной усё файна. Чаго не сказаць пра гэтага куска мярзотніка... ён моцна пацярпеў ад маёй палачкі.

Адчуўся глухі стук і гучны войк. Як быццам Рон стукнуў Локхарта па галёнкам.

- І што цяпер рабіць?- прагучаў адчайдушны голас Рона,- Мы ня зможам прайсці наперад. Гэтую сцену мы будзем разбіраць колькі год...

Гары азірнуў тунэль. Яго столя была паўна расколінамі. Яшчэ ніколі ён не спрабаваў прабіць з дапамогаю магіі, штось настолькі аб'ёмнае, як гэта каменная сцяна і цяпер быў не надта зручны час да экперыментавання... тунэль мог абрушыцца цалкам.

Пачуўся чарговы глухі стук і чарговы локхартаўскі войк. Яны марна гублялі час. Джыні была ў патаемнай зале ўжо колькі гадзінаў. Гары ведаў, у яго засталося толькі адно выйсце.

- Чакай мяне там,- крыкнуў ён Рону. Пільнуй за Локхартам. Я пайду далей. Калі праз гадзіну я не вярнуся...

Павісла вельмі цяжкая паўза.

- Я паспрабую разабраць частку сцяны,- прамовіў Рон, яўна прыкладаючы значныя высілкі, каб яго голас не дрыжаў.- Каб ты змог... змог вярнуцца назад. І яшчэ, Гары...

- Убачымся пазней,- спрабуючы надаць упэўненасці свайму дрыготкаму голасу, крыкнуў Гары.

Ён рушыў далей уздоўж агромістай змяінай скуры.

Неўзабаве сціх шум Ронавай працы па разборцы камення. Тунэль колькі разоў мяняў свой напрамак. Кожным сваім нэрвам, Гары адчуваў непрыемнае ўзбуджэнне. Яму хацелася, каб тунэль нарэшце скончыўся, аднак разам з гэтым, ён баяўся таго, што пабачыць ў яго канцы. Нарэшце, пракраўшыся за чарговы паварот, Гары убачыў перад вачыма суцэльную сцяну, на якой былі выразаны дзве пераплеценыя між сабой змяі у вачніцах якіх зіхацелі вялізныя смарагды.

Гары рушыў наперад, у яго перасохла ў роце. Цяпер яму ня трэба было ўяўляць, што змеі перад яго тварам сапраўдныя. Іхныя вочы з каштоўнага камення выглядалі на дзіва жывымі.

Хлопчыку нават ня трэба было думаць, што рабіць далей. Ён пракхекаўся. Змеі нібыта падміргнулі яму смарагдавымі вочкамі.

- АДЧЫНІСЯ,- ціха прасыкаў Гары.

Змеі распляліся і каменная сцяна з грукатам адчынілася. Калоцячыся з галавы да ног, хлопчык прайшоў у адтуліну.

## — РАЗДЗЕЛ XVII —

### *Нашчадак Слізэрына*

Гары апынуўся у вялізнай, цмяна асветленай зале. Узоўж сцен стаялі, губляючы канцы ў цемры столі, агромістыя каменныя калоны абвітыя выразанымі на іх змеямі, адбіваючы ў дзіўным зялёным змроку залы на сцены і падлогу доўгія чорныя цені.

Яго сэрца шалена грукатала ў грудзях, Гары прыслухаўся да халоднай цемры пакою. Можа недзе тут за калонамі, яго падпільноўвае базіліск? І куды падзелася Джыні?

Ён рушыў наперад трымаючы перад сабой палачку і звузіўшы вочы, гатовы іх заплюшчыць, як толькі пачуе хоць якую прыкмету руху. Яму мроілася што пустыя вачніцы выразаных на слупах змей назіраюць за ім. Колькі разоў у Гары ледзь не выскачыла сэрца, калі яму падалося, што сякая-такая з іх паварушылася.

Як толькі хлопчык прамінуў апошнія дзве калоны, перад яго вачыма паўстала агромістая прытулённая да задняй сцяны залы статуя.

Гары прыйшлося высока задраць галаву, каб паглядзець на агромісты твар статуі – ён быў старажытным і малпападобным, з танюткай, аднак даўжынёй амаль да падлогі барадой. На падлозе, ля самых ног статуі, Гары ўбачыў ляжалую тварам ўніз маленечкую фігурку ў чорнай мантыі і кучмай рудых валасоў на галаве.

- ДЖЫНІ!- прамармытаў Гары і кінуўшыся да дзяўчынкі апусціўся ля яе на калені.- Джыні! Не памірай! Калі ласка не памірай!- ён адкінуў палачку ўбок і схапіўшы Джыні за плечы перагарнуў яе тварам ўгару. Твар дзяўчынкі быў мармурова-белым, яна ўся схаладзела, але яе вочы былі заплюшчаны, таму скамянець яна не магла. Тады можа яна...

- Джыні, калі ласка прачніся,- мармытаў Гары ў адчаі хістаючы дзяўчынку. Але яе галава, толькі бязвольнаківалася з боку ў бок.

- Яна не прачнецца,- прамовіў нечый мягкі голас.

Гары ўздрыгануўся і павярнуўся на каленях да гаварылага.

Прытуліўшыся да бліжэйшай калоны, стаяў і назіраў за Гары, высокі, чарнявы хлопец. З бакоў хлопец выглядаў крыху размытым, быццам на яго глядзелі праз спатнелае шкло, але Гары не сумняваўся ў тым, каго бачыць.

- Том... ТОМ РЭДЛ?

Не адрываодзячы вачэй ад Гарынага твару, Рэдл ківнуў.

- Ты сказаў, што яна не прачнёцца,- з адчаем спытаўся Гары,- Яна... Яна ж не..?

- Пакуль што, яна жыва,- адказаў Рэдл,- але ледзь-ледзь.

Гары вытарапіўся на хлопца. Том Рэдл вучыўся ў Хогвартсе пяцьдзесят год таму, аднак, цяпер, у цмянымі святле, ён стаяў перад Гарынымі вачыма, гэткім жа шаснаццацігадовым падлеткам, не пастарэўшым ані на адзін дзень.

- Ты прывід?- сумняваючыся, спытаўся Гары.

- Я ўспамін,- спакойным голасам адказаў Рэдл.- Успамін, захаваны ў гэтым дзённіку пяцьдзесят год таму.

Хлопец паказаў кудысьці ля падножжа статуі. Там ляжала раскрытая невялічкая чорная кніжачка, якую Гары калісь знайшоў у прыбіральне Мармытухі Міртлы. Імгненне-другое,

Гары разважаў, як дзённік сюды трапіў... аднак важлівей было атрымаць адказ на іншыя пытанні.

- Хадзем, дапаможаш мне, Том,- зноўку падымаючы Джыніну галаву, прамовіў ён.- Трэба выцягнуць яе адсюль. Тут недзе хаваецца базіліск... Дакладна ня ведаю дзе, але ён можа аб’явіцца тут у любы момант. Калі ласка, дапамажы...

Рэдл ані не паварушыўся. З цяжкасцю ў Гары атрымалася прыпадняць Джыні па-над падлогаю. Потым, хлопчык нахіліўся, каб падабраць палачку.

Але на падлозе яе не было.

- Ты, часам не бачыў..?

Гары ўзняў вочы. Рэдл па ранейшаму назіраў за ім... аднак цяпер, ён яшчэ і круціў у сваіх доўгіх пальцах Гарыну палачку.

- Дзякуй,- сказаў хлопчык, працягваючы руку за палачкай.

Куточкі Рэдлавых вуснаў, скрывіліся ва ўсмешку. Ён працягваў глядзець на Гары і круціць яго палачку.

- Паслухай,- нецярпліва сказаў Гары, яго калені падгіналіся пад вагаю Джынінага цела.- НАМ ТРЭБА СПЯШАЦЦА! Калі тут аб’явіцца базіліск...

- Ён не аб’явіцца, пакуль яго не паклічаш!- спакойна заявіў Рэдл.

Ня маючы больш сілаў далей трымаць яе на руках, Гары апусціў Джыні на падлогу.

- Што ты хочаш сказаць гэтым?-спытаўся ён.- І яшчэ, вярні палачку, яна мне патрэбна.

Рэдл усміхнуўся шырэй.

- Яна больш не патрэбна цябе,- прамовіў ён.

Гары здзівіўлена вытарапіўся на юнака.

- Пра што ты такое кажаш, я не..?

- Я так доўга чакаў, Гары Потэр,- адказаў Рэдл.- Я так спадзяваўся калісь убачыць цябе. Пагаманіць з табой.

- Чакай,- прамовіў, губляючы цярпенне, Гары,- Зараз не да гэтага. Мы ў ПАТАЕМНАЙ ЗАЛЕ. Давай паразмаўляем адно з адным пазней.

- Мы паразмаўляем цяпер,- адказаў Рэдл. Па-ранейшаму шырока ўсміхаючыся, ён паклаў Гарыну палачку ў сваю кішэню.

Гары вытарапіўся на хлопца. Ён разумеў, што тут тварыцца нешта больш чым дзіўнае.

- Як у цябе атрымалася зацягнуць сюды Джыні?- павольна спытаўся ён у Рэдла.

- О, гэта цікавае пытанне,- задаволенна адказаў юнак.- Насамрэч, гэта доўгая гісторыя. Справа ў тым, што Джыні Візлі апынулася ў гэтым месцы толькі таму, што яна раскрыла свае сэрца і паведаміла ўсе свае сакрэты аднаму таямнічаму незнаёмцу.

- Гэта ты пра каго?- спытаўся хлопчык.

- Я пра дзённік,- адказаў Рэдл,- МОЙ дзённік. Месяц за месяцам малая Джыні пісала ў ім, давяраючы мне ўсе свае нікчэмныя клопаты і турботы. Пісала пра тое, што яе ДРАЖНЯЦЬ браты, што павінна ісці ў школу ў мантыі і з падручнікамі з сэканд-хэнда, што,- Рэдлавы вочы заблішчэлі,- што ніколі не прыйдзецца да СПАДОБЫ найвядомейшаму, любаму і вялікаму Гары Потэру...

Увесь той час, што Рэдл казаў, ён ані на імгненне не адводзіў вачэй з Гарынага твару. Ён толькі што не пажыраў Гары сваімі вачыма.

- Як жа гэта НУДНА, слухаць аб дурных запарах адзінаццацігадовай дзяўчынкі,- працягваў Рэдл.- Але я быў цярплівым. Я адказваў ёй, спачуваў, быў з ёй добрым. Джыні папросту ЗАКАХАЛАСЯ ў мяне. «Ніхто не разумее мяне так як ты, Том»... «Якое шчасце, што мне ў рукі трапіў гэты дзённік, толькі яму аднаму я магу даверыцца.».. «Ён быццам добры сябра, якога можна паўсюль цягаць у сваёй кішэні...»

Юнак засмяяўся халодным высокім смехам, які не пасаваў яму. Ад гэтага смеху на Гарынай патыліцы заварушыліся валасы.

- Скажу табе, Гары, я заўжды мог зачараваць людзей, у якіх меў патрэбу. Калі Джыні выліла на мае старонкі сваю душу, гэта было самае то, што было мне трэба. Я рабіўся ўсё мацней і мацней, сілкуючыся самымі глыбокімі яе страхамі, самымі цёмнымі таямніцамі. Нарэшце я зрабіўся магутным, значна больш магутным за малую міс Візлі. Дастаткова магутным, каб распачаць сілкаваць міс Візлі СВАІМІ сакрэтамі і пакрысе выліваць у ЯЕ душу, СВАЮ ўласную...

- Ты гэта пра што?- ушчэнт перасохлымі вуснамі спытаўся Гары.

- Хіба ты яшчэ не здагадаўся, Гары Потэр?- мягка прамовіў Рэдл.- Гэта Джыні Візлі адчыніла патаемную залу. Гэта яна задушыла школьных пеўняў і выпэцкала сцяну паведамленнямі. Гэта менавіта яна нацкавала слізэрынскую змяю на тых чатырох глеекровак і сквібаву котку.

- Ані,- прашапатаў Гары.

- Так,- стрымана прамовіў Рэдл.- Вядома ж, першы час яна не аб чым не ЗДАГАДВАЛАСЯ і гэта было такім пацешным. Змяніліся і яе запісы ў маім дзённіку... Яны зрабіліся значна цікавейшымі... «Даражэнькі Том,- прамовіў ён, гледзячы на перапалоханы твар Гары,- здаецца, я губляю памяць. Уся мая мантыя ў курынным пер’е, але я ані не памятаю, як яно там апынулася».»Даражэнькі Том, я зусім ня памятаю, што рабіла той хэлоўінскай ноччу, калі адбыўся напад на котку, але спераду ўся мая мантыя была перапэцкана фарбай». «Любы Том, Персі ўвесь час паўтарае, што я вельмі бледная і сама на сябе не падобная. Думаю, ён у нечым падазрае мяне»... «Сёння адбыўся чарговы напад і я зноў ня ведаю, дзе была ў той час. Скажы, Том, што мне цяпер рабіць? Здаецца, я з’яжджаю з глузду»... «Том, мне здаецца, што гэта я раблю ўсе гэтыя напады!»

Гары сціснуў кулакі так моцна, што яго пазногці глыбока ўрэзаліся ў далоні.

- Дурной маленькай Джыні спатрэбілася зашмат часу, каб страціць давер да майго дзённіка,- працягваў юнак.- І, нарэшце, яна зрабілася падазронай і паспрабавала ад яго пазбавіцца. І тут аб’явіўся ТЫ, Гары. Ты падабраў яго і я быў больш чым задаволен. Бо з усіх людзей да якіх ён мог трапіць у рукі, менавіта ТЫ, быў чалавекам з якім я больш за ўсё жадаў сустрэцца...

- І чаму ж ты хацеў сустрэцца са мной?- спытаўся Гары. Ён ужо ашалеў ад злосці і прыкладаў значныя намаганні, каб яго голас гучаў спакойна.

- Ну, разумееш, Джыні ўсё распавяла пра цябе,- адказаў Рэдл,- усю тваю НЕВЕРАГОДНУЮ гісторыю,- юнак уперыўся, зрабіўшыміся яшчэ больш галоднымі вачыма, у шнар-маланку на Гарыным ілбе.- Я ведаў, што мне надта трэба даведацца пра цябе яшчэ больш, я жадаў пагаварыць, сустрэцца з табой. Таму, я вырашыў паказаць цябе мой трыюмфальны злоў, гэтага агромістага ёлупа, Хагрыда і тым, заваяваць твой давер.

- Хагрыд – мой сябра,- заявіў Гары, яго голас пачаў дрыжаць.- А ты яго ілжыва абвінаваціў. Спачатку, я вырашыў, што ты папросту памыліўся, а ты...

Рэдл зноўку пачаў высока і злавесна смяяцца.

- Так, Гары, маё слова сыграла супраць Хагрыда. І сам паглядзі, хто больш выгодна глядзеўся ў вачах старога Арманды Дзіпета. З аднаго боку Том Рэдл – бедны, але таленавіты, сірата, але такі АДВАЖНЫ, прэфект, медаліст; а з другога - вялізны і нязграбны Хагрыд, які трапляў у непрыемнасці кожныя два тыдні – ці то спрабуючы вырошчваць у сябе пад ложкам ваўкалаканят, ці то ў потай бегаючы ў Забаронены лес, каб змагацца там з тролямі. Аднак, нават я сам здзіўляюся, наколькі добра спрацаваў мой план. Я меркаваў, што хоць ХТОСЬЦІ здагадаецца, што Хагрыд ня можа быць спадкаемцам Слізэрына. Нават Я патраціў пяць год, на то, каб высветліць усё магчымае аб патаемнай зале і знайсці яе ўваход... і ці мог гэта зрабіць Хагрыд, які ня меў ані розума, ані моцы!

- Здавалася, адзін толькі Дамблдор - настаўнік ператварэнняў верыў у невінаватасць Хагрыда. Ён пераканаў Дзіпета пакінуць Хагрыда ў школе, як вучня брамніка. Мяркую, Дамблдор аб нечым здагадваўся. Ён ніколі не любіў мяне так моцна, як іншыя настаўнікі...

- Іду ў заклад, Дамблдор наскрозь цябе бачыў,- сціснуўшы зубы прамовіў Гары.

- Нават пасля таго, як Хагрыда выключылі, Дамблдор працягваў надакучліва блізка хадзіць ля мяне,- абыякава заявіў Рэдл.- І я ведаў, што траплю ў бяду, калі зала будзе адчынена да таго, як я скончу Хогвартс. Аднак, я не жадаў змарнаваць доўгія гады, страчаныя на пошук. Таму, я вырашыў пакінуць гэты дзённік, каб на яго старонках захаваць сябе шастнаццацігадовага. І каб аднойчы ў будучым, калі выпадзе шанец, я змог правесці сваім шляхам кагось іншага і скончыць высакародную справу Салазара Слізэрына.

- Ну, у цябе не атрымалася яе скончыць,- пераможна сказаў Гары.- У гэты раз ані ніхто не памёр, нават котка. А праз колькі гадзінаў сконыцца гатоўка мандрагоравых лекаў і ўсе скамянелыя зноўку ажывуць.

- Хіба ж я ўжо не казаў цябе,- спакойным голасам прамовіў юнак,- мяне больш не цікавіла забойства глеекровак? Вось ужо колькі месяцаў, адзінай маёй мэтаю быў... ТЫ.

Хлопчык здзіўлена вытарапіўся на Рэдла.

- Уяві сабе, як моцна я раззлаваўся, калі мой дзённік у чарговы раз адкрылі і пісала туды зноўку Джыні, а не ты.Яна ўбачыла дзённік у цябе, убачыла і запанікавала. Што калі ты даведаешся, як ім карыстацца і я раскажу табе ўсе яе сакрэты? Ці яшчэ горш, што калі я раскажу табе, хто на самой справе душыў тых пеўняў? Таму, гэтая малая дурында забралася ў тваю спальню, пакуль там нікога не было і скрала дзённік. Але я ўжо ведаў што рабіць. Для мяне было зразумела, што раней ці пазней ты трапіш на след спадкаемцы Слізэрына. А з таго што Джыні расказала пра цябе, я ведаў, што ты на ўсё пойдзеш, каб разгадаць гэтую таямніцу... асабліва, калі будзе атакаваны хтосьці з тваіх сяброў. А яшчэ, дзяўчынка расказала мне, што ўся школа пляткарыць з таго, што ты можаш размаўляць на парсельтонгу...

- Я зрабіў так, каб Джыні, пакінуўшы на сцяне развітальны надпіс, прыйшла сюды. Яна змагалася са мной, крычала, яна зрабілася ТАКОЙ нудотнай. Але ў ёй было ўжо замала сілы, амаль усю сваю сілу Джыні аддала дзённіку. І гэтай сілы было дастаткова, каб у

мяне атрымалася пакінуць свае старонкі. Ад таго моманту, як мы прыйшлі сюды, я чакаў, пакуль з'явішся ты. Я добра ведаў, што ты не ў стане зрабіць інакш. І я маю да цябе шмат пытанняў, Гары Потэр.

- Якія яшчэ пытанні?- выпаліў Гары, усё яшчэ працягваючы сціскаць кулакі.

- Ну, напрыклад такое,- вясёла ўсміхаючыся, сказаў Рэдл,- як у цябе, немаўляці, без аніякіх асаблівых магічных здольнасцяў, атрымалася перамагчы найвялікшага чарадзея ўсіх часоў? Як ТЫ абыйшоўся ўсяго толькі невялічкім шнарам, а Лорд Вальдэморт згубіў усю сваю моц?

У яго прагных вачах бліснуў чырвоны агеньчык.

- І чаму цябе гэта цікавіць?- павольна спытаўся Гары,- Вальдэморта не было ў твой час.

- Вальдэморт,- мягка прамовіў юнак,- маё мінулае, мая сучаснасць і будучыня, Гары...

Ён выцягнуў з кішэні Гарыну палачку і пароста ў паветры напісаў:

*«ТОМ ВАЛЬДОР РЭДЛ»*

Махнуўшы палачкай, ён перамяшаў літары і тыя склаліся ў іншае імя:

*«ЛОРД ВАЛЬДЭМОРТ»*

- Разумееш,- прашапатаў ён,- гэтым імем я карыстаўся ўжо ў Хогвартсе, але яго, канечне, ведалі толькі самыя мае блізкія сябры. Ці ты думаеш, я усё жыццё збіраўся карыстацца брыдотным маглаўскім імем свайго бацькі? Я, той у чыіх жылах па матчынай лініі цячэ кроў самога Салазара Слізэрына, пакінуў бы сабе дурное імя простага магла, як да таго ж пакінуў маю маці яшчэ да майго нараджэння, толькі таму, што даведаўся, што яна вядзьмарка? Не, Гары, не. Я стварыў сябе новае імя. І я дакладна ведаў, што аднойчы, калі я зраблюся найвялікшым чараўнікам свету, яго будзе баяцца вымаўляць увесь чароўны люд!

Гары падалося, бы яго мозг хтосьці сціснуў. Ён вытарапіўся на Рэдла, звычайнага хлопчыка-сірату, які зрабіўшыся дарослым заб'е яго бацькоў і яшчэ шмат каго іншага... Нарэшце, Гары прымусіў сябе вымавіць:

- Гэта не ты,- Гарын ціхі голас быў перапоўнены нянавісцю.

- Што, не я?- гыркнуў Рэдл.

- Не ты, найвялікшы чараўнік свету,- шпарка дыхаючы, заявіў хлопчык.- Вымушаны расчараваць цябе, але найвялікшы чараўнік свету – Альбус Дамблдор. Пра гэта ўсе кажуць. Больш таго, нават калі ты быў моцным ты не адважваўся напасці на Хогвартс. Дамблдор бачыў цябе наскрозь, яшчэ калі ты вучыўся ў школе і там, дзе ты зараз хаваешся, ты па-ранейшаму баішся яго.

Усмешка знікла з Рэдлава твару і ён зрабіўся вельмі брыдкім на выгляд.

- Дамблдора выгнаў з замку ўсяго толькі мой УСПАМІН!- прасыкаў ён.

- Ён не пакінуў замак так, як ты думаеш!- парыраваў Гары. Ён сказаў гэта наўздагад, толькі, каб напужаць Рэдла. Яму самому ня верылася, што гэта праўда.

Юнак ужо адчыніў была рота, але супыніўся.

Невядома адкуль у зале адчулася музыка. Рэдл закруціў галавою, азіраючы пусты пакой. Музыка рабілася ўсё грамчэй і грамчэй. Гэта тагасветная музыка выклікала страх, казытала нэрвы, ад яе на Гарынай патыліцы ўздыбіліся валасы, хлопчыку падалося, што яго сэрца зрабілася ўдвая больш вялікім. І вось калі музыка дасягнула такой моцы, што Гары адчуў, як яна вібруе ўва ўсім яго целе, на вяршыні бліжэйшага слупа ўспыхнула святло.

Пад скляпеністай столлю аб'явілася малінавая, памерам з лебедзя птушка і дзіўная музыка была яе спевам. Птушка мела доўгі, як у паўліна, залаты хвост і ў залатых сваіх кіпцюрах несла нейкі пацыраваны скрутак.

Яна імкліва кінулася да Гары, кінула скрутак да яго ног і павольна апусцілася хлопчыку на плячо. Птушка склала свае доўгія крылы і Гары, азірнуўшыся, убачыў яе вострую залатую дзюбу і чорныя пацеркі вачэй.

Птушка больш не спявала, ціха і прыязна, яна сядзела ля Гарынай шчакі, пазіраючы на Рэдла.

- Фенікс...- прамовіў юнак, уперыўшыся вачыма ў птушку.

- ФОЎКС?- шапнуў Гары, птушка далікатна сціснула яго плячо залатымі кіпцюрамі.

- А што ГЭТА..?- спытаўся Рэдл, пазіраючы на скрутак, які прынес фенікс.- Стары школьны сартавальны капялюш?

Так, гэта быў ён. Стары, зношаны і брудны, ля Гарыных ног ляжаў сартавальны капялюш.

Рэдл зноў зарагатаў. Так моцна, што яго рогат адбіваючыся ад сценаў залы, прымушаў думаць, што смяяліся адразу дзесяць Рэдлаў.

- Дык вось, што дасылае Дамблдор для дапамогі сваім абаронцам? Пявучую птушку і стары капялюш! Ці ты па ранейшаму маеш адвагу, Гары Потэр? Ці ты цяпер адчуваеш сябе ў бяспецы?

Гары не адказаў яму. Ён не разумеў, як выкарыстоўваць Фоўкска і капялюш, але цяпер ён ужо ня быў адзін і з усё ўзнімаючайся мужнасцю, чакаў пакуль Рэдл скончыць смяяцца.

- А цяпер да справы,- па-ранейшаму шырока ўсміхаючыся прамовіў юнак.- Двойчы... у ТВАІМ мінулым... у МАЁЙ будучыні мы сустракаліся з табой. Двойчы я спрабаваў забіць цябе. ЯК У ЦЯБЕ АТРЫМАЛАСЯ ВЫЖЫЦЬ? Скажы мне. І чым даўжэй ты будзеш распавядаць,- ціха дадаў ён,- тым даўжэй застанешся ў жывых.

Гары разважаў хутка. Рэдл меў палачку. У яго былі толькі Фоўкс і капялюш, ані водзін з іх ня меў карысці ў двубоі. Яго становішча было на дзіва незайздросным. Аднак, чым даўжэй Рэдл заставаўся тут... тым больш скарачалася жыццё Джыні. Нечакана, Гары заўважыў, што Рэдлава постаць робіцца ўсё больш выразнай. І калі іх бойка з Рэдлам павінна адбыцца, чым раней яна пачнецца тым будзе лепш.

- Ніхто ня ведае, чаму ты страціў сваю моц,- нечакана заявіў Гары.- І я таксама. Аднак я ведаю, чаму ў цябе не атрымалася ЗАБІЦЬ мяне. Гэта адбылося таму, што мая маці загінула, ратуючы маё жыццё. Так, мая простая МАГЛАНАРОДЖАНАЯ маці,- дадаў ён, калоцячыся ад стрымліваемай нянавісці.- Яна не дала забіць мяне. І яшчэ, я бачыў цябе сапраўднага, мы сустрэліся з табой у мінулым годзе. Ты разваліна. Ты ледзь жывы. Вось да чаго давяла цябе твая магутнасць. Ты ўцякач. Брыдота! Пшык!

Рэдлаў твар скрывіўся. Аднак праз імгненне, ён прымусіў сябе гідка ўсміхнуцца.

- Вось яно што. Твая маці загінула ратуючы цябе. Гэта наймагутнейшая супрацьзамова. І цяпер я бачу... у цябе няма анічога асаблівага. Ведаеш, я тут падумаў. Паміж намі, Гары Потэр, дзіўнае падабенства. Нават ты павінен быў гэта заўважыць Мы абодва паўкроўкі, абодва сіроты, абодва выхоўваліся сярод маглаў. І абодва, напэўна, адзіныя парсельмоўцы ў Хогвартсе, ажно з часоў вялікага Слізэрына. Мы нават ВЫГЛЯДАЕМ амаль што аднолькава... Аднак, у рэшце рэшт, толькі шчаслівая выпадковасць дала цябе ўратавацца. Гэта ўсё, што я хацеў ведаць.

Гары напружана стаяў, чакаючы калі Рэдл узніме палачку. Але крывая ўсмешка, юнака зноўку пашырылася.

- А цяпер, Гары Потэр, я б хацеў даць табе невялічкі ўрок. ШТО, сапраўды можа сіла Лорда Вальдэморта, нашчадка Слізэрына, супраць славутага Гары Потэра і лепшай зброі, якую мог яму даць Дамблдор.

Вясёлым поглядам, ён акінуў Фоўкса і сартавальны капялюш і адыйшоў прэч. Жах разліўся па зацеклых нагах Гары. Рэдл супыніўся між дзвума калоннамі і ўзняў вочы да ўтоенага ў паўзмроку каменнага твару Слізэрына. Ён атрыў рота і адтуль пачулася сыканне... аднак Гары зразумеў, што кажа юнак.

- Прамові да мяне, Слізэрын, найвялікшы з хогвартскай чацвёркі.

Гары азірнуўся і паглядзеў на статую, на яго плячы загайдаўся Фоўкс.

Агромісты каменны твар Слізэрына заварушыўся. Ахоплены жахам хлопчык назіраў, як рот статуі робіцца ўсё шырэй, пакуль не ператварыўся на вялізарную чорную дзіру.

І тут нешта заварушылася. Яно выпаўзала з глыбіні статуі праз яе каменныя вусны.

Гары пачаў адступаць наперад спіною, пакуль не натрапіў на цёмную сцяну залы. Яго вочы былі прыжмураны. І тут ён адчуў, як крануўшы яго па шчацэ, Фоўкс кудысьці адляцеў. Гары хацеў крыкнуць феніксу, каб той не пакідаў яго... але што магла зрабіць нейкая птушка супраць змяінага князя?

Нешта агромістае апусцілася на каменную падлогу залы, Гары адчуваў як яна задрыжэла. Хлопчык ведаў што адбываецца, ён амаль што бачыў, як агромістая змяя выпаўзае з каменных вуснаў Слізэрына.

- Забі яго,- пачулася сыканне Рэдла.

Базіліск заслізгаў у Гарыным напрамку, хлопчык чуў, як грузлае цела пачвары рушыць па пыльнай падлозе. Працягваючы шчыльна прыжмурывацца, Гары навослеп, выцягнуўшы руку, каб намацваць сабе шлях, кінуўся бяжаць. Рэдл зноўку зарагатаў...

Хлопчык спатыкнуўся. Ён паваліўся на цвёрдую каменную падлогу і адчуў у роце смак крыві. Базіліск быў у фуце ад яго і Гары чуў гэта.

Панад яго галавой нешта быццам выбухнула і штосьці неверагодна цяжкое стукнула хлопчыка так, што ён гвазлануўся аб сцяну. Гары чакаў, што зараз у яго цела ўвап’юцца атрутныя базіліскавы іклы, аднак замест гэтага ён пачуў вар’яцкае сыканне змяі і шаленае грукатанне па каменных калонах.

Гары ня ўтрымаўся. Ён крыху расплюшчыў вочы, каб зірнуць, што адбывалася.

Вялізарны, тоўсты як ствол дуба, змей выцягнуў угару сваё бліскучае атрутна зялёнае цела і ківаючыся нібы п’яны, шалена біўся тупаносай галавой па слупах. Гары пачало калаціць, ён быў гатовы зноўку прыжмурыцца, як толькі базіліск павярне галаву ў яго бок. І тут хлопык заўважыў, што адцягвала ўвагу пачвары.

Вакол базіліскавай галавы кружляў Фоўкс, а той у адказ намагаўся хапнуць яго сваімі доўнімі і тонкімі, бы шаблі атрутнымі іклами.

Фенікс кінуўся на базіліска. Яго залатая дзюба схавалася па-за межы зроку і тут нечакана на падлогу абрынулася плынь чорнай крыві. Пачвара тузанула хвастом, ледзь не зачапіўшы Гары і перш, чым хлопчык паспеў прыжмурыцца, павярнула да яго сваю галаву. Гары глядзеў базіліску прама ў пысу і бачыў, што ягоныя вочы, ягоныя агромістыя круглыя, жоўтыя вочы былі раздзерты феніксавай дзюбай, а з вачніц лілася кроў. Базіліск сыкаў у агоніі.

- Не!- загаласіў Рэдл.- Кінь птушку! Кінь яе! Хлопчык стаіць за тваёю спіной! Ты ўсё яшчэ можаш счуць яго! Знайдзі яго і забей!

Базіліскківаў галавою, абязладжаны, але ўсё яшчэ смертаносны. Фоўкс, спяваючы жудасную песню, кідаўся на таго, сям-там дзюбаючы пачвару ў лускаты нос. З раздзертых базіліскавых вачэй працягвала хвастаць кроў.

- Дапамажыце, дапамажыце мне,- шалена мармытаў Гары.- Дапамажыце хто-небудзь!

Пачвара зноўку грукнула па падлозе хвастом. Гары адхістнуўся. І тут нешта мягкае трапіла яму ў твар.

Сваім хвастом базіліск кінуў ў Гарыны рукі сартавальны капялюш. Гары паглядзеў на яго. Гэта быў апошні шанец, які ў хлопчыка яшчэ заставаўся. Ён нацягнуў капялюш на галаву і зноўку кінуўся на падлогу, калі па-над ім пранесся базіліскаў хвост.

- Дапамажы, дапамажы мне,- шалена думаў Гары, утаропіўшы вочы ў падкладку.- Калі ласка, дапамажы!

Капялюш не адказаў. Замест гэтага, Гары пачуў як той сціснуўся, як быццам яго моцна схапіла нябачная рука.

Потым у Гарыну патыліцу стукнулася нешта цвёрдае і цяжкое, ледзь яго не аглушыўшы. Перад вачамі хлопчыка паплылі зорачкі, ён сцягнуў капялюш з галавы і адчуў усярэдзіне нешта цвёрдае.

У капелюшы ляжаў бліскучы срэбны меч, рукаяць якога была аздоблена лаламі велічынёй з яйка.

- Забі хлопца! Кінь птушку! Хлопец за тваёй спіною! Счуй... адшукай яго па паху!

Гары ўскочыў на ногі, гатовы да змагання. Базіліск, скручывачы ў кольцы сваё цела апускаў галаву, стукаючыся ёй па калонах. Хлопчык бачыў скрываўленыя вачніцы пачвары, яе пашчу, дастаткова вялізную, каб праглынуць яго цалкам., а ў пашчы іклы, доўгія, бы ягоны меч, тонкія, бліскучыя, атрутныя...

Базіліск кінуўся навослеп. Гары паспеў ухіліцца і пачвара трапіла ў сцяну залы. Базіліск кінуўся другі раз, шукаючы хлопчыка сваім падвоеным языком. Гары моцна схапіў меч абедзвума рукамі.

На гэты раз пачвара не прамахнулася. Націснуўшы ўсёй сваёй вагой на меч, Гары па рукаяць усадзіў яго ў змяіную пашчу.

Па Гарынай зброё пацякла гарачая кроў і тут Гары адчуў пякучы боль вышэй локця. Адзін доўгі атрутны ікол глыбока глыбока ўвайшоў у ягоную руку і абламаўся, калі базіліск, торгаючыся, паваліўся на падлогу.

Па сцяне Гары споўз на падлогу. Моцна ўхапіўшыся, ён вырваў з рукі ікол, які працягваў распаўсюджваць атруту па яго крыві. Але хлопчык ведаў, што спазніўся.

Пякучы боль павольна разліваўся па ўсяму яго целу. Гары адкінуў ікол у бок і зірнуў на сваю вымаклую ў крыві мантыю. Яго розум затуманіўся і ўся зала растварылася ў віры каляровых плям.

Пляма пунсовага колеру, апусцілася побач і Гары пачуў стук кіпцюроў па падлоге.

- Фоўкс,- ледзь рухаючы языком, прамармытаў Гары.- Сёння ты быў пышным, Фоўкс...- хлопчык пачуў, як фенікс апусціў сваю прыгожую галаву на ягоную руку, як раз ў тым месцы дзе яе праццяў ікол базіліска.

Гары пачуў рэха крокаў і ўбачыў, як па-над ім схіліўся нечый чорны цень.

- Ты паміраеш, Гары Потэр,- прамовіў голаса Рэдла,- паміраеш. І нават Дамблдорава птушка ведае гэта. Здагадайся, Потэр, што яна цяпер робіць? Яна плача.

Гары міргнуў. Ён то мог то не мог бачыць галаву фенікса. З яго вачэй цяклі буйныя, жамчужныя слёзы.

- Я пасяджу тут і пагляджу, як ты паміраеш. І ня трэба спяшацца. Я маю досыць часу.

Гары адчуваў дрымотнасць. Перад яго вачыма ўсё круцілася.

- Вось і прыйшоў канец славутаму Гары Потэру,- як быццам здалёка, прамовіў Рэдл.- Ён адзін, тут ў патаемнай зале, без аніякіх сяброў, нарэшце пераможаны Цёмным Лордам, якому так неабачліва кінуў выклік. Хутка ты сустрэнешся, Гары, са сваёй маткай-глеекроўкай... Яна набыла дзеля цябе дванаццаць лішніх год... аднак у рэшце рэшт ты трапіў у рукі Лорду Вальдэморту і сам павінен быў разумець, што яно так і будзе.

Гары падумаў, што калі гэта смерць, то яна ані не страшная. Нават боль пачаў сціхаць...

Аднак, ці было гэта смерцю? Замест таго, каб ператварыцца на цемру, зала ізноў набыла выразныя абрысы. Гары злёгку пахістаў галавой і ўбачыў Фоўкса, які па-ранейшаму туліў галаву да ягонай рукі. Жамчужныя слёзы фенікса свяціліся вакол раны... але самой раны ЎЖО не было.

- А ну, прэч,- нечакана ўсклікнуў Рэдлаў голас.- Прэч ад яго, птушка. Я каму кажу, ПРЭЧ!

Гары прыпадняў галаву. Рэдл нацэліў ягоную палачку на фенікса, з яе кончыка, як быццам пачуўся стэл і Фоўкс ізноўку залаціста-чырвонай віхурай ўзляцеў у паветра.

- Слёзы фенікса...- ціха сказаў юнак, пазіраючы на Гарыну руку.- Канечне... як я мог забыцца... іх гаючая сіла...

Ён зірнуў у Гарыны вочы.

- Але, ці мае гэта сэнс? На самой справе, так нават лепей. Давай... цяпер толькі ты і я...

Ён узняў палачку.

І тут пачуліся таропкія махі крылля. Высока па-над іх галовамі ляцеў Фоўкс. Нешта павалілася на Гарыны калені... і гэта быў ДЗЁННІК.

Дзелю секунды, Гары і Рэдл, які ўсё яшчэ трымаў палачку паднятай, глядзелі на чорную кніжку. Нечакана, нават не думаючы, як быццам з самога пачатку хацеў гэта зрабіць, хлопчык схапіў з падлогі зуб базіліска і ўсадзіў яго ў дзённік.

Пачуўся доўгі, жудасны, пранізлівы енк. З дзённіка фантанам пырснулі чарнілы, сцякаючы па Гарыным рукам на каменную падлогу. Рэдл скурчыўся, замахаў рукамі і...

Знік. Гарына палачка з грукатам павалілася на падлогу і надыйшла цішыня. Цішыня, якую парушалі толькі КРАПАННЕ чарнілаў з дзённіка. Базіліскава атрута наўпрост прапаліла ў ім дзіру, якая ўсё яшчэ працягвала шыпець.

Дрыжучы ўсім целам, Гары падняўся на ногі. Яго галаву круціла так, як быццам ён толькі што пераадолеў колькі міляў з дапамогаю парашка фло. Павольна, ён падняў з падлогі сваю палачку, сартавальны капялюш, а потым з вялікім намаганнем выцягнуў бліскучы меч з базіліскавай пашчы.

У працілеглым баку залы, адчуўся слабы стогн. Джыні варухнулася. Калі Гары дабег да яе, дзяўчынка ўжо сядзела. Ашаломлена, яна паглядзела на агромістую тушу здохлага базіліска, на апранутага ў скрываўленую мантыю Гары і на дзённік у яго руках. Джыні выдала громкі, сутаргавы ўсхліп і з яе вочак пырснулі слёзы.

- Гары... ёйку, Гары... я спрабавала сказаць вам, яшчэ на с-сняданку, але Н-НЕ МАГЛА зрабіць гэта пры Персі. Гэта ўсё Я, Гары... але я... я к-клянуся табе, што я н-не хацела... Гэта ў-усё Рэдл, ён... ён апанаваў мяне... і... ЯК у цябе атрымалася забіць гэтага... гэту пачвару? І дз-дзе Рэдл? Ап-апошняе, што я памятаю, як ён выйшаў з дзённіка...

- Усё добра! Усё скончылася,- заявіў Гары, паказваючы дзяўчынцы дзённік з прабітай іклом дзірой.- Рэдла больш няма. Вось, глядзі! Няма АНІ яго АНІ базіліска. Давай, Джыні, трэба выбірацца адсюль...

- Мяне цяпер выключаць са школы!- галасіла дзяўчынка, пакуль Гары нязграбна дапамагаў ёй падняцца на ногі.- Я так чакала моманту, калі пайду ў Хогвартс, яшчэ з тых часоў, як тут вучыўся Б-Біл, а ц-цяпер мне прыйдзецца яго пакінуць... ШТО СКАЖУЦЬ МАЦІ З ТАТАМ?

Фоўкс чакаў іх, лятаючы ля выхада з залы. Гары павёў Джыні наперад. Пераступіўшы праз нерухомыя кольцы здохлага базіліска, яны выйшлі ў гулкі тунэль. Тут хлопчык пачуў, як за яго спіною з мягкім сіпеннем зачыняюцца каменныя дзверы.

Хвілінаў пяць яны ішлі пакрытым цемраю тунэлі і тут Гары пачуў на воддаль гук павольна перацягваючагася камення.

- Рон,- паскараючыся, клікнуў Гары.- З Джыні ўсё добра! Яна са мной!

Ён пачуў задыханы радасны енк сябра, а калі яны павярнулі за вугал, Гары і Джыні ўбачылі, як той з узапрэлым тварам вызірае з добрай велічыні адтуліны, якую паспеў ачысціць за час іхнай адсутнасці.

- ДЖЫНІ!- працягваючы наперад рукі, каб дапамагчы сястры пралезці праз адтуліну.- Ты жывая! Я нават ня верыў у гэта! Што з табой здарылася?

Ён паспрабаваў абняць Джыні, але тая са слязьмі на вачак адапхнула брата.

- Але ж з табой ўсё балазе, Джыні,- ззяючымі вачыма пазіраючы на сястру, прамовіў Рон.- Усе ў мінулым... А гэта што за птушка?

Следам за Джыні ў адтуліну выляцеў Фоўкс.

- Ён належыць Дамблдору,- адказаў Гары, праціскаючыся праз дзіру.

- А МЕЧ у цябе адкуль?- вылупіўшыся на бліскучую зброю ў руках сябра, спытаў Рон.

- Растлумачу, калі выберамся,- скоса пазіраючы на Джыні, адказаў Гары.

- Але...

- Потым,- перарваў яго Гары. Ён палічыў дрэннай ідэяй, распавядаць Рону хто на самой справе адчыняў патаемную залу, ува ўсялякім выпадку ня трэба было казаць пра гэта пры Джыні.- А дзе Локхарт?

- Там,- адказаў Рон, хістнуўшы галавой на трубу, праз якую яны трапілі ў тунэль.- Ён у благім стане. Хадземце, самі ўсё ўбачыце.

Следам за Фоўксам, які асвятляў цемру залатым і пунсовым водблiскамі свайго крылля, яны крочылі да трубы. Ля яе на падлозе сядзеў Гільдэрой Локхарт і ціхамірна штось сам сабе напяваў.

- Ён цалкавіта згубіў памяць,- прамовіў Рон,- і ўсё з-за памылкова спрацаваўшай забывальнай замовы. Замест нас, ён трапіў замовай сам у сябе. Ён ня мае паняцця хто ён, дзе ён ці хто мы такія. Я загадаў яму, каб ён пасядзеў тут і пачакаў майго вяртання. Ён зараз, сам для сябе небяспечны.

Локхарт падняў галаву і дабразычліва азірнуў прыбылых.

- Здароўку,- сказаў ён.- Якое цікавае месца, так? А вы што тут жывяцё?

- Ані,- скоса зірнуўшы на сябра, адказаў Рон.

- Ці ты часам не разважаў над тым, як нам адсюль выбрацца?- спытаўся Гары ў Рона.

У адказ, Рон толькі пахістаў галавой. І тут Фоўкс, праляцеўшы міма Гары, супыніўся ля ўвахода ў трубу, паблісківаючы ў цемры сваімі вочкамі-пацеркамі. Фенікс прыняўся размахваць перад іх тварамі доўгім пер’ем свайго хваста. Гары няўпэўнена зірнуўў на яго.

- Здаецца, гэта птушка хоча, каб яе схапілі за хвост,- выглядаючы здзіўленным, прамовіў Рон.- Але кожны з нас занадта цяжкі для яе.

- Яго клічуць Фоўкс,- адказаў Гары,- і ён не звычайная птушка,- хлопчык абярнуўся да астатніх.- Нам трэба ўзяць адно аднаго за рукі. Джыні, ты возмеш за руку Рона. Прафесар Локхарт...

- Гэта пра вас,- сказаў Рон, звярнуўшы на сябе ўвагу настаўніка.

- Вы трымаеце за руку Джыні.

Гары запхнуў сабе за пас меч і сартавальны капялюш, даў Рону ўхапіцца за сваю мантыю, а сам моцна узяўся за дзіўна-гарачы хвост Фоўкса.

Па іх целах, як быццам распаўсюдзілася незвычайная лёгкасць і ўжо праз колькі секунд, яны са свістам падымаліся скрозь трубу.

- Цудоўна! Цудоўна! Гэта папросту чараўніцтва нейкае!- мармытаў, болтаючыся напрыканцы працэсіі, Локхарт. Гары чуў ягоныя словы, але самога хлопчыка больш цікавіў халодны ветрык, які кудлаціў яму валоссе. Аднак, перш чым Гары паспеў удосыць насаладзіцца гэтым ветрыкам, палёт скончыўся. Учатырох яны стаялі на мокрай падлозе прыбіральні Мармытухі Міртлы. Локхарт якраз паправіў з’ехаўшы капялюш, калі за яго спіной ракавіна павольна рушыла на сваё месца, закрыўваючы сабой трубу.

Вылупіўшы вочы, на іх глядзела сама Міртла.

- Ты жывы?- бездапаможна спыталася яна ў Гары.

- Няма патрэбы, казаць пра гэта такім расчараваным голасам,- выціраючы акуляры ад крыві і слізі, адказаў ёй Гары.

- Ну, ведаеш... Я тут падумала. Калі б ты памёр, я б са здавальненнем падзялілася з табой сваёй прыбіральней,- адказала Міртла, і яе шчокі запалалі срэбрам.

- Бя!- калі яны пакінуўшы прыбіральню, выйшлі у цёмны, пусты школьны калідор.- Гары! Здаецца Міртла ў цябе ЗАКАХАЛАСЯ! Ты маеш канкурэнтку, Джыні.

Але дзяўчынка ўсё яшчэ працягвала моўчкі плакаць.

- І куды цяпер?- заклапочана пазіраючы на сястру, спытаўся Рон. Гары кіўнуў галавой наперад.

Яны рушылі следам за Фоўксам, што сваім залатым бляскам асвятляў калідор, і праз імгненне-другое апынуліся перад дзвярмі кабінэта прафесаркі МакГонагал.

Гары пастукаўся і адчыніў дзверы.

## — РАЗДЗЕЛ XVIII —

## *Узнагарода Добі*

Калі Рон, Джыні і Локхарт пакрытыя сліззю, а Гары яшчэ і з галавы да ног перапэцканы крывёю супыніліся на ганку ў пакоі запанавала цішыня.

- ДЖЫНІ!- раптам пачуўся нечый енк.

Гэта была місіс Візлі, якая толькі што плакала, седзячы ля коміна. Следам за мужам, яна ўскочыла на ногі і прынялася абдымаць дачку.

Але Гары было не да іх. Яго вочы глядзелі на Дамблдора, які з зззяючай ўсмешкаю на твары стаяў ля коміна і моцна трымаў за плечы, схапіўшуюся за грудзі і цяжка дыхаючую прафесарку МакГонагал. Фоўкс, прасвісцеўшы міма Гарынага вуха кінуўся да гаспадара. А сам Гары, разам з Ронам трапіў у абдымкі да місіс Візлі.

- Вы яе выратавалі! Вы яе выратавалі! ЯК у вас гэта атрымалася?

- Мяркую, мы ўсе хацелі бы гэта ведаць,- слабым голасам дадала прафесарка.

Місіс Візлі выпусціла Гары з абдымак. Хістаючыся, ён падыйшоў да стала і паклаў на яго капялюш, інкрустыяваны яламі меч і ўсё, што засталося ад дзённіка Тома Рэдла.

Пасля чаго ён прыняўся ім распавядаць ўсю гісторыю. У пільнай цішыні Гары расказваў аб усім на працягу чвэрці гадзіны. І пра пачуты ім бесцялесны голас, і пра то, як нарэшце Герміёна зразумела, што голас належыць перасоўваючамуся па трубах базіліску. Пра то як разам з Ронам яны наведвалі ў Лесе павукоў; пра то як Арагог расказаў ім дзе ў мінулы раз памерла апошняя ахвяра базіліска і пра то, як яны з Ронам здагадаліся, што гэтай ахвяраю была Мармытуха Міртла, а ўваход у патаемную залу знаходзіцца ў яе прыбіральне...

- Ну што ж, вельмі добра, - ухваліла яго МакГонагал, калі той супыніўся, каб перавесці дух.- Вы знайшлі ўваход... парушыўшы на шляху да сваёй мэты сотню школьных правілаў... але скажыце мне, Потэр, як вы НАОГУЛ засталіся жывым?

І Гары, хутка ахрыпнуўшы ад доўгай гамонкі, распавёў ім аб тым, як у зале сваечасова аб’явіўся Фоўкс, які прынёс яму капялюш з мечом усярэдзіне. Тут хлопчык запнуўся. Да гэтага часу ён ані не слова не ўзгадваў аб дзённіку Рэдла.. ці Джыні. Дзяўчынка стаяла ўткнуўшыся тварыкам у мацiна плячо і ўсё яшчэ працягвала плакаць. А што калі Джыні выкінуць са школы, у паніцы падумаў Гары. Дзённік больш не дзейнічаў... як цяпер даказаць, што яна рабіла ўсё пад прымусам?

Хлопчык несвядома зірнуў на Дамблдора. Слаба ўсміхнуўшыся, прафесар бліснуў шкельцамі сваіх акуляраў-паўмесяцаў і ціха спытаўся:

- А вось МЯНЕ больш за ўсё цікавіць іншае. Як Вальдэморт здолеў апанаваць Джыні, калі з найнадзейнейшых крыніц я ведаю, што цяпер ён хаваецца недзе ў лясах Албаніі.

Палёгка... хваля цёплай, дзіўнай палёгкі ахапіла Гары.

- Ш-што?- ашаломлена прамовіў містэр Візлі.- САМІ ВЕДАЕЦЕ ХТО? Апанаваў Джыні? Але Джыні не... Яна ніколі... Яна?

- Гэта ўсё дзённік,- імгненна заявіў Гары, і паказаў яго Дамблдору.- Рэдл пісаў яго ў шаснаццацігадовым узросце.

Прыняўшы дзённік з Гарыных рук, Дамблдор ўважліва, ледзь не дакранаючыся да прапаленых і волкіх старонак сваім доўгім, скрыўленым носам разгледзіў яго.

- Шыкоўна,- мягка прамовіў ён.- Вядома ж, ён пэўна быў найбліскучым з усіх вучняў, якіх толькі бачыў Хогвартс.- ён павярнуўся да ўшчэнт збітай з ладу сям'і Візлі.

- Не надта шмат людзей ведаюць пра то, што калісь Лорда Вальдэморта клікалі Томам Рэдлам. Пяцьдзесят год таму, я сам вучыў яго, тут у Хогвартсе. Аднак, пасля заканчэння школы ён знік... вандраваў і сям і там... ён наймоцна паглыбілся ў вывучэнне цёмных мастацтваў, ён меў зносіны з найгоршымі прадстаўнікамі нашага роду, ён зведаў столькі небяспечнейшых магічных ператварэнняў, што калі ён аб'явіўся, назваўшыся Лордам Вальдэмортам, яго амаль ніхто не пазнаў. Няшмат каму магло прыйсці ў галаву, што Вальдэморт - той разумны, прыгожы хлопец, што быў тут калісь старастам.

- Але Джыні?- спыталася місіс Візлі.- Як наша Джыні магла быць звязана з... з... ІМ?

- Гэта ўсё дзённік!- працягваючы плакаць, адказала дзяўчынка.- Я пісала у-у ім, а Рэдл п-пісаў у адказ на працягу ўсяго году...

- ДЖЫНІ!- здзіўлена ўсклікнуў містэр Візлі.- Хіба я АНІЧАМУ вас не вучыў? Хіба я не казаў вам заўсёды: «Ніколі не давярайце таму, што мае свой уласны розум, калі ня ведаеце дзе знаходзяцца ягоныя мазгі»? Чаму ты не паказала дзённік мне ці маці? Такая падазроная рэч, як гэта яўна перапоўнена чорнай магіяй!

- Я ж н-ня ведала,- уз'енчыла Джыні.- Я знайшла яго сярод кніг, што набыла дзеля мяне маці. Я вырашыла ш-што нехта папросту забыў яго там...

- Міс Візлі трэба неадкладна ісці ў шпітальнае крыло,- цвёрдым голасам, перарваў сямейную размову Дамблдор.- Яна вытрымала надта цяжкія для свайго ўзросту выпрабаванні. І зразумела ж яна аніяк не будзе пакарана. Лорд Вальдэморт ашукваў чарадзеяў нашмат старэйшых і найразумнейшых за яе.- падыйшоўшы да дзвярэй, дырэктар адчыніў іх.- А цяпер ложак і, хутчэй за ўсё, вялізны, парны кубак гарачага шакаладу. Мяне гэта заўсёды ўзбадзёрвае.- дадаў ён і ласкава падміргнуў дзяўчынцы.- Тым больш, што мадам Помфры дагэтуль не клалася спаць. Яна дала скамянелым мандрагоравы лекі... і ў любы момант яны могуць ачуняць.

- Дык з Герміёнаю ўсё будзе добра?- ззяючы спытаўся Рон.

- Скамяненне нікому ані не прынесла ніякай шкоды,- адказаў дырэктар.

Місіс Візлі разам з усё яшчэ моцна сшакаваным мужам, павялі Джыні да лекаркі.

- Ці ведаеш, Мінерва,- задумліва звярнуўся Дамблдор да прафесаркі МакГонагал,- я мяркую, што ўсе мы заслужылі добрае СВЯТА. Магу я папрасіць цябе, каб ты спусцілася на кухню і папярэдзіла аб гэтым нашых кухараў?

- Добра,- рашуча адказала прафесарка і таксама накіравалася да дзвярэй.- А вас я пакідаю тут, самому разбірацца з Потэрам і Візлі.

- Згода,- прамовіў у адказ Дамблдор.

Макгонагал сыйшла, а Гары і Рон засталіся, няўпэўнена пазіраючы на дырэктара. Яны гадалі, што прафесарка мела на ўвазе пад словам РАЗБІРАЦЦА? Іх канечне... КАНЕЧНЕ ж... не будуць караць.

- Я памятаю, як казаў вам, што павінен буду выключыць вас, калі вы парушыце яшчэ хоць адно школьнае правіла,- пачаў прафесар.

Рон у жаху адчыніў рота.

- І скажу вам, нават лепшыя з нас, ад часу вымушаны браць свае словы назад,- усміхаючыся дадаў ён.- Вы абодва атрымеце спецыяльныя ўзнагароды за заслугі перад школай і... дайце падумаць... кожны з вас прыносіць Грыфіндору дзвесці балаў.

Рон зрабіўся гэткага ж колеру, як локхартавы кветкі на валянцінаў дзень і закрыў рота.

- Аднак здаецца, што адзін чалавек дагэтуль не сказаў анічога пра свой удзел у гэтай небяспечнай прыгодзе,- здзівіўся дырэктар.- Чаму ты сёння гэткі маўклівы, Гільдэрой?

Гары ўздрыгануўся. Ён зусім забыўся аб Локхарце. Хлопчык развярнуўся і ўбачыў, што той ўсё яшчэ стаіць у кутку, не перастаючы цмяна ўсміхацца. Калі Дамблдор звярнуўся да яго, Локхарт паглядзеў праз плячо, цікавячыся з кім той размаўляе.

- Прафесар Дамблдор,- хутка прамовіў Рон.- Калі мы спускаліся ў патаемную залу, здарылася бяда. Прафесар Локхарт...

- Я прафесар?- з лёгкім здзіўленнем спытаўся Локхарт.- Шыкоўна. А я лічыў, што я звычайны паўдурак. Во як!

- Ён паспрабаваў накласці на нас забывальную замову,- Рон прыняўся спакойна тлумачыць усё Дамблдору,- але палачка спрацавала ня правільна.

- А, Божачкі,- хістаючы галавой, прамовіў дырэктар, яго вусы злёгку задрыжалі.- Што, пацярпеў паразу ад уласнай зброі, Гільдэрой?

- Зброя?- пераспытаў Локхарт.- Я ня маю зброі. Але вось у таго хлопчыка ёсць меч.- настаўнік паказаў пальцам на Гары.- Ён вам яго пазычыць...

- Ці ты не мог бы правесці прафесара Локхарта да шпітальнага крыла?- папрасіў Дамблдор Рона.- А я хацеў бы сказаць Гары, яшчэ колькі слоў...

Перабіраючы нагамі, Локхарт пакінуў кабінэт. Рон здзіўлена пазірнуў на Гары і Дамблдора і зачыніў дзверы.

Дырэктар падыйшоў да фатэляў, што стаялі ля коміна.

- Прысядзь, Гары,- паказаўшы на адзін з іх прапанаваў дырэктар. Адчуваючы незразумелы непакой, хлопчык прысеў.

- Перш за ўсё, я хачу падзякваць табе, Гары.- прамовіў настаўнік і яго вочы ізноў пачалі мігцець.- Там унізе, у патаемнай зале, ты паказаў што па сапраўднаму верны мне. Інакш, Фоўкс ніколі не прыляцеў бы табе на дапамогу.

Ён пагладзіў фенікса, што прызямліўся на ягоныя калені, па галаве. Гары сарамліва ўсміхнуўся, калі сустрэўся з Дамблдорам вачамі.

- Такім чынам, ты сустрэўся з Томам Рэдлам,- задумліва сказаў дырэктар.- Магу сабе ўявіць, як МОЦНА ты яго цікавіў...

І тут нечакана, усё з чаго на працягу году пакутаваў Гары, палілося з ягоных вуснаў.

- Прафесар... Рэдл сказаў, што я падобны да яго... «Паміж намі дзіўнае падабенства...»

- ТАК і сказаў?- задумлена паглядзеўшы на Гары з пад сваіх густых брывей, спытаўся Дамблдор,- А ты сам, Гары, як лічыш?

- Не, я так не думаю!- крыху гучней, чым было патрэбна адказаў Гары.- То бок, я... я ж у ГРЫФІНДОРЫ, я...

І тут ён сціх, яго розум напоўнілі патаемныя сумненні, што мучылі яго апошнім часам.

- Прафесар,- пасля некаторай паўзы, прамовіў Гары,- сартавальны капялюш сказаў, што я найлепей паказаў бы сябе ў Слізэрыне. І мяне колькі часу лічылі яго нашчадкам... таму што я магу размаўляць парсельтонгам...

- Ты, Гары, можаш размаўляць парсельтонгам,- спакойна адказаў дырэктар,- таму што ім вольна валодаў Лорд Вальдэморт, апошні з нашчадкаў Слізэрына. І, калі я не памыляюся, той ноччу, калі ён пакінуў цябе гэты шнар, ён перадаў табе, крыху сваіх уласных сілаў. Хаця я ўпэўнены, Вальдэморт не збіраўся гэтага рабіць...

- Ён пакінуў ува мне частку сябе самога?- бы маланкай крануты, прамовіў Гары.

- Не сумняваюся, што гэта так.

- То бок, МАЁ месца ў слізэрынскім Доме?- з адчаем на твары пазіраючы на Дамблдора, спытаўся хлопчык.- Капялюш убачыў ува мне яго след і...

- Скіраваў цябе ў Грыфіндор,- мягка скончыў за хлопчыка, дырэктар.- Паслухай, Гары. Ты маеш шмат чаго з тых якасцях, якія цаніў у абіраемых для яго вучнях сам Салазар Слізэрын. Яго уласны і вельмі рэдкі дар – парсельмоўнасць... знаходлівасць... рашучасць... некаторае грэбаванне правіламі,- срэбныя вусы прафесара зноўку пачалі дрыжаць,- Тым ня менш, капялюш скіраваў цябе ў Грыфіндор. Ведаеш чам? Падумай.

- Я трапіў у Грыфіндор,- з паразай у голасе, адказаў Гары,- таму што прасіў не накіроўваць мяне ў Слізэрын...

- МЕНАВІТА,- усё больш ззяючы, прамовіў Дамблдор.- Гэта моцна АДРОЗНІВАЕ цябе ад Тома Рэдла. І ўплывае на абіраемы намі шлях значна больш, чым нашыя ўласныя схільнасці,- Гары нерухома і ашаломлена сядзеў у сваім фатэлі.- А калі ты хочаш доказаў, што ты належыш да Грыфіндору, прапаную цябе зірнуць вось на ГЭТА.

Працягнуўшы руку да стала прафесаркі Макгонагал, дырэктар падняў з яго скрываўлены срэбны меч і паказаў яго Гары. Хлопчык абыякава пакруціў яго у руках, разглядаючы палаючыя ў святле коміна лалы. І тут, крыху ніжэй дзяржальні ён убачыў гравіроўку:

*«Годрык Грыфіндор»*

- Толькі існы грыфіндорац, Гары, можа выцягнуць яго з капелюша,- немудрагеліста заявіў Дамблдор.

Хвіліну-другую, ніхто з іх не вымавіў ані гуку. Потым, Дамблдор адсунуў адну з шуфлядак прафесаркіна стала і выцягнуў адтуль пяро і чарніліцу.

- Што цябе зараз патрэбна, Гары, дык гэта крыху паспаць і пад’есці. Так што, прапаную цябе спусціцца ў галоўную залу на банкет, а я тым часам напішу ў Азкабан... бо нам трэба вярнуць нашага палясоўшчыка назад. А яшчэ, трэба даць аб’яву ў «Штодзённы вяшчун»,- у задумлівасці дадаў ён,- мы зноўку маем патрэбу ў настаўніку па абароне ад цёмных мастацтваў. А Божачкі, мы згубілі чарговага, ці не так, мой хлопча?

Гары падняўся з фатэля і крочыў да дзвярэй. Не паспеў ён ўзяцца за ручку, як тыя настолькі шалёна адчыніліся, што хлопчык быў вымушаны адскочыць да сцяны.

На ганку са звар’яцелым тварам паўстаў Люцыюс Малфой. А за яго спіной, прыціскаючыся да рукі гаспадара, увесь замотаны бінтамі стаяў ДОБІ.

- Вечар добры, Люцыюс,- шчыра павітаўся Дамблдор.

Амаль што збіўшы Гары з ног, містэр Малфой уварваўся ў кабінэт. А Добі з жахам на твары памітусіў за ім, трымаючыся за крысу гаспадарскага плашчу.

- Ну што!- вытарапіўшы на дырэктара свае халодныя вочы, прамовіў Люцыюс Малфой.- Управа звольніла цябе, аднак ты палічыў за патрэбу вярнуцца ў Хогвартс.

- Ну, ці ведаеш, Люцыюс,- усміхаючыся, безуважна адказаў Дамблдор,- сёння да мяне звярнуліся астатнія адзінаццаць сябраў управы. Праўду кажучы, гэта нагадвала сапраўдную савіную залеву. Яны пачулі пра згубу дачкі Артура Візлі і пажадалі, каб я неадкладна вярнуўся. Напэўна яны палічылі, што я лепшы кандытат на гэту пасаду. А яшчэ яны паведамілі мне дзіўную гісторыю. Колькі з іх лічаць, што ты пагражаў праклясці іх сем'і, калі яны не згадзяцца мяне звольніць.

Містэр Малфой, зрабіўся яшчэ бляднейшым, але яго вочы былі павужаны ад злосці.

- І як..? Ты прыпыніў напады?- паглумліва спытаўся Люцыюс.- Ты злавіў злачынцу?

- Так,- з усмешкаю адказаў Дамблдор.

- НУ І?- з увагаю спытаўся містэр Малфой.- Хто гэта быў?

- Той жа, Люцыюс, хто і ў мінулы раз,- адказаў дырэктар.- Аднак на гэты раз, Лорд Вальдэморт дзейнічаў, праз іншага чалавека. З дапамогаю вось гэтага дзённіка.

Уважліва паглядаючы на Малфоя, Даблдор падняў са стала маленькую чорную кніжачку з вялізнай дзірой у сярэдзіне. Гары ж тым часам назіраў за Добі.

Эльф рабіў нешта дзіўнае. Сваімі агромістымі вачыма, ён шматзначна глядзеў на Гары, кажучы пальцам на дзённік і на містэра Малфоя. Пасля чаго біў сябе кулаком па галаве.

- Зразумела,- павольна вымавіў Люцыюс.

- Які таленавіты план,- роўным голасам, працягваючы глядзець Малфою наўпрост у вочы, заявіў Дамблдор.- І калі б не Гары,- Малфой рэзка абдараваў Гары пранізлівым позіркам,- са сваім сябрам Ронам, якія выявілі гэты дзённік... усю віну ўзяла б на сябе Джыні Візлі. І ніколі ніхто не змог бы даказаць, што дзейнічала яна ня з уласнай волі...

Містэр Малфой нічога не адказаў. Аднак яго твар зрабіўся падобным на маску.

- А цяпер уяві сабе,- працягваў дырэктар,- што было б далей... Візлі, адна з найвядомейшых чарадзейных сямей. Які бы аднесліся да Артура Візлі і яго Акта аб абароне маглаў, калі б хтось даведаўся, што яго ўласная дачка ажыцяўляе напады і забойствы магланароджанных. Нам вельмі пашанцавала, што дзённік быў сваечасова знойдзены, а Рэдлавы ўспаміны знішчаны. Інакш ніхто ня ведае, якія б гэта мела наступствы...

Містэр Малфой прымусіў сябе загаварыць.

- Так, канечне, вельмі пашанцавала,- суха вымавіў ён.

А за яго спіной, Добі ўсё яшчэ працягваў казаць на дзённік, на гаспадара і біць сябе па галаве.

Гары зразумеў пра што той кажа. Ён кіўнуў эльфу. Добі рынуўся ў кут кабінэту і ў пакаранне прыняўся круціць свае вушы.

- А вы, містэр Малфой, часам ня жадаеце ведаць, як да Джыні мог трапіць гэты дзённік?- спытаўся хлопчык.

Люцыюс Малфой павярнуўся да Гары.

- Навошта мне ведаць, дзе гэта малая дурніца, магла яго знайсці?- адказаў ён.

- Ну хіба таму, што вы ўласнаруч падкінулі яго,- адказаў хлопчык.- Ува «Флорышы і Блотсе». Вы запхнулі яго ў яе стары падручнік па ператварэннях, так?

Ён убачыў, як Малфой сціскае і расціскае свае збялелыя кулакі.

- Паспрабуй дакажы,- прасыкаў ён.

- Вох, цяпер ніхто не будзе ў стане гэтага даказаць,- пасміхнуўшыся Гары, прамовіў Дамблдор,- асабліва цяпер, калі успамін аб Рэдле быў вынішчаны з дзённіка. Аднак, я, са свайго боку, параіў бы цябе, Люцыюс, не дасылаць больш да школы, старыя рэчы Вальдэморта. Бо, калі яны яшчэ раз трапяць у нечыя нявінныя рукі, той жа Артур Візлі, будзе перакананы, што гэта ажыцявілася выключна праз цябе...

Люцыюс Малфой застыл на імгненне, але Гары са свайго боку бачыў, як торгалася ягоная правая рука, быццам той змагаўся з жаданнем выцягнуць палачку. Замест гэтага, Малфой звярнуўшыся да свайго хатняга эльфа сказаў:

- Мы сыходзім, Добі!

Люцыюс рыўком адчыніў дзверы, а калі Добі падбег да яго, містэр Малфой моцна брыкнуў эльфа. Гары і Дамблдор чулі, як долі скуголячы бег па калідоры. Імгненне-дугое, Гары стаяў задумаўшыся. І тут у ягоную галаву прыйшла адна ідэя.

- Прафесар,- шпарка прамовіў ён,- ці я не мог бы вярнуць гэты дзённік містэру Малфою? Ну, калі ласка.

- Вядома ж, Гары,- стрымана адказаў дырэктар.- Але паспяшай. Памятай аб банкеце.

Схапіўшы дзённік, Гары выбег з кабінэта. Ён чуў, як за вуглом вішчаў ад болю Добі. Хуценька, гатовы здзівіцца, калі ягоны план спрацуе, хлопчык зняў адзін са сваіх чаравікоў, сцягнуў з нагі склізкую і брудную шкарпэтку, засунуў яе між старонкамі дзённіка і паспяшаўся па цёмным калідоры.

Гары дагнаў Малфоя і Добі на вяршыне сходаў.

- Містэр Малфой,- цяжка дыхаючы пасля бега, сказаў хлопчык.- Я сёе-тое маю для вас.

І сунуў у Малфоеву руку дзённік са смярдзючай шкарпэткаю ўсярэдзіне.

- Што..?

Вырваўшы з дзённіка шкарпэтку, Люцыюс адкінуў яе ўбок, пасля чаго, перавёў вочы на Гары.

- Калі-небудзь, цябе чакае гэткі жа благі канец, як і тваіх бацькоў,- мягка заявіў ён.- Яны таксама былі тымі яшчэ назойлівымі дурнямі.

Павярнуўшыся ён загадаў эльфу.

- Хадзем, Добі. Я каму кажу, ПАЙШЛІ!

Аднак Добі стаяў і не варушыўся. У сваіх руках, як найкаштоўнейшы ў свеце скарб, ён трымаў брыдкую і склізкую Гарыну шкарпэтку.

- Гаспадар даў Добі шкарпэтку,- у захапленні мармытаў ён.- Гаспадар даў яе Добі.

- Што?- пырскаючы слінай, спытаўся Малфой.- Што ты сказаў?

- Добі атрымаў шкарпэтку,- ня верачы сам сябе, прамовіў Добі.- Гаспадар выкінуў яе, а Добі злавіў і цяпер... цяпер Добі ВОЛЬНЫ.

Містэр Малфой нерухома стаяў, пазіраючы на эльфа. А потым кінуўся на Гары.

- Праз цябе, хлопча, я згубіў свайго лёкая!

- Ты ня можаш шкодзіць Гары Потэру!- спяшаючыся яму напярэймы, крыкнуў Добі.

Адчуўся гучны пляск і містэра Малфоя адкінула назад. Скокаючы праз тры прыступкі ён пакаціўся па сходах і паваліўся на ніжнім паверсе пакамячанай грудай. Малфой выпрастаўся, яго твар зрабіўся мерцвенна бледным. Мужчына выцяг з кішэні палачку.

Аднак на яго шляху паўстаў Добі, пагрозліва ўздымаючы ўгору адзін са сваіх доўгіх пальцаў.

- Ты неадкладна пакінеш гэта месца,- кажучы пальцам на Малфоя, адчайна ўкрыкнуў ён.- Ты не дакранешся да Гары Потэра. Ты неадкладна выбярэшся адсюль.

Люцыюс Малфой ня меў выбару. Ён кінуў на хлопчыка і эльфа апошні, люты погляд, хістнуў плашчом і паспяшаўшыся знік з вачэй.

- Гары Потэр вызваліў Добі!- пазіраючы на хлопчыка, пранізліва усклікнуў эльф, месячнае святло з бліжэйшага акна адбівалася ад яго шарападобных вачэй.- Гары Потэр даў Добі волю!

- Гэта найменшае, што я мог для цябе зрабіць, Добі,- усміхаючыся, прамовіў Гары.- Толькі паабяцай мне, што ты надалей ніколі не будзеш спрабаваць ыратаваць мне жыццё.

Выродлевы буры твар эльфа, нечакана расплыўся ў шырокай зубастай усмешцы.

- І яшчэ адно,- сказаў хлопчык, пакуль дрыготкімі рукамі эльф нацягваў на сябе шкарпэтку.- Ты сказаў, што тое, што адбылася ў школе ня мае дачынення да Таго Чыё Імя Нельга Называць, ці памятаеш? Ну і...

- Гэта быў ключ, сэр,- пашыраючы вочы, як быццам гэта было нечым відавочным, прамовіў Добі.- Я даў вам падказку. Пакуль Цёмны Лорд не змяніў сваё імя, яго мажліва было называць, разумееце?

- Добра,- слаба згадзіўся Гары.- а цяпер я мабыць пайду. Мне трэба на банкетаванне. І мая сяброўка Герміёна пэўна ўжо ачуняла...

Добі выцягнуў рукі і абняў Гары за стан.

- Гары Потэр найвялікшы з людзей, якіх толькі ведаў Добі,- пралямантаваў ён.- Бывай, Гары Потэр!

Зноўку адчуўся гучны пляск і Добі знік.

*

Гары быў на шмат якіх хогвартскіх банкетаваннях, але гэта ані не было падобным на астатнія. Усе прысутныя за сталом сядзелі ў піжамах, а само свята доўжылася ўсю ноч. Гары не мог зразумець, што яму больш было да спадобы. Ці то Герміёна, якая кінулася да яго з крыкам:

- Ты знайшоў разгадку! Ты ўсё разгадаў!

А мабыць гэта быў Джасцін, які падняўшыся з хафлпафскага стала, падыйшоў і пацісну яму руку, шчыра просячы прабачэння за тое, што мог яго падазраваць. Ці то, магчыма гэта быў Хагрыд, які аб’явіўся а палове на чацьвёртую і так шчыра прыняўся ляпаць іх з Ронам па плячах, што тыя паваліліся носам у талеркі з печывам. А можа гэта былі заробленыя ім ды Ронам чатырыста балаў, пасля якіх Грыфіндор другі год запар выйграў Кубак Дамоў. Ці гэта быў момант, калі падняўшыся з-за стала прафесарка МакГонагал да ўсеагульнага задавальнення навучэнцаў, аб’явіла, што ў гэтым годзе іспыты адмяняюцца.

- Толькі НЯ ГЭТА!- усклікнула Герміёна.

Ці мабыць гэта было, калі Дамблдор аб’явіў, што ў наступным годзе прафесар Локхарт ня вернецца ў школу, бо яму трэба ехаць у шпіталь, каб аднавіць сабе памяць, а большасць з настаўнікаў выпрасталіся і апладыяваннем сустрэлі гэту навіну.

- Шкада,- узяўшы з блюда пончык з варэннем, заявіў Рон.- Ён толькі пачаў мне падабацца.

*

Астатак летняга семестру патануў у яскравым сонечным праменні. Хогвартс вярнуўся да свайго звычайнага жыцця. Аднак было колькі зменаў. Болей не было заняткаў па абароне ад цёмных мастацтваў.

- Не хвалюйся ты,- суцяшаў Рон Герміёну,- мы ў гэтым годзе мелі столькі практыкі.

Да таго ж Люцыюса Малфоя выгналі са школьнай управы, а ягоны сын Драко больш не хадзіў па школе задраўшы носа, цяпер ён выглядаў пакрыўджаным і панурым. А Джыні Візлі наадварот, зноўку свяцілася ад шчасця.

Але час да вяртання дадому праляцеў надта хутка. Сеўшы ў Хогвартс экспрэс, Гары, Рон, Герміёна, Фрэд, Джордж і Джыні занялі ўсё купэ. Значную частку дарогі дамоў, яны карысталіся апошнімі гадзінамі, калі ім яшчэ можна было чараваць. Яны гулялі ў выбухаючы снэп, запусцілі апошні з флібусцьераўскіх феерверкаў Джорджа, папрактыкаваліся ў раззбраенні адзін аднога. А лепшым у гэтай справе, канечне ж быў Гары.

Яны амаль ужо даехалі да вакзала Кінгс-Крос, калі Гары раптам сёе-тое прыпомніў.

- Слухай, Джыні... а што ты такога бачыла, аб чым Персі прасіў цябе нікому не расказваць?

- О,- гігікаючы адказала яна.- Ну... у нашага Персі ёсць ДЗЯЎЧЫНА.

Фрэд выпусціў стос падручнікаў на галаву Джорджа.

- Што?

- Ну, гэта та дзяўчынка-прэфект з Рэйвенкло – Пеналопа Клірвотар,- растлумачыла Джыні.- Гэта ёй Персі ўсё лета лісты пісаў. А потым яны патаемна сустракаліся па ўсёй школе. Аднойчы я ўвайшла ў пустую класу, а яны там цалаваліся. Персі быў так засмучаны, калі на яе... ну вы разумееце... напалі. Вы ж не будзеце цяпер яго дражніць?- з непакоем спыталася дзяўчынка.

- Нат не збіраўся,- адказаў Фрэд, ззяючы так, быццам яму загадзя аддалі ўсе падарункі на дзень нараджэння.

- Канечне ж, не,- гігікаючы дадаў Джордж.

А Хогвартс Экспрэс тым часам запаволіў рух і нарэшце супыніўся.

Гары выцяг пяро і кавалак пергаменту.

- Гэта называецца тэлефонны нумар,- растлумачыў ён Рону і разарваўшы пергамент напалам даў нумар дзядзкава тэлефона кожнаму з сяброў.- Мінулым летам я растлумачыў твайму бацьку, як ім карыстацца, а ён растлумачыць табе. Тэлефануйце мне ў Дурслеўскую хату, добра? Не магу ж я на працягу двух месяцаў размаўляць толькі з Дадлі...

- Тваі дзядзька з цёткай,- заявіла Герміёна ў той час, калі сябры далучыліся да агульнага натоўпу вучняў, праходзячых праз магічны бар'ер,- пэўна будуць ганарыцца, калі даведаюцца пра ўсё то, што ты зрабіў у гэтым годзе?

- Ганарыцца?- спытаўся Гары.- Ці ты не здурнела? Увесь гэты час я мог загінуць і не зрабіў гэтага. Ды яны звар'яцеюць ад злосці...

Узяўшыся за рукі, яны прамінулі праз бар'ер і ступілі ў маглаўскі свет.